*Памяці маіх братоў —*
*Хведара, Міхаіла, Міколкі і Толіка*

Есць старадаўняе беларускае паданне аб стварэнні свету. Былі ўжо і людзі, і звяры, і птушкі. Ужо высіліся горы, зялянелі лугі, шумелі лясы. Не было толькі ні кроплі вады. І вось сабраліся ўсе разам, хто жыў на зямлі — людзі, звяры, птушкі, — і пачалі капаць ямы для калодзежаў, канавы для рэк, катлаваны для азёр. Толькі адзін канюк — птушка сямейства ястрабіных — пагардліва адказаў, што не хоча піць, а калі захоча, дык нап'ецца расы. Усе адвярнуліся ад канюка, ніхто не дае яму вады. З тых часоў гэта птушка лётае ў паднябессі і просіць: «Піць!.. Піць!..»

## I

Прачнуўся Андрэйка ад нязвыклай цішыні, ад гарачыні, яму было душна, млосна. Спярша ніяк не мог ачомацца: дзе гэта ён? Соннымі вачамі, бо павекі яшчэ зліпаліся, абвёў хату і не пазнаў яе. І чаму ён апынуўся ў хаце? Ён жа ішоў да Бесядзі ўслед за Васілём, які доўгай хлабазінай падганяў гусей.

Андрэйка аглядзеў ложак, і тут да яго дайшло: ён спаў на Марыніным ложку, які заўсёды быў прыгожа і старанна заслаш, на ім высіліся тры бялюткія падушкі, цяпер дзве з іх ляжалі ў яго па баках, а трэцяя пад галавой. Хлапчук прыўзняўся — галава балела, аж звінела ўвушшу, — шырэй адхінуў квяцістую, у чырвоныя і жоўтыя кветкі шырму, якая трымалася на дроце. Шырма расхінулася, глуха клацнулі катушкі з-пад ніtак. Да гэтых катушак мацавалася шырма і лёгка адвешвалася і завешвалася.

«Як жа я тут апынуўся? Чаму спаў у адзенні?» — дзівіўся Андрэйка, седзячы на ложку, аглядаючы свае шэрыя штонікі на шлейках, жоўтую, у дробную клетку

кашульку. Прыслухаўся, ці не падасць хто голасу ў хаце. Але наўкола было ціха, толькі з вуліцы данеслася прыглушаная гамана. Хлапчук пратэпаў босымі нагамі да акна, што выходзіла на вуліцу, з якога быў добра відзён поплаў, кусты алешніку ля Бесядзі, а далей цёмная, асмужаная сцяна лесу.

Андрэйка зірнуў у акно і здзівіўся: неба за Бесяддзю дрыгатліва ўспыхвала, было яно густа-барвовае, як набрынялае крывёю, а над зубчастым грэбенем лесу поўз, быццам туман, сівы дым. Андрэйку зрабілася вусцішна, слёзы самі навярнуліся на вочы.

У сенцах гучна бразнула клямка, зарыпелі дзверы ў хату.

— Ну што, выспаўся? — да малога таропка падыходзіла Марына, старэйшая сястра, лёгенька шлёпнула яго — дала прылёпка — па тым самым месцы, якому звычайна больш за ўсё дастаецца за «грахі», прыхінула да сябе малога, таксама ўгледзелася на зарыва.

— А чаму неба чырвонае? — адразу спытаў Андрэйка без аніякай крыўды за незаслужанае пакаранне.

— Лясковічы гараць. Немцы падпалілі. Кажуць, усіх людзей там пастралялі...

— Усіх, усіх? А за што?

— Яны партызанам памагалі.

— Якім партызанам? Тым самым... якіх забілі ля Бесядзі?

— І тым, і другім. Партызанаў жа многа. А ля Бесядзі ўсяго два...

Марына, мабыць, хацела сказаць: «два загінулі», але змоўкла, як прыкусіла язык. Андрэйка здагадаўся — чаму. Ён помніць, як плакала пасля таго Марына. Коля, ягоны брат, адкрыў таямніцу: адзін з тых партызанаў быў Марынін ухажор ці нават жаніх. Коля ўсё ведае, хоць і большы за Андрэйку ўсяго на два гады, ведае, што Марына разам вучылася з тым хлопцам у школе ў Саковічах.

А як загінулі партызаны, Андрэйка і сам бачыў.

Стаяў спякотны дзень. Маці і Марына жалі на полі жыта. Васька і Коля пайшлі ў рыбу, Андрэйку ўзяць з сабой не захацелі. Ён зарумзаў. Тады маці сказала:

— Можа, возьмеце малога?

— Мы ж далёка пойдзем. Аж у Дубнік. Ён жа не дойдзе, — важна, як дарослы, сказаў Васька, узяў старую, вышчарбленую касу і пачаў мянташыць.

— Касу нясі, кош. І Андрэйку яшчэ цягні, — ўставіў свае тры грошы Коля.

Маці зразумела, што хлопцам браць Андрэйку не выпадае: Васілёк з касой, а гэта небяспечна — яшчэ парэжацца малы або ўтопіцца ў рэчцы. Хлопцы заюшацца лавіць у лужынах шчупанят, а ён дападзе да ракі.

— Мама, хай Андрэйка ідзе з намі, — узяла малога за руку Марына.

— Ой, дачушка, і нам не будзе калі глядзець яго. Дый горача сяння. Варыць, як у катле. Сасмягне там. Андрэйка, татулечка мой любы, — маці прысела каля яго, адной рукой трымаючы серп на плячы, а ў другой вузельчык з абедам і вадою. — Пабудзь ты ў двары. За гаспадара. Глядзі, каб куры ў грады не лезлі. А то вунь купелы ў гурках парабілі. Пашукай сабе бобу. Ёсць стручкі спелыя... — пры гэтых словах Коля аж аблізнуўся, але Андрэйка гэтага не бачыў, бо, сярдзіта насуплены, стаяў, утупіўшы вочы долу. — Трэба ж пасабляць нам, сыночак. Ты ж ужо ладненькі хлопчык. Шосты гадок пайшоў... Вунь Коля — малы шпунт, а памагае...

— Я не малы, мама. Як бычка пасвіць, дык мяне будзіш. А тут малы, — Коля таксама надзьмуўся, павесіў на руку кош і маленькай чорнай, патрэсканай ад вады і ветру нагой калупаў зямлю.

— Ну, Козлік, занатурыўся! — Васька шмаргануў казырок старэнькай палінялай Колевай кепкі — некалі яна была сіняя, а зараз попельна-шэрая — і нацягнуў яе Колю на вочы, аж да самага аблупленага ад сонца носа.

— Не лезь, а то дам! — Коля спрытна пасадзіў на месца кепку і замахнуўся на крыўдзіцеля маленькім востранькім кулачком.

— Не чапай яго, бальшун! — строга зірнула на Ваську маці. — Чуеш, Андрэйка? Коля ўжо бычка накарміў. Васілёк гусей пасвіў... Ну, заставайся, мой любенькі. Марына скора прыбяжыць двору. Пакорміць цябе.

Усе пайшлі з двара. Застаўся Андрэйка вартаваць хату і ганяць курэй. Апоўдні ён выйшаў за гароды на вузкую, парослую муравой, загуменную дарожку, што аддзяляла гароды ад поля. Ён чакаў Марыну, бо даўно ўжо хацелася есці, і памалу рушыў ёй насустрач.

Дайшоў да выгану, спыніўся, паглядзеў на поле, азірнуўся вакол. Нідзе не было нікога. З мутна-бялёсага неба неміласэрна смаліла сонца, у жыце, якое душнай шапатлівай сцяной стаяла паўз дарожку, звонка стракаталі конікі. Нечакана за вёскай пачуўся прыглушаны гул. Андрэйка прыгледзеўся і ўбачыў на шляху з Саковіч, дзе з гары шнурком збягалі бухматыя старыя бярозы, клубы пылу і чорныя машыны. Яны каціліся хутка і неўзабаве зніклі за вясковымі прысадамі.

З выгану добра праглядвалася амаль уся вёска Хатынічы: за дварамі рыжэў поплаў, блішчала Бесядзь за кузняй, шырокая, плыткая, — там брод і падол: жанчыны пяруць і жлукцяць бялізну. Андрэйка не раз там быў, нават вудзіў піськіжоў-печкуроў. Праўда, ніводнага не злавіў, усе яны браліся вялікія і зрываліся з кручка. Андрэйка ледзь не плакаў ад крыўды.

— Во такенны піськіж сарваўся, — разводзіў далонькі, паказваючы братам, які вялікі пячкур сышоў з кручка. Браты толькі пасміхаліся і цягалі рыбак адну за адной.

Андрэйка ішоў збоч выгану па мяккай, як воўна, разамлелай, нібы абваранай траве. Раптам ён пачуў нейкі трэск. Так стракатала «трашчотка» начнога вартаўніка, якая пераходзіла штовечар ад хаты да хаты. Траскатня мацнела, набліжалася. Нечакана Андрэйка ўбачыў двух коннікаў ля кузні, яны наўскапыта несліся да Бесядзі, скочылі ў ваду і зніклі. На другі бераг вымахнуў толькі адзін коннік, але пахіснуўся і ўпаў на белы пясок. Конь заржаў і памчаў у лес.

Перапалоханы хлапчук стаяў нібы ў здранцвенні, ногі як ураслі ў зямлю, потым кінуўся назад, дамоў, але схамянуўся, што там нікога няма, павярнуў у поле да маці. Насустрач бегла Марына, падхапіла яго на рукі і па сцежцы ў жыце, задыхаючыся, панесла.

...Цяпер яны сядзелі ля акна і глядзелі на барвовае зарыва, якое ахапіла ўжо ледзь не палову неба.

— Напалохаў ты сянні нас, — Марына тузанула яго за бялявы, як салома, віхор.

— Чым напалохаў?

— Мы думалі, што ты з Васькам. Той прыходзіць абедаць, а цябе няма. Мы да яго: «Дзе Андрэйка?» А ён кажа: «Ішоў за мной услед, а тады павярнуў дамоў...»

— Ён мяне прагнаў...
— І куды ты пайшоў?
— Не помню.
— Эх ты, апоўзлік малы. Мы з ног збіліся, шукалі цябе. І да бабулі забягала. Саўсім слабая наша баба Васіліса. Як пачула, што цябе няма — забедавала: можа, у Бесядзь уваліўся ці ў крыніцу?
— Чаго я ў крыніцу палезу? Я толькі зірнуў туды. Вада там цёмная, бліскучая, як люстэрка.
— Я цябе і знайшла недалёка ад крыніцы. Пад праслам. Бачу, ляжыць нейкі шэранькі камячок, а над ім сабака...
— Сабака? Чый?
— Не ведаю. Вялізны. Сядзіць, язык высалапіў, даўжэзны, чырвоны. Сабака, мусіць, сцярог цябе. Я падбегла, як закрычу на яго. Ён хвост падціснуў і пабег.
— А шчыгол быў?
— Які шчыгол?
— Ну, сядзеў там на жэрдцы... Грудка ў яго чырвоная-чырвоная. Во як ета зарыва.
Андрэйка яскрава згадаў, як ён, стомлены, разамлелы ад гарачыні, стаяў ля крыніцы, потым ішоў паўз плот, убачыў шчыгла, які сядзеў на жэрдцы і звонка, залівіста спяваў. Хлапчук лёг і стаіўся, каб не спужнуць такую прыгожую птушку.
— Есці хочаш? — спытала Марына.
— Хочу, — кіўнуў Андрэйка. — Дай папкі.
Марына адрэзала лусту хлеба. Хлеб тутэйшая дзятва называе папка. Першыя Андрэйкавы словы — мама, тата, папка...
— Хадзем на вуліцу, — Марына ўзяла брата за руку і павяла.
На вуліцы ля Арцёмавай хаты сядзелі жанчыны і барадаты дзед Гылігор. Андрэйка згледзеў там маці, падбег да яе. «Ну, пагуляй, неслух ты еткі! Паўдня шукалі. Набедаваліся. Тут і так гора вакол», — уздыхнула маці, усаджваючы малога побач.
З хаты выйшаў хмурны, заклапочаны дзядзька Арцём у доўгай кужэльнай кашулі навыпуск, з самакруткай у зубах. Андрэйка ні разу не бачыў Арцёма без цыгаркі.
— Ну, як там Хадора? — спыталі жанчыны.
— Ляжыць сабе на печы. Што з ёй зробіцца? — Арцём пусціў клуб шызага дыму. — Во знайшла ляль-

ку. Насіся з ёй як з пісанаю торбай. Такое ўрэмя цяперацька...

— Сам вінаваты. Любіш катацца, любі і... — пачала суседка Параска. Але Арцём перапыніў яе.

— Адкуль ты ведаеш, што я вінаваты? Баба ж такое стварэнне. Можа, у каноплі з кім збегала? — выскаліў жоўтыя зубы Арцём.

— Ах ты, страмнік бяссовесны! — замахнулася на яго Параска. — Як у цябе язык павярнуўся?..

— Язык без касцей. Куды хочаш павернецца, — заступіўся за Арцёма дзед Гылігор. — Як было, то было, абы жывое нарадзілася.

І быццам у пацвярджэнне гэтага ў хаце закугакала малое. Усе прыціхлі. Андрэйка шапнуў маме на вуха:

— А хто там плача?

— Цётка Хадора дзевачку знайшла сянні, — адказала маці.

— Дзе яна знайшла? — ужо смялей спытаў хлапчук.

— У крапіве пад праслам...

— Адкуль жа там дзіця ўзялося? — не мог суняцца малы.

Усе заўсміхаліся. А Параска сказала:

— Бусел нёс і ўраніў...

«Чаму ж я не ўбачыў? І плачу не пачуў, — падумаў Андрэйка. — Можа, дзіця ўпала далёка на лузе. А той сабака прынёс пад прасла». Але пра сваю здагадку малы нікому не сказаў, ды і гаворка ўжо ішла зусім пра іншае. Маці, устрывожаная, маўклівая, мацней прыхінула яго да сябе, наструнена слухала. Гаварыў найбольш Арцём.

— Дык вось, брат-значыцца, казаў той чалавек, што ідзе блакада. Немец усё паліць. Нішчыць падчыстую. Людзей забівае. Не глядзіць у зубы ні старому, ні малому. Так што, брат-значыцца, трэба рыхтавацца. Усё, што можна, закопваць... Усё хаваць. Каб ворагу не дасталося...

— Ліха яго ведае, куды што хаваць? Куды з дзецьмі... — падала голас маці. — Во бедныя гаротнікі лясковцы... Ім ужо ні пра што не трэба клапаціцца...

— Што вытварае, фрыц паганы?! — дзед Гылігор вылаяўся, сплюнуў. — Спярша ў Саковічах усіх яўрэяў пабіў...

— Не ў Саковічах. Ён жа сагнаў іх у Лабанаўку. З усёй акругі, — удакладніў Арцём. — І за станцыяй

жыўцом у яму закопваў... Казалі бабы лабанаўскія: тры дні зямля там ходырам хадзіла...

Маці паднесла да вачэй фартух. І Андрэйку таксама захацелася плакаць, зрабілася страшна, аж валасы дыбарам узняліся: ён увачавідкі ўбачыў, як немцы закопваюць жывых людзей, жоўты пясок засыпае ім твары, вочы, набіваецца ў рот, рукі цягнуцца ўгору з гэтай жвірыстай жоўтай магілы, зямля гайдаецца, як гайдаецца пад нагамі балота ля Бесядзі пасля паводкі.

— Ляскоўцы, можа, у лесе паспелі пахавацца. Каб жа схадзіць туды, — уздыхнула Параска. — Можа б, уратавалі каго?

— Схадзіць бы трэба. Я от мяркую, як туды прабрацца? — пачухаў патыліцу дзед Гылігор.

— Куды ты сходзіш? Увесь лес ачэплены. За Бесядзь нос не даюць сунуць. Адразу страляюць, — Арцём пыхнуў дагараючай цыгаркай і пайшоў у хату.

Усе маўчалі, прыслухоўваліся да стрэлаў, якія разпораз даносіліся з-за ракі. Ужо бралася на вечар. З правулка паказаўся Васька — гнаў дамоў гусей. Ішоў ён павольна, нага за нагу. Гусіная чародка цягнулася па дарозе. Трывожна гэгала бела-шэрая старая гусь.

— А дзе ж гусак? Дзе белая гуска? — усхапіўся Андрэйка.

— І праўда. Глядзі ты, няма іх, — устрывожылася маці.

Гусі збіліся ля варот, гусяняты павыцягвалі шыйкі і самотна, жаласліва папісквалі. Гусь гагатала, нібы супакойвала малых.

— Васілёчак, чаго ты стаіш там? Хадзі сюды! — паклікала маці.

Васька неахвотна адарваўся ад тоўстай дуплаватай, разбітай маланкаю вярбы, пасунуўся да варот, папіхваючыся зламаным кійком. Твар хлопца быў збялелы што палатно, вочы зарумзаныя. Андрэйка ніколі не бачыў брата такім спалоханым і прыціхлым. Васька здаваўся яму вялікім і дужым, бо яму ўжо дзесяць гадоў.

— Дзе ж наш гусак? — спыталася маці.

— І белая гуска? — дадаў Андрэйка.

— Немцы забралі. Застрэлілі з аўтамата... А гэтыя зашыліся ў асаку. А то б усіх пабілі... — Васька зноў усхліпнуў.

— Каб ім лантухі палопаліся, гады ненажэрныя. Каб яны паздыхалі ўсе да аднаго... А ты напужаўся,

сынок? — маці пагладзіла Ваську па галаве. — Хай яны падавяцца, ворагі праклятыя... Хадзіце, дзеткі, у хату. Сычас Марына з Міколкам прыйдзе. Вячэраць будзем.

Андрэйка ведаў, што Марына хаваецца ў жыце ад немцаў, а Міколка пасвіць на выгане бычка. Ідучы ў хату, малы азірнуўся — зарыва над лесам усё чырванела, яно зрабілася святлейшае, вышэй па небе плылі выцягнутыя ружаватыя аблокі, нібы крылы велізарнай чырванагрудай птушкі, якая села на вершаліны дрэў.

«Каб хутчэй стаць вялікім. Я б узяў аўтамат і ўсіх немцаў пастраляў», — падумаў Андрэйка Сахута, сігаючы цераз парог хаты.

*У тыя дні прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Франклін Рузвельт пісаў І. В. Сталіну:*

*«Заўтра спаўняецца два гады з таго моманту, калі вераломным актам і ў адпаведнасці з сваёй працяглай практыкай двурушніцтва нацысцкія завадатары ўчынілі варварскі напад на Савецкі Саюз. Такім чынам, да спісу сваіх ворагаў яны дадалі магутныя ўзброеныя сілы Савецкага Саюза. Гэтыя нацысцкія верхаводы недаацанілі маштабы, у якіх Савецкі ўрад і народ разгарнулі і ўмацавалі сваю ваенную магутнасць для абароны сваёй краіны, і яны зусім не зразумелі рашучасці і храбрасці савецкага народа...»*[1]

*Пасланне было атрымана ў Маскве дваццаць другога чэрвеня 1943 года.*

## II

Пачырванелае, нібы ацяжэлае за дзень сонца хілілася ўжо да вечара, калі Іван увязаў воз сена, абскуб касмылі сухой травы спадыспаду калёс, з бакоў — так заўсёды рабіў бацька, бо трава, якая вісіць, адваліцца па дарозе. Зайшоў ззаду, зірнуў, ці не пераважвае які бок, ці роўна ўкладзена і ўвязана сена. Агледзеўшыся, сцёбнуў пужкай коніка. Духмяны, шапатлівы воз пака-

---

[1] Тут і далей прыводзяцца выпіскі з кнігі «Переписка Председателя Совета Министров СССР с президентами США и премьер-министрами Великобритании во время Великой Отечественной войны 1941—1945 гг.». Дзяржаўнае выдавецтва палітычнай літаратуры. М., 1958.

лываўся на каляінах і выбоінах. Іван, стомлены, узмакрэлы, ішоў услед, далоні гарэлі, пот выядаў вочы. Рукавом кашулі ён выціраў лоб.

Наперадзе дарога брала трохі ўлева, бо справа пачынаўся Канчанскі роў. Тут яшчэ вады не было, далей бруілі крыніцы, выбіваўся ручай, які памалу набіраўся сілы і ўпадаў у Бесядзь. Хоць і называлася гэтае месца Бярозавым балотам, ніякіх бяроз тут не было. Праўда, маці расказвала Івану, што некалі лес тут быў, дзеўкаю яна збірала ў ім маліны.

Іван наддаў ходу, зайшоў з правага боку, каб падтрымаць воз, калі конь паверне ўлева. Ад паваротк бегла ўправа вузкая травяністая дарожка на пасёлак Мамонаўку. Іван падпёр плечуком воз на ўсякі выпадак, каб ён не падкалясіўся, і, калі выраўняліся калёсы, адышоўся, пачуў тупат коней. Гоцаючы на сёдлах, яго даганялі коннікі, за плячамі ў іх тырчалі вінтоўкі. Коннікаў было пяцёра. Першым ехаў зусім яшчэ малады, але з доўгімі вусамі, з няголеным падбароддзем партызан.

— Стой! — крыкнуў ён.

Іван тузануў каня за лейцы, але конь упарціўся і не спыняўся. Перапалоханы знячэўку, Іван не мог нават крыкнуць «тпру!». Вусаты партызан заехаў наперад, і тады воз нібы застыў.

— Што, не чуеш? Вушы табе заклала? Дык я магу ў адзін момант прачысціць. Чый будзеш? — крыкнуў вусаты. — Адкуль сам?

— Адсюль. Тутэйшы, — Іван паказаў на вёску.

— Вароніна, паліцая, ведаеш?

— Ну, ведаю. Хто ж яго не ведае?

— Дзе ён жыве?

— На пасёлку. У Мамонаўцы... — Іван азірнуўся.

— Не аглядайся. Што, паджылкі затрэсліся? Мамчын сынок... Жывей кажы. Як знайсці ягоную хату?

Іван растлумачыў, што хата Вароніна другая з левага боку, гэта значыць, ад Бесядзі, з таго краю, а на пасёлак вунь вядзе дарожка, па ёй міма кладзішча акурат можна патрапіць.

— Я ж табе казаў, Валодзька, што па етай дарозе ў Парцюкоўку, — падаў голас пажылы партызан.

Малады не даслухаў яго, павярнуў каня.

— Настаўнік сказаў праўду. Ці ты ўсё не давяраеш? — на хаду даводзіў сваё пажылы.

— Я давяраю. Але пераправерыць не шкодзіць... Эх, каб захапіць яго, падлюку, дома. Ніяк не зашчучым, — малады прышпорыў каня, усе пакіравалі за ім і праз хвіліну зніклі, толькі воблачка пылу калыхалася над жытам.

Раптам дзесьці блізка звонка і чыста ўдарыла перапёлка: піць-палоць, піць-палоць. Іван аж здрыгануўся ад нечаканасці. «От каму жытуха! Ніякіх табе клопатаў...» — Іван паглядзеў на пасёлак, прыслухаўся.

Не мог ён ведаць тады, што з Валодзькам Бравусавым, гэтым маладым і рашучым партызанам, яму не раз давядзецца сутыкацца.

Па сцежцы праз жыта ішлі жанчыны, выбраліся на дарогу, спыніліся, пачалі рваць траву. Іван спыніў каня, паправіў хамут, падцягнуў сядзёлку. Жанчыны не зрушыліся. «Адкуль яны ўзяліся? Заўтра ўся вёска будзе ведаць, што я паказаў дарогу... Наліха пыталіся? Самі ж усё ведалі. Нават тое, што Мамонаўку па-мясцоваму называюць Парцюкоўкай... Калі не зацапаюць паліцая, пішы прапала», — падумаў Іван, падганяючы каня, бо стаяць тут не выпадала, а павярнуць не было куды.

— Пра што яны пыталіся? — вылупіла на яго вочы Пёкла Петрачэнка, тоўстая, мардастая кабета. Побач з ёй стаяла і таксама глядзела на Івана маладая зграбная Вольга Чарнякова.

— Нічога не пыталіся. Закурыць папрасілі, — зманіў Іван.

— А куды яны кінуліся? На пасёлак? — дапытвалася Пёкла.

— Мусіць, туды. Адкуль я ведаю? Не прагульваюцца ж яны... Заданне, пэўна, маюць...

Жанчыны пайшлі. Адыходзячы, Вольга чамусьці пільна зірнула на Івана, нібы бачыла яго ўпершыню. Іван ведаў, што Вольга раней зіркала бліскучымі вачамі на Пятра Сахуту, сохла па ім, але той рэдка калі прыкмячаў яе, пігаліцу, якая разам з сяброўкамі, такімі ж зялепухамі, ацірала ў клубе вуглы. Была Вольга, можа, на якую зіму старэйшая за Івана, але за два ваенныя гады выпрабілася на ладную, дужую і прывабную дзяўчыну. Прылаўчылася касіць, хадзіць за плугам, сякеру трымаць у руках. Праўду кажуць людзі: абы скакаць навучыўся, а працаваць гора навучыць.

На пасёлку пачуліся стрэлы, гучныя, тугія, хлёсткія,

аж рэха пакацілася над Бесяддзю, дзе паднімаўся ўжо сівенькі туманок. З дрэў на могілках узняліся гракі, галкі, яны кружыліся, бязладна крычалі. Стрэлы нагадалі Івану лёскат пастуховай пугі. Меў такую пугу і ён, сплёў яе з сырамятнага рэменя, канчалася яна тоненькім раменьчыкам, перавітым дротам, і ляскала пуга, як з ружжа.

Пёкла і Вольга кінуліся наўспрамкі ў пасёлак, нібы іх выцяў хто бізуном. Іван цягнуўся ўслед за возам, думкі блыталіся ў галаве, не хацелася верыць, што гэтыя стрэлы — не ляскат бізуна, не жартачкі пастухагарэзы — людзі забіваюць людзей. Іван пазайздросціў перапёлцы, што зноў азвалася ў жыце...

Падзеі ў Мамонаўцы развіваліся такім чынам. Варонін у той дзень абганяў бульбу, жонка вытапіла лазню. Скончыўшы работу, Варонін выпраг каня, прывязаў у двары, пачаў збірацца ў лазню.

Партызаны набліжаліся да хаты паліцая. Іх здалёк убачыла яго малая дачка, якая басанож лётала па вуліцы. Яна ўбегла ў хату:

— Татка, там едуць нейкія з вінтоўкамі...

Бацька схапіў наган — і за парог, адвязаў каня і цераз гарод лупянуў да Бесядзі. Партызаны кінуліся наўздагон, страляючы на хаду. Блізка ля ракі конь паліцая спатыкнуўся і грымнуўся вобземлю. Варонін кульнуўся з каня, перакаціўся і з абрывістага берага бултыхнуўся ў ваду. Ля таго боку ракі цячэнне было ціхае, сцяной стаяў густы чарот, на беразе высокія шчытныя кусты алешніку.

Варонін не паспеў выбрацца на сухое, як пачуліся галасы партызан. Ён разумеў, што на конях тут партызаны не сунуцца ў раку — глыбокі вір, стромы бераг. Брод быў далей, пакуль знойдуць яго, перабяруцца, дык і сцямнее.

Стоячы па самую шыю ў вадзе, сціскаючы ў здранцвелай руцэ наган, баючыся павярухнуцца, Варонін з радасцю падумаў: жыў, зноў застаўся жыць! Варухнулася цёплая думка, што дома напалена лазня, але тут жа апякла трывога — хоць бы хату не спалілі ды Насту з дзецьмі не чапалі.

— Варона, вылязай! — крыкнуў вусаты. — Усё роўна табе будзе капут. І фрыцам тваім амба. Хопіць задніцу ім лізаць. Не мы, дык яны цябе кокнуць. Здавайся, пакуль не позна. Пра сям'ю, пра дзяцей падумай...

«Эх ты, малакасос. Шлёпнуў бы цябе, галубчыка, каб у кустах быў», — рука мацней сціснула наган.

— Можа, ён ужо на тым свеце? Вада цёмная. Труп не ўбачыш...

— Дай божа, каб ён у пекла трапіў. Разам са сваім канём.

— А пры чым конь? Конь не вінаваты. Хто яго корміць, таму і служыць.

— Як і паліцай. Прадаўся, сабака, — вусаты вылаяўся і трыма стрэламі па чароце завяршыў дыскусію.

На беразе пачуўся конскі храп, стогн.

— Хлопцы, конь-то яго яшчэ жывы. Дабіць трэба, каб не мучылася жывёліна.

— А ў цябе палка ці вінтоўка? Вось і дабі! — загадаў вусаты.

— Не, я не магу. Ты глянь, якія вочы ў яго... Аж страшна...

Нейкі момант на беразе стаяла цішыня. Потым пачуўся сцішаны хрыплаваты голас:

— Яй-бо, хлопцы, глядзіць, як чалавек. І стогне пачалавечы. Здаецца, слёзы з вачэй коцяцца. Рука не падымаецца...

— Ну, ваякі, такую вашу... — гучна вылаяўся Валодзька. — Каня дабіць не могуць. Канаплёў, ты самы старэйшы. Давай...

Адзінокі стрэл, бы пярун, ляснуў над ракой, потым пачуўся кароткі храп і працяглы шумны ўздых.

Стрэл болем аддаўся ў сэрцы Вароніна: каня свайго ён любіў, карміў, холіў, даглядаў, і не раз верны конік выносіў яго з бяды, не скінуў ніколі п'янага, дастаўляў дадому.

Варонін чуў, як паступова заціхаў тупат капытоў. Ён выпаўз на бераг, ступіў на левую нагу і войкнуў — востры боль працяў калена. «Падстрэлілі, мабыць», — мільганула думка, але яго зараз болей непакоіла, куды паехалі партызаны — у вёску ці на пасёлак.

І з трывогаю вызначыў: павярнулі на пасёлак. Няўжо да сценкі паставяць? Хоць бы дзяцей не чапалі. Косціку ўсяго два гадкі... Варонін, як воўк, прагна слухаў цішыню. Не, стрэлаў не было чутно. На душы палягчэла. А мо засаду зрабілі? Дык я ж вас нюхам учую. Не такіх бачыў, саплякоў...

Ён выліў з ботаў ваду, выкруціў анучы, абмацаў левую нагу: збоку, ніжэй калена, з ранкі сачылася кроў.

«Засела куля... Няўжо косць зачапіла? — ён сагнуў і разагнуў нагу. — Згінаецца... Самагонкай абмыю, заўтра ў бальніцу. Вы ўжо думалі, што мне капут. Не, я вас хутчэй на той свет адпраўлю...»

І ў той жа час нейкае другое пачуццё варухнулася ў ім: уразіла яго, як шкадавалі партызаны каня, трывога за сваіх дзяцей і жонку абудзіла ў ім балючае шкадаванне самога сябе, каня, многіх людзей, якіх ён ведаў і якіх ужо няма.

«Што гэта робіцца? Навошта? Няўжо нельга жыць па-людску?.. Няўжо калі не заб'еш ты, дык заб'юць цябе? Што гэта за бардак на свеце, тваю бога душу маць... А ўсё фрыцы праклятыя. Каб не яны, не клацаў бы я тут зубамі... — ён сціснуў шурпатую рукаятку нагана. — Адзін стрэл... Адна куля — і ўсё. Знойдуць тут, пахаваюць. І ўсё скончана, — ён правёў рукой па мокрай ад расы траве, намацаў таўставатую сцяблінку шчаўя, сарваў, пажаваў — яна была кіславата-халодная. — Ні есці, ні піць не трэба. Ні хавацца, ні ўцякаць. У гэтым чалавек сам сабе гаспадар. Хочаш жыві, хочаш — не. Сам рашай. — Прыклаў да шчакі вільготна-халоднае дула нагана. — Націснуць на кручок — і капцы. Убачаць, што ў скроню... Здагадаюцца. Сам вынес прысуд. Тады ўжо Просю і дзяцей не павінны чапаць... Прося маладая, здаровая... А мо яе забралі ўжо з дзецьмі і павезлі? Не, трэба дамоў. На тым свеце з бабаю не паспіш і чаркі не вып'еш...»

Крадком, як злодзей, пасунуўся да пераходу. У глыбіні душы варухнулася прыкрая думка: ухапіўся за дзяцей і за жонку, як тапелец за саломінку. «Не, браток Варонін, каб ты мог пусціць сабе кулю ў лоб, дык зрабіў бы гэта раней. І не стаў бы бобікам...»

З памяці выплыў спякотны ліпеньскі дзень, калі іх стралковую роту немцы прыціснулі да Дняпра. Хто кінуўся ўплаў праз раку — тых касілі з кулямётаў. Большасць павярнула паўз бераг да Магілёва, які быў ахутаны барвовымі клубамі дыму. «За мной! Прабівацца да горада!» — ахрыплым, сарваным голасам крычаў камандзір роты, маладзенькі русявы лейтэнант Кузняцоў. Ён бег наперадзе, размахваючы пісталетам, потым упаў, нібы спатыкнуўся.

Варонін брыў услед, бегчы не было сілы. Аглушаны стрэламі, выбухамі, раздаўлены маральна і фізічна, як п'яны, цягнуўся ён за ўсімі. «Давай, давай наперад!» —

махнуў яму лейтэнант, а сам папоўз да ракі, падцягваючы перабітую нагу. «Няўжо ён паплыве? — застыў ад здзіўлення Варонін. — А што, калі захапіць яго? Скруціць яму рукі — і да немцаў. Лепей тут перайсці. Усё роўна іхняя ўзяла. Такая сіла ў Гітлера...»

Лейтэнант падпоўз да вады, похапкам умыўся, выцер твар рукавом гімнасцёркі, доўгім позіркам абвёў наваколле, паглядзеў угору, дзе ў мутна-бялёсым небе трапятаўся жаўрук... Суха трэснуў стрэл, лейтэнант таргануўся і дагары адкінуўся на пясок. Варонін падбег да яго. Лейтэнант глядзеў у неба шырока адкрытымі вачамі. Здалося, што вочы яшчэ жылі, усё бачылі і разумелі...

Дрыготкай бруднай далонню Варонін правёў па астываючым твары лейтэнанта, каб хутчэй закрыць гэтыя няўмольныя вочы. Потым падняў пісталет. У ім не было ніводнага патрона.

Апошнюю кулю лейтэнант збярог для сябе.

У гэты момант дзесьці блізка грымнуў выбух. Варонін упаў на пясок, адкаціўся далей ад вады і ад лейтэнанта, якога ён баяўся і зараз, ужо нежывога, і затросся ў бязгучным плачы.

Плакаў ад роспачы, бездапаможнасці, ад зайздрасці да лейтэнанта, якога раптам зрабілася шкада, хоць ніколі яго не любіў, а бывалі хвіліны — нават ненавідзеў за строгасць, бязлітасную патрабавальнасць. Плакаў ад раздвоенасці ў душы: змагацца за ўладу, якая пазбавіла яго бацькі, або служыць ворагу?..

Да слыху Вароніна, як праз вату, данесліся чужыя адрывістыя галасы. Ён прыўзняўся і ўбачыў ля вады запэцканыя жоўта-рудою глінай боты і чорнае дула аўтамата, настаўленае на яго. Стоячы на каленях, падняў рукі ўгору...

Было блізка да поўначы, калі Варонін мыўся ў сваёй лазні. Прося стаяла ля хаты і слухала, каб ніхто знянацку не наскочыў. Варонін папарыўся, абдаўся халадзёнкай, адчыніў дзверы ў прымыльнік, каб не было гэтак горача, абмыў самагонкаю рану, узяўся перавязваць нагу — яна ўсё мацней балела. Ён падсунуўся бліжэй да маленькага акенца: прарэзана і зашклёна дзюрка ў адным бервяне, — знадворку яно завешана лахманамі, каб не відаць было святла. Побач з капцілкай, што стаяла ў акенцы, ляжаў наган.

Былы вайсковец, ён хутка зрабіў перавязку, глынуў

з бутэлькі пякучай вадкасці — прыемная цеплыня разлілася ўнутры.

Ціха адчыніліся дзверы прымыльніка, увайшла Прося ў ватоўцы, з хустаю на мокрай галаве.

— Ну што, ціха? — спытаў ён.

— Ціха, — шэптам адказала Прося, пазіраючы на забінтаваную нагу.

— Нешта я недапарыўся. Духу малавата. Пагрэй трохі паясніцу, — з гэтымі словамі ён палез на палок.

Прося лінула на каменку карэц цёплай вады — каменне глуха зашумела, нібы ўздыхнула, але гарачыні дало не багата. Прося кінула ў вугал ватоўку, хусту не здымала і пачала махаць венікам.

Здаралася, яны і раней мыліся разам, але сёння... пасля ўсяго перажытага: стралялі па мужыку, ледзь не забілі, яна бедавала, шкадавала яго, баялася за дзяцей... І цяпер яшчэ трывога не асела ў ёй, адно прытупілася: што будзе, тое і будзе... І злосць на мужыка ўспыхнула з новай сілай: пайшоў у паліцыю, не паслухаўся; балючаю стрэмкай абудзілася шкадаванне яго, дзяцей.

— Казала ж я табе: Сцёпачка, не ідзі... Не паслухаўся. Во цяперыцька без нагі будзеш...

— Без нагі? Тут без галавы можна застацца... Не паслухаўся, кажаш. Я ж бы дома не ўседзеў пад тваёй спадніцай. Пайшоў бы ў лес. Да партызан. Немцы цябе з дзецьмі да сценкі паставілі б... Не пашкадавалі б. Яны шкадаваць не ўмеюць.

— Навошта ў лес? Не ўсе ж пайшлі. То хворымі прыкінуліся некаторыя, то нямоглымі. І настаўнік вунь дома сядзіць, дзяцей сваіх гадуе. І ніхто яго не чапае.

— Гарыць у мяне зуб на яго. Даўно прыглядаюся. Ці не ён партызан навёў на мяне? Стараста аберагае яго. Я б не чыкаўся.

— Не чапай яго. А то людзі яшчэ болей узненавідзяць.

— Што мне людзі? Бацьку майго хто ўхайдэкаў на Асінторфе? Людзі! Улада савецкая. А за што? Што не лайдак быў. Чарку лішнюю ніколі не выпіў. Сонца ў пасцелі не сустрэў ні разу. Знайшлі багацея... Ах-го-го, — ціха пастагнаў ён. — Яшчэ трохі па хрыбціне. Во, во! Ах, як добра!.. Ну, хопіць...

Прося падставіла плячо. Сцяпан спусціўся на падлогу, чарпануў далонню з бочкі халоднай вады, лінуў

на твар, адчыніў дзверы. Прося ўзяла ватоўку, пасунулася да парога. Сцяпан падняўся ёй насустрач, прыхінуў да сябе.

— Ой, не верыцца, што жывы, — прыхінуў мацней, пачаў прагна, горача цалаваць, быццам рабіў гэта апошні раз...

Яны ляжалі побач на ватоўцы. Лазня трымала яшчэ цеплыню. Прося, спустошаная, размяклая, моўчкі прыціскалася да мужа.

На дварэ было ціха. Раптам залопаў крыллем певень. Сцяпан уздрыгнуў, вылаяўся:

— Каб ты скіс, нягоднік! — уздыхнуў, памаўчаў. — Во жызня, ядры тваю вош. Пеўніка стаў баяцца.

— Ты ж дужа смелы быў. Першым пайшоў да іх... А як вернуцца нашы? Казалі ж бабы, нібыта пад Сталінградам пабілі немца. Ён адступаець... Куды дзенемся? Хатыньчане жывым у зямлю закапаюць. Ды і нашы, парцюкоўцы, падсобяць ім.

— Якая розніца, першым ці апошнім? У немца сілы багата. Яшчэ папрэ бальшавічкоў. У Лабанаўцы на днях быў. Усё ідуць і ідуць эшалоны з танкамі, з гарматамі. Уся Еўропа на немца працуе.

Прося маўчала, нібы ўслухоўвалася ў начную цішу. Петушыны грай пакаціўся далей, ды і быў ён даволі рэдкі — не густа засталося пеўняў у вёсцы: каторага немцы сцапалі, каторага самі гаспадары зварылі ў супе.

— Ідзі паслухай, — сказаў Сцяпан. — Я буду адзявацца...

Прося ўскінула на плечы ватоўку... Знадворку дыхнула ядраным вільготным паветрам, запахла росным бульбоўнікам, гарбузовым лісцем, зялёнымі стручкамі гароху — густая градка гароху высілася недалёка ад лазні.

Раніцай Варонін паехаў у Саковічы ў бальніцу. Стары доктар Ласоўскі зрабіў аперацыю, дастаў кулю, трымаючы яе пінцэтам, разглядаў:

— Ну вось, стала быць, можаце ўзяць на памяць.

— Наліха яна здалася, — паліцай хацеў звыкла вылаяцца, але пры Ласоўскім не адважыўся.

Старога доктара ён пабойваўся яшчэ з маленства, калі хварэў на скарлатыну. Ласоўскага ведалі ўсе навакольныя вёскі, да яго ехалі нават з Лабанаўкі, хоць там мелася свая, куды большая бальніца, але такога

вопытнага, мудрага лекара не было. Бацька яго — паляк, служыў у Саковічах у пана, вымаліў панскай ласкі вывучыць сына на фельчара. На большае не хапіла духу і кішэні.

Жыццё, практыка, прыродная мужыцкая назіральнасць зрабілі з фельчара сапраўднага прафесара-практыка. Жонка ягоная, фельчарка, прымала парадзіх, а сам ён лячыў усе хваробы. Перад вайной слава доктара Ласоўскага грымела далёка, а ягонае «стала быць» ведалі і стары і малы. Спачувалі людзі ягонай бядзе: адзіны сын утапіўся ў Бесядзі яшчэ малым хлапчуком, болей у іх дзяцей не было. Так і жылі яны ўдваіх.

Паліцай і Ласоўскага падазраваў у сувязі з партызанамі, і, мабыць, не без падстаў, і нават гаварыў пра гэта каменданту мястэчковага нямецкага гарнізона Адольфу. Немец выслухаў яго, падзякаваў за пільнасць, але доктара не чапалі.

Варонін доўга не забавіўся ў бальніцы. Яго наведалі там камендант Адольф і начальнік паліцыі з Лабанаўкі, хударлявы, паджары, як ганчак, Даніла Сідарэнка. Камендант сказаў, што за адданую службу пан старшы паліцыянт будзе ўзнагароджаны медалём, што яму прысвояць званне унтэр-афіцэра.

Узрадаваны «пан паліцыянт» саскочыў з ложка і, стоячы на адной назе, гаркнуў: «Хайль Гітлер!» Камендант паляпаў яго па плячы, ухмыльнуўся, скрывіўшы тонкія губы, чмыхнуў носам, бо ад пана паліцыянта моцна пахла цыбуляй і самагонам. Толькі на твары Сідарэнкі не варухнуўся ніводзін мускул.

Як толькі вярнуўся дамоў, Варонін перш за ўсё пачаў разнюхваць, хто навёў на яго партызан, адкуль яны заявіліся. Прося ўжо дачулася, што ехалі партызаны полем, цераз Бярозавае балота. Сказала ёй пра гэта Пёкла, якая бачыла, што партызаны стрэліся там з Іванам Сырадоевым. Варонін паехаў да старасты Ахрэма Куцаёва, або Куцая, як дражнілі яго ў вёсцы.

Ужо сталага веку, лысы, нахмураны, Куцаёў сустрэў старшага паліцэйскага без асаблівай радасці. Старастам ён стаў не па сваёй ахвоце. Дзве прычыны паўплывалі на ягоны лёс: першая, што быў у нямецкім палоне яшчэ ў царскую вайну і трохі шпрэхаў па-нямецку, другая — ягоная прагнасць, скупярдзяйства, сквапнасць і працавітасць, бо калісьці меў ён трое коней, дзве каровы, плойму авечак і гусей і, вядома, не паспяшаўся

ўсё гэта аддаць у калгас. Яго раскулачылі, адправілі на Асінторф. Але і там ён выжыў, перад вайной вярнуўся дадому.

Дапамагла прабіўная, смелая жонка Аўдуля. Яна, узяўшы торбу сала, паехала ў раён, потым у вобласць, даведалася, дзе яе Ахрэм. Захапіла яго ўжо хворага на раматус, выхадзіла і прывезла дамоў. Сям'я была немалая: чатыры дачкі і два сыны, якія цяпер нібыта ваявалі на фронце. Немцы доўга не ўпрошвалі Ахрэма — не пойдзеш старастам, паставім да сценкі.

Праўда, Куцаёў не дужа стараўся дагадзіць начальству і калі мог, то ратаваў людзей ад Нямеччыны, не забіраў у вяскоўцаў апошняе з двара. Адно, што ён рабіў са смакам — піў гарэлку. Калі б да каго ні зайшоў, адна была гаворка: «Стаў гарнец гарэлкі!» Таму дражнілі яго цяпер ужо іначай — Куцай-Гарнец.

Варонін не любіў старасту, хоць і не падазраваў яго ў сувязі з партызанамі, і яму не хацелася звяртацца да яго... Радуецца, што мяне падстрэлілі, як зайца, шкадуе, што не ўкакошылі зусім, — думаў Варонін, пазіраючы ў маленькія хітрыя вочкі Куцаёва.

Неўзабаве паліцай і староста былі ўжо на двары ў Сырадоевых. Там толькі што паснедалі, Іван запрагаў каня.

— Куды сабраўся? — не вітаючыся, гукнуў паліцай.

— Сена трэба дасушыць і прывезці, — адказаў Іван, укладваючы на калёсы ўвязаную касу, граблі і вілы.

— Можа, зноў там цябе паджыдаюць? — з'едліва прыжмурыўся Варонін.

— Здаецца, ніхто не паджыдае, — пацiснуў плячамі Іван. — Хіба што перапёлка...

— Перапёлка, кажаш. Ах ты, сукін сын! — раптам узвіўся Варонін і выхапіў з кішэні наган. — Я табе пакажу зараз парапёлку. Ты навёў на мяне партызан?

Іван маўчаў. Моўчкі стаяў і староста, пазіраючы некуды ўбок, быццам яго гэта зусім не тычылася.

— Што маўчыш? Адказвай, шчанюк? Ты сказаў партызанам?

— Нічога я ім не гаварыў. Закурыць папрасілі...

— Ах ты, гад печаны! Ану, станавіся да сценкі! — паліцай моцна штурхнуў Івана, той выцяўся спінай аб вугал, збялеў што палатно.

— Ты, ета самае, Сцяпане, не гарачыся, — староста

падышоў бліжэй да Івана. — Раз яны ехалі сюды, дык зналі...

З хаты, нібы кваттуха, з крыкам і галашэннем вылецела Вулька і загарадзіла сына:

— Не дам! Страляй мяне, а яго не дам! Калі ў цябе, Сцяпаначка, рукі свярбяць... Калі ты ўжо не можаш без крыві чалавечай, дык мяне... Мне ўжо ўсё роўна. А яго не чапай... А за што ж ты яго, Сцяпаначка, міленькі? Мы ж свае людзі, — захліпаючыся, давячыся славамі і слязьмі, хапала паліцая за рукі Вулька.

— Свае людзі? Дык чаму ж ён бандытаў з лесу на мяне навёў? Хату маю паказаў...

Тут не вытрываў староста:

— Сцяпан, дарэмна ты да хлопца прычапіўся. Калі ехалі сюды, то дарогу на пасёлак ведалі. І не першы раз яны прыязджаюць. А пры чым тут хлопец?

— І ты з ім? Заступнічак знайшоўся, тваю маць... — Варонін вылаяўся, схаваў наган у кішэню і пайшоў прэч з двара.

Староста паправіў на плячах вінтоўку, падміргнуў Івану і, прыгнуўшыся ў варотцах, пацягнуўся ўслед.

## III

Пад старым таўшчэзным дубам — утрох ледзь абхапіць — сядзелі людзі. Воддаль, між раскідзістых кустоў арэшніку пасвіліся каровы. Церусіў дробны, імжысты дождж.

Андрэйка дрыжаў ад холаду, хоць і быў захутаны ў ватоўку, на ногі яму ўсцягнулі ўсохлыя чаравікі з белымі вышараванымі мысамі. Усё лета, ад самай вясны, ён бегаў басанож, і тут на табе — абулі. Але ён не пярэчыў. Як выбіраліся з дому тры дні назад, маці строга — ён ніколі не бачыў яе такой строгай — сказала: каб слухаліся з першага слова, каб сядзелі ў лесе ціха, як мышы пад венікам, інакш усіх пастраляюць немцы.

І Андрэйка гэта моцна запомніў. Ён маўчаў, калі ўчора ўранні маці даставала кляшча — упіўся за вухам, набраўся крыві і зрабіўся чырвоны, як журавіна. Балюча было страшэнна, слёзы, як боб, каціліся, дзе ты стрымаеш іх, затое ніводнага гуку: бо пачуюць фрыцы, усіх паб'юць.

А вось Хадорына малая не хацела гэтага разумець і

кугакала на ўсю моц. Хадора гушкала яе, совала пустыя грудзі, малая не заціхала.

— Дзе тваё малако дзелася, каб цябе ліха, — бурчаў Арцём. — Праз цябе ўсім хана будзе...

— Ці ж я вінаватая? — размыкала сціснутыя вусны Хадора, зноў гушкала тугі крыклівы скрутак, падносіла да грудзей.

Сёння раніцай прыйшлі нашы. Андрэйка і Коля яшчэ спалі, нічога не бачылі, а Васька ўсё дагледзеў. Ён і зараз недзе там вартуе карову і, мабыць, бегае да нашых, дзе акопы, дзе чорны кулямёт на ножках стаіць. «Эх, каб я быў большы, як Васька, усё б убачыў, — думаў Андрэйка. — І кулямёт, і акопы. Можа, стрэльнуць далі б з аўтамата. А так сядзі тут, як прывязаны...»

Побач заварушыўся Коля, таўхануў Андрэйку пад бок.

— Чаго тоўхаешся? — абурыўся Андрэйка.

— Я не тоўхаюся. Павярнуўся проста. Нага замлела. Ушчыкні.

На гэта Андрэйку доўга ўпрошваць не трэба, высунуў з даўжэзнага шырокага рукава пальцы, намацаў Колеву нагу і ўшчыкнуў за лытку, ды так, што той войкнуў.

— Ну ты, клешч малы, упіўся, — брыкнуў нагой Коля.

— Ты ж сам папрасіў, а цяпер брыкаешся, — пакрыўдзіўся Андрэйка.

— Не дурэйце, дзеці, — азвалася Хадора, баючыся, што пабудзяць малую, якая нарэшце перастала плакаць, сцішылася.

— А дзе матка? Калі яна прыйдзе? — усхліпнуў Андрэйка.

— Яна з Марынай памагае салдатам абед варыць. І нам, можа, кашы якой прынясуць, — Хадора зноў пачала гушкаць дзіця, якое заварушылася, але пакуль што маўчала.

Дождж тым часам перастаў, недзе далёка ў лесе і за вёскай грымела, як усё роўна набліжалася навальніца, сыходзіліся дзве вялікія хмары.

— А вунь Васька ідзе, — ускочыў Коля.

Васька выбег з-за кустоў, некаму крычаў і махаў рукой:

— Сюды, сюды! Тут яны.

З лесу высунуўся салдат у зялёнай касцы з чырвонай зоркай, у адной руцэ ён нёс пукатую, як бочачка, цёмна-зялёную каструлю, у другой — вялікую, таксама зялёную торбу. На грудзях у яго вісеў аўтамат з круглай, як сланечнік, каробкай.

Коля кінуўся насустрач, за ім з усіх ног прыўдарыў Андрэйка. У гэты момант нешта завыла, нібы заскуголіў вялізны сабака.

— Лажысь! — крыкнуў салдат.

Хлопцы пападалі ў мокрую траву, а салдат толькі схіліўся над імі. Зноў завыла, загуло, недалёка ў лесе грымнулі выбухі, затрашчалі дрэвы. Неўзабаве ўсё сціхла, толькі з вёскі чулася траскатня, быццам нехта раздзіраў моцную матэрыю.

— Подъем, пострелята! — весела скамандаваў салдат і подбегам рушыў да дуба.

А потым Андрэйка еў гарачы пахучы салдацкі боршч. У роце пякло, перац шчыпаў язык, але хлапчукі навыперадкі працавалі лыжкамі, аж насы ўгіналіся.

— Что, орлы, укусно? — націскаючы на «о», спытаў салдат, выцягнуў з кішэні бліскучы круглы гадзіннік на ланцужку: — Нажимай, нажимай, малыш, — пагладзіў Андрэйкаву галаву. — А то сейчас «катюша» зайграет...

Андрэйка і без прымусу стараўся, лоб укрыўся пацеркамі поту: не жарты цэлую міску ўвабраць. «А што за музыка будзе? — падумаў ён. — Нехта, можа, і скакаць пойдзе. Раз іграць будуць. Можа, салдат будзе скакаць?» — Андрэйка згараў ад цікаўнасці.

Салдат тым часам скруціў цыгарку і задуменна пыхнуў дымком. Быў ён ужо не малады, пад шыракаватым носам тапырыліся рудаватыя вусы. «Мабыць, ад табакі вусы рыжыя, — падумаў Андрэйка. — А ці ёсць вусы ў таткі?» Пра гэта ён не ведаў, бо татку мала помніў, і шэптам спытаў у Ваські. Салдат пачуў, што гаворка ідзе пра вусы і прыняў гэта на свой адрас, усміхнуўся, тузануў Андрэйку за жаўтлявы віхор.

— Ты чё сплетничаешь, постреленок? Где больше двух, говорят услух, — кругла окаючы, сказаў ён. — У меня тоже три пацаненка растут. Доседава большие выросли. Уж скоро три года, как не видал. Писемцо на днях получил. Далеко они живут. За Москвой. Вологодская область... А у вас кто, мамаша? — звярнуўся ён да Хадоры.

— Дачка. І яшчэ дзве большыя ёсць...

— А муж где?

— У атрадзе. Прыйшоў з фінскай вайны раніты. Абмарожаны. Пальцаў няма на абедзвюх нагах. Тут з парцізанамі здружыўся. Быў у іх за сувязнога. Немцы адзін раз хацелі нас пабіць усіх. І яго, і нас. На мяне наставілі аўтамат. Думала, усё ўжо... Стараста нас выручыў. Нешта ўсё гаманіў ахвіцэру. Па-іхняму гергетаў. Ну, я зразумела, што етых самых... хвактаў мала. Ніхто не падаткнуў. Не данёс, значыць... Дык во і цэлыя засталіся. А то б ужо зямельку парылі...

Салдат падышоў да Хадоры бліжэй.

— Ничего, мать. Теперь все страхи позади. Ну, покажи, что у тебя за красавица? Не боись, у меня глаз хороший.

Хадора адхінула хусту, якая закрывала твар дзіцяці.

— Ух ты! Чистая Василиса Прекрасная. А как зовут?

— Ксення.

— Оксана, значит, — падумаўшы трохі, сказаў салдат. — Хорошее имя. Молодцы! Не спали в шапку. Партизанам помогали и дитя приспали. Жизнь побеждает по всем статьям.

Андрэйка слухаў і дзівіўся: упершыню ён чуў такую гутарку. Ён ведаў, што немцы размаўляюць не так, як нашы людзі, а тое, што наш салдат гаварыў іначай, чым яго, Андрэйкава, маці, цётка Хадора і дзядзька Арцём, гэта было дзіва.

Раптам цішыня нібы раскалолася, страшэнна застагнала ў лесе, раз-пораз завухкала. Андрэйка закрыў далонькамі вушы, бо іх як заклала ватай. Коля і Васька, мабыць, таксама перапалохаліся, угнулі галовы.

— Не пугайтесь, орлы! Это «катюша» играет! — крыкнуў салдат, схапіў торбу і трушком пабег назад.

Назаўтра апоўдні ўсе вярталіся ў вёску.

Маці вяла Андрэйку за руку. Ён нічога не пазнаваў, бо вёскі не было, стаялі абкураныя печы з разбуранымі камінамі, чорныя абгарэлыя дрэвы. Можа, таму, што печы і дрэвы былі чорныя, твары людзей сумныя, Андрэйку ўсё здавалася чорным: і лес, і поле, і неба з бухматымі восеньскімі хмарамі.

Пахла едкім смуродам, паўз дарогу цягнуліся блішчастыя ніткі чырвонага дроту. Пад бярозай, з якой звісаў амаль да зямлі зламаны сук з жоўта-зялёным

лісцем, ляжаў тоўсты немец. Ён быў босы, у брудным, скрываўленай нацельнай кашулі. У рот яму нехта запхнуў бурак, вялікі чырвоны, з абвялым бацвіннем.

— Во цяпер ты ўжо наеўся, вырадак пракляты. А то ўсё табе было мала. Усё жэр і жэр, пакуль не падавіўся, нягоднік, — маці з гідлівасцю плюнула і пацягнула Андрэйку далей адсюль.

На месцы, дзе раней была іхняя хата, стаяла абгарэлая печ, комін абваліўся, на чарэні валяліся закурэлыя, патрэсканыя абломкі цэглы. Калі б не вішні, што раслі за хлявом, то Андрэйка не пазнаў бы і падворак. Прыгледзеўшыся, ён убачыў на вішнях курэй, і гэта яго вельмі здзівіла:

— Мам, зірні, куры на вішнях сядзяць...

— А дзе ж ім, бедным, дзецца? А чаму тры? Дзе ж яшчэ адна?

— Вунь рабая ў зямлі капаецца, — малы ўскочыў на падворак і застыў у радасным здзіўленні: вакол курыцы круціліся, мітусіліся, нібы пушыстыя шарыкі, кураняты. Квактуха грозна закудахтала, растапырыла крылле, усё яе пер'е ўзнялося дыбарам. — Мама, піскляты вывеліся! Ды багата іх! — крыкнуў Андрэйка.

— Якія пісклятьі? Адкуль? Восень ужо на дварэ, — маці падышла бліжэй. — Ой, праўда. Дык во чаго ета курыца ўсё ў крапіву ля прасла лазіла. Гняздо зрабіла... Дзевяць пісклёнкаў! А мае ж вы міленькія пісклятачкі, чым жа вас пакарміць? Во фрыц паганы, думаў, што ўсё панішчыў. А ў нас і прыбытак ёсць...

З правулка выбег Коля. Ён задыхаўся, вялікія шэрыя вочы, якія здаваліся асабліва вялікімі на хударлявым, бледным тварыку, былі сумныя, зарумзаныя. У руках Коля трымаў скрутак чырвонага дроту.

— Мама, ля кузні танк стаіць нямецкі. Падбіты. І крыжы чорныя.

Андрэйка зірнуў туды: ля кузні, якая не згарэла, стаяла вялізная цёмна-шэрая машына з бліщчастымі гусеніцамі, ствол гарматы, нібы жардзіна, упіраўся ў зямлю.

— Дроту чырвонага там поўна. Усё пераблытана ім, як павуціннем, — расказваў Коля.

— І я хачу паглядзець, — не сцярпеў Андрэйка.

— Куды? Я табе пагляджу! — крыкнула маці. — А ты што цягнеш? Наліха еты дрот? Можа, атручаны?

— Чаму атручаны? Тэлефонны дрот. Усе бралі. Сяр-

гей Краўчанка гаворыць, што з яго лапці можна плесці. І за зіму не зносіш.

— А Васька дзе? — спытала яна ў Колі.

— Пабег з хлопцамі ў Канчанскі роў.

— Добра, хоць ты сыскаўся. Во памажыце мне лапату адшукаць. Схавала недзе ў бульбоўніку. А дзе, не памятаю. Трэба ж адкапаць адзежу. Ці ўсё там цэлае?

Яны хадзілі па бульбоўніку, які быў яшчэ густы, зялёны, але макаўкі пабурэлі ўжо, пасохлі ад восеньскіх прымаразкаў.

— Жэўжык, хадзі сюды! — гукнуў Коля брата.

Андрэйка падбег бліжэй і вачам не паверыў: у бульбоўніку, недалёка ад папялішча, дзе раней стаяў хлеў, ляжалі абвугленыя кавалкі гарбуза з белымі радкамі семак.

— Ад гарачыні, відаць, лопнуў гарбуз. І семкі ўжо сухія, — Коля спрытна лузгаў гарбузікі.

Паспрабаваў і Андрэйка. Даспелыя, поўныя, семкі былі надзвычай смачныя. Маці тым часам адшукала рыдлёўку, узялася адкапваць яму з прыхаваным хатнім начыннем і адзежай.

— А дзе мы цяпер будзем жыць? — заклапочана і сур'ёзна сказаў Андрэйка.

— Дзе? Зямлянку выкапаем. Як у партызан у лесе, — важна, як дарослы, адказаў Коля.

— А ты бачыў, якія там зямлянкі? — з няверай спытаў брат.

— Бачыў.

— Брэшаш, Козлік. Калі ты бачыў.

— Дзядзька Арцём гаварыў...

— Дзеці, што вы там счапіліся? Ідзіце сюды! — паклікала маці.

Яна неяк угнуўшыся сядзела каля ямы. Андрэйка падбег першы і ўбачыў, як маці ражком хусты цярнула вочы.

— Мам, чаму ты плачаш? Мы ж усе жывыя. Немцы нас не пабілі, — суцяшаў маці малодшы сын.

— І бабуля ў хаце не згарэла, — дадаў Коля. — Толькі Бельчык і свінка... Дайжа гусі цэлыя і куры... Не плач, мама.

— І піскляткі ў нас ёсць... — Андрэйку карцела пабегчы зірнуць на куранят, але матчыны слёзы ўзрушылі яго, і ён стаяў як укопаны.

— Я не плачу, дзеткі. Ета дым... лезе ў вочы. Вы-

дае... Каб жа ўсё... Як там наш бацька? І Пятрок-сыночак... Ці жывыя яны? А мо ўжо і костачкі папрэлі... — маці змоўкла, як асекшыся.

— Дзе мы будзем капаць зямлянку, а мам? — Коля сеў каля маці, Андрэйка прымасціўся да яе з другога боку.

— Пойдзем жыць у Канчанскі бок. Да цёткі Рыпіны. Яе хата не згарэла. Бабу Васілісу я ўжо туды завяла. Будзе жыць з намі. Калі прыйдзецца ёй жыць. Слабая наша баба, ледзь ходзіць... Нас шэсць душ. І ў цёткі Рыпіны дзве дачкі. Тры чалавекі. Як-небудзь памесцімся. Зіму перамадзеем, а там пабачым, — яна прыхінула да сябе сыноў.

Андрэйка хутка падхапіўся: захацелася збегаць з Колем у Канчанскі бок, зірнуць на хату, у якой будуць жыць. Ён ужо ведаў, што іхняя вёска Хатынічы дзеліцца на дзве часткі: Шамаўка — гэта за Арцёмаву хату, далей да Шамаўскага ручая, і Канчанскі бок — за выганам, за кузняй.

Нават адсюль, з гарода, былі відаць канчанскія хаты, высокія, яшчэ зялёныя бярозы.

— А ў цёткі вялікая хата? — зноў падсеў да маці Андрэйка.

— Вялікая, — уздыхнула маці.

Коля добра ведаў цесны Рыпінін катух, але нічога не сказаў.

## IV

Шэрым восеньскім раннем Міхаіл Даўгалёў ехаў у раён. Ён ужо тыдзень прабыў дома, у Хатынічах, што рабіць і як жыць далей, не ведаў. Ехаў ён у райком партыі, каб стаць на ўлік, заплаціць партузносы, пагаварыць наконт работы, бо хоць і далі яму, былому афіцэру, пенсію па інваліднасці, без работы ён сядзець не мог.

Падвезці яго падахвоціўся дзед Гылігор, якому таксама трэба было ў горад. Прыдалі старому ахвоты два пачкі махоркі, якія напярэдадні даў яму Даўгалёў.

Стары запрог кабылу Кулю, яе пакінулі, параненую, партызаны, і ён выхадзіў яе, вылечыў і зараз радаваўся, як дзіця, што мае ўласнага каня. Калёсы ён сабраў з featureознага ламачча: адно пярэдняе кола без шыны, восі

драўляныя, верх ад мажары, на якой звычайна возяць сена ці салому, а не выпраўляюцца ў людзі.

Дзед Гылігор нічога не збіраўся купляць у Лабанаўцы, апроч солі, бо грошай меў мала, а цэны ого якія — дзе ты дакупішся.

Выехалі яны рана, ледзь пасвятлела неба на ўсходзе — дарога няблізкая, а на лечанай кабыле надта не разгонішся. На мажару дзед ускінуў бярэма мяккай атаўкі, заслаў посцілкай, якую выткалі спрытныя рукі ягонай Самкліды.

Калі выбраліся за вёску, развіднела, з-за лесу выкацілася мутна-барвовае сонца, на бярозцы, што ўспыхнула ўжо восеньскім пажарам, заблішчала мокрая ад інею павуцінка.

Вакол шарэла голае поле, бульбу ўжо выкапалі, далей, за рудым Глымазіным балотам, весела і ярка зелянела рунь.

На вежы абгарэлага нямецкага танка, які скасабочана застыў ля дарогі, сядзела варона. Калісьці сталёва-шэры, з вялікімі крыжамі, грозны танк цяпер нагадваў брудную няўклюду-чарапаху. Калі фурманка наблізілася, варона цяжка і неахвотна ўзнялася, хрыпата каркнула і паляцела нізка над полем.

Ад машыны запахла мазутам, паленым жалезам. Кабыла фыркнула, скасавурыла вялікае круглае вока, чырвонае ў промнях сонца, насцярожана наструніла вушы.

— Чаго ты, ваўкарэзіна, спалохалася? Вунь пацаны ўжо і кучу налажылі на ету жалязяку. А была ж такая грозная махіна! Ці ведаеш, Касьянавіч? — дзед павярнуўся да Міхаіла. — Ісцінны бог, не думаў я, што разаб'ём фрыца. Так хутка нашы адкаціліся. Я сабе падумаў: відаць, да Крычава, да Сажа, а там задзержаць, папруць назад. А тады — гляджу — усё ідуць, едуць фрыцы. На машынах, ды такіх бальшэнных. Я зроду не бачыў такіх. На конях едуць. А коні вялізныя, гладкія, спіны, што лаўкі шырокія. І пешкі ішлі. Дзесяць дзён, а мо і болей, усё паўзлі і паўзлі. І канца ім не было. Тады, братка, вотарап мяне пачаў браць: ці здужаем такую араву? Усю Эўропу проця нас Гітлер павёў. Хіба не так?

— Так, дзед, твая праўда. Сіла ў немца была вялікая, — падтакнуў Даўгалёў.

— Ён жа, супастат, і бога ў саюзнікі ўзяў...Ета ж

набрацца нахабства — лерыгійныя крыжы маляваць на танках і самалётах.

— На спражках рамянёў дык пісаў «Гот міт унс». З намі бог, значыць, — перапыніў дзеда Міхаіл.

— Выходзіць, завербаваў божаньку да сябе. От нячыстая сіла. У Саковічах і старасту выбіралі на сходзе ля царквы. У нас дык Куцая так паставілі... Спрабаваў Куцай уцячы, як нашы прыйшлі, але вярнуўся. Сядзіць дома. А Варонін уцёк. Ну, таго б разарвалі ў мэтлух, каб злавілі... Усю погань немец да сябе прыгарнуў... Ды спрасонку захапілі нас, бы куранят. От ты ж камандзірам быў, скажы, як ета мы дапусціліся?

Даўгалёў не чакаў такога павароту. І хоць сам не раз думаў аб гэтым — і тады ў першыя дні вайны пад Полацкам, і на шпітальных ложках, і думаў не толькі ён — гаварылі, спрачаліся да хрыпаты людзі, знявечаныя вайной, якая абарвала іх маладосць, каго зрабіла бязрукім, каго бязногім, а сотні, тысячы іншых ляглі ў зямлю ў самай красе свайго жыцця, адзінага, непаўторнага для кожнага чалавека, — а толкам і не знаходзіў поўнага адказу на гэтае пытанне.

— Праўду кажучы, Рыгор Аўціхавіч, дык я і да гэтага часу не магу даўмецца, чаму так атрымалася. Думаю, што ведалі тыя, каму належыць ведаць, што вайна наспявае. І рыхтаваліся, вучыліся, у шапку не спалі...

— Дык чаму ж прахлопалі?

— От гэтага не ведаю. Не ўкладваецца ў маёй галаве... А рыхтаваліся сур'ёзна. Я на Урале служыў. Вясною сорак першага скончыў артылерыйскае вучылішча. Прызначылі камандзірам узвода. І вось пятнаццатага чэрвеня, за тыдзень да вайны, наш полк па трывозе паднялі ноччу — і ў эшалон. Куды вязуць, ніхто не ведае. Пусцілі чутку, што на манёўры ў Кушку. Гэта ў Сярэдняй Азіі на самай граніцы. Начамі едзем, днём стаім у тупіках. Але, бачу, не падобна на Сярэднюю Азію: елкі, сосны, кусты альховыя мільгаюць ля чыгункі. Аднойчы ранічкай праехалі станцыю Ельня. Ну, думаю, значыць, мая Беларусь блізка.

На другую раніцу праскочылі Оршу. Уся станцыя была забіта цыстэрнамі. І тут самалёты загулі над намі, пачуліся выбухі. Цягнік заляскатаў буферамі і спыніўся ў ляску. Каманда: «Усім у лес». Сыпанулі з вагонаў хто куды. Самалёты, іх было два — тупарылыя, з кры-

жамі на фюзеляжах, косяць з кулямётаў, аж з дрэўігліца сыплецца дажджом. Мы ўсе як аглушаныя. Параненыя стогнуць: «Што за манёўры?» Вагоны, праўда, усе цэлыя, але пакасілі фрыцы нашых колькі... Тут сабралі нас, афіцэраў. Камандзір палка, малады маёр, толькі з акадэміі, аб'явіў: вайна, Германія напала вераломна... Без аб'яўлення...

— Во-во, без аб'яўлення, як злодзей, — заёрзаў на возе дзед, тузануў лейцы. — Ну, Куля, заснула ці заслухалася? Так мы і да вечара не даедзем, — сцёбнуў пугай кабылу, тая адмахнулася караткаватым хвастом, але прыбавіла крок, затрусіла трушком. — Я от думаю, Касьянавіч, даў маху наш вучыцель і друг, — ціха, быццам баючыся сваіх слоў, сказаў дзед Гылігор.

— Можа быць. Мы тады пахавалі забітых... Начштаба палка, таксама маёр быў, паранілі ў руку. Забінтавалі, падвязалі за шыю. А ён лаецца: прадавалі Гітлеру збожжа, бензін, а ён нашым хлебам фашыстаў сваіх карміў, нашым бензінам самалёты запраўляе... Крычалі пра вайну на чужой тэрыторыі...

— А я што табе кажу? Пісалі ж ва ўсіх газетах, што нашы ерапланы лётаюць і вышэй, і далей за ўсіх, — тыцнуў у неба заскарузлым пальцам дзед Гылігор.

— Пісалі, Аўціхавіч, хваліліся. Шапкамі гатовы былі закідаць. Тады пасля бамбёжкі паехалі мы далей. Некаторыя і кажуць: маўляў, пакуль даедзем, папруць немца, мы і не дагонім яго... Прывезлі нас пад Полацк. Акапаліся. Бамбяць нас штодня. І далей самалёты ўсё ляцяць на ўсход. На Оршу, на Маскву. А нашых істрабкоў і не відно. Немец усё бліжэй падыходзіць. Пачаў лупіць з гармат па нашых пазіцыях. Асколкам дзеўбанула і мяне. Акурат сёмага ліпеня...

— Калі? Сёмага? На Івана-Купалу, значыць. Знайшоў ты сваю папараць-кветку. Мы, бывала, дзевак у лес вадзілі ў ету ноч, а ўранні паказвалі ім, як сонца іграе, — ухмыльнуўся стары, ускудлаціў бараду і соладка прыжмурыў вочы, нібы кот на прыпечку, але тут жа твар яго спахмурнеў, як цямнее дзень, калі аблачына набягае на сонейка. — А ў якое плячо параніла?

— У левае скубанула. Завезлі ў шпіталь аж у Іванаўскую вобласць. А сустракалі нас там, як родных і блізкіх. Закідалі кветкамі, цукеркамі. Адна кабета, помню, абняла мяне і давай цалаваць. Я і зусім раскіс...

Першыя параненыя. Таму, відаць, і сустракалі так. Мне давялося пакантавацца ў шпіталях. З Іванаўскай вобласці трапіў я на фронт пад Калінін. Прысвоілі старшага лейтэнанта, а праз колькі месяцаў і капітана.

Аднойчы пайшлі ў разведку. Група дзевяць чалавек. Я за старшага. Задача — раздабыць языка. Ноч цёмная, хоць вока выкалі. Як дзёгаць, усё чорнае вакол. Напароліся на дзот. Ну, мяне і скубанула. Стрэлу не пачуў, болю не паспеў адчуць. Успыхнула полымя, пах пораху ўдарыў у нос — і як праваліўся ў бездань... Ачуняў, адкрыў вочы і зажмурыўся ад святла. Усё вакол белае-белае — і стол, і сцены, і ложкі. Думаю, дзе гэта я і што са мной? Паварушыў рукамі — цэлыя. Нагамі — не тут-та было. Правая нага як свінцом налі-та, і быццам сабакі рвуць яе... Быў бы я зусім без нагі. А мо і дуба даў бы. Гангрэна пачыналася...

— Антонаў агонь, як у нас кажуць. Ета, брат, дзела не шуцейнае. У тую вайну адзін мой таварыш... З Белай Гары ён быў родам. Дык вось, як загарэлася нага — здаецца, левая. І адчыкрыжылі яму вышэй калена. Вось табе і гангрэна, — дзед зноў падагнаў кабылу. — Ох, і ваўкарэзіна! Пляцешся, як сонца ў пятроўку.

Пад'язджалі якраз да Белай Гары, вялікай вёскі, дзед павярнуў кабылу на вузкую, парослую запыленым, але яшчэ зялёным трыпутнікам дарогу паўз стары сад — так хутчэй выязджалі на бальшак, які вёў з Саковіч у райцэнтр.

— Дык вось уратавала мяне доктарка. Здаровая, высокая жанчына. Яе дражнілі — баба-грэнадзёр. Зірнула на маю нагу і як гаркне: «Нямедленна на аперацыю!» А другая, такая маладзенькая, у акулярах, мордачка як у лісы: «Яму зрабілі аперацыю. Загойваецца...» — «Каб жа загойвалася. Гніе. Зараз жа на аперацыю! Неадкладна!» Параніла мяне двойчы. Адна куля раздрабіла галоўку таза, а другая ўніз пеканула, у ладыжку. Баба-грэнадзёр зрабіла дзве аперацыі. Адвезлі мяне ў горад Сарапул, аж за Волгу. Пракачаўся ў шпіталі акурат паўгода. Потым у ваенкамаце ўладкаваўся на работу... А які з мяне служака? Паперкі перакладваць хіба што. Як дачуўся, што наш раён вызвалілі — пацягнула дамоў. Далі адпачынак, маўляў, з'ездзі, паглядзі. Захочаш застацца — заставайся. А не — вяртайся назад...

За размовай не ўгледзелі, як і прыехалі ў Лабанаўку. Гарадок ляжаў у руінах. Цяжка было пазнаць яго. Ацалела некалькі мураваных будынкаў. У невялічкім парку сіратліва стаялі абгарэлыя дрэвы. Фурманка грукала па разбітым, разварочаным бруку цэнтральнай вуліцы, якая вяла на чыгуначную станцыю, адкуль цягнікі беглі на Крычаў, Оршу, Магілёў, а ў другі бок — на Унечу, Гомель.

Даўгалёў ужо быў тут, калі ехаў дамоў, а дзед Гылігор трапіў упершыню пасля вызвалення раёна і дзіву даваўся, дзе што падзелася.

— Во тутацька лаўка стаяла. Мойша Фрадкін баранькі і печанькі прадаваў. Адзін раз набраў я ў яго гасцінцаў дзецям. А тут грошай не хапіла. Ён распытаў, адкуль я, з якой вёскі, якая сям'я, і кажа: бяры, грошы другі раз аддасі. Прывёз я доўг і яблык прыхапіў з пуд. Ён дае грошы за яблыкі. Я кажу: ета гасцінец, не трэба платы. А ён смяецца: дык і я табе дам гасцінцаў. Як насыпаў цукерак, baранькаў, етай самай лахвы... Не, не, халвы. Добры быў чалавек. А цяпер і лаўкі няма. Сам Фрадкін невядома ці выжыў. А зірні, як нардом размалацілі! Адны сцены абгарэлыя. Тут жа немцы былі канюшню зрабілі. Мала ім, гадам, было месца. У нардом залезлі, каб апаганіць. Усю зямлю спаскудзілі...

Райком партыі месціўся ў невялікім мураваным дамку з чырвонай цэглы. У маленькім катуху-прыёмнай нікога не было. Даўгалёў прысеў на старое крэсла, якое жаласліва зарыпела, выцягнуў параненую нагу. На дзвярах была прымацавана паперка, на якой на машынцы надрукавана прозвішча першага сакратара: Лугаўцоў Васіль Пятровіч. За дзвярамі чуліся галасы.

Трохі счакаўшы, Даўгалёў рашуча падняўся, абапіраючыся на мыліцу і адчыніў дзверы. У цемнаватым кабінеце сядзелі два чалавекі ў вайсковай форме, але без пагонаў.

— Мне трэба да першага сакратара.

— Праходзьце, сядайце. Слухаю вас, — сказаў лысаваты чалавек трохі гугнявым голасам, але важка, з годнасцю сказаў, бо прывык, што да ягонага голасу абавязкова прыслухаюцца. Даўгалёў зразумеў, што гэта і ёсць сам Лугаўцоў. — Якая справа ў вас?

— Трэба стаць на партулік. Узносы заплаціць...

— На працу не ўладкаваліся? — спытаў другі, смуг-

латвары, з кароткімі вусамі, у гімнасцёрцы, падпяразанай шырокім афіцэрскім рэменем. — Якая ў вас адукацыя?

— Яшчэ не ўладкаваўся. Да вайны я скончыў ваеннае вучылішча. Артылерыйскае... Дэмабілізаваўся ў званні капітана.

— Так, таварыш капітан. Што ж вам прапанаваць? Настаўнікам не хочаце? — прыжмурыўся Лугаўцоў.

— Хто яго ведае? Мусіць, не маё гэта. У школе павінны працаваць настаўнікі з адукацыяй. А я што? Ваяка...

— Дзе ж іх узяць з адукацыяй? — уздыхнуў вусаты.

— Капітан разважае правільна. Вучыць і лячыць павінны людзі, якія ведаюць і любяць сваю справу. Наша бяда, што ў нас не хапае такіх людзей. Мусіць, заўсёды будзе не хапаць. — Лугаўцоў памаўчаў, падышоў да акна, зірнуў на вуліцу. — А мо для пачатку загадчыкам хаты-чытальні? А там паглядзім...

— Не, відаць, паеду ў Сарапул. Месца абяцалі патрымаць.

— Ну, вам відней. Калі надумаеце вярнуцца, прыязджайце. Нешта прыдумаем. А зараз зайдзіце ў сектар уліку. Там паставяць штампік і ўсё такое. — Лугаўцоў падаў шыракаватую далонь з кароткімі пальцамі.

Падаў руку і вусаты. Даўгалёў адчуў моцны поціск.

У сектары ўліку Даўгалёў не забавіўся і патупаў на вуліцу. Тут яго нехта гукнуў, азірнуўся — даганяў вусаты ў гімнасцёрцы.

— Слухай, капітан, ідзі да мяне ў райвыканком. Старшынёй райплана.

— А што гэта такое?

— Даведаешся. Папрацуеш, усё зразумееш. Яшчэ малады. Падвучыцца можна. Завуць мяне — Пракапенка Антон Яўсеевіч.

Так і застаўся Даўгалёў на радзіме. Праз два дні ён быў прызначаны старшынёй раённай планавай камісіі.

*На свеце ішла вялікая вайна. Змаганне зброяй, вайна нерваў, дыпламатычная барацьба. Дзевятнаццатага кастрычніка 1943 года І. В. Сталін пісаў Ф. Рузвельту:*

*«Наконт пытання аб месцы маючай адбыцца сустрэ-*

*чы кіраўнікоў трох урадаў я хачу паведаміць вам наступнае.*

*На жаль, я не магу прыняць у якасці зручнага якое-небудзь з прапанаваных Вамі замест Тэгерана месца для сустрэчы. Справа не ў ахове, якая мяне не турбуе.*

*У ходзе аперацый савецкіх войск летам і восенню гэтага года высветлілася, што нашы войскі могуць і надалей працягваць наступальныя аперацыі супраць германскай арміі, прычым летняя кампанія можа перарасці ў зімовую. Усе мае калегі лічаць, што гэтыя аперацыі патрабуюць паўсядзённага кіраўніцтва Галоўнай Стаўкі і маёй асабістай сувязі з камандаваннем. У Тэгеране гэтыя ўмовы могуць быць забяспечаны наяўнасцю кабельнай тэлеграфнай і тэлефоннай сувязі з Масквою, чаго нельга сказаць пра другія месцы. Менавіта таму мае калегі настойваюць на Тэгеране як месцы сустрэчы...»*

## V

У маленстве моцна спіцца. Налётаешся за дзень, і ўвечары як упаў, так і заснуў. Хоць і была ўжо восень, Васька, Коля і Андрэйка бегалі басанож. У хмурныя дні зямля апякала ўжо холадам пяткі, тады хлапчукі скарачалі свае вандроўкі па ўзгор'і, па берагах Бесядзі.

А як выглядала сонца, можна было абшарыць Канчанскі ручай, пашукаць у акопах патронаў, збегаць у поле, дзе вабіла яшчэ нявыкапаная бручка — букса, як гаварылі хатыньчане.

Васька браў з сабой нямецкі кінжал, бручку тут жа ачышчалі ад зямлі, рэзалі на скрылі і са смакам грызлі. Была яна халаднаватая, гаркава-салодкая, як рэдзька.

Уранні маці з Марынай ішла на работу, Рыпініны дочкі — Ніна і Валя — таксама. Дома заўсёды была старая Рыпіна і нямоглая бабуля Васіліса, якая не ўставала з ложка і часта гаварыла:

— Хоць бы ўжо божачка навышненькі паслаў мне смертачку. Даўно я падрыхтавала смяротнае адзенне...

Калі ад'язджалі ў лес, маці ўзяла вузельчык з бабуліным смяротным убраннем, а бабулю перавяла з Марфінай хаты ў сваю: у лес ехаць яна адмовілася. Маці

разы тры прыбягала ў вёску, каб падаць ёй вады, пакарміць. А калі Хатынічы загарэліся, Кацярына Сахута загаласіла:

— Мамулечка мая родная, знайшла ж ты ў полымі сваю смертухну...

Арцём і Хадора супакойвалі яе, маўляў, жывая твая маці, можа, яна выпаўзла з хаты.

— Як жа яна выпаўзе, калі падняцца не можа...

Але бабуля не згарэла. Часта яна апавядала, як два немцы знялі яе з печы, узялі пад рукі і адвялі на гарод у бульбоўнік, накрылі дзяружкай і падушку падсунулі пад галаву.

— І сярод немцаў ёсць людзі, — дзівілася цётка Рыпіна. — Не ўсе вырадкі.

І вось аднойчы ўранні Коля ўзбудзіў меншага брата:

— Уставай, бабуля памерла...

Андрэйка доўга не вылазіў з-пад коўдры: боязна было паднімацца, баяўся глядзець на мёртвую бабулю. Спачатку ён не паверыў Колю: раз немцы не забілі яе, у хаце не згарэла, то чаму яна павінна памерці? Хай жыве.

У хаце чуліся галасы, маці спрачалася з некім. Андрэйка пасунуўся да Колі, на край печы, зірнуў з-за коміна — бабуля, накрытая посцілкай, ляжала на лаве, падалася яна доўгай, вялікай, востры нос быў задзёрты ўгору, твар у паўзмроку, у сполахах святла з печы падаваўся то жаўтлява-бледным, то нават ружаватым. Маці сядзела на лаве ў нагах бабулі, а дзядзіна прыляпілася ля стала.

— Дзе ты цяпер знойдзеш дошак? І хто будзе рабіць тую труну? — гаварыла дзядзіна. — Ды і гвозьдзя няма.

— А як жа без труны? — уздыхнула маці.

— Выкапаем яму. Зямля цяпер сухая. Дзяружку пасцелем. А можна і саломкі... Вунь дзяцей куча, — Марфа паказала на печ рукой з растапыранымі пальцамі. — Дзяружка ім спатрэбіцца. Пасцелем саломкі... І будзе ляжаць, як барыня...

— Не, Мархвачка, нельга так. Хаваць маці, як жывёлу якую... Пайду пытаць. Можа, знайду дзе колькі дошак.

— Куды ты, дзеўка, пойдзеш? — пачуўся ад печы голас цёткі Рыпіны. — Лезь на столь паглядзі. Там па-

вінна быць пару дошак. Блюла сабе на дамавіну... Ды я, можа, яшчэ пацягаюся троху. Можа, дасць божачка, перазімую. А там будзе відаць...

Андрэйка здзівіўся, што цётка Рыпіна назвала маці дзеўкаю, але ўзрадаваўся, што яна дае дошкі на труну.

— Колечка, адзенься. Пасвеціш мне, — маці падала Колю ватоўку.

Потым прыйшлі дзядзька Арцём і стары Гылігор, узяліся пад паветкаю габляваць дошкі. Тонкія шырокія стружкі выляталі з-пад рубанка. Андрэйка збіраў стружкі, ад іх пахла смалой і грыбамі, як ад баравікоў, што прыносіў Васька нядаўна з лесу.

Коля стараўся памагчы дарослым: прынёс некалькі штакецін. Дзед Гылігор выбіў з іх цвікі, выпраміў пагнутыя:

— Цвікі ржавыя. Але ж будуць трымаць. Дзе яны дзенуцца. Ета ж хата такая, — уздыхнуў дзед. — Хоць і робіцца навек, ды жыхар яе варушыцца не будзе...

— Аджыла сваё баба Вася. Адпакутавала, — Арцём выняў з рота недакурак, прытушыў, прыладзіў яго за вухам і дзелавіта, размерана налягаў на рубанак.

— Я ж помню яе маладой. Ой была ж дзеўка слічная! Хоць вады з твару напіся. А весялуха якая! — дзед Гылігор разагнуў спіну, выпрастаўся, падпіхнуў на патыліцу аблавушку, што з'ехала на лоб. — А майстрыха якая! Калісьці Патап расказваў... Хлопцы, ці помніце вы дзеда Патапа?

— Я помню. Ён памёр перад вайной. З бародкай сівенькай быў. З кійком хадзіў, — сказаў Коля.

— А ты, Андрэйка, не помніш? — зірнуў дзед на малога Сахуту.

— Дзе яму помніць? Ён малы быў, — адказаў за брата Коля.

Заўвага, што ён быў малы, Андрэйку не спадабалася, але ён цярпліва змоўчаў.

— Дык вось Патап гаварыў мне, — дзед Гылігор павярнуўся да Арцёма, нібы запрашаў і таго паслухаць. — Паехаў, кажа, выбіраць сабе жонку ў Рвенск. Ён ужо дамовіўся з адным чалавекам. У таго было сямёра дачок... Патап сіратою рос, без бацькі. Перабіраць дужа не выпадала. Не помню, дзе ён з тым чалавекам сустракаўся, ці яму падказаў хто, што ёсць там добрая дзяўчына... Ну, прыехаў, а дзевак няма дома. Пайшлі прасці ў нашлежкі. Даўней жа дзеўкі збіраліся ў адной

хаце, — дзед нібы ўспомніў пра малых і растлумачыў ім, — і пралі лён. Бывала, па чарзе хадзілі. У адных колькі начэй прадуць, тады ў другіх. І мы, дзецюкамі быўшы, хадзілі туды. Там і песні спявалі, і скакалі. Ну, і дзевак сабе выбіралі. Якая прадзе шыбчэй, і спявае весялей, і скача...

А вось Патап выбраў, не бачыўшы яе ні разу. Падказалі яму, відаць, людзі, што дужа добрая дзеўка Васіліса. Прыехаў. Ну, бацька Васілісін тады і кажа: «Пойдзем, братка, калі пазнаеш Васілісу, дык будзе твая. А як не пазнаеш, то і не аддам за цябе...» Пайшлі. А там, у нашлежках, было дванаццаць дзевак. Адзетыя пасці што аднакава. Усё сваё, саматканае. Ну, можа, у каторай хуста куплёная. Стаў Патап у парозе, і ногі ў масніцы ўраслі... — дзед Гылігор нават усміхнуўся, перастаў стукаць малатком. — Глядзіць Патап на дзевак, аж вочы разбягаюцца. Каторая з іх Васіліса? А яны сабе прадуць, пасміхаюцца з яго. Бачыць, адна заружавелася, што макаў цвет, разы два стрэльнула на яго вочкамі. Яна, мабыць, ведала, што прыедзе хлопец у розгляды. Прыгледзеўся. Слічная дзяўчына. Акуратная. І на шпульцы нітак болей, чымся ў іншых. Значыць, языком не балбатала, як сарока, а кудзелю цягнула.

Патаптаўся Патап у парозе, падыходзіць бліжэй да етай дзеўкі. Зірнуў на бацьку, а той яму мірганув. Ведама, хочацца бацьку аддаць дачку замуж, бо іх жа ў яго поўная хата. Тады Патап — а хлопец ён быў відны, здаровы — і кажа: «Васіліса, я да цябе ў сваты...» Дзеўка яшчэ болей пачырванела і адказвае: «Пытайцеся ў майго татачкі...» — «Пайшлі, Вася, двору», — кажа ёй бацька. Так і выбраў сабе Патап жонку... Эх-хе, — крэкнуў дзед Гылігор. — Няма Патапа. Ён ужо колькі гадкоў жджэць сваю Васілісу. Цяперыцька яны ўжо стрэнуцца тамацька, пад бярозкамі...

Дзед змоўк і пачаў люта стукаць малатком, раўняючы ржавыя цвікі. Твар яго спахмурнеў, на лобе, здаецца, яшчэ пабольшала зморшчын. Андрэйка ўпершыню заўважыў звілістую, як маланка, папярэчную зморшчынку, што пачыналася недзе пад дзедавай аблавушкай і канчалася між броваў. А вышэй, па баках ілба, кароткія прадольныя маршчынкі перасякаліся прамымі рыскамі, акурат у сшытку ў касую лінейку.

Назіранні Андрэйкі перапыніў Арцём, які пачаў выбіваць красалам агонь, прыкурыў недакурак, узяўся прагна цмактаць яго.

З хаты з вядром выйшла маці, выліла за хлявом ваду, ідучы міма, затрымалася.

— Ці выйдзе што, Аўціхавіч, з етых дошак? — спыталася ў дзеда Гылігора.

— Выйдзе хата... І на вечка хопіць, — махнуў рукой стары, атрасаючы пілавінне са старых ватнікаў. — Будзе ляжаць твая матка, як пані...

Маці памаўчала, перасмыкнула вуснамі, зірнула на сыноў:

— Андрэйка, Коля, ідзіце ў хату пагрэйцеся. А то змерзлі...

— Сычас прыйдзем, — адказаў Коля. — Сянні цёпла.

І праўда, апоўдні выбілася з-за хмар нізкае восеньскае сонца, заліло наваколле яркім святлом. На двары, ля паветкі, нават паявіліся камары, на дошках поўзалі лянівыя мухі.

Андрэйку не хацелася ісці ў хату: баяўся зірнуць на бабулю. Толькі што дзед Гылігор расказаў, якая яна была прыгожая ў маладосці, а цяпер — усохлая, жоўтая, як сухі гарохавы струк. Маці выправіла хлопцаў на вуліцу, бо збіралася з Марфай мыць нябожчыцу. Перад гэтым яны зноў спрачаліся. Марфа ўсё гаварыла:

— Каця, у цябе дзеці голыя. Дачка вялікая. Навошта ты будзеш завязываць еткі навёханькі гарус? Ёй жа ўсё роўна. Яна ў ім нікуды не пойдзе. Я дам якую-небудзь хусцінку...

— Мархвачка, не магу я так. Матка блюла сабе на смерць андарак, рубаху, кабат, гарус. І хай будзе ў етым, што яна сама выбрала сабе...

— Ёй цяпер ўсё роўна, у чым ляжаць, — настойвала Марфа.

— Дык мне ж не ўсё роўна, — не пагадзілася маці.

Коля, мусіць, таксама не дужа спяшаўся ў хату, бо ціха сказаў брату:

— Давай збегаем на ўзгор'е.

Сонца прыпякала па-летняму, неба чыстае і яснае дзівосным блакітным купалам накрывала Хатынічы, параненую, напалову спаленую, але жывую вёску. На балоце мякка зелянела атава, па Бесядзі зрэдку плыло

сухое карычнева-бурае альховае лісце. На пахіленых старых вербах паблісквалі тонкія ніткі павуціны.

Дагарала позняе бабіна лета. Гэта была яго развітальная ўсмешка.

Калі хлапчукі вярнуліся дамоў, дзеда Гылігора і Арцёма ўжо не было. Бабуля, вымытая, апранутая ў смяротнае ўбранне, ляжала ў дамавіне. Андрэйку кінуўся ў вочы малінавы квяцісты гарус, які яшчэ мацней адцяняў жаўтлявую бледнасць твару з фіялетава-карычневымі вачніцамі. Сіні кабат і цёмны андарак дапаўнялі ўбор. Сухарлявыя васкова-цёмныя рукі, сашчэпленыя на жываце, трымалі белую хусцінку-насоўку. Бабуля нагадвала нейкую нябачную лугавую краску, падрэзаную касою і таму ўсохлую, зжаўцелую.

Марына прыціснулася да труны, ціха шморгала носам, вочы яе былі чырвоныя ад слёз. Насуплены, маўклівы Васька сядзеў на палку. Коля ціхутка сеў на краёк лавы. Андрэйка стаў бліжэй да Марыны і пазіраў на бабулю. У вушах яшчэ стаялі словы дзеда Гылігора пра тое, як бабуля выходзіла замуж, якая была прыгожая.

Андрэйка ніяк не мог уявіць старэнькую, усохлую бабулю маладой і прыгожай. Ён зірнуў на Марыну, потым на нябожчыцу і ўбачыў, што ў іх падобныя дугі броваў, прамыя насы, толькі ў бабулі завостраны, нежывы. «Няўжо і Марына памрэ? I я таксама?..» Слёзы накіпелі на вачах, і ён ціха захліпаў, стрымліваючы сябе, але стрымлівацца было ўсё цяжэй, і ён моцна ўголас заплакаў.

Марына прыхінула яго да сябе, пагладзіла па галаве.

— Ты так шкадуеш бабулю? Ну, хопіць румзаць. Бабуля старэнькая, хворая. Яна ўжо чакала смерці.

Андрэйку хацелася крыкнуць, што гэта няпраўда, не магла бабуля жадаць смерці, але слёзы душылі яго, даўкі камяк сціскаў горла.

— Не чапай яго, — пачуўся з печы голас цёткі Рыпіны. — Ён паплача, і яму палягчэе...

Неўзабаве Андрэйка супакоіўся, ён адчуў, што ў яго нібы пасвятлела ў вачах і раз'яснілася на душы. Ён ускараскаўся на печ, прыгрэў ногі на чарэні і моцна заснуў.

Хавалі бабулю на другі дзень. Таксама свяціла сонейка, але было ветрана, плылі па небе густа-сінія бух-

матыя аблокі, калі яны закрывалі сонца, рабілася зусім холадна, зябка.

Дзед Гылігор прывёз лапніку з лесу, раскідаў яго па дарозе ад Рыпінінай хаты і да могілак. На белавата-шэрым пяску яркімі сакавіта-зялёнымі плямамі вылучаліся яловыя галінкі. У настылым паветры востра пахла хвояй.

Сцішаныя, маўклівыя людзі тапталіся ў хаце, захутаныя хустамі жанчыны ў чорных плюшаўках, ватоўках сядзелі на лавах, быццам галкі.

У Андрэйкі з раніцы балела галава, біў кашаль, цякло з носа і з вачэй: учарашняя вандроўка да Бесядзі выходзіла бокам. Маці загадала яму сядзець на печы, каб на вуліцу не высоўваўся. Ваські і Колі ў хаце не было, яны памчалі на могілкі, дзе мужчыны капалі яму.

Андрэйка прыслухоўваўся да галасоў у хаце, стараўся моцна не кашляць, закрываў рот рукавом. Увесь час трымаў пяткі на гарачай чарэні, трываў з усяе магі — хацелася хутчэй прагнаць прастуду, каб не памерці, бо ён жа нават у школу яшчэ не хадзіў, ні чытаць, ні пісаць не навучыўся, і бацьку хочацца пабачыць, дачакацца перамогі, пра якую ўсе так часта гавораць і якую ўсе так чакаюць.

У хату заходзілі новыя людзі, найбольш незнаёмыя бабулі, хрысціліся, набліжаліся да труны:

— Адмучылася гаротніца Васіліса...

— Убрала ж цябе дачушка, як пад вянец...

Калі ўвайшлі ў хату мужчыны, каб выносіць труну, маці загаласіла на ўсю моц:

— А мая ж ты мамачка, а мая ж ты любая,
на каго ж ты мяне пакінула...
А ў мяне ж дробныя дзетачкі...
Вайну ж мы перамучыліся,
ты ж бы цяпер пажыла яшчэ...
А мая ж ты мамачка, мая ж ты зязюлечка,
як жа нам цяпер жыць без цябе?..

Матчына галашэнне разанула Андрэйку па сэрцы, ён уткнуўся галавою ў падушку і заплакаў наўзрыд. Але тут ён пачуў і другі голас:

— А мая ж ты свякровачка даражэнькая,
На каго ж ты мяне пакінула?..
Сыночак жа твой, Пархвірачка, ваюе...
А як ты жыла, мая свякровачка,
Дык мае дзетачкі былі прыгледжаны...

А мы ж з табою ні разачку не пасварыліся...
А мая ж ты свякровачка любая...

Андрэйка не верыў сваім вушам: галасіла дзядзіна Марфа. Няўжо яна любіць бабулю? Няўжо шкадуе? Яна ж казала, што і труны рабіць не трэба, і гаруса не завязваць... А так галосіць на ўсю галаву. Не мог зразумець малы Сахута: плача ад душы дзядзіна ці проста прыкідваецца.

Жанчыны пачалі выходзіць, засталіся толькі мужчыны. Маці паклікала Андрэйку:

— Хадзі, сынок, развітайся з бабай Васілісай. Пацалуй яе ў лоб...

Трымаючыся за матчыну руку, калоцячыся ад страху, Андрэйка прыклаўся губамі да карычневага халоднага лоба і сігануў на печ.

Услед за труной усе выйшлі з хаты. Застаўся Андрэйка з цёткай Рыпінай. Старая стаяла ля акна і глядзела ўслед пахавальнаму шэсцю.

— Пайшла, Андрэйка, твая баба дамоў, — уздыхнула Рыпіна.

— Як дамоў? Да дзядзіны Мархвы?

— Не, на кладзішча. Пад бярозкі. У вечную хату. Адтуль не варочаюцца. З вайны прыходзяць, з цюрмы вяртаюцца... А на кладзішчы — там ужо вечная цішыня. Вечны дом...

Вялікая таямніца жыцця і смерці паўстала перад Андрэйкам ва ўсёй сваёй неразгаданасці. Але ён болей не плакаў. Яму хацелася жыць, каб дачакацца з вайны бацьку, брата Пятра. Потым пайсці ў школу, вырасці дужым, смелым і абараніць ад смерці сваю маці.

## VI

Цягнік павольна, як сонны вусень, поўз па рэйках. Паабапал чыгункі стаялі голыя дрэвы, толькі на дубах, што зрэдку пракідаліся на палянах, яшчэ трымалася рудаватае лісце. Здалёку здавалася, што на галінках села адпачыць чарада птушак — шчыглоў ці снегіроў.

Крупадзёраў глядзеў праз мутнае, закурэлае шкло тамбура і сцішана радаваўся: праблізаліся родныя мясціны. Сорак дзён дабіраўся ён з Масквы да Крычава. Яшчэ ў канцы верасня сорак трэцяга ў Маскве вы-

далі яму ў Наркамаце нарыхтовак пасведчанне, што ён накіроўваецца ўпаўнаважаным у Лабанаўскі раён. Тут жа атрымаў і першае заданне: даставіць у Крычаў два вагоны грузаў. Далі яму ў дапамогу двух чырвонаармейцаў з вінтоўкамі, і Крупадзёраў выправіўся ў дарогу.

У вагонах было адзенне, матэрыя розная, папера, кнігі і соль, якая і выручала іх: у часе доўгіх стаянак абменьвалі соль на харчы — хто дасць бохан ацеслівага хлеба, хто гладыш малака. Адзенне не прадасі, бо ўсё апісана, улічана, а солі калі і будзе на колькі кілаграмаў меней, гэта спішацца: паёк ім выдалі на тыдзень, а былі яны ў дарозе амаль шэсць тыдняў.

Часта даводзілася стаяць, пакуль рамантавалі мост, потым прапускалі эшалоны з ваеннай тэхнікай. Крупадзёраў пад канец ахрып ад лаянкі з начальнікамі станцый, не раз ён грукаў па стале, а кулакі ён меў магутныя. Правая рука не гнулася поўнасцю ў локці, была яна сухарлявая, а кулак вялікі, пальцы тоўстыя, парослыя рудаватымі валаскамі. Праз гэтую руку ён не быў на фронце, адседжваўся на Урале ў Чалябінскай вобласці.

На станцыі ў Рослаўлі два крупадзёраўскія вагоны трымалі пяць дзён у тупіку. Спачатку рамантавалі чыгуначны шлях, потым пайшла чутка, што немцы разбамбілі адрамантаваны ўчастак. Але неўзабаве эшалоны пайшлі ў бок фронту. Да начальніка станцыі не ўдавалася прабіцца, тады Крупадзёраў абрынуў увесь свой гнеў на дзяжурнага.

— Колькі вы будзеце нас трымаць? Сорак дзён вязу тэрміновы стратэгічны груз у Крычаў, — Крупадзёраў тыцнуў пад нос дзяжурнаму паперы. Той лыпнуў вачамі і адсунуў паперы.

— Не магу памагчы. Станцыя забіта ваеннымі грузамі.

— А ў мяне што? Дзіцячыя цацкі? Ты пачытай, пачытай, што напісана! Пячатка Наркамата...

— Ну, не магу. Куды я дзену твае вагоны? Усе саставы перагружаны, — адбіваўся дзяжурны.

— Ды тут жа сотня вёрст да Крычава. Прычапіце да любога эшалона...

— Я ж сказаў. Эшалоны перагружаны...

— Дык што я на сабе іх пацягну? Ці, можа, коніка дасі? Хопіць здзекавацца! — Крупадзёраў так урэзаў

кулаком па стале, што аж падскочыў масіўны чарнільны прыбор, зялёная драўляная ручка скацілася са стала і ўдзяўбнулася пяром у брудную падлогу.

Спалоханы дзяжурны ўгнуў галаву ў плечы. Вочы Крупадзёрава гарэлі агнём, на скуластым няголеным твары, бы высечаным з граніту, было гэтулькі рашучасці і ярасці, што дзяжурны здаўся.

Неўзабаве вагоны прычапілі да ваеннага эшалона, і к вечару былі ў Крычаве. Тут Крупадзёраў здаў груз, развітаўся з чырвонаармейцамі. Абласное кіраўніцтва, а яно месцілася тады ў Крычаве, узрадавалася, што прыбыў яшчэ адзін надзейны кадр, прымацавалі яго да сталоўкі, выдалі кансерваў і мыла.

З радасцю ішоў Крупадзёраў у лазню. А як памыўся, адаспаўся, дык і зусім павесялеў. Заўсёды энергічны, няўрымслівы, у свае трыццаць тры гады ён быў здаровы, як Ілья Мурамец, і гатовы да выканання новых заданняў. Карцела хутчэй дабрацца да Лабанаўкі, а там і да роднай Вішнёўкі ўсяго трыццаць вёрст. Ці жывыя там хто? У Вішнёўцы заставаліся маці і дзве малодшыя сястры. Бацька памёр яшчэ да калгасаў.

Колы цягніка нястомна стукалі па рэйках. Сям-там ля чыгункі былі знаць варонкі ад выбухаў бомб і снарадаў, паваленыя дрэвы, некаторыя стаялі знявечаныя, з абламаным суччам.

Праехалі вёсачку, спаленую дашчэнту, толькі тырчалі абгарэлыя каміны печаў. Жанчыны рыдлёўкамі капалі зямлянку. Адна кабета, высокая, худая, як дошка, стаяла і пазірала на цягнік. У вагонах было поўна параненых. Каго яна чакала? Мужа? Сына ці брата?

Крупадзёраў стаяў у тамбуры. У вагоне не было дзе прыткнуцца, ды і пах там быў такі, што аж нос зрывала. Колы ляскаталі сваю аднастайную песню. Прамільгнуў раз'езд, невялікая хата, ацалелая ў вогненным смерчы вайны. Каля ганка стаяў запрэжаны конік. І, як маланка, успыхнуў даўні і балючы ўспамін.

Было тады Паўліку Крупадзёраву восем гадоў. Скончыў першы клас, вучыўся без асаблівай ахвоты, хоць памяць меў учэпістую, запамінаў усё хутка. Але ж і свавольнік быў, гарэза. Выседзець спакойна ўрок не мог: то дзяўчынку тузане за коскі, то злепіць з паперы шарык і неўзаметку кіне на стол настаўніцы. Даводзіў ён яе да слёз. Настаўніца, здаралася, лупцавала яго лінейкаю, ставіла ў вугал. Часта прапускаў Паўлік

урокі, а як растаў снег, і зусім перастаў хадзіць у школу.

Бацька надта не прымушаў да навукі. Сям'я была вялікая, жылі бедна — ні адзець, ні абуць. Хлеба ніколі не хапала да новага ўраджаю. Але дзеці раслі здаровыя, рэдка хварэлі. Паўлік мог і зімой басанож палётаць па снезе, потым пагрэцца на печы і хоць бы хны, нават і не кашляне.

Той дзень Паўліку Крупадзёраву ўрэзаўся на ўсё жыццё. Бацька вазіў сена і ўзяў з сабой сына. На лузе было многа людзей. Жанчыны ў белых хусцінках зграбалі сена ў копы, накладзеныя вазы ўзвышаліся нібы зялёныя горы.

Дзьмуў свежы ветрык, над лесам засінелася хмара. Усе спяшаліся. Бацька ўскідваў сена на воз, а Паўлік з граблямі стаяў наверсе, утаптваў сена. Воз усё падымаўся ўгору. Вецер мацнеў. Паўліку было боязна падыходзіць да краю. Бацька падгроб пазаддзе, ускінуў на воз. Вецер падхапіў касмыль сена і пакаціў на другі бок воза. Паўлік пацягнуўся за ім — і з граблямі шуснуў уніз. Граблі з трэскам зламаліся, спалоханы конь ірвануў з месца, і Паўлікава правая рука трапіла пад задняе кола. Ён нават болю не паспеў адчуць, толькі пачуў, як нешта хруснула ў локці і стукнула колам у плячо.

Чатыры месяцы пракачаўся Паўлік у бальніцы. Косткі склалі не зусім удала, зрасліся яны няправільна. Пальцы згіналіся і разгіналіся, прамой рукой можна рабіць усё, але сагнуць нельга — нават лыжку да рота ёю не паднясеш. За доўгія дні ў бальніцы Паўлік навучыўся левай рукой трымаць лыжку, а правая так і засталася — не згіналася.

Дамоў Паўлік вярнуўся позняй восенню. У школу маці не пусціла, маўляў, пакаўзнешся дзе-небудзь, зломіш яшчэ руку, тады насіся з табою, як з лялькаю.

Усю зіму Паўлік прабыў дома, акрыяў, падрос. Вясной, як толькі сышоў снег, бацька аддаў яго ў пастушкі за сем пудоў збожжа.

— Трэба, Паўлік, памагаць сям'і. Паесці ты любіш. Пара на хлеб зарабляць. Будзеш пасвіць авечак. Атрымаеш за лета сем пудоў збожжа. Увосень куплю табе баціначкі.

Усё лета пасвіў Паўлік авечак. К восені чарада іх паболела, бо падраслі ягняты. Маладыя баранчыкі

смешна стукаліся рагатымі лбамі. Ён разганяў іх бізуном. Авечкі спалохана разбягаліся ў бакі. Паўліку спадабалася пасвіць авечак. Варта крыкнуць здалёку: «Шкыра, куды! Назад!» — і яны паварочвалі, а калі якая не слухалася, Паўлік сцёбаў яе бізуном па нагах і прывучаў да паслухмянасці. Крычаць ён навучыўся зычна, далёка быў чуцен ягоны голас.

Сем пудоў збожжа ён зарабіў, але грошай на бацінкі ў бацькі не хапіла.

— Падрасцеш, купім боты хромавыя. А пакуль і ў лапціках паходзіш. Рана яшчэ жаніхацца.

У школу Паўлік болей не пайшоў. Бацькі не прымушалі. Улетку пасвіў цялят, кароў, зімой брындаў па вёсцы, гуляў у карты, аціраўся каля дзевак. Рос ён здаровым, плячыстым дзецюком. Чуб меў густы, волас моцны, як дрот, мог расчасаць яго толькі драўляным грэбенем.

Руку сваю ён усяляк стараўся развіць, рабіў усё па гаспадарцы, кулакі наліваліся сілай, нібы свінцом. Спачатку сябрукі, якія дражнілі яго сухарукім, спрабавалі з яго пасміхацца, але ён гвазднуў аднаго, другога і прымусіў сябе паважаць.

Пісаць і чытаць Павел Крупадзёраў сяк-так навучыўся ў школе. Далей вучыла жыццё.

Адгрымела грамадзянская вайна. Усё часцей у вёсцы чуліся словы: бальшавікі, камсамольцы, камбеды. Павел ахвотна хадзіў у хату-чытальню, заглядаў у газеты. Асабліва палюбілася яму «Чырвоная змена». Неяк трапіў яму на вочы часопіс «Полымя рэвалюцыі». Павел прачытаў яго ўвесь, ад першай да апошняй старонкі.

Зразумеў далёка не ўсё, і гэта яго здзівіла: столькі незнаёмых слоў — філасофія, эстэтыка, індывідуалізм, класавая барацьба. Некаторыя ён нават вымавіць не мог — язык не слухаўся, не тое што зразумець. Ну, класавую барацьбу ён больш-менш разумеў: працягваецца барацьба паміж багатымі і беднымі. І ён, Павел, канечне, за бедных, бо сам з малалецтва парабкаваў, таму і ў школе не вучыўся.

Затое цяпер ён выпісваў незнаёмыя словы і заходзіў да настаўніцы, той самай, якая калісьці хвастала яго лінейкаю. Цяпер яна глядзела на Паўла знізу ўверх, бо ён быў амаль на дзве галавы вышэй.

— Малайчына, Павел. Добра, што чытаеш многа.

Трэба табе падрыхтавацца і здаць іспыты за чатыры класы. Мы і дакумент дамо. А то куды ж ты з адным класам. Цяпер вунь усе вучацца...

Павел і не падумаў рыхтавацца да іспытаў, у душы пасмяяўся з настаўніцы, але чытаць не пераставаў і, калі што было незразумела, не саромеўся зайсці і запытацца.

Неяк зімовым вечарам прыехалі з раёна два маладыя хлопцы: адзін у даўжэзным шынялі і будзёнаўцы, другі ў скураной куртцы. Сабралі моладзь у хацечытальні. Дзяўчаты лускалі семкі, дзецюкі курылі. Прыезджы ў шынялі прыгладзіў густы русявы чуб, глухавата пакашляў і пачаў гаварыць. Расказаў аб становішчы ў краіне, аб тым, што прыйшоў час бедныя аднаасобныя гаспадаркі аб'яднаць у калектыў. І будуць яны называцца калгасам. Калгас — гэта калектыўная гаспадарка. Землі будуць апрацоўвацца трактарамі. А яму, трактару, няма разгону на вузкіх загонах, межы стрымліваюць. Задача моладзі — дапамагаць партыі бальшавікоў праводзіць калектывізацыю. А для гэтага трэба стварыць ячэйку, абраць сакратара. Кожная ячэйка — арганізатар калгаса, кожны камсамолец — калгаснік.

Такі лозунг дня.

Пачуўшы, што да чаго, некаторыя хлопцы і дзяўчаты шуснулі за дзверы, але чалавек з дзесяць засталося, і сярод іх, канечне, Павел Крупадзёраў. Усе з тых, што засталіся, запісаліся ў камсамол.

— Цяпер нам трэба выбраць сакратара ячэйкі. Ён павінен быць актыўным, ідэйна цвёрдым чалавекам, — сказаў прыезджы ў скураной куртцы.

Павел не зразумеў, што значыць быць ідэйна цвёрдым, але моцна сціснуў кулакі, у цвёрдасці якіх не сумняваўся.

— Крупадзёрава Паўла, — пачуліся галасы. — Ён з беднай сям'і. Парабкаваў. Актыўны, начытаны...

Прыезджыя пераглянуліся, ціха пагаварылі між сабой.

— Хто за тое, каб сакратаром ячэйкі выбраць таварыша Крупадзёрава, прашу падняць руку, — абвясціла скураная куртка.

Павел угнуў галаву ад хвалявання, краем вока згледзеў, як павольна, па-сялянску нетаропка, але дружна падняліся ўгору рукі ягоных сябрукоў.

— Аднагалосна. Віншую вас, таварыш Крупадзёраў...

Прыезджыя моцна пацiснулi яму руку.

— Якую адукацыю маеш? — спытаў хлопец у шынялі, калі ўсе ўжо разышліся.

— Чатыры класы, — не міргнуўшы вокам, адказаў Павел.

— Добра. Трэба вучыцца далей. Сямігодку скончыць. А потым можам накіраваць на курсы ў Магілёў або нават у Мінск. Сакратар павінен паказваць прыклад у вучобе, у рабоце, — давалі яму наказ прыезджыя. — Запомні дэвіз нашай работы: «Кожная ячэйка — арганізатар калгаса, кожны камсамолец — калгаснік». Уцягвай у камсамол новых людзей. Каб ячэйка расла...

Што такое дэвіз, Павел не ведаў, але спытаць пасаромеўся. Сутнасць справы ён зразумеў, і з таго дня Паўла Крупадзёрава нібы падмянілі, ён не хадзіў, а лётаў, зямлі не чуў пад нагамі.

Перш за ўсё завітаў ён у школу. Былая настаўніца ўжо стала дырэктарам іхняй пачатковай школы.

— Мне патрэбна даведка аб заканчэнні пачатковай адукацыі. Ну, напішыце, што я скончыў чатыры класы...

— Да іспытаў ты падрыхтаваўся?

— А без іспытаў нельга?

— Без іспытаў, Павел Іванавіч, нельга...

Настаўніца дала яму падручнікі па гісторыі, геаграфіі, хрэстаматыю па роднай літаратуры.

— Прачытаеш гэтыя кнігі, вывучыш назубок табліцу множання і прыходзь. Не палохайся, усё будзе добра. Жыццё багата чаму навучыла цябе. Але ёсць так званыя азбучныя ісціны. Азы навукі. Іх трэба ведаць. Ты яшчэ малады. У цябе ўсё наперадзе. Не лянуйся.

Лянівым Павел не быў. Прачытаў кніжкі, вызубрыў табліцу множання. Тады ён не ведаў, што потым будзе ўсё жыццё дзякаваць сваёй настаўніцы: гэта ж не жартачкі, маючы адзін клас адукацыі, быць раённым кіраўніком, разбірацца ў многіх складаных пытаннях, гаварыць з людзьмі, у якіх за плячамі інстытуты. Праўда, стаўшы кіраўніком, даведку аб заканчэнні пачатковай школы ён схаваў далей, у анкетах напроці графы адукацыя — смела выводзіў лічбу шэсць. Разумеў, што

калі напісаць — сем, то могуць сказаць: пакажы атэстат. А за шэсць класаў атэстатаў не давалі. Хоць па тым часе шэсць класаў — была салідная адукацыя.

У калектывізацыю вішнёўская ячэйка, якой кіраваў Павел Крупадзёраў, праявіла сябе найлепшым чынам. Амаль усіх вясковых хлопцаў і дзяўчат Павел уцягнуў у ячэйку. Калгас «Чырвоны араты» быў адзін з першых у раёне.

Малады, надзвычай дужы, нягледзячы на сваю сухарукасць, Павел прылаўчыўся касіць, араць, будаваць хаты. А пасля шклянкі самагону мог пайсці ў скокі з прыпеўкамі, ды з такімі, што ўсе вакол рагаталі, хапаліся за жываты.

Неяк на раённай камсамольскай канферэнцыі Паўлу давялося выступаць: у дакладзе вельмі хвалілі вішнёўскую ячэйку, і яму прапанавалі падзяліцца вопытам.

— А пра што гаварыць? — пацiснуў плячамі Павел.

— Ваш калгас адзін з лепшых у раёне. Ёсць у гэтым заслуга камсамольцаў? Факт, ёсць. Вось і раскажы, якія камсамольцы добра працуюць. Што і зімой вы дбаеце пра ўраджай. Збіраеце попел, курыны памёт. Канцэрты ставіце...

Вельмі хваляваўся Павел, калі ішоў да трыбуны. Як выйшаў, зірнуў на людзей, што запоўнілі залу, перапалохаўся яшчэ болей, аж у роце перасохла і рукі задрыжалі. Але памалу разгаварыўся, супакоіўся. Расказаў, як вішнёўскія камсамольцы працавалі на сяўбе, на сенакосе, у часе жніва, што і зімой не сядзяць склаўшы рукі: сабралі столькі-то цэнтнераў попелу і курынага памёту. Праўда, лічбы Павел трохі завысіў. Зала грымнула воплескамі. У прэзідыуме зашапталіся, усе пазіралі на яго і слухалі ўважліва.

А праз некалькі дзён Паўла Крупадзёрава выклікалі ў раён. Пагутарылі з ім у райвыканкоме, потым у райкоме партыі і прапанавалі пасаду старшыні сельсавета ў Бярозаўцы. Павел у той вёсцы ніколі не быў, але гэта не мяняла справы: умовы ўсюды былі аднолькавыя. Акрылены воплескамі раённай камсамольскай канферэнцыі, рашучы, поўны сілы і энергіі, Павел згадзіўся.

У Бярозаўцы прымаў справы хутка. Сакратар заставаўся той самы, усялякая бухгалтэрыя і пісаніна на ягоных плячах, а новы старшыня атрымаў пячатку. Сельсавет месціўся ў невялікай хаціне: у адным пакоі

была пошта, у другім — выканком Савета. Кабінета ў старшыні не было. «Навошта мне кабінет», — супакоіў сябе Крупадзёраў, ласкава мацаючы ў кішэні круглую пячатку.

Дома, на кватэры (а пасяліўся ён у адзінокай удавы), дастаў чысты аркуш паперы, пахукаў на пячатку і шлёпнуў, потым доўга разглядаў круглы фіялетавы выразны адбітак. Ён распісваўся і ставіў пячатку сваёй «жалезнай» правай рукой, паспрабаваў і левай — таксама атрымлівалася.

Але з чаго пачаць сваю дзейнасць? Што б зрабіць такое, каб пра цябе загаварылі, каб заўважылі? Крупадзёраў зразумеў, што вельмі важна вылучыцца сваёй актыўнасцю, справай. Сядзеў бы ён ціха ў сваёй Вішнёўцы, хто б яго прыкмеціў, малаадукаванага, ды яшчэ з фізічнай заганай, сухарукага дзецюка? А як рабіў, варушыўся, павёў за сабою моладзь, пра яго загаварылі. Калі ўдала выступіў у раёне, то і начальства заўважыла. І вось ён, былы парабак, Паўлік Крупадзёраў, — старшыня сельскага Савета, на тэрыторыі якога пяць калгасаў, жыве каля васьмі тысяч людзей.

Думаў новы старшыня, раіўся з сакратаром Савета, немаладым ужо, хударлявым чалавекам, нерашучым і палахлівым, але пісьменным, пунктуальным і педантычным. У свой час ён быў пісарчуком у арміі і займеў вельмі прыгожы почырк, за што яго паважаў Крупадзёраў і нават цішком зайздросціў яму.

— Школу будаваць трэба. Але дзе ўзяць грошы, лес? Вось якая закавыка, — уздыхнуў сакратар.

Старшыня мясцовага калгаса таксама сказаў, што патрэбна школа, але ён памагчы не можа, бедная кішэня ў яго.

Паехаў Крупадзёраў у раён. Усе пагаджаліся з ім, што Бярозаўцы патрэбна школа, але будаваць яе зараз няма ніякай магчымасці. На будучы год яе, магчыма, уключаць у план, трэба рыхтаваць дакументацыю.

Чакаць было не ў характары Крупадзёрава. К восені павінна быць новая школа. Ды і дзяцей шкада, якія пакутавалі ў цесным цемнаватым будынку з маленькімі вокнамі. Сам не меў магчымасці вучыцца, дык хай бярозаўскія дзеці вучацца ў добрых умовах.

Недалёка ад сельсавета, атуленая старымі ліпамі, стаяла драўляная царква. Калісьці была яна прыгожая, але зараз выгляд мела сіратлівы — без крыжа, які скі-

нулі мясцовыя камсамольцы, дзверы і вокны забілі дошкамі, скарыстаўшы момант, што стары поп памёр, а новага пакуль не было.

Часцяком пазіраў Крупадзёраў на царкву, і неяк у яго мільганула думка: а што, калі разабраць яе? Гэта ж столькі гатовага матэрыялу! На падмурак цэглы можна знайсці, а калі з цэглай не ўдасца, дык прывязём смаловага бярвення з лесу, і будзе стаяць.

Пазваніў Крупадзёраў у райана. Там з радасцю падтрымалі яго задуму будаваць школу, але параілі ўзгадніць з намеснікам старшыні райвыканкома Пракапенкам. Дазваніцца па тэлефоне не ўдалося, Крупадзёраў паехаў у Лабанаўку.

Пракапенка збіраўся на раён, у двары ўжо стаяў запрэжаны вазок, але раз прыехаў да яго старшыня сельсавета, ён запрасіў яго ў кабінет, уважліва выслухаў.

— Раскідаць царкву — не штука. Гэта не тое, што збудаваць, — задуменна сказаў Пракапенка.

— Мы змагаемся з рэлігіяй. Гэта ж атрута. Опіум народа. На якое ліха нам цэрквы будаваць? Людзям школы патрэбны пазарэз, — Крупадзёраў правёў рукой па горле.

— Невялічкая яна, царква гэтая. Не хопіць вам на школу матэрыялу...

— Нам абы пачаць, а там знойдзем. У лесе колькі дрэў звалім.

— Я думаў бібліятэку адкрыць у царкве з цягам часу. І царкву зберагчы як помнік. Не поп і не дзяк будавалі яе. Дзяды нашы, прадзеды майстравалі. Як помнік іх умельству, варта было б і зберагчы...

— Царкву зберагаць? — здзівіўся Крупадзёраў. — Вы што, газет не чытаеце?

— Газеты я чытаю. І вам раіў бы чытаць больш. І не толькі газеты. Я супраць такога метаду будаўніцтва. У будучым годзе ўключым у план, збудуем вялікую школу, а не якую-небудзь развалюху...

Крупадзёраў аж падскочыў ад злосці. Твар яго пакрыўся чырвонымі плямамі, кулакі сціснуліся. Ледзь стрымліваючыся, каб не грукнуць па стале кулаком, ён крутнуўся за парог.

Ногі самі панеслі яго ў райком партыі. Першы сакратар быў заняты — нехта з вобласці прыехаў, другога не было на месцы. Чакаць Крупадзёраў не стаў, пай-

шоў у аддзел агітацыі і прапаганды. Малады хударлявы, вузкаплечы і драбнатвары чалавек у акулярах падняўся яму насустрач.

— А, прывет камсамольскаму важаку!

Выслухаўшы Крупадзёрава, ён рашуча сказаў:

— Мы атэісты. Мы змагаемся з рэлігіяй. І тут усе метады і спосабы добрыя. Школа нам патрэбна, каб несці людзям святло, веды. А рэлігія нясе змрок, калечыць чалавека... Дык наліха нам цэрквы?

Сумненні, якія пасеяў у душы Пракапенка, развеяліся, як дым. Крупадзёраў моцна пацiснуў руку «агітпропу» і памчаў у Бярозаўку.

Ён падняў усіх бярозаўскіх камсамольцаў на барацьбу з рэлігіяй, на штурм іх папоўскай цытадэлі — невялічкай драўлянай царквухі. Затрашчалі дошкі, разваліліся званіцы. Сам старшыня сельсавета арудаваў бусаком, адрываючы дошкі, потым ломам падважваў зляжалае бярвенне.

Вакол стаялі набожныя бабулі, якія сышліся з усіх навакольных вёсак і спрабавалі абараніць «божы дамок».

— Што вы робіце, анціхрысты? Бязбожнікі, граху пабойцеся...

— Каб вас пярун пабіў... — пасылалі яны праклёны.

Крупадзёраў у адказ скаліў зубы, цішком мацюкаўся, і ўголас суцяшаў багамолак:

— Не крыўдуйце, бабкі. Маліцеся сабе дома ціхенька. Царква ўсё роўна была зачынена. Затое вашы ўнукі скажуць нам дзякуй за новую школу.

Закіпела ў Бярозаўцы будоўля. Увачавідкі, бы на дражджах, паднімаўся зруб новай школы, але царкоўнае сухое, як звон, бярвенне канчалася. Паблізу добрага лесу не было. Крупадзёраў каторы дзень ламаў галаву, дзе знайсці дзесятак бярвён.

За вёскай, на пагорку, цямнеліся купамі дрэў могілкі. Неяк, ідучы міма, Крупадзёраў падзівіўся, якія гонкія сосны вымахалі на могілках. На ўсохлай вершаліне дрэва шчыраваў дзяцел. «Разбойнік, што ж ты будзіш нябожчыкаў? — Крупадзёраў пляснуў далонямі, дзяцел пырхнуў далей, толькі бліснуў чырвоным падхвосцем. — А што, калі зваліць тут сосны? Потым сказаць, што пачалі яны ўсыхаць... Бярозы хай стаяць, а соснам на могілках не месца».

Сваёй думкай старшыня сельсавета падзяліўся з

мясцовымі актывістамі. Некаторыя запярэчылі, маўляў, што скажуць людзі. Але іх перакаиалі: нічога благога не скажуць, бо не на дровы ж пойдуць сосны, а на новую школу.

Зваліць дрэвы вырашылі ноччу...

Цягнік прыцішыў і без таго нетаропкую хаду, спыніўся сярод лесу. Дзесьці блізка грымнуў выбух, пачуўся гул самалёта. З вагона выскачыў урач у шынялі паверх халата, адчыніў дзверы тамбура, гопнуў уніз, крыкнуў Крупадзёраву:

— Таварыш, памажы нам выводзіць параненых.

З вагона паказаўся баец з перавязанай галавой, якога вяла санітарка. Разам з урачом Крупадзёраў зняў параненага, а потым падаў рукі круглатварай грудастай санітарцы — узяў яе пад пахі і як пушынку падняў. Тут зноў ляснуў выбух, і ці то ад страху, ці то адчуўшы мужчынскую сілу, яна ашчаперыла Паўла Крупадзёрава за шыю і павісла на ім. Кроў застукала ў скронях, на момант ён забыўся і на бамбёжку, але з вагона сунуліся параненыя, рэзка крыкнуў урач:

— Ды вы што тут, цалавацца ўздумалі?

Самалёт пакружыўся, скінуў бомбы — ніводная з іх не пашкодзіла вагоны — і паляцеў назад. Трохі пастаяўшы, рушыў далей і цягнік. Санітарка, заходзячы ў вагон, стрэльнула вочкамі на Паўла.

«Шкада, кароткі прыпынак», — падумаў Павел Крупадзёраў.

Да Лабанаўкі заставалася якіх два дзесяткі вёрст. Пра мінулае болей не ўспаміналася.

## VII

Дзень той быў хмурны, ветраны. Такія дні часта надараюцца позняю восенню, калі ўжо і поле, і лес голыя, вецер шастае без перашкоды, моршчыць пацямнелае і халоднае люстра Бесядзі, калі і зямля, і дрэвы, і выстуджаныя хаты чакаюць снегу, чакаюць, як збавення ад золкай, пранізлівай ветраніцы.

Коля і Андрэйка сядзелі ля акна, цікавалі на вуліцу. У хаце болей нікога не было: дарослыя пайшлі церці лён. Работа гэта цяжкая: закладвай у мялку пук лёну, тады націскай з усяе сілы. Трэба і падаваць лён, і адносіць.

Васька пайшоў у школу, ён ходзіць у трэцюю групу — так гаворыць маці, — два класы паспеў скончыць да вайны. Коля, можа, і не ўседзеў бы дома — памчаў бы ў Канчанскі роў збіраць патроны, але маці строга наказала нікуды не ісці, пільнаваць хату, ды і Андрэйка не застаўся б без яго: баяўся быць адзін дома.

Раней не баяўся, а цяпер нават увечары, калі ў хаце поўна людзей, вецер шаматне за акном, яму здаецца, што нехта, а нехта — гэта страшны немец у бруднай нацельнай кашулі з чырвоным бураком у роце і з аўтаматам у руках, — ходзіць па гарышчы, стукае, грукае, шамаціць саломай. Немца з бураком у роце Андрэйка бачыў на свае вочы, а пра тое, што яны пазашываліся ў лесе, у гумнах, на гарышчах, часта гаварылі дарослыя.

Аднойчы малы падслухаў, як маці гаварыла з цёткай Рыпінай. Андрэйка ўсё не мог прывыкнуць, што Рыпіну называюць цёткай, хоць яна такая ж старая, як і ягоная бабуля Васіліса, ды яшчэ і згорбленая, твар зморшчаны, як печаны яблык, а пад барадой вісеў валляк, нібы ў гусі. Праўда, вочы ў цёткі Рыпіны былі вялікія, ясныя і чыстыя.

Дык вось маці расказвала, як у пачатку вайны зайшлі ў хату два немцы: «Матка, яйкі, млека!..» А малака засталося з паўлітра, бо дзеці толькі і жылі ім. Я кажу, во колькі засталося. Выжлукцілі яны малако. Мала. «Матка, яйкі!» Што рабіць? Адкуль тыя яйкі? Яны ж і курэй усіх панішчылі. Кажу: «Пан, нікс яйкі». Не верыць, крычыць: «Шнэль, шнэль!» — аж пена ля рота ад злосці. А сам здаравенны, рыжы, галава ў столь упіраецца. Кажу: «Маруська! Збегай, дачушка, прынясі кошычак. Пакажам, што пусты. Ён стаіць у сенцах». Вырваў немец кошык з Марусьчыных рук, як стукнуў яго аб мост, дык той кошык узляцеў вышэй Маруські. Яна, бедная, спалохалася, збялела. Ні крывіначкі ў твары. Як стаяла, так бразь з усіх ног... Самлела. Чуць паспела падхапіць яе. Немцы нешта загергеталі пасвойму і пайшлі. З таго разу і пачала Маруська кволіцца. То галоўка баліць, то грудкі... Перапужалася ладна. А тады яшчэ і ўдругі. Свінчо малое забілі немцы...»

Гэта здарэнне Андрэйка помніў добра. Яны толькі селі снедаць, як раптам на вуліцы завішчала парасё, потым нешта стукнула аб вугал, і зрабілася ціха. Усе кінуліся да акна. Першым дапяў Коля і крыкнуў:

— Мам, немец рабчыка панёс!

— Куды панёс? — ірванулася яна да парога і спынілася.

Андрэйка ўзлез на слончык і ўбачыў: тоўсты, крываногі немец валюхаўся па вуліцы, несучы рабчыка за заднія ногі. З галавы парсючка капала кроў. Маруська таксама зірнула ў акно, а потым з плачам: «Я баюся!» — учапілася за матчыну спадніцу.

— Не бойся, дзетка. Ён пайшоў, — супакойвала яе маці.

...Старая Рыпіна ўважліва слухала Андрэйкаву маці, ківала галавой у старадаўнім чапцы, вохкала, божкала.

— Як наступалі яны, дык былі не такія злыя. А ўжо калі ўцякалі, што звяр'ё былі, — сказала Рыпіна.

— Неяк сядзелі мы ля хаты. Немцы наступалі тады. Усё ішлі, ішлі, як саранча паўзлі, — пачала маці.

Нібы праз туман або як у сне Андрэйка бачыў вялізных коней з абрэзанымі, куцымі хвастамі. Коні цягнулі вазы, на іх сядзелі чужыя людзі ў брудна-зялёных пілотках, пілікалі на блішчастых губных гармоніках. Прыгадалася, як сядзелі Коля, Андрэйка і маці на лавачках ля хаты. Падышоў немец, папрасіў вады напіцца. Маці вынесла вядро і вялікі медны карэц з жоўтай ручкай. Немец выпіў, выцер рукавом вусы, пагладзіў Андрэйку па галаве і даў яму цукерку , загорнутую ў блішчастую паперку, Колю таксама даў, затым дастаў з кішэні фотакартку і паказаў: «О моі цуркі...» На картачцы былі дзве дзяўчынкі, бялявыя, чысценькія, з вялікімі белымі бантамі, нібы мятлушкі, што сядзяць на капусным лісці.

Гэта Андрэйка помніць, а вось як памерла Маруська — ані не памятае. Яму здаецца, што Маруська жывая, што яна паехала некуды і скора вернецца.

Бацьку Андрэйка таксама не помніў. Коля не верыць, дзівіцца: «Як ты можаш не помніць? Ты ж бег услед за возам, калі бацька ад'язджаў і крычаў на ўсю вуліцу: «Я хачу з табою...» А я ўсё помню, як учора было».

Андрэйка сядзеў на ложку, падкурчыўшы ногі, напроці Колі, які ляпаў патронам аб металічнае біла, каб разрадзіць яго і дастаць порах. Кулі з чатырох патронаў ён ужо выбіў, а пяты не паддаваўся.

— Трэба ўсю абойму разрадзіць. Колькі пораху бу-

дзе! Зарадзім самапал, як бабахнем. У Ваські ёсць, толькі ён недзе схаваў. Ты не кажы матцы, а то дасць матузамі. — Андрэйка паабяцаў маўчаць як рыба. — А кулі кінем у вогнішча і выплавім волата, — разважаў далей Коля. — З бранябойнай нічога не выплавіш. Куля лопне, і выкаціцца з яе бліскучая вострая жалязяка. От, гільза нейкая тугая. Не выцягнуць кулю... Відаць, трасірная. Во, бачыш, зялёная палоска, — паказаў ён Андрэйку. Той дакрануўся да патрона, які быў гарачы, бы нагрэўся ў печы.

Раптам на вуліцы нешта загуло.

— Здаецца, машына. Выскачы, зірні, — сказаў Коля.

Андрэйка, як быў басанож і ў адной кашульцы, пырхнуў за парог, пастаяў ля вугла, пераступаючы з нагі на нагу, якія пачырванелі ад холаду. Жаласліва папіскваючы, па вуліцы хадзілі пiскляты, што вывеліся на старым котлішчы. Яны падраслі, мелі ўжо ладныя крылцы, але танклявыя шыйкі былі яшчэ голыя. Піскляты скублі зялёную мураву, адзін, самы смелы, круціўся ля Андрэйкавых ног і нават дзеўбануў у пазногаць.

— Ах ты разбойнік! — хлапчук злавіў піскленка, які дужа і не ўцякаў, бо не раз ужо трапляў у ласкавыя хлапечыя рукі.

І тут у хаце раптам нешта бабахнула, аж зазвінелі шыбы. Андрэйка прысеў ад страху, а потым, апамятаўшыся, выпусціў піскленка і кінуўся ў хату. Дзверы былі адчынены, пахла едкім дымам. Коля сядзеў на тым самым месцы, пустая гільза ляжала на падлозе, з яе тонкім, звілістым слупком, акурат як з цыгаркі, курэўся дым. Андрэйка застыў на парозе.

— Ч-чаго с-с-стаіш? З-з-зачыняй дзверы, — заікаючыся, сказаў Коля. Зубы яго дробна клацалі, бы ад холаду.

Тут у хату ўбегла Марына, у куфайцы, падпяразанай салдацкім рэменем — і да Колі:

— Чаму смурод такі ў хаце? Што ты рабіў?

— Нічога, — разгублена адказаў Коля.

— Што тут было?

— Во, патрон, — Андрэйка падаў гільзу. — Кулю вымалі... Ён стрэльнуў...

— Хто стрэльнуў? — дапытвалася Марына.

— Сам патрон. Я стукаў аб ложак. І ён бабахнуў, — усё яшчэ заікаючыся, прамовіў Коля.

Марына толькі цяпер убачыла, што падаконнік абсыпаны жоўта-карычневым порахам, на лобе, на тва-ры ў Колі жоўтыя плямкі — таксама ад пораху.

— Коля вось так стукаў. А я тут сядзеў і глядзеў, — паказаў Андрэйка месца на ложку. — А тады нешта загуло на вуліцы. Я выбег паглядзець...

— Дзе сядзеў? Тут? — Марына азірнулася, падышла да дзвярэй. — Так і ёсць. Дзюрка. Куля сюды ўдарыла. Ой, што ты мог нарабіць! — схапілася яна за галаву. — Ты ж мог застрэліць Андрэйку ці сябе пакалечыць. Ну, скажу матцы. Будзе табе сянні... А чаго калоцішся? Марш на печ? І сядзі там да вечара.

Па вуліцы павольна праехала машына. Андрэйка паспеў убачыць, што яна закрытая, як будан, і на борце чырвоны крыж. А потым пацягнуліся фурманкі. Яны спыніліся. Марына выйшла з хаты.

Андрэйка таксама не мог уседзець дома, улез у матчыны кірзачы, накінуў Колеў пінжачок, бо ягоны гаспадар правініўся, хай сядзіць на печы, — і сігануў за дзверы. Боты боўталіся на нагах, балюча церлі пад каленкамі, але малы датэпаў да фурманкі. На ёй ляжалі параненыя салдаты. У аднаго ўся галава забінтаваная, відзён толькі востры нос і вусы пад ім. Баец стагнаў і ўсё прасіў піць.

— Ну што, мілы? Выпі вадзіцы, — маладая жанчына ў шынялі, з торбай цераз плячо, на якой чырванеўся крыж, паднесла салдату флягу, уліла некалькі кропель, у роце ў яго нешта забулькала.

— Ета той, што нам баршча прыносіў, — шапнуў Андрэйка сваёй сястры. — Ну, пад дубамі калі сядзелі...

— Ды не... Той быў не такі, — шэптам адказала Марына.

— Што, малыш? Бацьку шукаеш? Дзе твой бацька? На фронце? — павярнулася да яго жанчына ў шынялі. Андрэйка кіўнуў. — Прыйдзе. Не бядуй. Разаб'ём фрыца. Вернецца твой бацька...

Тым часам да фурманкі сыходзіліся жанчыны, неслі хто кавалак хлеба, хто малака збанок, хто міску салёных агуркоў. Марына подбегам кінулася ў хату і вынесла малака ў пляшцы з адбітым горлечкам. Санітарка адразу пачала ліць малако параненаму, той разняў засмяглыя вусны, памалу глытаў. Малако пралівалася, і кроплі яго каціліся па няголеным падбародку.

— Цяпер ён будзе жыць? — ціха спытаўся Андрэйка.

Марына не паспела нічога адказаць, як санітарка загаварыла:

— Раз малако п'е, будзе жыць. Хто малако любіць, той расце дужым. Вось так, хлопча, — яна выліла рэшту малака ў кацялок, падала Марыне пляшку, затым пакорпалася ў скрыначцы і дастала пустую паўлітэрку. — Посуду ў вас малавата. Мо спатрэбіцца ў гаспадарцы...

Наперадзе пачулася нейкая гучная каманда. Санітарка падзякавала жанчынам, усміхнулася Андрэйку, і абоз паехаў далей.

Марына доўга глядзела ўслед фурманцы з параненымі.

Неўзабаве прыбег расчырванелы Васька, выцягнуў з-за пазухі жмут рудаватай тоўстай паперы, пахваліўся:

— О, колькі паперы раздабыў! Будзе на чым задачкі рашаць.

— Дзе ж ты раздабыў яе? — здзівілася Марына.

— А ведаеце, што ў ёй было? Порах.

— Які порах? Адкуль? — яшчэ болей здзівілася сястра.

— Падвязло нам. Знайшлі з Сяргеем Краўчанкам міну ў Бярозавым балоце. Разабралі...

— Каго разабралі? Міну? — спалохана спытала Марына.

— Ну. Яна лёгка развінчваецца. І ў хваставіку — порах, загорнуты ў паперу. Каб яшчэ пару такіх мін, дык бы на ўсю зіму назапасіў паперы. Там быў кубачак бліскучы. Сяргей узяў яго, кажа, замест конаўкі будзе...

— Ой, што з вамі рабіць? Адзін тут ледзь не застрэліўся, а другі на полі міну разрадзіў. Смерці шукаеце, — у голасе Марыны пачуліся слёзы. — Скажу матцы. Яна вам сянні дасць матузоў.

Андрэйка пачаў расказваць, як яны з Колем хацелі выцягнуць кулю, як загула машына на вуліцы, і ён, Андрэйка, выбег з хаты, і ў гэты момант стрэліла.

Васька пільна зірнуў на перапалоханага Колю і разважліва сказаў:

— Козлік, раз не можаш, дык не бярыся. Патроны — ета табе не цацкі.

— А міны яшчэ страшней. На мэтлух усё разрываюць, — ціха сказаў Коля.

— Міны я болей чапаць не буду, — Васька супакойваў братоў і сястру і ў думках рыхтаваўся да размовы з маці.

Неяк увечары Марына сказала:

— Дажыліся мы. Няма ніводнай шклянкі. Паспрабуем з бутэлькі зрабіць. Бяры, Васька, абору.

Васька ўмомант выцягнуў з пячуркі пяньковую абору, Марына ўнесла ў хату паўвядра халоднай вады. На сярэдзіну бутэлькі ўскінулі вераўчаную пятлю, Марына і Васька ўзяліся за канцы вяроўкі, Коля і Андрэйка трымалі бутэльку, прыціскаючы яе да калодкі. Вяроўка слізгала па шкле, і яно награвалася. Андрэйка ўжо не мог трымаць — рукі здранцвелі ад напружання.

— Ну, можа, хопіць, — Марына ўзяла бутэльку і апусціла яе ў вядро. Вада забулькала, але бутэлька не лопнула пасярэдзіне, як таго чакалі.

— Слаба нагрэлі, — аўтарытэтна зазначыў Коля.

— Вы ж трымаць не маглі, слабакі. Пляшка коўзалася ва ўсе бакі, — упікнуў яго Васька.

— Я трымаў. Ета Жэўжык адпускаў.

Андрэйка не стаў апраўдвацца, бо сапраўды пад канец ужо не мог трымаць. Марына моўчкі выцерла бутэльку насуха, і пачалі яны з Васькам зноў шараваць. Коля і Андрэйка трымалі разам з аднаго боку, а маці — з другога. Шаравалі доўга, аж запахла ў хаце паленым. Тады Марына зноў апусціла бутэльку ў ваду — пачуўся прыглушаны трэск, дзынкнула шкло аб вядро. Марына падняла ўгору палову бутэлькі з адбітым горлечкам.

— Во, адскочыла, — сказала яна, дастаючы з вядра другую палову бутэлькі з дном.

— Троху няроўна, — маці правяла пальцам па краі новай шклянкі. — Але хай будзе такая, чымся ніякай.

Усе па чарзе агледзелі, абмацалі самаробную шклянку. Старая Рыпіна спаўзла з печы падзівіцца.

— От калі нашы возьмуць Берлін. Тады, матка, за перамогу я вып'ю шклянку самагонкі. Так? — ухмыльнуўся Васька.

— Я табе дам самагонкі! Во як адсцябаю матузамі, дык тры дні не сядзеш на мяккае месца, — прыгразіла маці Ваську. Але сказала яна гэта без злосці, з усмеш-

каю. Васька, як і ўсе астатнія, успрыняў гэта за жарт.

— Скарэй бы ўжо вайна скончылася. Тады б ужо не грэх і самагонкі выпіць на радасці. Толькі ці дачакаюся я, — уздыхнула старая Рыпіна. — Што там з хронту чутно, Марына?

— Стаіць немец пад Чавусамі. А на другіх участках адступае.

— Слава богу, — перахрысцілася Рыпіна. — Хай уцякае супастат з нашай зямелькі... Можа, і мае сыночкі вернуцца двору... А дочкі даждуцца жаніхоў.

Дарослыя Рыпініны дочкі — Ніна і Валя — пайшлі да суседзяў. Гэта пра іхніх жаніхоў бедавала старая.

Андрэйка ўгледзеў, што маці крадком паднесла фартух да вачэй. У яго сціснулася сэрца: як там бацька і Пятрок? Ці жывыя яны?

Раптам у хату ўбеглі спалатнелыя ад страху Рыпініны дочкі.

— Немцы! — крыкнула ад парога Нінка, старэйшая.

— У Балыкавічах страляюць ваўсю, — дадала Валя.

У хаце на нейкі момант павісла трывожная цішыня.

— Дык яны ж уцякалі ў саковіцкі бок. На захад. А чаму паявіліся ў Балыкавічах? — з няверай сказала Марына. — Там жа ўсход. Адтуль нашы прыйшлі.

— Кажуць, па чыгунцы прарваліся. Ад Мугулёва. Можа, на етым самым поездзе, што з брані зроблены, — блытана тлумачыла Нінка.

— А божачкі, а што ж нам рабіць? Куды ж дзявацца проця ночы? — маці замітусілася па хаце.

— Мам, браняпоезд жа толькі па рэйках ходзіць. А ў нас рэек няма, — разважліва сказаў Васька. — Нашы самалёты яго разаб'юць. А да нас немцы ноччу не пойдуць... Козлік, пайшлі на вуліцу, паслухаем, ці страляюць.

— Куды? — схапіла маці Ваську за руку.

— Праўда, паслухаць трэба, — Марына ўскінула на плечы куфайку і разам з братамі — не мог уседзець у хаце і Андрэйка — пакіравала на ўзгор'е.

Вечар быў цёмны, неба, захутанае восеньскімі хмарамі, нізка вісела над вёскай. Сталі пад вярбой, прыціхлі. Нічога не было чутно. Унізе бялелася стужка Бесядзі, ціха шумела вада, дзесьці ля крамы забрахаў сабака, тоненька піснула, зашаматала сухім лісцем мышка. Андрэйка ніколькі не спалохаўся, хоць мышэй

вельмі баяўся. Ён таксама пільна прыслухоўваўся, і яму нават хацелася першаму пачуць стрэлы.

Вецер дзьмуў з-за Бесядзі, халодны, вільготны, шаргацелі голыя галінкі старых пахілых вербаў, што стаялі на ўзгор'і.

— О, чуеце? Затахкала, — прашаптаў Коля.

Андрэйка сцягнуў з галавы старэнькую аблавушку, бо яна спаўзала на вушы, і яскрава пачуў: ду-ду-ду, адрывістае — тах-тах...

Уся яго маленькая істота закалацілася ад страху, валасы падняліся дыбарам, і ён хутчэй надзеў шапку, адшукаў у цемры Марыніну руку і моцна ўчапіўся за яе.

— Не бойся, Андрэйка. Калі гэта і немцы, то яны далёка, — супакоіла сястра.

— Ці чутна што? — пачуўся голас маці, за ёй сцішана гаманіла са сваімі дочкамі цётка Рыпіна.

— Толькі што дудукала і тахкала, — прашаптаў Коля.

— А божачка міласэрны, няўжо вярнуліся немцы? — сказала маці і прыціхла: усе слухалі цішыню восеньскага вечара.

Вецер памацнеў, вербы натужна зарыпелі, дзесьці трапятаўся і шамацеў неапалы лісток.

— Нячутна нічога. Можа, вам падалося? — сказала маці.

— Не, стралялі, мам. Я сама чула, — уздыхнула Марына.

— Ну во, я ж таксама чула. Таму і кажу, — падала голас Рыпініна Валя.

«Шкада, што Васька не прынёс дамоў вінтоўку з Канчанскага рова, — падумаў Андрэйка. — Мы б залезлі на вярбу. Васька б страляў, а мы патроны яму падавалі б. І немцаў бы зусім не пусцілі цераз Бесядзь...»

— Калі б у Балыкавічах бой ішоў, дык бы зарыва было. Ракеты ў небе ўспыхвалі б, і самалёты б гулі, — сказаў Васька. — Можа, браняпоезд і прарваўся, дык яго ўжо разбілі...

Яны стаялі прыціхлай купкай. Халодны вецер прадзімаў наскрозь, маці захутала Колю, Марына прыкрыла малога Андрэйку.

— Пойдзем двору, дзеткі. Можа, і праўда разбілі еты поезд, — сказала маці.

— Звініць увушшу, а ніякіх там стрэлаў не чую. Пайшлі двору, — цётка Рыпіна павярнула дамоў.

Угрэўшыся на печы, Андрэйка адчуў, што павекі яго зліпаюцца, але высунуўся з-за коміна, зірнуў: маці і Марына, не распранаючыся, сядзелі каля акна.

Уранні, калі Андрэйка прачнуўся, ні Ваські, ні Колі побач не было. Маці і цётка Рыпіна завіхаліся каля печы. Малому карцела запытацца ў іх пра немцаў, але баяўся напалохаць маці.

Андрэйка наважыўся злазіць з печы, калі ў хату ўбеглі расчырванелыя браты.

— Матка, не чуваць болей стрэлаў, — паведаміў Васька і пачаў распранацца.

— Ніводнага разочку ніхто не стрэліў. Разбілі той браняпоезд. Пагналі немцаў далей, — з радасцю сказаў Коля.

Пасля снядання браты Сахуты ўсе разам выбеглі на ўзгор'е і пачулі выразныя, хоць і аддаленыя стрэлы. Андрэйка ўглядаўся ў бок лесу, туды, дзе Бабіна Гара. А раптам адтуль паявяцца немцы.

— Зноў страляюць, — разгублена сказаў Васька. — Відаць, немцы заселі ў браняпоездзе, як у пастцы. Да нас яны не дабяруцца, — супакоіў ён братоў. — Нашы рэйкі разабралі. Поезд — ні ўзад ні ўперад. Там ім і капцы... Пайшлі на Шамаўку. Разведаем.

Браты Сахуты басанож тэпалі па вуліцы. У вёсцы ўсё было без перамен. Па дарозе хадзілі куры, хоць і не багата іх засталося. Дарослыя хатыньчане пайшлі на працу, ля кузні бегалі хлапчукі, былі тут і Віцька з Паўлікам.

— Давайце з намі гуляць у шпіёнаў, — у руках Віцька трымаў выструганы з дошчачкі аўтамат.

— Ты ведаеш, што ў Балыкавічах немцы страляюць? — спытаў у яго Васька.

— Якія немцы? Ты што? — здзівіўся Віцька. — Ета ж нашы. Рамантуюць там markdown рознае аружжа. А тады правяраюць, як яно б'ець.

— А хто табе сказаў? — дапытваўся Васька.

— Хто? Дзядзька Арцём сянні ўсім гаварыў, каб не баяліся стрэлаў. І паніку каб не падымалі. А то ўчора, кажуць, дзед Гылігор са страху ў Шамаўскі роў забег...

Усе хлапчукі заўсміхаліся. Паўлік шмаргануў рукавом кроплю пад носам, спытаў:

— Будзеце гуляць?

— Будзем! — весела адказаў Васька.

Андрэйку ад радасці хацелася бегаць і крычаць: немцы далёка, яны болей не вернуцца.

Шэры восеньскі дзень, здаецца, увачавідкі пасвятлеў, вецер падаўся цёплым і ласкавым, а сырая зямля не такой настылай.

## VIII

Праз месяц пасля вызвалення Хатыніч многія мужчыны атрымалі позвы з ваенкамата. Прынеслі позву і настаўніку Пятру Еўдакімавічу Мамуту. Жонка, Таццяна, адразу ў слёзы:

— А як заб'юць цябе... Што я буду рабіць з трыма дзецьмі?

— Ну, можа, і не заб'юць... А калі і заб'юць, дык не аднаго ж мяне. Вайна. Не адна ты ўдавой будзеш. Рыхтуй новыя анучы.

— Во суцешыў. Хіба ж мне лягчэй будзе, што скрозь багата дзяцей сірат, — яшчэ мацней заплакала Таццяна.

У Пятра Еўдакімавіча таксама засмактала пад лыжачкай, ён выскачыў на двор. У прымыльніку віселі нарыхтаваныя яшчэ ўлетку лыкі, узяўся плесці новыя лапці. У лапцях ён і прыехаў у Крычаў, дзе быў тады цэнтр Магілёўскай вобласці.

Пастроілі ўсіх мабілізаваных на шырокім двары ваенкамата. Высокі сівы маёр выклікаў па спісе і пытаўся, хто якую мае прафесію. Дайшла чарга да Мамуты, і ён адказаў, што настаўнік, скончыў педагагічнае вучылішча.

— Дакументы ёсць? — з няверай спытаў маёр.

— Ёсць. Дыплом маю. Толькі дома забыўся. — Той-сёй у страі заўсміхаўся. — Я ж ішоў на фронт. А навошта там дыплом?

— Таварыш маёр, ён у нас дырэктарам школы працаваў да вайны. У Хатынічах, — падаў голас Іван Сырадоеў.

— Ну вось што, таварыш Мамута. Ідзіце жывенька ў аблана. Хай дадуць вам даведку. А тады да нас... Вайна вайною, а дзяцей вучыць трэба.

Бягом памчаў Мамута ў аблана, якое месцілася ў

старым, паўразбураным будынку. Убег у пакой, сцягнуў з галавы шапку і адразу запатрабаваў паперу. І тут сустрэлі недаверліва, папрасілі дыплом.

— Я працаваў да вайны ў Хатынічах. Паглядзіце спісы.

Пажылая бледнатварая кабета паправіла на носе акуляры з разбітым шкельцам, зашамацела пажоўклымі паперамі.

— Як прозвішча? — перапытала яна.

— Мамута, Пётр Еўдакімавіч.

— Ёсць такі. З Хатыніцкай пачатковай школы... — сказала нарэшце кабета.

Дні праз тры настаўнік быў дома. Цяпер ужо Таццяна ціха плакала ад радасці, абдымала і цалавала мужа. Вынікам гэтай радасці было чацвёртае дзіця, якое нарадзілася на пачатку наступнага лета. Але гэта будзе яшчэ не скора.

Неўзабаве Мамуту выклікалі ў раён на нараду. Пакуль датупаў пехатой дваццаць вёрст, хоць і ўстаў рана і лапці лёгкія, але дарога гразкая пасля дажджу, трохі спазніўся. Нарада адбывалася ў драўляным будынку школы, даўжэзным, прысадзістым, бы старое гумно. Сабраліся настаўнікі ў цемнаватай актавай зале.

Пётр Еўдакімавіч увайшоў, калі выступала цёмнавалосая жанчына ў армейскай гімнасцёрцы. Вольныя месцы былі толькі ў першым радзе, і Пётр Еўдакімавіч, збянтэжаны, угнуўшы галаву пад позіркамі прысутных, амаль бясшумна пратэпаў лапцікамі, пакідаючы мокрыя, брудныя сляды, сеў, выцер рукавом узмакрэлы белы лоб з раннімі залысінамі — твар быў цёмна-буры ад ветру і летняга сонца.

— Хто гэта выступае? — спытаў ён у старога дзядка, які сядзеў побач.

— Што, што, малады чалавек? — схіліўся той да Мамуты.

Пётр Еўдакімавіч вачамі паказаў на прамоўцу: «Хто яна?»

— Сакратар райкома партыі Азарава, Дар'я Трафімаўна, — адказаў стары, пажаваў губамі, нібы яшчэ хацеў нешта дадаць, ды стрымаўся.

З прамовы сакратара райкома Пётр Еўдакімавіч зразумеў адно: нягледзячы ні на якія цяжкасці першага лістапада трэба пачаць навучальны год.

Пасля нарады Азарава нягучна аб'явіла:

— Таварыша, які спазніўся, прашу застацца...

Ну, зараз дасць наганяй за спазненне, падумаў Мамута.

Азарава завяла Пятра Еўдакімавіча ў кабінет дырэктара школы.

— Адкуль вы? З якой вёскі? — спытала яна.

— З Хатыніч. У нас пачатковая школа.

— Як вы падрыхтаваліся да навучальнага года? — Азарава ўважліва паглядзела яму ў вочы.

— Школа згарэла. Прыстасавалі былы клуб. Перагарадзілі, зрабілі два класы. І маленькі катух — настаўніцкую.

— Як у вас з кадрамі?

— Якія кадры? Нас два чалавекі. Я і яшчэ Ганна Мікітаўна, маладая дзяўчына з Саковіч. Перад вайной дзесяцігодку скончыла. Давядзецца ў дзве змены працаваць. Па два класы весці. Дзяцей дужа многа. Усе пераросткі.

— Такое становішча ўсюды, Пётр Еўдакімавіч. На жаль, нічога паабяцаць не магу. Самі разумееце, фронт стаіць за Крычавам. Вайна, нястача... А скажыце, Пётр Еўдакімавіч, — яна памаўчала, нібы адчувала сябе ніякавата. — Чаму вы ў лапцях? Што, няма ніякага абутку?

Затое Пётр Еўдакімавіч ужо не бянтэжыўся, абвык, агледзеўся.

— Калі праўду казаць, дык і няма. Былі боты — разбіліся. Адны халявы засталіся. Купіць новыя боты — трэба дзве тысячы рублёў. А дзе іх узяць? У мяне трое дзяцей, трыста пяцьдзесят рублёў аклад.

— А халявы яшчэ крэпкія?

— Халявы добрыя. А галоўкі паляцелі.

Азарава пацягнулася да тэлефона.

— Дайце мне райза. Алё, райза? Гэта Азарава. Такая просьба. Зараз да вас прыйдзе дырэктар школы таварыш Мамута. Дайце яму талон на перады да ботаў. Ну, галоўкі, ці як там яны называюцца. Халявы ў яго ёсць.

На першыя заняткі дырэктар Хатыніцкай школы прыйшоў у хромавых ботах, цёмна-сініх дыяганалевых галіфэ, яшчэ даваенным карычневым у палоску пінжаку, у верхняй кішэньцы якога пабліскваў аўтаручка — недасяжная мара ўсіх школьнікаў.

Дзяцей прыйшло дужа багата. Нямытыя, зарослыя, некаторыя абчыкрыжаныя нажніцамі, бы авечкі, апранутыя хто як: куфайкі, нямецкія фрэнчы, салдацкія галіфэ, на нагах лыкавыя і вераўчаныя лапці, а ў некаторых лапці адмысловыя, нябачныя раней — чырвоныя, бліскучыя, з трафейнага тэлефоннага дроту.

Ні кніг, ні сшыткаў, ні ручак, ні алоўкаў. «З чаго пачынаць?» — раздумваў настаўнік. Клопат гэты турбаваў яго, і ўсё ж ён адчуў знаёмы радасны ўздым — пачынаецца новы навучальны год.

Цяпер Пётр Еўдакімавіч сапраўды верыў у непераможную сілу жыцця.

Ягоная калега Ганна Мікітаўна, сарамлівая дзяўчына, нядаўняя дзесяцікласніца, хвалявалася яшчэ болей. Чырванеючы, ледзь не плачучы, гаварыла яна:

— Пётр Еўдакімавіч, я ісці ў клас баюся. Як іх вучыць?

— Успомніце, як вы самі вучыліся ў школе. А галоўнае — не палохайцеся. Калі дзеці адчуюць, што вы баіцёся, няўпэўнены — пішы прапала. Але ў вас павінна атрымацца. Вы зможаце іх узяць у рукі, — супакойваў яе Пётр Еўдакімавіч.

Ганна Мікітаўна была даволі прыгожая дзяўчына — сярэдняга росту, па-сялянску ладная, правільны твар, светла-карыя, нібы спелыя жалуды, вочы. Трохі псавала выгляд невялікая барадаўка на правай шчацэ ля носа. Мабыць, маладая настаўніца цяпер асабліва саромілася гэтай барадаўкі, бо калі гаварыла з Пятром Еўдакімавічам, то заўсёды старалася хаваць ад яго правую шчаку.

— А на чым пісаць будзем? Няма ж ні ў кога сшыткаў. І ў краме няма нічога. Ні паперы, ні чарніла, — бедавала яна.

— Пісаць будзем на бяросце, на лучынках. Трэба даць заданне дзецям, каб нарыхтавалі. Не толькі ж у нас няма сшыткаў. Ва ўсім раёне такая карціна... Памалу разбагацеем. Скончыцца вайна — усё будзе, — абнадзейваў Пётр Еўдакімавіч.

— У краме сцены і столь абклеены шпалерамі. Яны рудыя, закапцелыя, сям-там парваныя. На добры толк, іх трэба мяняць. Ну, а раз новых няма, дык трэба здзерці гэтыя шпалеры, а сцяну пабяліць... На шпалерах можна было б пісаць...

— Ну, калі вам удасца ўгаварыць крамніка Сямёна,

то шпалеры нам спатрэбяцца, — усміхнуўся Пётр Еўдакімавіч.

Ён быў упэўнены, што Сямён Чукіла, які тыдзень назад стаў загадчыкам крамы, ні ў якім разе не дазволіць абадраць сцены сваёй гандлёвай кропкі. Пётр Еўдакімавіч добра ведаў Сямёна, яго бацьку, зацятага скупярдзяя, у якога на каляды лёду не выпрасіш. І тым большым было яго здзіўленне, калі Ганна Мікітаўна прынесла ў школу пяць трубак шпалераў. Вочы яе ззялі ад радасці, шчокі расчырванеліся і, мусіць, не толькі ад халоднага восеньскага ветру.

— Ганна Мікітаўна, як гэта вам удалося знайсці падыход да нашага крамніка? Няйначай вы яго зачаравалі?.. — дзівіўся Пётр Еўдакімавіч.

— Гэта ваенная тайна, — гулліва бліснулі вочы маладой настаўніцы. — Цяпер нашы першакі атрымаюць хоць па аркушу паперы.

«Прыгожая дзяўчына. І падыход мае. Калі нават Сямёна падбіла на такое... З душой бярэцца за работу. Будзе з яе педагог, — з цеплынёй падумаў Пётр Еўдакімавіч. — Хутчэй бы скончылася вайна... Пабудуем новую школу. Адкрыем сямігодку. Хатынічы — вёска не малая...»

Але да перамогі было яшчэ далёка.

Неяк уранні ішоў Пётр Еўдакімавіч на заняткі. За ноч зямлю трохі прыцерусіла снегам, нібы шараваталай посцілкай заслаў нехта. Ля школьнага ганка ён запрыкмеціў выразныя босыя слядкі.

«Хто ж гэта басанож прытэпаў? Няўжо з маіх? — устрывожыўся настаўнік. — Схопіць запаленне лёгкіх, неслух. Ці яшчэ якая трасца прычэпіцца з прастуды...»

У час урока Пётр Еўдакімавіч хадзіў між парт, неўпрыкмет пазіраў уніз, аглядваў абутак — нідзе босых ног не было відаць. Потым ён прыгледзеўся да старых чаравікаў Ваські Сахуты. Хлопец падціснуў ногі ўгору, былі відны толькі белаватыя мысы абутку.

— Ну-ка ўсе з гэтай парты падніміце ногі. Пакажыце, хто ў чым абуты, — сёй-той з вучняў засмяяўся. — Ціха! Няма тут нічога смешнага.

— Васька, схавай свае бацінкі, — пачуўся шэпт з апошняй парты.

Неахвотна Васька адарваў ад падлогі свае «бацінкі» — бліснулі голыя пяткі, падэшваў не было.

— Бяжы дамоў, лезь на печ і грэй ногі. Увечары я

прыйду і раскажу, што мы сянні вучылі, — ціха сказаў настаўнік.

Васька моўчкі пасунуўся з класа.

Адвячоркам настаўнік увайшоў у Рыпініну хату. Цямнелася, але святла не палілі — берагли лучыну. Васька сядзеў ля акна, вакол яго тоўпіліся меншыя браты. У руках у Ваські цьмяна пабліскваў чырвоны дрот: хлопец майстраваў сабе абутак.

Настаўнік дастаў з-пад салдацкага бушлата навюткія вераўчаныя лапці-чуні: плёў для жонкі, але ў яе яшчэ лыкавыя лапцікі не разбіліся.

— Вось табе, Васька, абутак. А чаравікаў болей не абувай, — настаўнік прыгледзеўся і здзівіўся: адмысловы лапаць-драцянік змайстраваў яго вучань.

— Ён працякаць будзе, — сказаў Пётр Еўдакімавіч.

— Не, Пётр Еўдакімавіч, — горача запярэчыў Васька, — я шчытна плёў. Падганяў туга. Засцялю знізу анучкай, каб цяплей і мякчэй было. Такім лапцям зносу не будзе,— задаволена сказаў майстра.

— Заўтра ты абувай мае. Другі ж ты не паспееш зрабіць. А цяпер слухай, што мы праходзілі на занятках...

Пётр Еўдакімавіч коратка расказаў пра ўрокі. Васька слухаў няўважліва, мусіць, больш думаў, як сплесці другі лапаць, а браты слухалі разявіўшы раты. У хударлявага Колі аж вочы блішчалі ў паўзмроку, і меншы, лапавухі, маўклівы, таксама лавіў кожнае слова.

Дні праз два Васька прыбег у школу ў чырвоных драцяніках. Ён аж свяціўся ад задавальнення, на перамене падышоў да стала настаўніка, важна пераступіў з нагі на нагу, як гусак, паклаў на стол чуні.

— Вазьміце, Пётр Еўдакімавіч... Матка прасіла сказаць вам спасіба за іх...

Пётр Еўдакімавіч пачырванеў, разгубіўся, але тут жа знайшоў выйсце:

— Вася, гэта ж я табе падарыў. А падарункі назад не аддаюць. Хай будуць у вас. Братам спатрэбяцца.

Цяпер ужо Васька разгубіўся, але чуні ўзяў і моўчкі схаваў іх у парце.

Пасля ўрокаў убегла ў настаўніцкую Ганна Мікітаўна, села і зарагатала.

— Ой, Пётр Еўдакімавіч, такія пацешныя мае першакі. Паказваю малюнак. Ну, там намалявана нешта

падобнае на партфель і пад малюнкам пяць кропак — значыць, сумка. Пытаюся ў аднаго: што гэта? Ён кажа: тойба. Не вымаўляе «р». А другі крычыць: кайстра... А потым паказваю іншы малюнак: палонны немец у лахманах, абвязаны хустай. Хто гэта? Усе дружна крычаць: баба!

— Дзецям збрыдзела вайна. Яны немца нават і ўспамінаць не хочуць, — задуменна сказаў Пётр Еўдакімавіч. — Як скончыцца вайна, пабудуем новую школу. Толькі б дачакацца перамогі.

## IX

Ужо каторы дзень Павел Крупадзёраў быў у Лабанаўцы. Паспеў з'ездзіць у Вішнёўку. Узрадаваўся, што маці жывая-здаровая і з ёй адна дачка, ягоная сястра, а другую паліцаі злавілі і адправілі ў Нямеччыну. Вёска амаль уся згарэла, але матчына хата, якая стаяла бліжэй да краю, ацалела.

Лабанаўку Крупадзёраў не пазнаў: гэтак знявечыла райцэнтр вайна. Згарэў і вялікі драўляны дом, дзе месцілася раней кантора ўпаўнаважанага па нарыхтоўках.

Потым дачуўся, што і Бярозаўку немцы не пашкадавалі, і той школы, якую ён будаваў, таксама няма — знішчыў агонь, нібы карова языком злізала.

Раённыя ўстановы туліліся ў цесных памяшканнях. Крупадзёраву выдзелілі пакойчык у райвыканкоме.

— Павел Іванавіч, гэта пакуль што. А там будзем пашырацца, — супакоіў яго Пракапенка.

Крупадзёраў не дужа ўзрадаваўся, калі ўбачыў Пракапенку, бо помніў тое даваеннае пасяджэнне бюро райкома. Але Пракапенка гэтак шчыра паціскаў і нават трос яго руку, здаецца, гатовы быў абдымаць і цалаваць яго, Крупадзёрава, што і Павел Іванавіч памякчэў, нібы адтаў душою, ды і са старшынёй райвыканкома трэба лічыцца, хоць упаўнаважаны па нарыхтоўках фактычна яму не падпарадкоўваўся, — толькі па партыйнай лініі першаму сакратару райкома.

Лугаўцова Крупадзёраў ведаў таксама з даваенных часоў, але сутыкацца ім не даводзілася. І цяпер пры першай сустрэчы ўпаўнаважаны адразу пачаў з прэтэнзій: паводле штатнага раскладу трэба мець каля дзе-

сятка статыстыкаў, намесніка ўпаўнаважанага, а яму, Крупадзёраву, пакуль што выдзелілі адзін пакойчык.

— Я не магу працаваць у такіх умовах. Да вайны кантора ўпаўнаважанага займала цэлы дом у самым цэнтры Лабанаўкі. Якраз напроці парку. А цяпер адзін катух...

— Нешта прыдумаем, Павел Іванавіч. Адрамантуем якое-небудзь памяшканне, — пачаў быў Лугаўцоў.

— Абы-якое нам не падыдзе, Васіль Пятровіч. Я ўжо хадзіў, глядзеў. Нічога людскага не прыкмеціў. Будаваць трэба. Я і месца нагледзеў. Каля ваенкамата з левага боку нейкая разбітая хаціна тырчыць. Псуе выгляд. Рамантаваць там няма чаго. Лепей новы дом паставіць...

— Новы, канечне, лепей. Але ж не сам ён вырасце. Людзям няма дзе жыць. Хоць зямлянкі капай...

— На ўскрайку багата хат. Супрацоўнікі хай здымаюць кватэры. А кантора ўпаўнаважанага павінна займаць добрае памяшканне, — Павел Іванавіч сурова падціснуў тонкія вусны.

«Ведае сабе цану ўпаўнаважаны, — падумаў Лугаўцоў. — І правы свае ведае. Такі любую нядоімку выкатае... Нельга не падтрымаць яго».

— Я скажу Пракапенку. Хай падумаюць наконт будоўлі.

— Мне патрэбен дазвол, а далей справа пойдзе.

— Дазвол вы атрымаеце, — запэўніў яго Лугаўцоў.

Кароткі восеньскі дзень дагараў, бралася на вечар. Крупадзёраву не хацелася ісці ў свой катух-кабінет, дзе, магчыма, сядзіць прадстаўнік вайсковай часці: яны прыязджалі амаль штодня.

«Пракапенка ім зоймецца. А то ён з радасцю спіхнуў вайскоўцаў на мяне», — падумаў Крупадзёраў, ногі самі панеслі яго на кватэру, ён яшчэ ніяк не мог адаспацца пасля доўгай дарогі.

Да таго ж учора пазнаёміўся з дырэктарам спіртзавода Круглікавым, вядома, хораша пагаманілі і дабравата падпілі. Галава яшчэ і сёння балела, хіліла на сон, і ў той жа час думкі пра тое, як збудаваць кантору, усё мацней апаноўвалі яго.

Ён разумеў, што, калі сам не праявіць настойлівасці, будзе сядзець доўга ў гэтым катуху, потым яму дадуць яшчэ які катушок, але ж гэта не выйсце, статыстыкаў туды не пасадзіш. А без строгага ўліку, як можна зай-

мацца нарыхтоўкамі? Цяпер толькі вайсковыя прадстаўнікі дакучаюць, а скончыцца вайна, запатрабуюць усе падаткі: хлеб, малако, мяса, яйкі, воўну.

Крупадзёраў да вайны працаваў намеснікам упаўнаважанага па нарыхтоўках і добра ведаў па чым фунт ліха. На гэтую пасаду ён трапіў пасля таго, як збудаваў школу ў Бярозаўцы і на яго пасыпаліся скаргі ва ўсе бакі, што разбурыў царкву, паваліў дрэвы на могілках, наладзіў п'янку — замочваў новую школу, і што прыгожых дзевак не абмінае.

Словам, грахоў назбіралася нямала. Пракурор горача выступаў на бюро райкома і патрабаваў зняць Крупадзёрава з работы і выключыць з партыі. Пракапенка, які хоць і не быў членам бюро, але як намесніка старшыні райвыканкома яго запрасілі, падтрымаў пракурора. І большасць членаў бюро была за прапанову пракурора, але першы сакратар райкома Змітровіч доўга не ставіў пытанне на галасаванне, чакаў, пакуль выкажуцца ўсе, а потым загаварыў сам:

— Канечне, таварышы, вы правільна ставіце пытанне. Крупадзёрава трэба пакараць. Дроў ён наламаў дастаткова. Але дзеля чаго ён усё гэта рабіў? Каму ўсімі праўдамі і няпраўдамі будаваў ён гэты дом? Сабе? Сваім родзічам? Не, будаваў школу, якая вельмі патрэбна ў Бярозаўцы. Каб разумнейшы быў, то ён пачакаў бы, каб уключылі ў план, выдзелілі грошы, матэрыялы. Такім чынам, школа паявілася б у вёсцы гады праз два, а то і тры. А яна працуе ўжо. За ініцыятыву дык і пахваліць варта...

— І за п'янку, за амаральныя паводзіны таксама пахваліць? — не стрымаўся пракурор.

— Не, за гэта хваліць нельга. Трэба жорстка караць. Але мы не можам не ўлічваць тое, што Крупадзёраў малады чалавек, нявопытны работнік. Дый грамацёшкі ў яго кот наплакаў. Парабкаваў з маленства, не было калі яму вучыцца. Але нам патрэбны энергічныя, настойлівыя, дзелавыя і ў той жа час адукаваныя людзі... Я прапаную аб'явіць яму вымову і паслаць на курсы падвучыцца. І ў сувязі з вучобай вызваліць яго ад абавязкаў старшыні сельсавета...

Крупадзёраў не паверыў сваім вушам, ад радасці гатовы быў кінуцца з абдымкамі да Змітровіча.

Нейкі час стаяла цішыня, на сцяне між вокнаў дзелавіта цікаў гадзіннік-ходзікі. Цішыню парушыў хрып-

лаваты голас старшыні райвыканкома, які выказаўся за прапанову Змітровіча.

А потым было галасаванне. Толькі адзін пракурор галасаваў супраць.

І неўзабаве Крупадзёраў быў на курсах партыйна-савецкага актыву. Першыя дні цяжка было яму высе дзець восем гадзін, і ўсё слухаць ды пісаць. А пісаць ён не любіў, літары ў яго атрымліваліся крывыя і няўклюдныя. Запісваў толькі незразумелыя словы, каб потым распытаць у каго з хлопцаў. Да выкладчыкаў вырашыў і не патыкацца, бо яны адразу раскусяць, колькі класаў ён скончыў.

Потым курсантаў пачалі вазіць у лепшыя калгасы, машынна-трактарныя станцыі. Тут Крупадзёраў павесялеў. Стараўся ўсё прыкмеціць, запомніць, нічога не запісваў, бо правай было нязручна, а левай саромеўся. Тое-сёе занатоўваў дома, а болей спадзяваўся на сваю ўчэпістую, сялянскую, не загрувашчаную лішне навукаю памяць.

Курсы ён скончыў паспяхова на здзіўленне нават самому сабе і праз паўгода заявіўся ў Лабанаўцы. Тут якраз была вакантная пасада намесніка ўпаўнаважанага па нарыхтоўках. Змітровіч прапанаваў яго. У вобласці падтрымалі, зацвердзілі.

Расцвіў Павел Іванавіч Крупадзёраў на новай рабоце. Тут прыдаліся яго цвёрдасць, настойлівасць, рашучасць. У які б сельсавет ён ні паехаў, там адразу план нарыхтовак падскокваў угору. Умеў ён падысці і ласкаю, і жартам, і пагрозай. Даводзілася і грукнуць сваёй «жалезнай» рукой, ды так, што аж трашчалі сельсавецкія сталы.

Праз нейкі час Павел Іванавіч ажаніўся, узяў сваю, вішнёўскую дзяўчыну, прыгожую і здаровую, і таксама з беднай сям'і. Ды ў калгасе цяпер усе жылі амаль што аднолькава — усіх падраўняла калектывізацыя.

Атрымаў кватэру ў Лабанаўцы, сын нарадзіўся, а праз пару гадоў і дачка.

Жыццё наладжвалася. Але час быў трывожны. Раптам знік Змітровіч, а потым папаўзлі чуткі, што яго арыштавалі за дзядзьку, бацькавага брата, які не ўступаў у калгас. Жыў дзядзька дзесьці на Віцебшчыне.

Балюча ўдарыла гэтая вестка Крупадзёрава. «У дзядзькі свая галава на плячах. Пры чым тут пляменнік?» Ніяк ён не мог даўмецца, што Змітровіч, чэсны,

сумленны работнік, сын рабочага-пралетарыя, мог быць ворагам народа. Ён чакаў, што ўсё высветліцца, там, дзе трэба і каму трэба, разбяруцца, і Змітровіч вернецца ў Лабанаўку. Але неўзабаве абралі новага першага сакратара. Змітровіч так і не вярнуўся.

Тым часам грымнула вайна. Праз ягоную руку ў войска Крупадзёрава не ўзялі, апынуўся ён з сям'ёй аж за Волгай, працаваў брыгадзірам у саўгасе.

І вось як толькі вызвалілі раёны ўсходняй Магілёўшчыны, пра яго ўспомнілі і накіравалі ў Лабанаўку.

Пабудаваць новае памяшканне для канторы ўпаўнаважанага было няпроста. Крупадзёраў падняў усіх на ногі: райвыканком, лясгас, Лабанаўскую МТС, якая размяшчалася непадалёку ад райцэнтра. Разам з будаўнікамі сам расчышчаў пляцоўку, дзяўбаў ломам падмерзлую зямлю.

Міжволі часта прыгадвалася тая незабыўная будоўля ў Бярозаўцы. Але цяпер ён усё рабіў з дазволу кіраўніцтва ды і сам як упаўнаважаны па нарыхтоўках меў вялікія паўнамоцтвы. І дом жа ён будаваў для дзяржаўнай установы.

Месца яму падабалася: у самым цэнтры, каля ваенкамата — у душы ён зайздросціў вайскоўцам, шкадаваў, што не давялося паслужыць у войску хоць бы ў мірны час, адчуваў сябе абдзеленым прыродай. За ваенкаматам быў невялікі стары парк, дзе да вайны летнімі вечарамі гучала музыка, кружыліся на танцпляцоўцы пары. Далей стаяў Дом культуры, зараз амаль напалову разбіты, з павыбіванымі вокнамі.

Да вайны кантора ўпаўнаважанага па нарыхтоўках месцілася таксама ў цэнтры, напроці Дома культуры. Крупадзёраў лічыў, што мае значэнне і выгляд самой установы, і дзе яна знаходзіцца, і выгляд кіраўніка. Ён добра помніў, як у саракавым годзе яго тагачасны начальнік, упаўнаважаны, атрымаў з Масквы, з Наркамата нарыхтовак, пасылку. Быў у той пасылцы навюткі бастонавы касцюм, бо з крамнінай тады было тугавата.

У вёсцы, бывала, раней за сонца ўставалі, каб заняць чаргу, калі меркаваўся прывоз матэрыі ў краму. У іхняй Вішнёўцы нават быў такі выпадак. Жанчыны збіліся гуртам ля ўваходу ў краму, а хлапчукі-гарэзы ўзлезлі на дах і хацелі адтуль сігануць у дзверы. Адзін скочыў удала, а другі трапіў босай нагой за пазуху

кабеце і распаласаваў яе старэнькую сукню данізу, ледзь не вылузнуў жанчыну, як фасоліну са стручка. Узняла яна гвалт, ёй і спачувалі, і рагаталі, пусцілі ў краму без чаргі. Купіла яна паркалю, захінулася матэрыяй і пайшла дамоў. Але гамонкі вішнёўцам ды і суседзям з навакольных вёсак было надоўга.

Па прыездзе ў Лабанаўку Крупадзёраў першым чынам даведаўся, што можна атрымаць па ЮНРРА — гэтая міжнародная арганізацыя дапамогі тады пачынала сваю работу. На яго долю дасталіся толькі бацінкі; касцюмы і паліто пакуль што не паступалі. Для дзяўчат-статыстыкаў ён таксама расстараўся чаравікі. Ён разумеў, што ўкамплектаваць штат не проста, бо людзі патрэбны адукаваныя. Мужчын ці хлопцаў не знойдзеш, ды і аклады невялікія, а як дзяўчаты пахваляцца сваімі чаравікамі, то іхнім сяброўкам таксама захочацца працаваць у такой важнай установе.

Дом рос усё вышэй, адпаведна і настрой Крупадзёрава паднімаўся. Ні блізкасць фронту, ні зіма, што стукалася ў дзверы, не маглі сапсаваць яго аптымістычны настрой. Жонку з дзецьмі ён выклікаць не спяшаўся, бо там ім пракарміцца лягчэй, ва ўсякім разе да вясны аб прыездзе сям'і не магло быць і гаворкі.

З кіраўнікамі раёна ў яго былі нармальныя ўзаемаадносіны, толькі з Даўгалёвым давялося счапіцца: той быў супраць будаўніцтва канторы, бо людзям няма дзе жыць. Але Пракапенка падтрымаў упаўнаважанага, і Даўгалёву давялося падпарадкавацца, хоць ён застаўся перакананым, што з канторай можна і пачакаць, і з таго часу даволі суха вітаўся з Крупадзёравым. Гэта зусім не злавала Паўла Іванавіча. Ён адчуваў сябе на кані. І гэта радавала.

## X

Аднойчы прачнуўся Андрэйка і здзівіўся: у хаце, як звычайна, цёмна, але з вуліцы нешта асвятляе вокны, цэдзіцца нейкае святло і ўсё на двары белае і чыстае.

Падбег ён да акна, ускараскаўся на слончык, каб зірнуць на вуліцу, але не дастаў. Знадворку акно амаль да паловы было забіта сплеценым з саломы матам для ўцяплення, бо другой рамы не было, ды і ў гэтай ніводнай цэлай шыбіны — усе балонкі з кавалачкаў шкла.

Давялося стаць на падаконнік. Тады малы ўбачыў цёмнае, мутнае неба, якое навісла над белымі дахамі, нібы чаплялася за абснежаныя бярозы. Стары, пазелянелы ад часу штыкетнік таксама быў бялюткі, кожную дошчачку вянчала снегавая булдавешка-карона. Хлапчуку здалося, што стаяць штыкеціны, бы салдаты ў касках.

Андрэйку нясцерпна захацелася памацаць снег, лізнуць яго языком. Матчыных кірзачоў ля парога не было. Васька ў сваіх чырвоных драцяніках пайшоў у школу, стаялі толькі галёшы з Коліных бурак, якія насілі абодва браты.

Усунуў Андрэйка ногі ў галёшы, хацеў сігануць цераз парог, а галёшы шлёп — і зваліліся. Паставіў малы іх на месца і скокнуў у сенцы басанож. У пяткі адразу пеканула холадам, але ён такі выскачыў на двор, зрабіў некалькі крокаў і пачуў, як рыпіць мяккі сняжок, якія выразныя слядкі на ім астаюцца, схапіў камячок снегу, лізнуў.

— Ты куды выскачыў? Застудзішся, неслух малы! — з хлява ішла з вядром старая Рыпіна. — Бяжы ў хату скоранька...

Андрэйка сігануў назад і адразу ўзляцеў на печ, дзе прадзіраў сонныя вочы Коля.

— Козлік, зірні, снег выпаў!

— Снег? Не брашы... — не паверыў Коля.

— Я пахадзіў ужо, палізаў дайжа. Такі халодны-халодны, як лёд. Аж у зубы закалола.

— Ужо і ў рот справіўся напхаць снегу? — падслухала гаворку старая. — Скажу матцы. Дасць яна матузоў.

Матузоў хлопцы баяліся. Матузамі маці падвязвала фартух, і калі што якое, яна адразу адвязвала фартух і матузы ішлі ў работу. Біла яна шкадуючы, але ўсё роўна было балюча і крыўдна, бо заўсёды здавалася, што ніякай правіннасці няма.

Хлопцы хутка пасёрбалі зацірку. Коля адразу крутнуўся на вуліцу. Андрэйка стаяў на падаконніку, глядзеў у акно, чакаў брата, каб абуць ягоныя буркі. А Колі ўсё не было.

«Мусіць, пабег да крамы. Там ручай Канчанскі. Горкі крутыя. Катаецца сабе...» — сумна падумаў малы.

Доўга тырчаў у акне Андрэйка. Раптам на вуліцы пачуліся галасы. Гаманлівай чарадой ішлі вучні.

О якое гэта было відовішча! Апранутыя хто ў латаныя пінжакі, ватоўкі, у каго на галаве пілотка, нацягнутая на вушы, у каго чорны танкісцкі шлем, хто ў лапцях, хто ў чунях з аборак. Васька чыкільгаў у чырвоных драцяніках, як гусак. А Сяргей Краўчанка, высокі хлопец у салдацкіх галіфэ, сігаў у дзіўным абутку — скручаных дротам кавалках матацыклетнай пакрышкі, нібы ў чаўнаках плыў па дарозе, пакідаючы на снезе не менш дзіўныя сляды, быццам ляцела з падскокам машына. Яму, гэтаму хлопцу, Андрэйка пазайздросціў больш, чым каму.

«Мне б такія чуні. Яны, мусіць, не цякуць, і снег не набіваецца. От бы хадзіў па вуліцы! А то сядзі як прывязаны».

Андрэйка заскакаў ад радасці, калі ўбачыў, што ўслед за Васькам шкандыбае Коля. Значыць, цяпер яго чарга ісці на вуліцу, а браты будуць сядзець дома. Але маці ўсё вырашыла іначай. Як толькі разуўся Коля, яна ўзяла буркі і зноў іх у печ.

— Дзе ты хадзіў? Што мне з табой рабіць? Буркі як з вады выцягнутыя... А ногі што лядзень! Аж пасінелі. Сычас жа на печ, — маці перацягнула Колю матузамі па тым месцы, якое завецца мяккім, але ў сухарлявага Колі нічога не было мяккага. — Будзеш сядзець на печы да рання. І ты, Андрэйка, таксама лезь на печ. Адубееў ля акна. Пярхаць пачнеш. Тады насіся з табой...

Давялося і малому караскацца на печ.

— Усё праз цябе, Козлік, — са слязьмі ў голасе сказаў Андрэйка. — Сам паўдня коўзаўся. А я чакаў-чакаў...

— Якога паўдня? Не брашы! Усяго, можа, паўгадзіны. Мы такі каўзель там зрабілі. Ляціш, аж вецер свішча. Да саменькага ручая. От, здорава! Васька гукнуў мяне. І мы пайшлі дамоў.

Вядома, пра тое, як ён шчабоўкнуўся ў ваду, Коля нікому не прызнаўся.

Надвячоркам у хату ўбегла задыханая, расчырванелая Марына, крыкнула з парога:

— Мама, бацька пісьмо прыслаў. Жывы, здаровы. Быў паранены... Хоча прыехаць у водпуск...

Маці як стаяла, так і села ля стала.

— Ну, слава табе госпадзі... Чытай, дачушка, хутчэй.

Малыя ўміг скаціліся з печы, нібы прыліплі да Марыны.

«Добры дзень або вечар, дарагія родныя цешча Васіліса, жонка Кацярына, ненаглядныя мае дзеці Марына, Васька, Маруська, Коля і Андрэйка», — пачала чытаць Марына.

— Ён яшчэ думае, што матка жывая... І Маруську ўспомніў, — маці ўздыхнула, цярнула фартухом вочы.

«...Не ведаю, ці жывыя вы, ці здаровыя, а як пачуў, што вызвалілі наш раён ад фашысцкіх бандытаў, душа мая рванулася дамоў яшчэ мацней, чымся раней, — голас Марыны ўздрыгнуў, нібы ёй перахапіла горла. — Дазнаўся аб гэтым у шпіталі, аж за Волгай, на Урале. Параніла мяне ў левае плячо асколкам. Каб троху ніжэй, то і ўсё б... А было так. Мы наступалі, прабіваліся ўслед за нашымі танкамі. Артылерыя нямецкая накрыла нас агнём. Што там рабілася! Вы і ўявіць сабе не можаце! Зямля гарэла, вакол усё стагнала і гудзела, як у кавальскім горане. Снарад разарваўся метрах у чатырох ад мяне. Таварыша майго Івана Малаховіча, родам ён быў з-пад Віцебска, забіла насмерць, а мяне дзеўбанула пад лапатку, абадрала скуру на шыі, гімнасцёрку пасекла. І ўсё ж я застаўся жывы. Аж самому не верыцца.

Пасля шпіталя абяцалі пусціць дні на тры дамоў, таму я і не пісаў, думаў, прыеду, знайду вас, пабачымся. Але тут прыйшоў загад: пажылых параненых накіраваць у тылавыя часці. І мяне прывезлі ў горад Бранск. Праклятыя гітлераўцы разбілі яго ўшчэнт. Вось мы аднаўляем, будуем...

Ці маеце весткі ад Петрака? Што робіць Марына? Ці ходзяць у школу Васька і Маруська? Вучыцеся, дзеткі. Гітлер бяжыць назад без аглядкі. Скора закончыцца вайна, у нашай краіне будзе вялікае будаўніцтва і будуць патрэбны вучаныя людзі. Хто ў нас цяпер старшынёй калгаса? Адпішыце мне пра ўсе навіны.

Дарагая жонка і дзеці! Як атрымаю вестку ад вас, пайду да камандавання часці, можа, хоць на пару дзён адпусцяць. Прывязу гасцінцаў, таго-сяго з адзення...»

«Мне нічога не трэба. Мне б толькі буркі з галёшамі...» — падумаў Андрэйка, і сэрца яго затахкала ад радаснага прадчування.

А праз тыдзень прыйшло паведамленне — сяржант Пётр Мацвеевіч Сахута прапаў без вестак. Маці і Ма-

рына плакалі, хлопцы шапталіся. Андрэйка нічога не разумеў: як прапаў? Чаму ніхто не ведае?

Маці апранулася, завязала цёмную хусту з доўгімі махрамі і пайшла да Арцёма. Той быў цяпер старшынёю калгаса, жыў на ранейшым котлішчы ў зямлянцы.

Калі маці вярнулася, Андрэйка ўжо спаў, але назаўтра з матчынай размовы са старой Рыпінай ён зразумеў, што Пятрок яшчэ можа быць і жывы, можа, вернецца пасля вайны.

«От было б добра, каб ён вярнуўся. А то я і не помню, які ён. Калі не вернецца, дык я ніколі і не пабачу яго. Не буду ведаць, які мой старэйшы брат. А ён жа са мной любіў гуляць» — гэта малы не раз чуў ад Марыны і Колі.

Зіма ўбіралася ў сілу. Усё часцей скуголіла завіруха. Андрэйку ў такія дні нават да акна не падпускалі. Шыбіны зарасталі за ноч інеем, нібы мохам, на падаконніку намярзалі бугрыстыя лёдавыя струпы. Удзень акно адтавала, капала вада з падаконніка, тады на яго клалі анучы, каб яны ўбіралі вільгаць.

Андрэйку здавалася, што акно плача таму, што бачыць, як бедна жывуць людзі, як яны галосяць, калі прыходзіць пахаванка, мусіць, акно шкадуе і яго, Андрэйку, бо ён сядзіць цэлымі днямі дома, як птушка ў клетцы: няма чаго абуць на ногі.

А так хочацца выбегчы на вуліцу, пакатацца з горкі! Колю таксама не пускаюць на вуліцу. Ды і Васька сядзіць дома, бо ў школе халадэча, пісаць немагчыма — чарніла замярзае.

Неяк у завіруху, калі ўжо сыходзіў на нет кароткі зімовы дзень, нехта моцна пастукаў у дзверы, пачуўся густы, хрыплаваты мужчынскі голас. Андрэйка, як быў без порткаў, у доўгай ільняной кашулі, скаціўся з печы на палок, зірнуў з-за прыпечка. Ля парога стаяў чалавек з аўтаматам, у доўгім белым кажусе, на абснежанай шапцы цёпла паблісквала чырвоная зорачка.

«Няўжо бацька? — малы ледзь не крыкнуў: тата! — А мо Пятрок?» — але ж маці не кідаецца насустрач, як сядзела за самапрадкай, так і сядзіць, толькі перастала круціць нагой кола і цягнуць з кудзелі бясконцую нітку.

Вайсковец запытаўся, колькі чалавек жыве ў хаце. Пачуўшы ад Рыпіны, што жыве тут восем душ, памаўчаў, кашлянуў у кулак, пацягнуў носам:

— М-да, густавата. А можа, пару чалавек возьмеце, бабуся? Раніцай паедзем далей. На фронт.

— Возьмем, сынок. А як жа? Свае ж людзі... Вот скажы мне, дзетка. Ты, можа, начальнік нейкі, дык ведаеш... Чаму ета ўсё страляюць у Балыкавічах? Аднойчы пусцілі пагалоску, што немцы ўзноў ідуць. У нас і блохі ўсе памерлі ад страху...

— Немцы далёка. Звароту ім не будзе, — упэўнена адказаў вайсковец. — А ў Балыкавічах — ВПС. Ваенна-палявы склад... Майстэрня. Рамантуюць зброю. А тады прыстрэлка. Так што, страляюць нашы. Няма чаго палохацца.

— Во дзякуй, сынок. Цяперацька і да мяне дайшло, што баяцца няма чаго. Вядзі, сынок, сваіх хлопцаў. На вуліцы ж людзей не пакінеш. У такую непагадзь добры гаспадар сабаку на двор не выганяе. Маразюган еткі, — уздыхнула старая.

Вайсковец падзякаваў і пайшоў.

— От шанцуе ж ім. На фронт едуць, — задуменна сказаў Коля. — У іх аўтаматы ёсць, кажухі, боты. На фронце «кацюшу» ўбачаць. А то сядзі на печы і дзень і ноч.

Андрэйка думаў пра тое ж самае, яму карцела хутчэй пабачыць салдат, якія прыйдуць начаваць. Але час ішоў, а яны не прыходзілі. Так і заснуў не дачакаўшыся.

Прачнуўся ад гаманы ў хаце. У вокны ўжо цадзілася ранішняе святло — мабыць, узышло сонца. За сталом сядзелі два салдаты, таксама ў кажухах, перацягнутыя рамянямі.

Адзін салдат быў смуглявы, чорнавалосы, з вусікамі і цёмнымі, як вугольчыкі, вачамі, другі — кучаравы, русавалосы, твар, як у дзяўчыны, светлы і чысты. Калі б яму завязаць хусту, акурат сышоў бы за дзяўчыну.

Цётка Рыпіна таксама прыляпілася да стала і ўсё пра нешта гаманіла:

— ...Ну, зайшоў ён, пераначаваў. Раненька збіраецца адыходзіць. Дала паесці. А ён худы-худы, адна скура ды косці. Толькі вочы блішчаць. І рука... во тут, каля пляча перавязана... Раптам стукнула мне ў лабаціну: ён жа ў гімнасцёрцы з пятліцамі. Кожнаму ў вочы кідаецца. Я кажу: «Сынок, здымі ты ету... гімнасцёрку. Вазьмі рубаху». Ён зірк на мяне: «Умру, но не здыму. Я камісар, мамаша...» І так ён ета сказаў, зубы

так сціснуў, у мяне аж мурашкі па скуры пабеглі. Распытаў дарогу да чыгункі, ну, да етай зялезнай дарогі, і пайшоў. Ці жывы ён застаўся, хто ведае...

— Ён сапраўдны камісар. Такія ў палон не здаваліся, — сур'ёзна сказаў смуглявы. — У нас, у Башкірыі, немец не быў. Я жыву ў горадзе Уфа. Бальшой наш горад. І саўсем красівый. Очэн красівый. На раке Белай стаіт. Рака Белая — шырокая, шырокая...

Андрэйка не паверыў сваім вушам: рака называецца Белая. Ён думаў, калі рака — значыць, яна Бесядзь, інакш і быць не можа. А тут — Белая. Можа, там малако цячэ ў ёй? І яму так захацелася спытацца пра гэта, але тут загаварыў другі салдат.

— Я з Курска. Да нас фрыц дайшоў і спатыкнуўся, — ломкім баском апавядаў кучаравы. — Слыхалі пра Курска-Арлоўскую дугу?

— Аняго ж, сынок, чулі, — кіўнула галавой Рыпіна.

Салдат, падбадзёраны ўвагай усёй шматлюднай хаты, гаварыў далей:

— Дык вось на гэтай дузе зламалі фрыцу хрыбціну. І цяпер мы пагонім яго без аглядкі. Хай пяткі падмазвае...

«Дзіўна, што за дуга, якая немцу зламала хрыбціну? Чаму я ніколі не чуў пра яе», — раздумваў Андрэйка.

Маці тым часам падала на стол гарачыя дранікі, паставіла скавараду, ад яе так смачна запахла смажанінай, што ў Андрэйкі слінкі пацяклі, бо ўжо не помніў, калі еў сала ці мяса.

— Бярыце скваркі. Ешце, сыночкі. Блюлі сальца да вясны... Ды ўжо ж... Пачастуйцеся во. Трэба ж у дарогу падмацавацца, — частавала вайскоўцаў цётка Рыпіна.

Не паспелі салдаты з'есці па драніку, як у акно пастукалі, нешта крыкнулі. Вайскоўцы падхапіліся. Смуглявы ўзяў яшчэ дранік, але той быў, мусіць, надта гарачы, бо ён упусціў яго пад стол. Салдат нырнуў за ім, падняў і сунуў за пазуху.

— Вазьміце яшчэ, — маці падала ім усю скавародку.

— Нет, нет, мамаша. Большое спасибо, — кучаравы нахіліўся, пацалаваў матчыну руку, яшчэ раз падзякаваў і крутнуўся да дзвярэй услед за таварышам.

— З богам, радзімыя! — перахрысцілася цётка Ры-

піна, пайшла на вуліцу. А маці, як скамянелая, стаяла ля стала.

*Атрымана 12 студзеня 1944 года*

*АСАБІСТА І САКРЭТНА*

## *ПАСЛАННЕ АД пана ЧЭРЧЫЛЯ МАРШАЛУ СТАЛІНУ*

*Мы безупынна сочым за дзівосным прасоўваннем савецкіх армій. Мне, не спецыялісту, здаецца, што Жмерынка можа мець даволі важнае значэнне. Калі б мы зноў былі ў Тэгеране, я б зараз гаварыў Вам праз стол: «Паведаміце, калі ласка, загадзя мне аб тым, калі мы павінны будзем спыніць разбурэнне Берліна, каб пакінуць дастаткова памяшканняў для расквартаравання савецкіх армій».*

*Распрацоўка ўсіх планаў нашай італьянскай кампаніі закончана тут здавальняюча.*

*Я адказваю на Ваш поціск рукі — сваім, моцным і шчырым.*

## XI

Ніколі не думаў Міхаіл Даўгалёў, што яму давядзецца працаваць старшынёй раённай планавай камісіі. Раней ён нават і не чуў, што такая камісія ўвогуле існуе, і тым больш не меў ніякага ўяўлення, чым яна займаецца.

Першае заданне яму было такое: прыслалі план лесанарыхтовак, трэба яго размеркаваць на ўсе паўтараста калгасаў, кожнаму давесці заданне, вызначыць тэрміны яго выканання. Ну, тэрміны, вядома, кароткія — чым хутчэй, тым лепш. З Крычава штодня званілі: давайце лесаматэрыял, рудстойку для Данбаса — у першую чаргу. А хто будзе даваць, калі ў вёсках няма коней, няма людзей — засталіся жанчыны, інваліды і старыя.

Падначаленых у Даўгалёва пакуль што нікога не было: сам сабе старшыня, сам намеснік і планавік. Некалькі дзён лічыў, размяркоўваў — начамі сніліся слупкі лічбаў. Дапамагала тое, што ў артылерыйскім вучылішчы лічыць яго навучылі.

Часта да яго заходзіў старшыня райвыканкома Пракапенка: да сябе не выклікаў ні разу, бо трэба падні-мацца на другі паверх па крутой скрыпучай драўлянай лесвіцы, а з мыліцай не надта разгонішся.

— Ну як справы, капітан? — пытаўся бадзёрым голасам Пракапенка.

— Змагаюся, Антон Яўсеевіч.

— З кім і за што ты змагаешся?

— З нястачай і разрухай. Ну вось, я тут прыкінуў. Паглядзіце, каму па колькі выпадае. Здаецца, нікога не забыў. Усім па завязку.

Пракапенка прысеў да стала, узяў спісы, пачаў чытаць уголас:

— Калгас «Бальшавік». Гэта Бяседавічы? Ну, там у іх лес блізка. Вёска вялікая. Хай возяць. Калгас «Арлен». Гэта Саковічы. Правільна ты ім адваліў. Местачкоўцы — народ жылісты. Яны не згарэлі. Калгас «Пяцігодка ў чатыры гады». Так, гэта Хатынічы... Нешта ты сваіх землякоў крыўдзіш? Вёска згарэла...

— Палова толькі згарэла. А пасёлак Мамонаўка цэлы. Агонь яго не зачапіў.

— Але палову вёскі выкаціў... Людзі ў зямлянках. Яны самі, як шахцёры, закапаліся. Ім не да рудстойкі. Сваю страху падпіраць трэба... І землі там бедныя. Нездарма тую Мамонаўку Парцюкоўкай празвалі. Вечна яны ў саматканых парцюках там ходзяць. І да вайны ў іх крамнага не было. Я ж памятаю, — уздыхнуў Антон Яўсеевіч. — А ў маёй Віроўцы? Такая ж галота. Праўда, яны не згарэлі. Колькі на іх долю? — ён зноў уткнуўся ў спіс. — Калгас імя Сталіна... Ну, нічога. Нармальна. А землякоў сваіх пашкадуй. Паўсотні кубоў здымі. Раскідай іншым. Памылкі не будзе.

— Праўду кажучы, Антон Яўсеевіч, рука дрыжала. Хацелася пашкадаваць. Але падумаў: кожны можа ўпікнуць, маўляў, сваім зменшыў норму...

— Хвалю за аб'ектыўнасць. Але трэба быць рэалістам. Вёска згарэла. Ездзіць у лес хатыньчанам далёка, цераз Бесядзь. Усё ўлічваць трэба... Цяпер, браце, выпісаць усім паперы... Сам ведаеш, пісарчука ў нас няма. А почырк у цябе добры, як у настаўніка, — пахваліў Пракапенка.

— Антон Яўсеевіч, я ж тут зачаўрэю і ўчарнею над сталом.

— На жаль, памочніка даць не магу. Трэба, браце.

І як мага хутчэй. Новы год на парозе, — Антон Яўсеевіч паляпаў Даўгалёва па плячы, пайшоў да дзвярэй, але павярнуўся, нібы нешта ўспомніў. — Жонка не прыехала?

— Ды не яшчэ. Чакаю. Напісала, збіраецца ў дарогу.

— Мая таксама хоча сюды. Але ехаць з малымі зімой... Яны ж далёка. Узбекістан. Там цяплынь. А жонка піша, што зусім занудзілася. Не можа там болей быць. Хоча дамоў. І дзеці рвуцца. К вясне прыедуць... Ну, бывай. Поспехаў табе ў змаганні з рудстойкай.

— Дзякуй, Антон Яўсеевіч, — даволі бадзёра адказаў Даўгалёў, але, калі дзверы зачыніліся, з прыкрасцю падумаў, што ператварыўся ў пісарчука, папяровага пацука.

А з другога боку калі паглядзець, дык тое, што ён сумленна размеркаваў, а цяпер і выпіша ўсім калгасам заданні па лесанарыхтоўках — добрая і патрэбная справа.

Каб не забыць, што змяніў лічбу землякам, адразу ўзяўся выпісваць ім план-заданне. Уявіў, як атрымае дэпешу Арцём Шандабыла, хатыніцкі старшыня, будзе разбіраць па складах, а прачытаўшы, скажа: брат-значыцца, як ету рудстойку вывезці? Каго пасылаць у лес?

Міжволі Даўгалёў і сам задумаўся: сапраўды, каго? Дзед Гылігор яшчэ можа запрэгчы сваю Кулю, былы стараста Куцай-Гарнец, які пакуль што дома, крамнік Сямён... Жанчын давядзецца пасылаць.

Згадаў Вольгу Чарнякову. Калі ўбачыў яе нядаўна, дык здзівіўся і вачам сваім не паверыў: гэтакая дзябёлая, крамяная дзеўчынёха зрабілася.

Успомнілася Прося, жонка Вароніна. Яе-то ўжо Арцём не пашкадуе — загоніць у лес на ўсю зіму. Якая была гожая ў дзявоцтве Прося, вясёлая, галасістая і скакала ў клубе з прыпеўкамі, нагамі адбівала драбняка, бы цвікі ў масніцы ўганяла. А во трэба ж так павярнуўся лёс...

А колькі хлопцаў было ў Хатынічах! Ды якія хлопцы! Згадаў ён Пятра Сахуту, высокага плячыстага хлопца з саламянаю чупрынаю. Даўгалёў ужо ведаў пра паведамленне, якое атрымала Кацярына Сахута. А колькі іх яшчэ будзе гэтых страшных паведамленняў, што як гром з яснага неба, як стрэл сярод белага дня забіваюць мацярок, жанок і дзяцей...

Ды ці ж толькі ў іхніх Хатынічах! А Лясковічы, спаленыя ўшчэнт, Саковічы, Белая Гара. А з Лабанаўкі колькі людзей на фронце!

Амаль да поўначы працаваў Даўгалёў, хацелася хутчэй разаслаць у калгасы планы-заданні па вывазцы лесу.

Неяк зімовым надвячоркам завітаў у ягоны катух Пракапенка.

— Годзе табе вочы сляпіць! Хіба заўтра дня не будзе? Пакінь трохі работы і на заўтра. Ты, мусіць, галодны сядзіш тут? Прычыні-ка дзверы, каб нехта не ўсунуўся. — Пракапенка паставіў на стол пляшку гарэлкі, бляшанку кансерваў, паклаў цыбульку і акраец хлеба. — Нешта маркотна на душы. Не магу дачакацца сваёй сямейкі. Жывеш як воўк. Ні паесці па-людску, ні паспаць...

Выпілі па чарцы, разгаварыліся. Святло не ўключалі, хоць за акном ужо ацямнела. Электрыку правялі ад спіртзавода ва ўстановы і школу, большага са слабасільнага рухавічка выціснуць было нельга. Зрэшты, гутарыць у цемры нават і лепш, нейкая асаблівая шчырасць апаноўвае субяседнікаў.

Пад настрой расказаў Пракапенка пра сваё жыццё: з дзяцінства парабкаваў, бо сям'я была вялікая, свайго хлеба ніколі не хапала да новага ўраджаю, потым пайшоў служыць у армію, уступіў у партыю, прыехаў дамоў — быў першым камуністам у Віроўцы, хадзіў на партсходы ў Саковічы адзін з вёскі. Ствараў калгас і быў першым яго старшынёй. Дарослым дзецюком вучыўся чытаць і пісаць, самастойна грыз азы палітграматы.

— Давялося і старшынёй сельсавета працаваць. Потым скончыў курсы партактыву, прызначылі намеснікам старшыні райвыканкома. Тады і з Крупадзёравым пазнаёміўся... А праз нейкі час вылучылі на пасаду сакратара райкома партыі. Рос я хутка, кадры мяняліся часта... Ты зусім яшчэ быў хлапчанё тады — не ведаеш... Бывала, кладзешся спаць і думаеш: узбудзяць сярод ночы ці на гэты раз міне? Жылі, як у аўтобусе: адзін руліў, а ўсе дрыжалі, — Пракапенка ўсміхнуўся, блiснулі ў цемры роўныя здаровыя зубы вясковага чалавека. — Можа, цяпер, пасля вайны, у нас будзе інакш... Вось так, таварыш капітан...

Пракапенка чамусьці любіў называць Даўгалёва ка-

пітанам. Сам ён у вайну камандаваў партызанскім атрадам і меў званне маёра.

Быў позні вечар, калі яны выйшлі на вуліцу. На небе высыпалі бліскучыя зоркі, Млечны Шлях, нібы вялізны кужалёвы ручнік, апаясваў нябесны купал, трохі ніжэй, бы паўбохана пытляванага хлеба, свяціўся месячык.

Бралася на марозік, смачна рыпеў пад нагамі снег. Сям-там цьмяна свяціліся вокны — газу лабанаўцы эканомілі, лямпы і газнічкі-смаркачыкі, зробленыя з гільзаў, палілі не на ўсю моц.

Ярчэй свяціліся вокны райкома партыі.

— Першы яшчэ працуе. Калі ён спіць, наш Васіль Пятровіч? І ў партызанах як былі, дык ён таксама любіў начамі сядзець... Зайсці хіба што? Ёсць размова. Але няёмка выпіўшы, — разважыў Пракапенка.

— Колькі мы там выпілі, — супакоіў яго Даўгалёў.

— Не, лепей заўтра ўранні мы паталкуем. Пайду дамоў. Мо сёння ўдасца заснуць. Учора пракачаўся ноч, дужа кепска спаў. А чарка расслабляе, усыпляе. Пахадзім трохі. Як твая нага?

— Нармальна. Толькі хутка ісці не магу. А памалу хоць бы хны, кавыляю, — адказаў Даўгалёў.

Яны ішлі побач. Даўгалёў амаль на галаву вышэйшы, Пракапенка, каржакаваты, дужы, павольна, уразвалку сігаў па вуліцы.

— Я ўсё часцей думаю, як будзем жыць пасля вайны, — Пракапенка глухавата кашлянуў, нібы яму цяжка было гаварыць. І голаду, і холаду яшчэ хопіць. Усё разбурана, спалена. Але ж потым зажывём па-чалавечы. Даўно ўжо заслужылі нашы людзі гэтага. Падумаць толькі: рэвалюцыя, грамадзянская вайна, калектывізацыя. І ўсё давай-давай! Пяцігодку ў чатыры гады!

— Антон Яўсеевіч, інакш было нельга. Мы — як востраў...

— А я хіба кажу, што было можна? Мы не востраў. Мы — гранітны ўцёс, аб які разбіваюцца нашы ворагі, імперыялісты ўсіх масцей. Вось так, браце, вучаць нас класікі марксізма-ленінізма...

«Што гэта я, бы на мітынгу? Падумае гэты хлопец, што я не давяраю яму. Баюся, каб ён не нашрайбаваў. Але я ж нічога не сказаў», — Пракапенка спыніўся, прыслухаўся:

— Чуе маё партызанскае вуха: нешта гудзе.

Неўзабаве і Даўгалёў пачуў у небе натужнае гудзенне самалётаў, а потым і ўбачыў тры бліскучыя кропкі.

— А маё артылерыйскае вока бачыць самалёты. Мусіць, начныя бамбардзіроўшчыкі. Вунь дзе, Антон Яўсеевіч, — ён паказаў рукой на бліскучыя кропкі ў небе.

— А, бачу, бачу. Куды ж яны цікава? На Магілёў ці на Мінск?

— Можа, і далей. На Берлін... Нават у пачатку вайны пужалі фрыцаў. Бамбілі іх берлаг.

Самалёты зніклі, дзесьці далёка на захадзе пачуліся глухія выбухі. Вайна зноў нагадвала пра сябе.

Каля сцішанага заснежанага парку яны развіталіся: Даўгалёў павярнуў направа, а Пракапенку трэ было ісці назад. Паветра чыстае, марознае, аж зліпаліся ноздры, але целу было цёпла пад кажухом, ды і ўнутры разлівалася прыемная цеплыня, хацелася пахадзіць яшчэ па вуліцы.

Пракапенка пастаяў каля дома, дзе будзе кантора ўпаўнаважанага па нарыхтоўках, над якім ужо тырчалі трохкутнікі крокваў. Накрыць дах, паслаць столь, падлогу, уставіць вокны, дзверы — і кантора гатова.

Ён падзівіўся развапотлівасці Крупадзёрава. Вядома, тое даваеннае пасяджэнне бюро райкома не забылася, але ён узрадаваўся цяпер Крупадзёраву і шчыра ціснуў яго «жалезную» руку, бо неяк адразу падумалася, што калі ўжо Крупадзёраў заявіўся, то, значыць, немцам ужо няма ходу назад, сюды, і што вайсковых прадстаўнікоў ён спіхне на яго, а пасля вайны можна быць упэўненым: Лабанаўскі раён не будзе плесціся ў хвасце па выкананню плана нарыхтовак.

Пракапенка нетаропка ішоў па вуліцы. Здаля ўбачыў, як пагасла святло ў кабінеце Лугаўцова, а потым на ганку паявілася цёмная постаць. Наддаў ходу, каб дагнаць Лугаўцова. Той ішоў хутка, толькі снег рыпеў пад валёнкамі. Пракапенка вымушаны быў гукнуць:

— Васіль Пятровіч!

Постаць спынілася. Лугаўцоў пазнаў па голасу старшыню райвыканкома, але, надаўшы свайму голасу строгасць, спытаў:

— Хто гэта тут ходзіць поначы?

— Хацеў да цябе зайсці, ды, думаю, позна ўжо. Прайшоўся па вуліцы, каб лепей спалася. Замучыла

бяссонне, — выдыхнуў клуб пары Пракапенка. — Самалёты паляцелі толькі што. Бамбардзіроўшчыкі.

— Па радыё перадалі: нашы войскі вызвалілі сёння Мазыр і Калінкавічы. Важны чыгуначны вузел, — Лугаўцоў памаўчаў і дадаў: — Пад Рагачовам баі. Скора ўся Гомельшчына будзе вызвалена. А па вясне, думаю, папруць фрыца з усёй Беларусі...

Далей ішлі моўчкі. Кожны думаў пра сваё. А найболей тады думалася пра жыццё, якое будзе пасля вайны.

## XII

З кожным днём усё святлей рабілася ў хаце. Сонца цяпер прачыналася раней за Андрэйку, нібы надакучыла яму позна спаць за доўгую зіму. Шыбіны ўжо не пакрываліся блакітна-шэрым інеем, падаконнікі памалу пачалі падсыхаць, затое са стрэх капала ўсё дружней, быццам плакалі яны ад шкадавання, што снег пакідае іх, зноў яны застануцца голыя, вецер будзе шастаць і задзіраць «чупрыну», і дождж лупцаваць колькі ўлезе.

Ноччу яшчэ ціснуў марозік, і са страхі раніцай звісалі ледзяшы-сусолкі. Андрэйка любаваўся імі, калі выбягаў у хляўчук па патрэбе. Яны віселі, падсвечаныя сонцам, ружова-бліскучыя і зваблівыя — от бы пасмактаць, але не дастанеш. Хіба што збіць, а як па акне трахнеш? Не мінаваць тады лупцоўкі матузамі. Не, лепш хай вісяць і плачуць яны, затое ён, Андрэйка, будзе смяяцца і радавацца вясне.

Аднойчы Коля прыбег з вуліцы расчырванелы, усхваляваны.

— Ну, Жэўжык, сонца сянні смаліць! А лёд на Бесядзі падняло ўжо. Вось-вось крыгі паплывуць.

— Крыгі? — не паверыў Андрэйка. — Дай мне буркі. Збегаю зірну. Я ніколі не бачыў...

Коля не пярэчыў, хуценька скінуў абутак, падаў брату, а сам скокнуў на печ.

— Пакажы-тка сюды буркі! — адарвалася ад прасніцы маці, усунула руку. — Зноў мокрыя. Ці ты ваду імі сіляеш, ці ты што робіш, хлопец? Я не ведаю... Як жа іх абуваць цяпер? Андрэйка, татулечка, хай падсохнуць. Тады і збегаеш на вуліцу.

— Тады цёмна будзе. Што я ўбачу? Зноў не пусціш... Усю зіму ў хаце праседзеў, — захліпаў малы.

— Ну, не плач. Вясна на дварэ, пацяплее, басанож будзеш лётаць колькі захочаш. А то цяпер застынеш, захварэеш. Усю вясну пралежыш. Пацярпі, мой любы... — у гэты час з печы пачуўся глухі, як з бочкі, кашаль. — Во набегаўся. Запярхаў. Заўтра не пушчу за парог.

Маці зноў узялася прасці. Андрэйка падсеў да акна. З печы раз-пораз чуўся кашаль.

На другі дзень, як толькі добра прыгрэла сонейка, Андрэйка выбег на вуліцу — нібы птушка выпырхнула з клеткі на волю. Выбег і здзівіўся: снегу не было, увесь растаў. Праўда, за хлявом яшчэ ляжаў, бо там была вялізная гурба. Цяпер снег пачарнеў, зрабіўся, што каша, а па мяжы бег вясёлы жвавы ручай. У адным месцы набілася ледзяшоў, смецця, вада ледзь сачылася праз верх нечаканай запруды.

Андрэйка рукой расчысціў шлях ручаю, і той імкліва рвануў наперад, убіраючы ў сябе струменьчыкі, што беглі да яго з абодвух бакоў. У канцы гарода ручай нырнуў пад жэрдку, павярнуў направа, быццам насустрач сонцу, і з гары імчаў проста ў Бесядзь.

Лёд на рацэ патрэскаўся, палопаўся, нагадваў вялізную доўгую шыбіну, складзеную з няроўных кавалкаў шкла. Вада ўзняла лёд вышэй берагоў і бруіла на луг, усе лагчыны былі ўжо залітыя паводкай.

На ўзгор'і, на паваленай вярбе, сядзелі бабы, дзеўкі, спявалі песні. Была тут Марына, Рыпініны дочкі — Ніна і Валя. Пажылыя кабеты яшчэ ў цёплых хустах, а дзяўчаты ў лёгкіх хусцінках. Бегалі вакол гэтакія ж шпінгалеты, як і Андрэйка, некаторыя нават басанож. Ад ракі чуўся трэск і шоргат, яна нібы ўздыхала: «Ух, як цяжка!» — быццам прасіла сонца памагчы. І тое старалася, прыпякала на ўсю моц.

— Глядзіце, пайшлі крыгі! — крыкнуў нехта з малых.

З высокай гары было добра відаць, як вялізныя крыгі плылі па вірлівай вадзе, большыя і мацнейшыя напаўзалі з шоргатам на меншых, тыя задзіраліся ўгору стаўбуном, ламаліся, крышыліся. Малыя крыгі выносіла на луг, а большыя імчалі ўніз па рацэ. Зверху выплывалі ўсё новыя і новыя крыгі, і здавалася, што канца ім не будзе. Шоргат, гул, падобны на глухія стогны, і трэск усё мацнелі.

Раптам увышыні загулі самалёты.

— Гэта нашы. Істрабкі, — аўтарытэтна зазначыў малы хлапчук у чорным, ужо добра абшарпаным, танкісцкім шлеме.

Андрэйка доўга ўглядаўся ў неба, задраўшы галаву, аж шапка-аблавушка саслізнула на зямлю. Нарэшце ўбачыў высока ў сінім блакіце тры белыя самалёты, маленькія, быццам выразаныя з паперы. Услед ляцелі яшчэ тры, потым яшчэ тры. Яны праляцелі ўжо над вёскай, а гул матораў гусцеў, заглушаючы адвечныя гукі крыгаходу, здавалася, аж дрыжыць зямля.

— Во сіла! От дадуць фрыцу! — пачуў Андрэйка, азірнуўся — ззаду стаялі два хлапчукі, можа, трохі большыя за яго: адзін у шэра-зялёнай нямецкай пілотцы з двума блішчастымі гузікамі спераду, а другі — той самы знаўца самалётаў у танкісцкім шлеме, які настойліва спаўзаў яму на вочы, бо хлапчук перастаў ужо глядзець у неба.

Дзяўчаты заспявалі. Звонкі, чысты голас зацягнуў:

З неба зорачка упала
Прама Гітлеру ў штаны,
Яму нешта абпаліла,
Ён крычыць: «Канец вайны...»

Дружны рогат пакаціўся над залітым паводкаю поплавам, аж да цёмнай сцяны лесу.

— Ты чый? — спытаў у Андрэйкі большы хлопчык у танкісцкім шлеме.

Андрэйка сказаў, што жывуць яны цяпер у Рыпіны, а раней жылі на Шамаўцы каля дзядзькі Арцёма.

— А, дык я цябе помню. Мы таксама жылі на Шамаўцы. Ля калодзежа. Ты Андрэйка? А я — Віцька. А ета мой брат, Паўлік, — ён штурхануў хлапчука ў нямецкай пілотцы, і той ад нечаканасці ледзь не ўпаў. — Ну, малы, што, слаб стаў у паджылках?

— Ты сам слабак, — Паўлік плечуком хацеў штурхануць Віцьку, але той адскочыў убок і зарагатаў, бо Паўлік з разгону зноў ледзь не паваліўся.

— А чаму ты на вуліцу не выходзіў? — спытаў Віцька ў Андрэйкі. — Хварэў?

— Ага, у мяне была тэмпература. Сорак тры градусы, — схлусіў Андрэйка.

Віцька зірнуў на яго і рашуча запярэчыў:

— Сорак тры не бывае. Сорак два — ужо смерць. Ты б ужо быў вунь там, пад бярозкамі, — і паказаў

пальцам на могілкі, што купкай дрэў цямнеліся на гары за мостам.

— Чаму не бывае? А ў мяне была, — не здаваўся Андрэйка. — Колькі, я не помню, але галава агнём гарэла. Таму і на вуліцу матка не пускала. А Коля наш бегаў...

Пра тое, што яму не было чаго абуць, Андрэйка, вядома, не прызнаўся.

Дні стаялі цёплыя. Сонца прыгравала ўсё мацней. Неўзабаве і Андрэйка лётаў па ўзгор'і басанож.

Што за асалода бегаць па адталай, яшчэ халаднаватай, але ўжо абуджанай зямлі! Босыя ногі забыліся за доўгую зіму, як казыча сухая трава, колюцца цёплыя камяньчыкі, шурпата лашчыцца вільготны жвір ля Бесядзі. Здаецца, усёй істотай адчуваеш ты, як дыхае зямля, бачыш, як зялёныя шыльцы травы працінаюць леташняе лісце, чуеш спеў жаўранка. І душа поўніцца першароднай радасцю быцця, уцехаю еднасці з вадою, зямлёю і сонцам.

Аднойчы Віцька сказаў сябрукам:

— Хадзем на склад. Там наша Вольга. І Марына ваша тамацька. Яны зерне перавейваюць.

Утрох — Андрэйка, Віцька і Паўлік — яны панесліся да гумнаў. Старыя, з пазелянелымі дахамі пабудовы, рознай велічыні і формы — гэта і былі склады. Яны стаялі бліжэй да Бесядзі, збоч ад вуліцы, таму агонь і не перакінуўся на іх.

На складзе было людна, тлумна. Гула нейкая машына, якую дзяўчаты, сярод іх Вольга і Марына, круцілі за ручку. Правеянае зерне насыпалі ў мяхі, ставілі на вагі. Аднарукі Цімох слюніў агрызак хімічнага алоўка, запісваў у сшытак, хаваў аловак за вуха.

Вакол чуліся жарты, гамана. Дзяўчаты, маладзіцы расчырванеліся, а Цімох, як певень, так і хадзіў каля іх. Вайсковая фуражка без зорачкі была ссунута на самую патыліцу. Андрэйка дзівіўся, як яна трымаецца і не звальваецца.

Хадзіў Цімох не так сабе, а стараўся лапнуць то дзеўку, то маладзіцу-салдатку. Найбольш чапіўся да Вольгі. Яна была ў салдацкім бушлаце, падпяразаным чырвоным паяском. Спадніца ў яе таксама зеленаватая, як у той санітаркі, толькі на нагах замест ботаў лыкавыя лапці, акуратныя белыя анучы накрыж перацягвалі пяньковыя аборы. Цімох прысеў каля мяха, быццам

правяраў, ці добра завязаны, злаўчыўся і лапнуў Вольгу за калена. Тая гучна пляснула яго па руцэ:

— Куды? О збродлівы кот! Чаму табе другую не адбіла...

— Тады б я цапаў цябе зубамі вышэй каленка... За ета можна не толькі руку аддаць...

— Ну і зубаскал! Жонку мае, а да дзевак лезе, — журылі яго кабеты, але гаварылі яны не злосна, не сярдзіта, нібы Цімоху так і трэба рабіць.

Калі машына сціхла — важылі насыпаны мех, Вольга нягучна, але гулліва заспявала:

Ліцянанты, ліцянанты,
Вы пагоны носіця,
У вас дома — жонкі, дзеці,
А вы ў дзевак просіця...

— Хоць і не быў я «ліцянантам», я — сяржант. Але ў цябе, Вольга, грэх не папрасіць, — выскаляўся Цімох.

— І не мыльcя — галіцца не будзеш... Вунь мае абаронцы прыйшлі, — убачыла Вольга сваіх братоў. — Паспрабуй толькі падлезь...

— І паспрабую! Абаронцы твае яшчэ саплівыя.

— І не саплівыя, — шморгнуў носам Віцька. — У мяне граната ё... Лімонка.

— Няўжо? Брэшаш, — пацвяліўся Цімох.

— Не брашу. Каб я з етага месца не сышоў...

— Пакажы. Тады паверу.

— Не пакажу. Яна схаваная.

— Я табе дам сшытак. Новенькі, у касую лінейку. І аловак дам чырвоны...

Перад такім падарункам Віцька не мог устаяць, ды і Вольга прасіла: «Пакажы, Віцёк, сваю знаходку». Словам, пагадненне было заключана. Цімох пайшоў з хлопцамі і неўзабаве вярнуўся, падкінуў на далоні нешта круглае, рабрыстае, нібы вялізная груша. Жанчыны спалохана пазіралі на яго.

— Не пужайцеся. Я ўзрывацель выняў, — ён зноў падкінуў гранату. — Спадзе Бесядзь — глушану рыбку...

Але выбух адбыўся раней і ў іншым месцы. Падсохла зямля, прагрэлася, выехалі ў поле аратыя: хто на кані, хто запрог вала — двух валоў прыгналі нядаўна з Лабанаўкі, хто прывязаў плуг і да каровы. Аратыя

былі ў большасці жанчыны, скалечаныя вайной інваліды і нават падлеткі.

Андрэйка і Коля гулялі з сябрукамі па вуліцы. Гульня была няхітрая: выкапваліся неглыбокія круглыя ямачкі — столькі, колькі гульцоў, і качалі мячык з анучаў — пра гумовы можна было адно марыць. Калі мяч трапляў у ямку, усе кідаліся наўцёкі, а гаспадар ямкі хапаў мяч і цаляў у каго-небудзь. У каго пападаў, той павінен быў каціць мяч. Хлапчукі так захапіліся сваёй гульнёй, а называлася яна: гуляць у кілы, што забыліся пра ўсё на свеце, нават пра вайну.

Што ім да вайны! Сонейка гэтакае ласкавае, зямля цёплая, лётай сабе цалюткі дзень! І яны стараліся. Коля быў самы трапны: як ад яго ні ўцякай, усё роўна пацэліць з першага разу. Сёй-той спрабаваў абвяргаць пападанне, маўляў, ля нагі мяч стукнуўся ў зямлю, а гэта не лічыцца.

Коля доўга не спрачаўся і наступны раз трапляў «споршчыку» ў хрыбціну так, што абвяргаць не выпадала. На гэты раз Віцька пачаў даказваць, што мяч стукнуў у яго ад зямлі і ён каціць не будзе. Тут Коля не мог пагадзіцца:

— Папаў, і ўсё! На, каці мяч.

— Сам каці, Козлік. Ты не папаў.

Коля не мог сцярпець гэтакай абразы і схапіў Віцьку за каўнер даволі бруднай палатнянай кашулькі. Хлапчукі счапіліся. Віцька быў дужэйшы і паваліў Колю. Андрэйка кінуўся на падмогу, а Паўлік заступіўся за брата. Не засталіся ў баку і іхнія сябрукі. Ладная куча дзятвы ўтварылася на пясчанай дарозе. І ў гэты час дзесьці за гародамі ляснуў, бы пярун, грымотны выбух, аж здрыганулася зямля.

Хлапчукі прыціхлі, бойка сама сабой скончылася, гульня таксама перастала цікавіць.

— Бяжым у поле, — першым апамятаўся Коля.

Услед за ім сыпанула ўся галапятая грамада. На полі чуўся плач, нехта галасіў. Па выгане ехала фурманка, за ёю ішлі жанчыны. Ля воза, трымаючы лейцы, кульгаў Арцём.

— Куды вас нячысцік гоніць? — хмурна сказаў ён. — Бяжыце назад. Міны, снарады на кожным кроку. Усю нашу зямельку спаскудзіў фрыц паганы.

На калёсах сядзела жанчына і галасіла на ўсю галаву: «А мой жа ты сыночак залаценькі... А што ж так

рана закацілася тваё сонейка... Хай бы лепш я пайшла туды...»

Андрэйка застыў на месцы. Даўкі камяк падкаціў яму да горла, а ў грудзях, як у верабейкі, затахкала сэрца. Фурманка праехала міма, на возе ляжалі пашкуматаныя транты і чырвоныя кавалкі мяса, у шчыліну між дошак выбіліся сінія кішкі, зрываліся на зямлю пунсовыя кроплі крыві. На каленях у жанчыны краталася, бы жывая, галава Сяргея Краўчанкі, вясёлага хлопца, што хадзіў у школу ў лапцях з матацыклетнай пакрышкі. Твар Сяргея быў жаўтлява-бледны, нос неяк завастрыўся і пасінеў.

— Чаго ты стаў? — Коля тузануў брата за рукаў, і абодва, прыціхлыя, унурыўшы абчыкрыжаныя нажніцамі галовы, пацягнуліся ўслед за ўсімі. Разагрэты прыдарожны пыл пёк у ногі, і здавалася Андрэйку, што ідзе ён па вогнішчы.

## XIII

Ужо цэлы тыдзень Валодзька Бравусаў быў дома і яшчэ ніяк не мог канчаткова паверыць, што ён у сваёй роднай вёсцы Белая Гара, з акна сваёй хаты, якая ацалела ў віхурным смерчы вайны, бачыць то блакітную, то сталёва-шэрую стужку Бесядзі. Разы два схадзіў на рыбалку, на жыўца выцягнуў некалькі акунёў і нават пару ладных шчупакоў.

Маці падсмажыла рыбу, паставіла на стол пляшку мутнаватай самагонкі. Валодзька наліў сабе гранёную шклянку, выпіў адным махам, панюхаў падгарэлы праснак...

Праснак, канечне, не скарынка духмянага хлеба, ды што зробіш, добра, што ёсць праснак, свежая рыбка, малако. Маці таксама выпіла глыток, адшчыкнула кавалачак праснака, з'ела трохі рыбкі, падперла рукой галаву і затуманенымі вачамі глядзела на сына.

Першыя дні яна ўсё гаварыла:

— Сынок, сынок, як ты пастарэў. Усё быў хлапчанём. Ці даўно ў зрэбных штоніках бегаў? З акружэння вярнуўся... З парцізанаў прыязджаў... Хоць і з вусамі, а дзіцянё. А цяпера прыйшоў саўсім не такі... Ой, сынок мой любы! Як я рада, што хоць ты вярнуўся. Косцік во недзе паклаў галовачку, — ражком палінялай

хусткі маці цярнула ўзмакрэлыя вочы. — Ад Хведзькі даўно пісьма няма. Прыслаў перад вялікаднем з-пад етага самага... Харківа. Далёка еты Харкіў?

— Далёка. На Украіне. Калі прыслаў пісьмо, значыць, жывы... Яшчэ і Косцік, можа, жывы. Без вестак прапаў — ета не тое што пахаваны ў такім-та месцы. Можа, трапіў у палон. Дык уцячэ, а мо нашы вызваляць. Усё бывае. Каб ты ведала, мама, колькі разоў я мог ужо загінуць! Колькі разоў я развітваўся з жыццём! Цябе ўспамінаў...

Валодзька адчуў, што сам гатовы расплакацца, і таму хутчэй узяўся за бутэльку.

З кожным днём яго цела, параненае, кантужанае, але маладое, прагнае да жыцця, набіралася сілы. Пасля ранення пад Рагачовам у пачатку сорак чацвёртага ён чатыры месяцы пракачаўся ў шпіталі, на камісіі яго прызналі нягодным для вайсковай службы: абвастрылася блізарукасць, слых таксама не вызначаўся вастрынёй пасля кантузіі, ды і слабы ён быў, ледзь ад ветру не падаў. Яму прапісалі насіць акуляры, але дзе ты знойдзеш іх. Хадзіў без акуляраў і адчуваў, што бачыць пачынае лепш. А першыя дні нават паплавок то пачынаў дваіцца, то расплываўся і быццам знікаў у тумане.

Валодзька заплюшчваў вочы, падстаўляў твар сонцу, слухаў, як спяваюць птахі: над лугам звінелі, заліваліся жаўрукі, ля Бесядзі пінькалі пліскі, а за рэчкай сыпаў трэлі салоўка, зрэдку абзывалася зязюля — лічыла гады. Валодзька напружана слухаў зязюлю, загінаў пальцы, радаваўся, што яму яшчэ жыць дзесяткі гадоў. Яму хацелася скакаць, спяваць, крычаць на ўвесь голас: «Я жывы! Я буду жыць!» Але блізка была вёска, па беразе швэндаліся малыя, падумаюць: звар'яцеў меншы Бравусаў. І таму Валодзька адно сцішана мармытаў: «Тры танкісты, тры вясёлых друга...» — і закідаў далей сваю вуду.

Неяк уранні ён сказаў маці, што пойдзе ў лес, бо напярэдадні жанчыны гаварылі, што высыпалі баравікі-каласавікі. Маці ўзялася адгаворваць:

— Ай, сынок, не ідзі ты. Ліха з імі, з тымі баравікамі. То міны, то снарады на кожным кроку. У Хатынічах вунь хлопец у полі падарваўся на міне. А ў Бяседавічах надоечы карова ў лесе на міну ўспёрлася...

— Я нюхам чую міны. Ведаю, дзе мы ставілі іх. І

дзе маглі ставіць фрыцы. Я па ўскрайку пахаджу. Паўз Бесядзь. Сянні ветрана. Рыба не будзе лавіцца...

Валодзька ўзяў невялікі кош, прычапіў да рэменя нямецкі кінжал, які спраўна служыў яму яшчэ ў партызанах, і пайшоў. Цераз раку яго перавезлі хлапчукі, што каталіся ў пласкадонцы.

Калі ўвайшоў у лес, дзень пасвятлеў, з-за хмар выбілася сонца. Валодзька п'янеў ад пахаў: цёплы настой смалы-жывіцы аж казытаў у носе, кіславата-рэзка пахлі разагрэтыя мурашнікі, свой апошні водар, тонкі і невыказна прыемны, пасылалі ў паветра ландышы.

А як спявалі птушкі! На ўвесь лес звонка і чыста заліваліся берасцянкі, цінькалі сініцы, чырыкалі, папісквалі невядомыя лясныя пічугі.

Неўзабаве на невялікай палянцы Валодзька ледзь не наступіў на суніцы. Буйныя, спелыя, яны самі прасіліся ў рот. А што за смак быў у іх! Валодзька аж прыжмурыўся ад асалоды. Гаркава-салодкія, незвычайна духмяныя, суніцы проста раставалі ў роце. Нацешыўся ягадамі, успомніў дзяцінства, як бегаў з хлапчукамі па суніцы, як маці залівала ягады малаком, падсыпала цукру, тады ўся іхняя ладная сям'я сёрбала з місы.

Сям'я была немалая — сем душ: два браты, дзве сястры, бацька, маці. А потым бацька не вярнуўся з фінскай вайны, сёстры павыходзілі замуж, братоў узялі ў войска. А ў сорак першым пайшоў і Валодзька. Успамінаць яму пра гэта не хацелася, але думкам не загадаеш, ды і не забываецца пражытае. Ды яшчэ такое...

Маладых хлопцаў збіралі ў лесе пад Лабанаўкай, фарміравалі каманды па сто чалавек — і на ўсход. Ішлі начамі, босыя, галодныя. Шмат было навабранцаў з Белай Гары, з суседніх вёсак. Поплеч тэпаў Пятрок Сахута з Хатыніч. У Петрака былі бацінкі, далёка не новыя, але яшчэ крэпкія, і Валодзька зайздросціў яму. Дзе цяпер Пятрок? Як разышліся іхнія дарогі тады ў Яльцы, так і не бачыліся болей яны з Петраком.

У Яльцы іх абмундзіравалі, падвучылі хадзіць строем, страляць, калоць штыком, рыць акопы. Але на камісіі Валодзьку Бравусава нечакана забракавалі: вочы падвялі. Ніколі не насіў ён акуляраў, у школе бачыў добра, потым здаралася, што пад вечар чамусьці вочы слабелі, яму цяжка было чытаць, але зноў усё праходзіла, зрок аднаўляўся. Збракавалі яшчэ пяць чала-

век з іхняй роты, выпісалі ім накіраванні ў саўгас недалёка ад Арла.

Сустрэў там Бравусаў знаёмага з Лабанаўкі, Паўла, працавалі разам. Але працаваць давялося нядоўга: у кастрычніку немцы захапілі Арол. Вырашылі з Паўлам прабівацца з акружэння дамоў. Удзень ішлі, абыходзячы буйныя вёскі, начавалі ў стагах сена ці саломы, харчаваліся печанай бульбай, бручкай і морквай. Абышлі Трубчэўск. Ужо блізка была Беларусь.

Неяк ранічкай праходзілі яны каля вёскі, вецер дзьмуў у твар, яны не адразу пачулі, што ззаду едзе машына немцаў. Кінуліся ўцякаць у лес, які недалёка цямнеўся. З машыны адкрылі стральбу. Павел упаў, а Валодзька нёсся што вецер, адкуль і спрыт узяўся. Кулі свісталі над галавой, жыкалі, як авадні ў касавіцу. Дабег да лесу, аддыхаўся. Чуў, як загула машына, немцы паехалі далей. У левым рукаве нешта мокра зрабілася, зняў бушлат і вачам не паверыў: гімнасцёрка ў крыві, а болю не адчуваў.

Расшпіліў гузік, пачаў закатваць рукаў, выкацілася куля, а ніжэй локця ўбачыў невялікую ранку. Ён ужо ведаў, што куля пры канцы лёту б'е слаба, прабіла бушлат, гімнасцёрку, а цела ледзь дзеўбанула. Памалу апрануўся, прыхінуўся да дрэва, левую руку падняў угору, трымаючыся за сук. Стаяў, слухаў, ці не паявіцца Павел. Хоць і баяўся, але вырашыў зірнуць, дзе таварыш. Прадраўся між кустоў — здалёк убачыў брудна-зялёны камяк на полі. Падпоўз бліжэй. Павел быў мёртвы.

Пайшоў далей адзін. Надвячоркам прыцягнуўся да нейкай вёсачкі. Схаваўся ля крайняй хаты ў вішанніку, аглядзеўся, падкраўся бліжэй да хлява. З хаты выйшла жанчына ў старой, залатанай куфайцы, захутаная вялікай хустай з махрамі. У хляве зарохкаў парсюк: пачуў, што яму нясуць есці. Жанчына выліла вядро ў карыта, пакрычала на парсюка, што нарабіў гразюкі, не паспявае слаць яму салому. Яна зачыняла хлеў, калі Валодзька ціха паклікаў: «Цётка! Не бойся. Я свой. Немцаў няма ў вас?»

Цётка ўздрыгнула ад нечаканасці, але, прыгледзеўшыся да яго, худога, абраслага салдаціка, супакоілася. «Цяпер няма. Ды могуць паявіцца». — «Дазволь пераначаваць. Уранні пайду». — «Ідзі ты, чалавеча, далей. У мяне дзеці малыя».

Пачуўшы пра дзяцей, Валодзька пасмялеў і ўжо больш настойліва пачаў угаворваць: ён паранены, не мае сілы ісці. «Дык ты яшчэ і паранітьі? — у голасе жанчыны пачуліся жаласлівыя ноткі спачування. — Лезь у паграбню, — яна адчыніла нізкія маленькія дзверцы. — Як дзеці заснуць, тады пазаву».

Стаяла глыбокая восень, ночы халодныя, пранізлівы вецер нястомна гайсаў па зямлі, нібы падмятаў зямлю перад снегам. Валодзька адубеў, лежачы ў паграбні, сесці нават не было як. Нарэшце ціха бразнула клямка, і праз хвіліну нязваны госць апынуўся ў цёплай хаце. У другой палове, за перагародкаю, відаць, спалі дзеці, ля парога, паміж качарэжнікам і печчу, быў палок, завешаны тонкай дзяружкай, акно таксама было завешана хустай, на стале цьмяна гарэла сямілінейная лямпа.

Гаспадыня была без хусты і без куфайкі, і аказалася яна даволі маладой і прывабнай. Валодзька распрануўся, прываліўся да стала. Гаспадыня падсунула яму таз летняй вады. «Памыйся, чалавеча», — падала абмылак чырвонага туалетнага мыла. Пах яго ўразіў Валодзьку — гэта быў пах даўніны, пах мірнага даваеннага жыцця.

На стале тым часам паявілася талерка капусты, засквараная салам, бульба, ужалелая ў печы, міска салёных гуркоў, паўбохана хлеба ўласнай выпечкі і бутэлька, закаркаваная папяровым коркам. Зірнуў Валодзька на стол, і аж усярэдзіне ёкнула ад радасці. Ён прагна сёрбаў капусту. Гаспадыня сядзела напроці, моўчкі пазірала на яго, зрэдку пыталася, адкуль ён, як яго завуць, хто ёсць дома.

А потым сама расказала, што мужа ўзялі яшчэ на фінскую вайну, вясной сорак першага абяцаўся прыехаць у водпуск, але тут пачалася вайна з немцамі, і невядома, ці жывы ён. Валодзька слухаў, п'янеў ад выпітай чаркі, яго хінула ў сон ад цеплыні. Ён ужо засынаў, калі гаспадыня, Зінаіда, узяўшы пад рукі яго, як малога, адвяла на палок.

Прахапіўся Валодзька рана, у жываце было цяжка. Выйшаў на двор. Калі вярнуўся, Зіна стаяла ля парога. «Ну, як ты сябе адчуваеш?» — ціха спытала яна. «Добра». — «Паспі. Яшчэ рана. Пяць гадзін толькі...»

Валодзька прылёг на ранейшае месца, потым пачуў, што побач лягла Зіна, цёплая далонь пагладзіла ягоны

твар. Ён узяў гэтую далонь і пацалаваў — першы раз у жыцці ён цалаваў жаночую руку. Яе цёплыя прагныя губы адшукалі ягоны рот і прыпалі да яго, як у спякотны дзень падарожнік прыпадае да доўгачаканай крыніцы.

Дні праз два, надвячоркам, у хату без стуку ўваліўся здаровы, мардасты мужчына, павітаўся, сеў на лаўку. «Што ў цябе, Зінка, госць?» — «Ды во чалавек їдзе з акружэння. Зайшоў перадыхнуць...» «Адкуль будзеш?» — маленькія вочкі быццам свідравалі Валодзьку. «З-пад Крычава», — неахвотна адказаў ён. «І што, адзін ідзеш?» — «Адзін, таварыш загінуў па дарозе...» — «Так, так, на вайне ўсё бывае», — мужчына глядзеў на Валодзьку, на ягоны бушлат, боты, галіфэ, быццам распранаў яго. Валодзька аж сцепануў плячамі, бы ад холаду, і памацаў кінжал ля рэменя. Чалавек пасядзеў, памаўчаў, потым цяжка падняўся і пайшоў да дзвярэй, кінуўшы «да спатканьня».

Як толькі зачыніліся дзверы, Зіна зашаптала, што гэта страшны чалавек, што ён распранае акружэнцаў, адбірае ўсё, а хто ўпарціцца, дык і забівае. «Ідзі да яго. Ён цябе не ўпусціць. Аддай яму боты, бушлат, галіфэ. Ён што-небудзь дасць апрануць, на нагі нешта... Ідзі, паслухайся мяне...» Валодзька пайшоў. На вуліцы снег выпаў, вецер з поўначы ледзяны дыхае. Увайшоў у хату да гэтага вяскоўца. Мардасты ўхмыльнуўся: «Ну, ты паняў мяне? Маладзец. Распранайся. Анюта! — гукнуў ён жонку. — Давай лапці спляцем. Абуем служывага...»

З другой паловы хаты выйшла дзябёлая жанчына, гладкая з твару, грудастая, сонна пазяхнула, зірнула на Валодзьку, моўчкі дастала з пячуркі крукі з наматанымі вяроўкамі, узялася плесці лапаць. Дастаў крукі і гаспадар. «А ты, служывы, ідзі ў тую хату. Пасядзі троху». Валодзька баязліва пасунуўся ў другі пакой, ступаючы, як па лёдзе, па даматканых ходніках. Тут было вельмі чыста, падлога пафарбаваная — Валодзька бачыў упершыню, каб у вясковай хаце фарбавалі падлогу, на ложку звабна высілася гара бялюткіх падушак.

Сядзеў ён нядоўга, бо лапці былі неўзабаве гатовы. Мардасты даў яму падлатаныя картовыя штаны, латаную куфайку і новыя лапцікі з кужалёвымі анучамі. «Ну во цяпер ніхто да цябе не прычэпіцца. Вясковы хло-

пец. Свой чалавек... Тубылец, а не якая-небудзь набрыдзь, — задаволена хмыкнуў гаспадар. — Ідзі здароў, служывы».

Валодзька выскачыў з гэтай хаты як падсмалены. Хацеў і да Зіны не заходзіць, але ж там застаўся ягоны хатыль, амаль пусты — пару морквін і дзесятак бульбін. Зіна дала яму бохан хлеба і ладны кавалак сала. «Будзеш калі ў нашых мясцінах — заходзь. Хто ведае, як яно павернецца, — Зіна доўга ўглядалася яму ў твар, яе маладыя поўныя губы чамусьці моршчыліся, яна прыхінулася да Валодзькі і моцна пацалавала. — Шчаслівага табе дайсці».

Падарожніку шанцавала. Праўда, у Суражы шчасце ледзь не адвярнулася ад яго. Ён падыходзіў да моста цераз Іпуць, але згледзеў будку і вартаўніка з вінтоўкай, звярнуў на луг. Вартаўнік убачыў яго, давай махаць і крычаць, што будзе страляць. Валодзька скаціўся з насыпу — і ў кусты. Услед пачуліся стрэлы, але кусты былі густыя, за імі пералесак. Маладыя ногі ў новых лёгкіх лапціках уратавалі Валодзьку і на гэты раз.

Праз пару дзён ён датэпаў да Белай Гары. Маці ўзрадавалася сыну. Але і дома ўсё перамянілася: удзень трэ было хавацца ад немцаў і паліцаяў, а ноччу прыходзілі партызаны. «Не ідзі ў лес, сынок. Заб'юць... Мне ўжо ўсё роўна не страшна. А ты ж і не жыў яшчэ... Людзі ведаюць, што параніты, хворы. Сядзі дома...»

І ўсё ж не ўседзеў Валодзька. Гарачы па натуры, ды і не з палахлівых, даўно думаў, як бы патрапіць да партызан.

Вясновым днём сорак трэцяга наехала ў вёску багата партызан, сабралі людзей на мітынг. Расказалі пра бітву пад Масквой, пра Сталінград. Чуткі ўжо дайшлі да людзей, што немцаў моцна пакалашмацілі на Волзе, але хто паверыў, а хто і не. А тут выступае сам партызанскі камандзір дзядзька Антон. Яго ведалі, яму верылі. Валодзька першым падышоў да камандзіра і папрасіўся, каб яго ўзялі.

Хоць і нядоўга вучыўся ён у Яльцы вайсковай справе, але сказаў, што ўдзельнічаў у баях, трапіў у акружэнне. Пасля ўдалай вылазкі на чыгунку Бравусава зрабілі камандзірам аддзялення. А к верасню, калі злучыліся з Чырвонай Арміяй, ён быў ужо камандзірам

узвода, на ягоных грудзях паблісквaў медаль «За адвагу», на твары тапырыліся рудаватыя вусы...

Сонца ўжо звярнула з паўдня, калі Валодзька выйшаў на Ключ, высокі лясісты левы бераг Бесядзі, прысеў адпачыць, зняў кашулю, боты. У кашы было дзесяткі два баравікоў, бледна-карычневых, не такіх, як восеньскія мацакі, але чыстых, не паточаных чарвяком, ладна жаўтлявых лісічак, чырвоных, шэрых і жоўтых маладзенькіх сыраежак, апроч гэтага бялеўся бяросты кулёк, у які Валодзька назбіраў суніц для маці.

Млявая спякотная цішыня панавала вакол, нават птушкі прымоўклі. Адсюль было далёка відно. Але ягоная вёска Белая Гара не праглядвалася, напроці, кіламетры за два, на ўзгорку, атулены маладым густым хвойнікам, стаяў пасёлак Старасельскі. Сюды Валодзька хадзіў да дзевак, сваіх школьных сяброўак. Месячным вясновым вечарам было дужа хораша сядзець тут на лавачцы і абдымацца пад салаўіны цёхкат. Леваруч на ўзгорку зелянелі хатыніцкія прысады. На месцы вёскі сям-там чарнеліся зямлянкі, хлеўчукі, далей у засені дрэў стаялі ацалелыя хаты Канчанскага боку, яшчэ далей за могілкамі ледзь віднеўся пасёлак Мамонаўка-Парцюкоўка.

Прыгадаўся той дзень, як ехалі брадь Вароніна, сустрэча з Іванам Сырадоевым. Валодзька і да гэтага часу шкадаваў, што ўпусцілі тады паліцая. Чамусьці паўстала ў памяці і ягоная жонка, маладая перапалоханая кабета, што загароджвала сабой малых дзяцей...

Успомніўся і другі выпадак. Тое здарэнне амаль што не забывалася, яно жыло ў глыбіні ягонай душы, і як ні стараўся адагнаць успаміны пра гэта, яму не ўдавалася.

Вось і цяпер, гэтакім сонечным днём, калі гэтак ціхамірна на душы, раптам усплыло: той чалавек, які загінуў на тваіх вачах, ніколі ўжо не пачуе птушак, не паспрабуе суніц, жанчыну не пацалуе... І ягоныя дзеці — а дзеці ў яго былі, бо салдат Якаў Рацэеў меў добрых трыццаць гадоў — не ўбачаць бацьку...

Аднекуль прыляцеў авадзень, дзынкнуў ля вуха, што куля, сеў на нагу. Валодзька злаўчыўся і накрыў яго рукой, адарваў адно крыло, спусціўся ўніз да вады, кінуў авадня. Той закружыўся, ліхаманкава працуючы крылом, як вінтом, вакол яго замітусіліся маляўкі, потым шчабоўкнула — і чырванапёры падʼязак, бліснуў-

шы серабрыстым бокам, пайшоў углыбіню. Валодзька аж войкнуў ад здзіўлення, бо ўбачыў цэлую чараду язёў. Трэба насмажыць гароху або хрушчоў налавіць — і сюды, падумаў ён.

Сонца схавалася за воблака, вецер пагнаў па вадзе рабацінне. Валодзька памыўся да пояса, памыў ногі — вада была чыстая, відзён кожны каменьчык на пясчаным дне, пахла яна явара́м, чаротам і водарасцямі, і пакіраваў дахаты. Салдат Рацэеў болей не ўспамінаўся.

Па дарозе Валодзька думаў, разважаў аб далейшым жыцці. Заставацца ў вёсцы яму не хацелася. На працадні не дужа заробіш, а трэба ж нейкую апранаху прыдбаць, бо як парвуцца салдацкія галіфэ, тады хоць свяці голым задам. Усё часцей ён думаў, каб уладкавацца на службу ў раёне: мае шэсць класаў, можа, і яшчэ падвучыцца. Нядоўга ён быў камандзірам аддзялення і ўзвода ў партызанскім атрадзе, у войску таксама нядоўга, але быў памочнікам камандзіра ўзвода, прысвоілі званне старшыны і ўжо ў шпіталі ўручылі ордэн Чырвонай Зоркі за вызваленне Рагачова.

Словам, паспеў Валодзька Бравусаў адчуць слодыч улады над людзьмі: прыемна, калі цябе слухаюцца і баяцца.

Валодзька ішоў паўз Бесядзь уверх па цячэнні і неўзабаве ўбачыў хаты сваёй вёскі. У думках ён цвёрда вырашыў: заўтра пойдзе ў Лабанаўку, бо дома канчаецца соль, а без яе ні рыба, ні грыбы ў рот не лезуць, а галоўнае — пашукаць сабе службу, якую-небудзь пасаду, можа, напачатку і не дужа важную, але ж ён будзе расці. У гэта яму хацелася верыць усёй сваёй маладой, поўнай сілы і энергіі, прагнай да жыцця істотай.

## XIV

Неўзабаве пасля таго як пасеялі гароды, Андрэйкава маці перавезла сямейку на сваё котлішча: Рыпіна ахвяравала стары свіранчык. Дзядзька Арцём, аднарукі Цімох, дзед Гылігор зрабілі новы падмурак, Васька таксама махаў сякераю, як дарослы, — прарэзалі два акны: адно на вуліцу, на Бесядзь, другое — на гарод, на выган.

Потым прыбудавалі трысценчык з жардзін для ка-

ровы і свінчаці, уверсе Васька прыбіў дзве жэрдкі — адну вышэй, другую ніжэй: для курэй. Андрэйка вельмі зайздросціў старэйшаму брату: Васька ездзіў з мужчынамі ў лес, часаў бярвенні, габляваў дошкі. Нават Коля спрабаваў часаць жэрдкі скобляй. Андрэйку і гэтага не дазволілі. Меў ён права толькі збіраць трэскі, ну і, вядома, назіраць за работай, абы пад рукамі не круціўся. І падаваў мужчынам ваду. Піць яны прасілі часта, асабліва пасля абеду, бо маці смажыла ім яечню з салам. Трохі перападала і дзецям.

Неяк зайшоў дзед Гылігор, прыгнуў галаву, сігаючы цераз парог, павітаўся, сеў на лаву пры стале, збітым на козлах.

— Ну што, Каця, як жывеш?

— Ды паціху мадзеем. Хату ўжо маем. Дзякуй за падмогу.

— Хата невялічкая. Катух. Але свой кут... Прыйдзе Мацвей — большую паставіць. Сыны во растуць. Памочнікі бацькавы, — вялікай шурпатай далонню стары пагладзіў Андрэйкаў віхор. — Ета ж у мяне газетка кончылася. Скурыў усю. Дай-ка мне лісцік з численніка...

— Сынок, адарві, — сказала маці.

Андрэйка мігам ускочыў на табурэцік, старанна, роўненька адарваў лісток, на якім чырванелася буйная яркая лічба.

— Адарві яшчэ адзін. Заўтрашні. Мы не спутаемся. Будзем помніць, што панядзелак аддалі, — усміхнулася маці.

— Запомні, Андрэйка, скрысення і панядзелак я скурыў. У панядзелак ты ў маткі есці не прасі, — выскаліў рэдкія жоўтыя зубы дзед, пачухаў злямчаную рыжую бараду.

Праўду кажучы, малому было шкада лісткоў, асабліва з чырвонымі лічбамі — гэтакія прыгожыя яны, вясёлыя, а яшчэ болей радасці, калі побач два лісткі чырвоныя — першае і другое мая, сёмае і восьмае лістапада. Каляндар прыслаў бацька, болей ні ў кога ў вёсцы такога не было — гэта сказаў Коля, а ён усё ведае.

Бацька прыслаў некалькі сшыткаў і нават карабок каляровых алоўкаў: чырвоны, жоўты, сіні, зялёны, карычневы і чорны. Аж шэсць штук! Алоўкі дасталіся Колю, бо яму сёлета ў школу — восем гадоў чалавеку.

Хімічныя алоўкі забраў Васька на чарніла: летась яму даводзілася рабіць яго з сажы. Было тое чарніла рудавата-чорнае, расплывалася на паперы, доўга не сохла.

Прыслаў бацька жменьку солі, цукерак-падушачак, кавалак мыла і тры бляшанкі тушонкі. Андрэйка толькі разы са два і паспрабаваў той кансервы, а то ўсё шчаўе ды бульба.

— Дзеткі любыя, мы як-небудзь перамадзеем. Во людзі будуюць нам трысценчык. Самі яшчэ ў зямлянках сядзяць, а нам пасабляюць. Пакарміць трэба. У рот жа ім глядзець не будзеш, у сабакі вочы пазычыўшы. Плаціць жа ім няма чым. Дык хоць накарміць...

Калі маці сама ела, калі спала, Андрэйка не бачыў. Ён клаўся спаць, яна яшчэ тупала па гаспадарцы, і прачынаўся, калі яна вытапіла печ, бегла на работу ў калгас.

Пра гэта думаў малы Сахута, абкураны густым дымам Гылігоравага самасаду.

— Што ж там чутно на хронце, Аўціхавіч? — пыталася маці.

— Ды во ўпёрся немец на Проні, пад Чавусамі. Стаіць, колам бы ён стаў. Увечары выйду на поле, дык і чутно, як там бухае... Але папруць яго нашы. У райвоне быў надоечы. Кажуць, штоноч усё ідуць на Крычаў эшалоны з танкамі, з гарматамі. Рыхтуецца, відаць, наступленне. А што Мацвей піша?

— Піша, што дамоў пакуль не пушчаюць. Перавялі іх у Бранск. Усё тамацька разбітае. Усё нанава трэба будаваць. Ён там у іх за брыгадзіра. Можа, увосень вырвецца на колькі дзён.

Як чакаў Андрэйка гэтага часу! Так хацелася пабачыць татку. У душы ён баяўся, што не пазнае яго. Ён помніў, нібы праз туман, як бацька браў яго з сабой у поле. Была вясна, бацька вазіў гной. Ён кідаў бярэмца саломы на перадок воза і садзіў на салому Андрэйку. Помніцца, дзень быў светлы, спявалі над полем жаўранкі, бацька таксама нешта напяваў, падганяў пужкай коніка, а той жвава памахваў хвастом, ледзь не даставаў па шчацэ Андрэйку.

У полі татка здымаў сына з воза, браўся за вілы. Згорне кучу гною, ад'язджае, зноў скіне і далей. Малы тупаў услед. Калі воз пусцеў, бацька ўскідаў салому, садзіў на яе Андрэйку — рукі ў яго былі цёплыя і дужыя. Сам сядаў побач, сцёбаў пужкай коніка, і той

порстка бег па выгане, толькіляскаталі блішчастыя, вышараваныя пяском, колы.

Здаецца, усё помніць Андрэйка, а вось твар бацькаў уявіць не можа — расплываецца, і ўсё тут. Так бывае, калі маці набярэ вады ў крыніцы, там яшчэ разыходзяцца хвалі кругамі, і ў гэты час зірнуць уніз, тады не пазнаеш сябе — нос пераламаны, шыя крывая, галава даўжэзная, скасабочаная.

Васька і Коля хваліліся, што помняць бацьку як жывога. Ну, Васька сапраўды ўжо вялікі, яму Андрэйка верыў, а Колевы ўспаміны браў пад сумненне, хаця ўслых не гаварыў пра гэта.

У сваёй хаце жылося куды лепей. Спалі хлопцы на падлозе на вялікім сенніку, накрываліся адной дзяружкай на трох, а маці і Марына спалі на палку, які быў зроблены ад печы да сцяны. У вугле, ля акна на гарод, стаяў стол — мужчыны збілі тры дошкі на козлах. Спалася моцна. Налётаешся за дзень, ног не чуеш. Але раптам пачалі хлопцы брыкацца ноччу, чухацца, раніцай усё цела ў іх было ў чырвоных пухірах.

Аднойчы Андрэйка прачнуўся ад гаманы. У хаце было ўжо відна, у акно ад вуліцы свяціла сонца. Васька і Коля сядзелі без кашуль, нечага ў іх шукалі.

— Во яна, папалася! Блыха! — крыкнуў Коля.

Ён быў самы спрытны і тут. Пакуль цельпукаваты Васька павернецца, дык скочкі і след прастыў, а ад Колі не ўцячэ, ён лавіў іх адну за другой.

— Адкуль яны ўзяліся, каб на іх ліха, — бедавала маці. — Усю зімачку вошай кармілі, а цяпер блохі не даюць збыту. Васілёчак, наламай палыну. Зробім венік. Можа, дадзім рады...

Разоў пяць на дні падмяталі маці і Марына палыновым венікам падлогу. У хаце ўсё прапахла гаркаватап'янкім пахам, скочак, здаецца, паменела. І ўсё ж пад раніцу аднекуль, быццам з засады нападалі на хлопцаў, і тыя прачыналіся пакусаныя, з чырвонымі пухірамі.

— Накасі, Васілёчак, на выгане травы. Пасцялю вам на гарышчы, — сказала маці.

Пайшлі хлопцы на выган. Іржавай, вышчарбленай касой Васька збіваў краскі, Коля з Андрэйкам збіралі іх у мяшок, насілі дамоў. Маці і Марына матычылі ў полі бульбу — лебяда і сурэпка заглушылі яе. Хто ж прынясе траву? Ох, якія ж яны цяжкія, гэтыя краскі!

Андрэйка трымаў мех за хахол-гічку, ішоў наперадзе, а Коля ззаду. Спачатку крочылі даволі шпарка, потым мяшок усё цяжэў, нібы наліваўся волавам, кроплі поту каціліся па твары, траплялі ў рот — пот быў саланаваты і горкі.

— Ну што ты прыстаў? Пляцешся, як сонца ў пятроўку? — паўтарыў Коля матчыну прымаўку, падштурхнуў мяшком Андрэйку ў спіну.

Сказаць бы яму, што цяжка, рукі адрываюцца, але не хочацца прызнацца ў сваёй слабасці, ды і язык быццам распух, не павярнуць у роце.

Раптам ля дарогі з жыта выпырхнуў жаўрук.

— Стой! Кладзі мяшок, — крыкнуў Коля і звярнуў на ўзбочыну.

Мяшок упаў на густы запылены мурог, і, як снопік, бухнуўся на яго Андрэйка. Ад зляжалых красак патыхала гарачым водарам, густым і моцным, аж кружылася галава. Андрэйка ўжо ведаў, што так пахнуць белагаловыя рамонкі. Як называюцца іншыя краскі, ён яшчэ не знаў.

Коля тым часам шнырыў у жыце, шукаў гняздо. О, па гнёздах ён быў спецыяліст! Дзе ён толькі не знаходзіў іх: вясной насіў з лесу сарочыя яйкі, маўляў, яна шкодніца, значыць, яе гнёзды можна разбураць. Прыносіў нечыя буйныя светла-блакітныя яйкі — даставаў у Дубніку з дуплаў: яго тонкая рука праціскалася ў любое дупло. На лузе ён знаходзіў дзесяткі жаўруковых гнёздаў, даўгахвостых сітавак, а ў полі — перапёлчыных. Андрэйка ўжо таксама ведаў яйкі многіх птушак.

На гэты раз Колю не пашанцавала, гнязда ён не знайшоў. Хлопцы зноў узяліся за мяшок.

Дома хацелася Андрэйку чаго-небудзь з'есці. Шукалі яны з Колем праснака, але не знайшлі: маці некуды добра схавала, бо калі праснакі не хаваць, а іх усяго два — на абед адзін і на вячэру, то яны хутка знікнуць: той адшчыкне кавалачак, той скубане — і ўсё. Хлеба Андрэйка даўно ўжо не бачыў. Коля нібы адгадаў яго думкі, уздыхнуў:

— Эх, каб зараз кавалачак хлеба з соллю... Нічога б на свеце не хацеў. Запіў бы вадой. Праўду матка кажа: хлеб, соль ды вада — маладзецкая яда.

Папілі хлапчукі цеплаватай вады, выйшлі на гарод. Адшчыкнулі па стручку гароху, былі тыя амаль яшчэ

пустыя, — з'елі цалкам, не лузгаючы. Цыбуля пажаўцела ўжо, адны цыбукі тырчалі. Пажавалі цыбулі, паморшчыліся і пацягнуліся з мехам на выган.

Ледзь дачакаўся Андрэйка абеду. Пакуль маці налівала ў міскі крупеню, Марына, стомленая, учарнелая ад сонца, разламала праснак на пяць кавалачкаў. Андрэйка пазіраў на сваю дольку, якая была не меншая, чым у іншых, і глытаў слінку.

— Ну, хлопцы, скора бацька прыедзе. Нашы пайшлі ў наступленне. Ужо Магілёў вызвалілі, — сказала Марына.

Коля з праснаком у роце закрычаў «Ура!», а Васька і Андрэйка сёрбалі крупеню, аж насы ўгіналіся, ды лыжкі пастуквалі аб міску.

Маці таксама прысела да стала, зачарпнула лыжку-другую, а Марына не дакранулася да яды, толькі праснака адкусіла кавалачак.

— Нешта мне не хочацца есці, — ціха сказала яна.

«Як гэта можна не хацець есці? — здзівіўся Андрэйка. — Я б зараз цэлы праснак з'еў і міску крупені...»

— Еш, дачушка. Ты зусім высахла. Хто ж цябе замуж такую возьме?

— Ой, мам, тут не да замужжа... Нешта галава мая, як бязмен, цяжкая. У роце ўсё пасохла. Я лепей прылягу трохі...

Раніцай скрозь сон Андрэйка чуў, як маці тоўхала Ваську, а спіць той моцна і храпе ўжо, быццам дарослы мужчына. Ужо Коля прачнуўся, а Васька ніяк не мог абудзіцца, нешта мармытаў, адмахваўся, круціўся з боку на бок, а вачэй не адкрываў.

— Уставай, сынок. Марына захварэла. Павязу яе да доктара. Чуеш, паднімайся! — тузала яго маці.

— Уставай, пяхцер! — не вытрываў Коля і вострым кулачком даў брату пад бок.

Нарэшце раскатурхалі Ваську, маці паказала яму, дзе што стаіць у печы, а сама вывела Марыну на вуліцу, памагла сесці на калёсы. Андрэйка чуў, як застукалі колы.

Вярнулася маці позна. Увайшла ў хату, абвяла яе вачамі, сумна і трывожна паглядзела на дзяцей і села на парог.

— А дзе ж Марына? — падбег да яе Андрэйка.

— Паклалі ў бальніцу. Тыф у яе прызналі. Ой, го-

рачка ж маё, горачка... Як жа цябе перажыць? — маці не плакала, яна моўчкі сядзела, нібы скамянелая, потым устрапянулася: — Андрэйка, любы, дай мне вады.

Малы птушкаю кінуўся да вядра, засіліў абедзвюма рукамі цяжкі карэц вады і паднёс маці. Тая піла, і зубы яе дробненька клацалі аб конаўку.

— Дзякуй, сынок, напілася і палягчэла.

*САКРЭТНА І АСАБІСТА*
*ПРЭЗІДЭНТУ пану Ф. РУЗВЕЛЬТУ*
*АД ПРЭМ'ЕРА І. В. СТАЛІНА*

*Я маю магчымасць паведаміць Вам, што не пазней чым праз тыдзень пачнецца другі тур летняга наступлення савецкіх войск. У гэтым наступленні будуць браць удзел 130 дывізій, уключаючы сюды і бранятанкавыя дывізіі. Я і мае калегі разлічваем на сур'ёзны поспех. Спадзяёмся, што наша наступленне з'явіцца істотнай падтрымкай аперацыям саюзных войск у Францыі і Італіі.*

*21 чэрвеня 1944 года.*

## XV

У Лабанаўцы яшчэ ляжаў снег, калі прыехала жонка Даўгалёва — Люся. Сышла яна з цягніка з невялікім абшарпаным чамаданам і зялёным вайсковым рэчавым мяшком. На ёй было зімовае паліто, мусіць, яшчэ даваеннае, з рыжай лісою на каўняры, салдацкая шапка-вушанка і хромавыя боцікі. І выглядала яна мажнай, тоўстай у гэтакім адзенні і нават незнаёмай, чужой.

Упершыню Даўгалёў убачыў яе ў бялюткім халаціку ў сарапульскім шпіталі, дзе яна служыла медсястрой. Пазнаёміліся, калі пачаў шкандыбаць з мыліцай па калідоры, а потым падоўгу сядзеў ля століка дзяжурнай медсястры. Высокі малады капітан, цяжка паранены — Люся разумела, што нага яго ніколі не будзе згінацца і ў скокі яму не хадзіць, — зацікавіў яе. Яна разумела і тое, што раненні бываюць яшчэ цяжэйшыя, бачыла яна і бязрукіх і бязногіх.

Малады капітан усё болей падабаўся ёй. І калі ў маі, у самы разгар удмурцкай вясны і паводкі на Каме, Даўгалёва выпісалі са шпіталя і ён прапанаваў ёй руку і сэрца, Люся адразу згадзілася. І пачалі яны жыць

у яе маленькім пакойчыку, які яна здымала ў драўляным дамку на беразе Камы.

Пражылі ўсё лета, а ў верасні, як толькі пачуў, што яго родныя мясціны вызвалены, Даўгалёва пацягнула на радзіму. Люся не адгаворвала, бо разумела яго перажыванні.

Не бачыліся яны ўсяго паўгода, а Даўгалёву падалося, што цэлых шэсць гадоў, і цяпер ён спярша нават не пазнаў жонку, пакуль тройчы не пацалаваліся, і ён адчуў знаёмы пах яе валасоў, які не мог перабіць пах чыгуначных вагонаў і вакзалаў.

— А ў вас ужо цёпла. Сонца так прыпякае, — сказала яна, расшпільваючы паліто. — На чым паедзем у горад? Далёка ехаць?

— Ды тут рукой падаць. Пару кіламетраў. Персанальная карэта чакае нас з табой. І персанальная кабыла, — весела сказаў Даўгалёў, бо ў ягонай душы была сапраўдная вясна: прыехала жонка, і скора ён стане бацькам, бо адразу відно, што не ад харчоў добрых патаўсцела Люся. Зрэшты, яна ж пісала яму, што цяжарная.

Цягнік адышоў, праляскаталі вагоны, і тут пачулася ўгары натужлівае гудзенне. Падалося, што зарана прачнуўся хрушч і дзесьці кружыць у вясновым паветры. Але «хрушч» неўзабаве ператварыўся ў цёмны сілуэт самалёта.

Людзі замітусіліся, кінуліся хто куды. Даўгалёў ледзь паспеў адцягнуць Люсю ад рэек, штурхнуў у снег і прыкрыў сваім целам, як раптам завыла ў паветры, нібы заскуголіў галодны сабака, ляснуў выбух, за ім другі. Потым нешта грымнулася на рэйкі, пакацілася па шпалах.

Самалёт хутка знік. Даўгалёў падняў галаву, глядзеў і не верыў сваім вачам: за два крокі ад іх ляжала доўгая і тоўстая, як укормлены падсвінак, бомба. Збялелая Люся выбавілася з-пад яго, а ён не мог падняцца: пачуўся тупы боль у назе ад рэзкага падзення. Ён сеў, паварушыў нагою: пальцы краталіся, значыць, не даламаў. Люся падала яму руку, ён падняўся.

— Ну, Люська, мілая, мабыць, мы з табою не грэшныя... Калі б гэтая штуковіна ўзарвалася, ад нас бы засталіся толькі ўспаміны...

Люся яшчэ болей пабялела, прыхінулася да яго, нібы баючыся, што бомба зараз выбухне.

— Не бойся. Калі яна не ўзарвалася, гэтак ляснуўшыся аб рэйкі, то ўжо і не ўзарвецца. Скажы дзякуй тым, хто яе рабіў. Мусіць, пяску насыпалі замест толу, — Даўгалёў быў памкнуўся да рэек, але Люся пацягнула яго назад.

— Не падыходзь! Можа, яна заведзена на пэўны час? Пайшлі хутчэй адсюль, — і з усяе сілы пацягнула Даўгалёва далей ад станцыі.

Спалоханы конік прыціснуўся да агароджы. Ён, мусіць, моцна рвануўся пасля выбуху, бо слупок, за які быў прывязаны, аж пахіліўся, вазок перакуліўся, але раменныя лейцы вытрымалі.

Потым, калі ўжо ехалі ў райвыканкомаўскім вазку, дарэчы, персанальным транспарце Пракапенкі, які ён не зусім ахвотна даў Даўгалёву, бо збіраўся ехаць на раён, але і адмовіць свайму супрацоўніку не мог, Люся ўсё азіралася, а тады спытала:

— А дзе ж горад?

— Быў горад. Праўда, невялікі, але немцы ўсё разбілі, спалілі. Засталося некалькі цагляных дамоў, драўляныя хаты на ўскрайку.

Люся была родам з-пад Ленінграда, там засталіся яе бацькі, пра лёс якіх яна нічога не ведала, бо ў першыя дні вайны яна, учарашняя дзесяцікласніца, камсамолка, разам з сяброўкамі прыйшла ў ваенкамат. Трапіла ў Смаленск, там была санітаркай у шпіталі. Потым іх шпіталь перавялі ў Сарапул, праз нейкі час Люся стала медсястрой.

— Міша, а як мы будзем жыць? У нас жа дзіця скора паявіцца? Як тут з харчамі? — прыхінулася да яго Люся.

— Я ж паёк атрымліваю. Восемсот грамаў хлеба на дзень, семсот грамаў яечнага парашку, дваццаць пяць грамаў чаю і паўкіло цукру на месяц. Базар зусім блізка ад нашай кватэры, — Міхаіл знарок сказаў нашай кватэры, каб Люся ўжо адчувала сябе гаспадыняй, а не госцяй.

— Базар — гэта вельмі добра. Але ён любіць грошы. Дзе тут бальніца? Далёка?

— Бальніцу нядаўна адкрылі. Штат яшчэ не ўкамплектаваны. Месца табе знойдзецца. Я не хацеў бы, каб ты ішла цяпер на работу.

— Не, уладкавацца трэба цяпер. Як дзіця паявіцца... Ой, Міша, нават не верыцца, што ў нас будзе дзіця! —

Люська цмокнула яго ў шчаку. — Як народзіцца дзіця, тады з месяц пасяджу дома... Сёння напалохалася. Хоць бы не пашкодзіла...

Даўгалёў таксама думаў пра гэта. Яго ахапіла нейкае дзіўнае, нязведанае раней пачуццё: неўзабаве ён стане бацькам, ён, скалечаны вайною капітан Даўгалёў, які дзесяткі разоў мог загінуць і пад Полацкам, і пад Калінінам, мог памерці на ложку ў шпіталі, калі б пачалася гангрэна. Калі б сёння разарвалася бомба... Ён выжыў, будзе мець сына. Хіба гэта не дзіва!

У сям'і Даўгалёў быў малодшым. Старэйшы брат яго загінуў яшчэ ў трыццаць восьмым на возеры Хасан, сястра, якая была замужам у Лясковічах, згарэла там разам з дзецьмі ў гумне, куды немцы сагналі ўсіх жыхароў. Другая сястра жыла разам з маці ў Хатынічах. Стары, нямоглы бацька памёр, не дачакаўшыся вызвалення ад немцаў — зарыва над Лясковічамі спапяліла ягоную душу, у якой яшчэ не загаіўся рубец пасля гібелі старэйшага сына.

Вайна моцна пашчапала Даўгалёва, але не знішчыла яго, і таму ён так радаваўся прыезду жонкі і дзякаваў ад усяе душы тым, хто рабіў нямецкую бомбу.

Гэтая радасць літаральна свяцілася на ягоным твары. Гэта не маглі не заўважыць райвыканкомаўцы. Зайшоў Пракапенка, зірнуў, усміхнуўся, прыгладзіў вусы:

— Бач ты яго, ззяе, як новенькі пятак! Мядовы месяц у цябе, ці што?

— Мядовы месяц быў даўно, Антон Яўсеевіч. А вось жонка прыехала нядаўна.

— Давёз нармальна? Не растрос па дарозе? Як наш конюх капусту?

Гэтую гісторыю Даўгалёў ведаў. Конюх запрог мангольскага коніка — іх прыслалі ў раён некалькі дзесяткаў, — прысадзістага, з доўгай поўсцю, і паехаў на станцыю. Там ён купіў у буфеце вядро капусты, паставіў яго на сані, сам сеў, і тут паравоз, які стаяў на рэйках, даў гудок. Конь аказаўся дзіклівым, упудзіўся і панёс конюха наўскач. Капуста расплёхалася ўся па дарозе, і вядро выкацілася. Сам конюх ледзьве не забіўся, бо сані перакуліліся, конь паламаў аглоблі і ўцёк.

— Давёз нармальна. Бомба толькі напалохала. — Пра выпадак з бомбай ужо ведаў увесь райцэнтр, у ёй

сапраўды замест пораху аказаўся пясок, перамешаны з паперай. — Калі растрасецца, паклічу вас на хрэсьбіны.

— Хочаш, каб я вымову адхапіў? Ды і табе будзе таксама...

— Якія там хрэсьбіны? Я жартую. Заходзьце проста ў госці.

— Прыйду. І не адзін, а з жонкаю. Чакаю гэтымі днямі... Тры гады не бачыліся. Іншы раз думалася, што і не пабачымся... Хоць бы даехалі добра. Лічу дні, гадзіны. — Пракапенка памаўчаў, заклапочана зморшчыў лоб і тут жа светла ўсміхнуўся: — Генка, відаць, ужо ладны хлапец. Гэта мой старэйшы. Улетку дзесяць гадоў будзе. А Вадзіку сем нядаўна споўнілася... Табе, Касьянавіч, гэта цяжка ўявіць. Вось калі сам станеш бацькам ды тры гады не пабачыш... Не, гэтакага ліха я табе не зычу. Скончыцца вайна, усё будзе добра... Што ў нас з пасяўной? Раскідаў план-заданне на ўсіх? А то сёння Лугаўцоў у мяне пытаўся. Праз тыдзень бюро райкома. Зацвярджаць будзем.

Даўгалёў вымушаны быў прызнацца, што яшчэ не паспеў закончыць гэтую работу. Пракапенка не стаў дакараць яго, а сказаў, што падключыць на дапамогу новага загадчыка райземаддзела Кудраўцава, нават сёння скажа яму аб гэтым.

А потым Даўгалёў прыкмеціў, які радасны, вясёлы хадзіў старшыня райвыканкома, калі ягоная сям'я шчасліва дабралася да Лабанаўкі.

Аднаго разу Пракапенка сказаў Даўгалёву:

— Ты ведаеш, што мой Генка адмачыў? Знайшоў скрынку нямецкіх пісталетаў. І дзе ты думаеш? На гарышчы. Залез туды з пракурораВым сынам. Здружыліся ўмомант. Бачаць, пад брызентам скрынка. Адкрылі, а там пісталеты. У вайну ў нашым доме было гестапа. Во драпанулі фрыцы. Усё пакідалі. Пазваніў у міліцыю, прыехалі, забралі. У мяне пісталет яшчэ з партызаншчыны. Але я рэдка бяру яго з сабой... — Пракапенка памаўчаў і дадаў: — Просіцца Генка ў вёску. У Бяседавічы да бабы. Там і ў школу будзе хадзіць. Цешча і кароўку мае. Хай папівае малачко...

Жыццё ўсё мацней, усё больш рашуча і трывала ўсталёўвалася на мірных рэйках.

Люся ўладкавалася на працу ў бальніцу. Хутка перазнаёмілася з суседзямі. Неўзабаве да яе пачалі хадзіць па таблеткі: каму ад галавы, каму ад жывата.

Платы за гэта яна ніякай не брала, і таму яе аўтарытэт і вядомасць раслі вельмі хутка.

Неяк надвячоркам праз адчыненае акно Даўгалёў пачуў размову жанчын:

— Нешта мой Шурык на жывот жаліцца. Іду во да Люські-Даўгаліхі. Можа, якіх таблетак дасць...

Даўгаліха... Ледзь не зарагатаў Міхаіл, бо гэтак у Хатынічах звалі яго маці. Кладучыся спаць, сказаў Люсі:

— Аказваецца, табе ўжо мянушку далі: Даўгаліха.

— Я ўжо ведаю. Не бойся, мяне гэта не крыўдзіць. Раз мянушку далі, значыць, за сваю прызналі... Во паслухай, — Люся ўзяла яго руку і прыклала да свайго жывата. — Чуеш, як трапечацца, разбойнік? Бывае, як варухнецца, дык у мяне ўсё ўнутры заміpae...

Даўгалёў пачуў тугія штуршкі, быццам нейкая рыбіна краталася там, шукаючы выйсця на свабоду. Ён доўга не аднімаў рукі, адчуў, што вочы яго зрабіліся вільготнымі. Пяшчотна, асцярожна цалаваў ён сваю жонку, якую з кожным днём любіў усё мацней, бо раней ведаў яе мала і часта ў ростані, тут у Лабанаўцы, забіралі яго сумненні: ці будуць яны з Люсяй жыць добра.

Цяпер ён ужо не ўяўляў свайго жыцця без Люсі, ласкавай і пяшчотнай, гаспадарлівай і клапатлівай Даўгаліхі.

## XVI

Аднойчы пасля нішчымнага абеду — шчаўе і забялянка, малочны суп, у якім было мо тры крупінкі на ўвесь чыгунок, — Васька сказаў братам:

— Пойдзем у поле. Пражмо будзем есці.

Коля і Андрэйка аж заскакалі ад радасці, бо даўно гэтага чакалі. Васька ўзяў торбачку, з якой звычайна хадзілі рваць шчаўе. Учора яны прынеслі яго шмат, засталося і на заўтра.

Хлопцы гуськом — Васька наперадзе — рушылі па разоры ў поле. Сярод бульбы там-сям паўз мяжу звісалі тоўстыя зялёныя струкі фасолі, цягнуліся даўжэзныя косы гарбузоў з вялікімі жоўта-алымі пяцікутнымі кветкамі-зоркамі. На некаторых косах ужо завязаліся прадаўгаватыя, быццам вялізныя жалуды, гарбузкі.

Бульба яшчэ толькі зацвітала, белыя і фіялетавыя званочкі тырчалі на калівах. У адным месцы ля дарожкі бульба была асабліва высокая, густая і лапушыстая, аж сіняя.

— Козлік, ведаеш, чаму тут бульба такая высокая? — спытаў Васька.

— Мусіць, гной ляжаў...

— Адкуль? Гной мы клалі толькі на гародзе ды пад ячмень. Немец тут пахаваны.

— Які? Той, што з бураком ляжаў? — забег наперад Андрэйка.

— Не, другі. Мы ўтраіх — матка, Марына і я цягнулі яго. Хацелі за дарожку... А ён тоўсты, як жлукта. Марыну пачало рваць... Мы з маткай думалі-думалі, дзе яго дзець. Бульба расла вакол, а ля дарожкі ржэўнік. Мы да ржэўніку датарабанілі фрыца, выкапалі яму і спіхнулі яго туды... Ён мне сніўся летась разы два. Я тады крычаў ноччу...

Васька змоўк. Маўчалі і браты. Андрэйка на дыбачках ступаў па мяжы, нібы ішоў па касцях. Ён нават зірнуў сабе пад ногі, але на цупкай сцежцы нічога не было. Хлопцы выйшлі на дарожку і павярнулі не ўлева, да выгану, а ўправа, дзе быў Шамаўскі ручай, за ім дарога на Белую Гару.

Крынічны ручай прарэзаў сабе глыбокі звілісты роў, дапамагла ў гэтым вясновая вада, якая збягала сюды з усяго поля. Спачатку вада збіралася ў Юрліўцы, нешырокай нізіне з каравымі кусцікамі лазы і алешніку, затым калілася ў роў, які рабіўся ўсё глыбей і шырэй.

Другі раўчук пачынаўся ў Галным балоце, бліжэй да выгану — хатыньчане называлі яго Упярочным ровам. Трохі вышэй таго месца, дзе дарожка падбягала да ручая, абодва раўчукі зліваліся, і акурат тут бруілася крынічка — раўчукі быццам беглі да яе напіцца.

Браты спусціліся ўніз. Коля, канечне, дапяў першым да крыніцы, стаў наўколенцы, абапёрся рукамі, сербануў вады, намачыўшы аблуплены нос. Потым Васька дапамог напіцца Андрэйку, а тады ўжо сам. Піў ён доўга, са смакам.

— Дос, горла будзе балець, — тузануў яго Коля.

— Не будзе, — спакойна адказаў Васька, падняўся, выцер рукавом палатнянай кашулі тоўстыя, нібы прыпухлыя губы. — А цяпер пойдзем у Галнае балота.

Па вузенькай сцежцы, што віляла па нізе Упяроч-

нага рова — улетку было тут суха, — яны рушылі далей. Раўчук усё мялеў, гусцела трава збоч сцежкі, і вось яны выйшлі на роўнае месца — пачалося Галнае балота, нібы зялёная цагліна ляжала сярод поля. Тамсям тырчалі крывыя кусцікі алешніку, блішчалі пад сонцам каржакаватыя лазнякі, хвалямі хадзіў пад ветрам сівец. За балотам сцяною стаяла жыта. Васька вёў туды.

Жыта шапацела ад ветру, быццам каласкі перамаўляліся між сабою, дыхала гарачынёю, трашчалі ў ім, аж захліпаліся, конікі, ярка сінелі галоўкі валошак. Васька сарваў каласок, выкалупаў з яго нібы спавітае зярнятка, мяккае, зеленаватае, укінуў у рот.

— Смаката. Ужо гадзіцца на пражмо.

Хлапчукі хуценька нашчыпалі ў сумку каласкоў з доўгімі сцяблінкамі: каб было за што трымаць каласок на вогнішчы.

— Козлік, збірай сучкі. А ты, Жэўжык, ірві сухую траву. Сычас цяпло раскладзём, — сказаў Васька.

Ён дастаў з кішэні красала — крэмень і жалязяку, кавалак труту, падсунуў бліжэй да сябе кучку рудога альховага лісця, сухой травы і пачаў «красаліць». Стукнуў жалязякай па крэмені — іскры сыпанулі ва ўсе бакі. Красаліць яго навучыў дзядзька Арцём, а курыць цішком хлопец навучыўся сам. Неўзабаве трут задыміўся, успыхнула трава, потым сучкі, і вясёлы агеньчык запалаў на балоце.

Васька задаволена пацёр рукі.

— Ну, цяпло ёсць. Жэўжык, падкладай сучкі, каб не патухла. Мы з Козлікам пойдзем збіраць дровы. Трэба багата назбіраць. Каб прысак быў. Бульбу пячы будзем.

— Што? Якую бульбу? — не паверыў Коля.

— А вось якую, — Васька высыпаў з торбы некалькі клубянькоў па курынаму яйку. — Дванаццаць штук. Нам па дзве, а матцы і Марыне па тры.

— Дзе ты ўзяў? — дапытваўся Коля. — Папсуеш зараз маладую. На зіму нічога не будзе. Скажу матцы, яна табе дасць...

— От, дурны Козлік. А можа, гэта не наша?

— Ну дык — злодзей.

— Я ж не капаў, дурань ты. Дзе ўбачу — трэснула зямля, там і мацаю. І дастаю бульбіну. А куст сабе расце далей. Глядзі тут, Жэўжык. Мы пайшлі.

Але пайшлі браты ў розныя бакі. Васька неўзабаве прынёс цэлае бярэма суčча, падкінуў у агонь, прыціснуў самым тоўстым паленцам і пачаў смажыць каласкі. Абпаленыя духмяныя каласкі ён складваў у кучку. Тут падышоў з бярэмцам сучкоў Коля, і хлопцы ўзяліся за пражмо.

Васька расцёр бязвусы абгарэлы каласок на далоні, дзьмухнуў раз-другі, каб правеялася зерне, і сыпануў яго ў рот, але не ўсё, рэшту даў Андрэйку. Малы кідаў у рот па адным зярнятку, жаваў, адчуваючы гаркавата-салодкі смак, цёплы духмяны пах хлеба.

А потым спяклася бульба. Васька дастаў з торбы коску — кавалачак старой касы з драўлянаю ручкай, старанна абшкрабаў абгарэлыя бульбіны, сам увесь час жаваў зярняткі, адно мерна, як жорны, рухаліся сківіцы. Першую бульбіну разламаў, адкусіў.

— У, гарачая! — выдыхнуў ён струменьчык пары.

— Дай і мне паспрабаваць, — не стрываў Андрэйка, бо ў яго ўжо цяклі слінкі і аж смактала пад лыжачкаю.

Васька абшкроб і падаў яму бульбінку. Яна была гарачая, пякла далоні, перакідваючы яе з адной рукі ў другую, малы падумаў: «Як жа Васька трымаў яе, такую гарачую?» — і з удзячнасцю зірнуў на старэйшага брата.

Коля тым часам ласаваўся пражмом. Нарэшце бульбінка астыла, і Андрэйка пачаў есці. Была яна вадзяністая, нясопкая — ведама, адкуль у ёй быць крухмалу, калі яна недаспела?

І ўсё ж яна была смачная.

Спакон веку голад — найлепшая прыправа да яды.

Хлапчукі наеліся, перапэцкаліся сажаю, вусны былі чорныя, але вочы, нібы гузікі, блішчалі ад задавальнення.

— Во як зловіць нас Цімох, дык будзе... — азваўся неспакойлівы Коля.

Андрэйка міжволі азірнуўся, бо баяўся Цімоха, які быў цяпер за вартаўніка: і лугавога, і палявога, ганяў усіх пастухоў.

— Не зловіць. Яго няма. Сена павёз на станцыю. І я б таксама павёз. Брыгадзір ужо запісаў. А матка не пусціла. Мне, кажа, у бальніцу трэба да Марыны схадзіць, а малых не кінеш на цэлы дзень...

— А мы б адны пабылі, — важна сказаў Коля. —

Праўда, Жэўжык? І курэй дагледзелі б. І кабанку травы прынеслі б...

— Справіліся б самі, — не менш важна адказаў Андрэйка.

— Я не таму не паехаў, — уздыхнуў Васька. — Матка потым сказала: «Ехаць трэба на суткі. А што я табе з сабою дам? Хлеба няма, сала няма...» Вось таму і не паехаў. Нічога. Я ўжо сорак сем працадзён зарабіў... Вунь бульба расце. Я скародзіў яе. Была тады сухмень. Пыл лезе і ў вочы, і ў вушы. На зубах скрыпіць...

Андрэйка прыгадаў, які стомлены, шэры ад пылу прыходзіў тады Васька дадому. Маці падавала яму ручнік і нават змылачак мыла. Васька паважна, нетаропка, як дарослы, ішоў да ракі.

Не ведаў тады Андрэйка, што ягоны старэйшы брат проста не мог ісці хутчэй.

— Ну што, пасля добрага абеда па закону Архімеда трэба закурыць, — Васька дастаў лісток календара, разарваў яго напалам, пацёр сухі карычневы альховы ліст, згарнуў тоўстую самакрутку.

— А хто такі Архімед? — спытаў Андрэйка.

— Хто? — Васька не спяшаўся адказваць, зацягнуўся, зайшоўся ад кашлю, аж слёзы навярнуліся на вачах. — Архімед... Ну, палкаводзец такі быў. Як у нас Сталін. Ну ці Варашылаў. Ён такі закон і прыдумаў. А камандзіраў трэба слухацца.

— А вот і няпраўда! — горача запярэчыў Коля. — Чуў звон, ды не ведаеш, дзе ён.

— О, Жэўжык, глянь ты на Козліка. У школу не ходзіць. Чытаць не ўмее. Бэкае, мэкае, як бычок. І яшчэ са мной спрачаецца.

— І буду спрачацца. Давай аб заклад! На што? — наступаў Коля.

Тут Васька прызадумаўся, ісці ў заклад не кідаўся, бо Козлік гэты і сапраўды можа нешта ведаць, і таму спытаў:

— Ну дык хто ён па-твойму... еты Архімед?

— Вучоны. Ён хацеў зямлю перавярнуць...

Андрэйка аж рот разявіў ад здзіўлення, усклікнуў:

— Дык ён за Гітлера?

— Ды не, — адмахнуўся Коля. — Ён даўно памёр. Я чуў, як Марына аднойчы гаварыла з дзеўкамі: ёй на экзамене еты Архімед папаўся. Білет выцягнула. Яна

ўсё-ўсё пра яго адказала, і ёй пяцёрку паставілі. Яна ж выдатніца.

— І ты ўсё запомніў? — здзівіўся Андрэйка.

— А чаму не? Я магу запомніць усё, што заўгодна. Я ўсе вершы помню, якія Васька вучыў.

Гэта была чыстая праўда. І ніхто не запярэчыў Козліку.

— Пра Архімеда я заўтра спытаю ў Марыны. Я пайду да яе ў Саковічы, — заклапочана сказаў Васька і ўздыхнуў: — Матка наша зусім падбілася... Марына сама ўжо выходзіць з палаты. Аднясу ёй бульбы, каласкоў. Хай здаравее...

Тым часам сонца, чырвонае, вялізнае, ужо нізка вісела над полем.

Хлапчукі пайшлі дадому.

А праз тыдзень маці наварыла чыгунок маладой бульбы. Андрэйка прачнуўся, калі чыгунок ужо стаяў на стале і дыміўся саладкаватаю цёплаю параю. Праз хвіліну хлопцы дружна налягалі на бульбу, сёрбаючы сыраквашу — кіслае малако — з вялікай глінянай місы. Што за смаката — маладая бульба з кіслым малаком! Гэта была любімая ежа братоў, і асабліва — Ваські, хоць на апетыт ён не скардзіўся і за сталом шчыраваў заўзята.

— Ну во, дзеткі, пятроўку-галадоўку перамадзелі. Дачакаліся бульбачкі-мамулечкі. І хлеб скора будзе новы. Можа, Марыну ўжо выпішуць з бальніцы. А там і бацька прыйдзе... І Петрачок, можа, вернецца. Дасць бог, наладзіцца ўсё.

— З галаду цяпер мы не памром. Пражмо ёсць, бульба, гарбузы падрастаюць, — важна, як сталы мужчына, сказаў Васька.

— А я квасолю люблю параную. Мама, стручкі ўжо ладныя. Ці можна ўжо напарыць іх? Так хочацца... — вочы ў Колі аж заблішчалі ад жадання паесці паранай фасолі.

— І я хочу, — падаў голас Андрэйка.

— Хай трошкі падрасце. Як пажаўцеюць стручкі, тады мы іх у чыгун ды ў печ, — паабяцала маці.

Андрэйка адчуваў, што маці радуецца, яна павясялела, і яму ад гэтага было так светла і хораша на душы. Вось толькі адно непакоіла, каб ноччу не было навальніцы, бо ён вельмі баяўся грому і маланкі, што асляпляльна свяціла ў вокны.

*АСАБІСТАЕ І САКРЭТНАЕ ПАСЛАННЕ АД пана ЧЭРЧЫЛЯ МАРШАЛУ СТАЛІНУ*

*З вялікай радасцю я даведаўся аб Вашай слаўнай перамозе — узяцці Мінска — і аб каласальным прасоўванні, якое здзейснілі непераможныя рускія арміі на гэтакім шырокім фронце.*

*5 ліпеня 1944 года.*

## XVII

Старшыня райвыканкома Пракапенка рэдка стыкаўся ў Лабанаўцы — калясіў па раёне. За ім, як і за іншымі раённымі кіраўнікамі, быў замацаваны сельскі Савет з усімі калгасамі. Ён узяў сабе Саковіцкі сельсавет, які лепш ведаў, вёскі там самыя аддаленыя ў раёне, так што ніхто не мог папракнуць Пракапенку, што шукае сабе лягчэйшай долі.

Упаўнаважаны адказваў за ўсё: за ворыва і вываз гною, за сяўбу і касавіцу, здачу сена і хлеба, падпіску на заем-пазыку і выплату падаткаў. Як старшыня райвыканкома ён адказваў за ўсе калгасы, за ўвесь раён, і таму, вярнуўшыся з Саковіч, дзень-два сядзеў у кабінеце, разбіраўся з паперамі, праводзіў нарады, а потым ехаў у іншыя сельсаветы.

Цягнула яго ў Бяседавічы: не мог наглядзецца на свайго старэйшага сына, любіў гаварыць з ім. Сын ахвотна расказваў, як жылі ў Сярэдняй Азіі, як ехалі адтуль, любіў задаваць бацьку пытанні, на якія ён ахвотна адказваў. Што ні кажы, не бачыць тры гады сям'ю, сваіх сыноў, якія за гэты час падраслі, пераменіліся, — тэрмін не маленькі. Прыглядаючыся да Генкі, Пракапенка ўсё больш пераконваўся, як моцна сын падобны на яго. Праўда, часам здавалася, што сын больш падобны на дзеда Яўсея, нават ніжнюю губу сын трохі адтапырваў, як дзед, калі захапляўся нейкай работай.

У вёсцы сын акрыяў, шчокі заружавеліся, хоць і неважнецкі быў харч: бульба скончылася, сала таксама, але малако мелася, цыбулі і шчаўя хапала, а хлеба, бляшанку тушонкі прывозіў ён, бацька. Цешча радавалася кожнаму яго прыезду, святлела ўсохлым маршчакаватым тварам і ў душы ганарылася сваім зяцем, важ-

ным начальнікам, але такім адкрытым, свойскім і клапатлівым чалавекам.

Весялеў, распрамляўся душою і сам Пракапенка: прыезд сям'і — сыноў і жонкі Арыны вельмі ўзрадаваў яго. Ён адчуваў сябе памаладзелым, быццам сілы паболела ў яго, не стамлялі так, як раней, бясконцыя паездкі, начныя пасяджэнні, вялікія і малыя клопаты, якіх багата давала разбураная вайною гаспадарка.

Яшчэ болей павесялеў Пракапенка, калі пачалося наступленне нашых войск, калі тры Беларускія франты пагналі фрыца далей. Усім упаўнаважаным, старшыням сельсаветаў, калгасаў была дадзена дырэктыва — расказваць людзям пра наступленне, чытаць зводкі Інфармбюро аб становішчы на франтах, бо радыё не было, газеты рэдка хто выпісваў.

Неяк Пракапенка вяртаўся з Саковіч у раён, звярнуў у Хатынічы, хоць бальшаком цераз поле шлях быў прамей — адразу на Белую Гару і потым на Лабанаўку. Сонца ледзь звярнула з паўдня, да вечара было яшчэ далёка, але гарачыня ўжо спадала, густыя белыя аблокі наплывалі на сонца, тады і зусім дыхалася лягчэй.

У ацалелым Канчанскім баку па вуліцы хадзілі куры, скублі пыльную мураву падсвінкі. Хоць і непарадак, што свінні ходзяць па вуліцы, але Пракапенку гэта радавала: будзе чым людзям разлічыцца з харчовым агентам і сабе нешта на зуб застанецца. На Шамаўцы, якую выкаціў агонь, сям-там стаялі новыя хаты, хай сабе невялікія, як той катух Кацярыны Сахуты. Усё ж не зямлянка, халодная, сырая. Улетку яшчэ нічога, можна трываць. А зімой?

Ізноў, ізноў думаў Пракапенка пра незвычайную цярплівасць і вынослівасць нашых людзей, пра непаказны іх гераізм, велізарную, але таксама некрыклівую прагу да жыцця.

Ля Шамаўскага ручая мужчыны рамантавалі мост. Пракапенка пазнаў здалёк Арцёма Шандабылу — сам старшыня калгаса махаў сякераю, часаў бервяно, папыхваючы цыгаркаю. Справа быў аб'езд. Пракапенка павярнуў направа, конь пацягнуўся да вады, пачаў прагна піць. Падганяць яго было шкада, Пракапенка саскочыў з калёс, размінаючы ногі, нетаропка падышоў да мужчын.

— Добры дзень вам! — з кожным павітаўся за руку,

адчуваючы поціскі шурпатых, ліпкіх ад смалы далоняў. — Што ён, масток, захістаўся?

— Немцы, як адступалі, разламалі, разварочалі ўсе бярвенні. Тады нашы сапёры на жывую нітку яго залаталі. Дык ён во і захістаўся, як вы кажаце... Не было калі ўзяцца за яго. Яно і цяпер не прадыхнуць. Уранні пакасілі з расою, а тады падзяўблі тут троху, — выціраючы спацелы лоб, сказаў Арцём. — А як звечарэе, прыпадзе раса, пойдзем касіць. Трава вырасла па пояс. А тут зараза етая — ціф наваліўся... Няма людзей. Хоць разарвіся. Бабы косяць. Мы толькі косы паспяваем кляпаць...

— Вольга вунь узялася кляпаць, дык лапатуху нарабіла, — падаў голас дзед Гылігор.

— А куды Цімох глядзеў? — заўсміхаліся мужчыны.

Пракапенка зразумеў, што за гэтым тоіцца нейкая пікантная гісторыя, але дапытвацца не стаў, раскрыў пачак «Казбеку», ад якога прыемна, аж у носе заказытала, патыхнула духмяным тытунём. Да папярос спаважна пацягнуліся рукі, толькі адзін пажылы, сутулы мужчына не зварухнуўся, адно зірнуў на папяросы, і гэты позірк выдаў у ім заядлага курца.

— Калі ласка, частуйцеся, — Пракапенка паднёс і яму пачак.

Той узяў, падзякаваў і адвярнуўся прыкурыць. Пракапенка ўбачыў, як зашушукаліся малыя, што сабраліся тут.

— Ну што, хлопцы, чаму не пасабляеце мост будаваць? — гукнуў Пракапенка.

Хлапчукі разгубіліся, некаторыя нават адбегліся далей, а найбольш смелыя ва ўсе вочы разглядалі дзядзьку ў запыленых бліскучых ботах, галіфэ і фрэнчы, у зялянковай фуражцы без зорачкі. Тое, што мужчыны з ім гэтак віталіся, Арцём стараўся пахваліцца, як яны працуюць, выдавала ў ім начальніка, ды і вазок быў акуратны, на рысорах.

— Мы цялят пасвім, каб у шкоду не лезлі. Луг не таптралі, — адказаў за ўсіх Паўлік.

— Што ж, гэта таксама добрае дзела. Таксама дапамога важная, — пахваліў іх Пракапенка, узяў Арцёмаву сякеру, пакратаў пальцам тонкае лязо, і так яму захацелася абчасаць хоць адно бервяно. — Дазволь, Арцём Іванавіч, размяцца троху, га?

— Паспрабуйце, Антон Яўсеевіч. Толькі сякера даў-

но нявостраная. Затупілася, — ён як бы загадзя апраўдваў госця, калі ў яго кепска атрымаецца.

Пракапенка гэта зразумеў, моўчкі расшпіліў кіцель, падышоў да бервяна з пачатым цёсам, сekануў разы два наперадзе — зрабіў насечкі, каб лягчэй адсякаліся трэскі, і роўна, акуратна пагнаў, як па шнуры, далей. Мужыкі ўглядаліся, ухвальна ківалі галовамі. Дзед Гылігор прыцмокнуў языком і сказаў:

— Хвацка дзюбаеш, таварыш дарагі...

— У вас можна падвучыцца, Антон Яўсеевіч, — задаволена ўсміхнуўся і Арцём, радуючыся, што начальства не падкачала.

— Мой бацька цесляром быў. Я пасабляў яму. Троху і падвучыўся.

Цяпер быў самы момант расказаць мужыкам пра наша наступленне, пра міжнароднае становішча, пра задачы калгаса, ды коратка, каб перакур надта не зацягнуўся. Мужчыны слухалі ўважліва, дзятва лавіла кожнае слова. Андрэйка Сахута аж рот разявіў ад здзіўлення: як гэта чалавек усё гаворыць і гаворыць, і ў кніжку не заглядае, як гэта ён памятае гэтулькі, адкуль ён усё ведае?

Гэтае ўражанне застанецца ў Андрэйкі на доўгія гады.

Калі Пракапенка ад'язджаў, развітаўшыся з усімі за руку, — а дзед Гылігор нават картуз сцягнуў з лысіны і пакланіўся, — Арцём Шандабыла пайшоў услед за возам, каб правесці начальніка, наўмянуць яшчэ раз пра тое, што яму патрэбна замена, бо не разбіраецца ён у гэтых інструкцыях і пастановах. І яшчэ меліся ў яго пытанні.

Пракапенка спыніў каня, каб кульгаваму Арцёму далёка не ісці, і адразу даў адказ наконт першага пытання: працуй, амаль усе старшыні з такой адукацыяй. Тады пасмялелы Арцём загаварыў далей, але ціха, амаль шэптам:

— Вы заўважылі, як дзеці зашапталіся... Ну, калі еты... Куцаёў узяў папяросу. Ён старастам быў пры немцах. І папяроску браць баяўся... Ён мяне прасіў, спытайся, кажа, што са мною будзе? Ён не шкодзіў нам, сыны на хронце. Усё робіць зараз. За траіх працуе. Як бы ета, каб яго не чапалі?

— Не, браток. Тут справа складаная. Пракуратура будзе разбірацца. Будзе суд. Сваё ён атрымае.

— А што мне яму сказаць?

— Так і скажы: хай спакойна працуе. А потым савецкая ўлада будзе разбірацца. Ну, ты ж не маленькі. Лепш яго ведаеш, чым я. От і пагавары...

Ужо вечарэла, калі Пракапенка прыехаў у Лабанаўку. Конюх Нупрэй чакаў яго, адразу распрог каня, кінуў яму бярэмца сена.

— Шукалі тут вас, Антон Яўсеевіч. Жонка ваша прыходзіла. З райкома пыталіся. Званілі ў Саковічы. Там сказалі, што паехалі.

— Шукалі, кажаш? Ну, калі шукаюць, значыць, некаму яшчэ патрэбен...

У Антона Яўсеевіча быў добры настрой, і ўсё ж нешта трывожнае адчулася ўнутры: чаму жонка раптам пачала яго шукаць? Тое, што званілі з райкома, яго не здзівіла. Не заходзячы ў свой кабінет, выйшаў на вуліцу. Акно ў кабінеце Лугаўцова было адчынена. Ён сядзеў за сталом, абклаўшыся паперамі, перабіраў іх, некаторыя рваў і кідаў у сметніцу, якая была амаль поўная ўжо.

— От, добра, што ты зайшоў, — Лугаўцоў падняўся, пацізнуў руку Пракапенку, бо яны не бачыліся тры дні. — Як там справы ў Саковічах?

— Пачалі касавіцу. Трава паўз Бесядзь вымахала ў пояс. Людзей, канечне, мала. Косяць жанчыны, старыя, малыя. Усе, хто можа. І жыта красуе ваўсю. Ячмень цягнецца. Бульба гатова ўжо зацвісці. Як успомню пасяўную, дык аж не верыцца. Як мы сеялі!.. Пад рыдлёўку, матыку. А дажджы прайшлі, прыпарыла — усё расце.

— Я сам учора ездзіў. У трох калгасах пабываў: у «Радзіме», «Парыжскай камуне» і ў «Кранштаце». На пясчаных землях слабавата. Гною ж мелі як кот наплакаў. А ўвогуле няблага. Я таксама ехаў і радаваўся, што недарэмна мы вясну пакутавалі, — Лугаўцоў памаўчаў, твар яго раптам спахмурнеў, ён шкуматнуў нейкую паперчыну, скамячыў і шпурнуў у сметніцу, але прамахнуўся, і папяровы шарык пакаціўся аж пад ногі Пракапенку.

— Што ты гэтак люта паперы нішчыш? — Пракапенка адчуў: ці нешта ўжо здарылася, ці павінна здарыцца, бо Лугаўцоў яўна быў нечым занепакоены. Спытаць у лоб Антон Яўсеевіч не адважыўся, таму папытаў, што на фронце, якія весткі.

— Весткі добрыя, — ажывіўся Лугаўцоў. — Магілёў узялі нашы. Багата немцаў акружылі. Двух генералаў захапілі ў палон.

— Ёлкі-маталкі, дык што ж ты маўчаў! Такая падзея! З дарогі і кропля б не пашкодзіла. Ды за такую навіну, га? — бадзёра ўсклікнуў Пракапенка.

Лугаўцоў дастаў з сейфа пузаты графінчык, дзве лусты хлеба, адкрытую бляшанку кансерваў, наліў у шклянкі, чокнуліся, выпілі.

— Дык чаму ж ты невясёлы? Што-небудзь здарылася, Васіль? — не мог болей трываць Пракапенка, бо невядомасць тачыла сэрца.

— Як табе сказаць, браце? Відаць, давядзецца нам развітвацца. Выклікаюць мяне ў Гомель, у ЦК партыі. Уранні пазваніў з абкома Марчанка. Як жывецца, як працуецца, тары-бары. А тады і кажа: ты сёння нікуды не адлучайся, хочуць пагаварыць з табой з ЦК. Кажу: чаму са мной? Чаму такі гонар? А ён рагоча: сядзіш там позна, працуеш дзень і ноч... Дык мо адпачынак прапануюць? Пуцёўку ў санаторый? Не, кажа, пуцёўку не чакай, а новы раён могуць прапанаваць. Усёк. Нашы наступаюць, вызваляецца тэрыторыя... Пра цябе пытаўся, як ты жыў-здароў, пра сям'ю тваю... А надвечар пазванілі з Гомеля. Праз тры дні каб явіўся... Сказалі заехаць у Крычаў, адтуль будзе машына. Значыць, не аднаго мяне выклікаюць.

— М-да, — уздыхнуў Пракапенка. — Можа, абыдзецца? Пагамоняць ды і адпусцяць. Мы з табой не такія ўжо маладыя.

— А што ты ў сорак гадоў у старыя запісаўся? Затое ж мы — вопытныя. От скажуць так — і ўсё. І табе могуць прапанаваць... Вось я і ачышчаю табе шуфляды...

— Я не надта рвуся на гэтае месца, — стомлена сказаў Пракапенка. — Пакуль ты яшчэ сядзіш за гэтым сталом, хачу параіцца наконт адной перастаноўкі. Кадравай. Патрэбен талковы чалавек на пасаду сакратара райвыканкома. Людзі прыходзяць, скаргі, просьбы. Пагарэльцы касякамі ідуць. Кабета, якая зараз займае месца, па сутнасці, рэгістратар. Нічога яна не вырашае, ні параіць, ні памагчы... Па ёй людзі мяркуюць пра наша кіраўніцтва, пра савецкую ўладу, калі хочаш...

— Ну і што ты прапануеш? — нецярпліва спытаў Лугаўцоў.

— Думаю перавесці на гэтую пасаду Даўгалёва. А планавіка прасіць з вобласці. Хай прышлюць якога эканаміста.

— Што ж, правільна думаеш. Даўгалёў — чалавек сур'ёзны, аўтарытэтны. Франтавік. Падтрымліваю. Жонка прыехала да яго?

— Прыехала. Чакаюць дзіця... Ой, засядзеўся я. Мне ж перадавалі, што мая палавіна шукала мяне...

На гэтым і разышліся.

А дома Пракапенку чакала ўстрывожаная жонка Арына: званілі з Бяседавіч — Генка захварэў на тыф і старая таксама злягла.

— Што рабіць? — стомлена прываліўся да стала. — Можа, зараз ехаць? Але ж конь намучыўся за дзень...

— А ты не намучыўся? Паедзем уранні, — Арына паставіла на стол вячэру.

Спаў Антон Яўсеевіч ноччу дужа кепска: то снілася, што Генку пакусала гадзюка і ён нясе яго на руках у бальніцу, то прыснілася іх партызанская зямлянка, счапіўся з Лугаўцовым спрачацца — трэба ці не трэба ўзрываць мост у Хатынічах. Пракапенка даводзіў, што мост не мае ніякага значэння, любая машына, не кажучы пра танк, можа пераехаць ручай, а Лугаўцоў не згаджаўся: мост нельга пакідаць ворагу... А пад раніцу зноў прысніўся Генка — яны збіраліся вудзіць рыбу, а цешча адгаворвала.

Пабудзіла яго жонка ледзь развіднела.

— Віднее ўжо. Можа, паедзем?.. Сон благі сніўся. Мыю падлогу, а матка ў брудных лапцях нарабіла слядоў. Генка сварыцца на яе, а я сляды замываю. Ой, кепскі сон, — Арына цярнула вочы ражком хусцінкі.

— Ці мала што прысніцца? — устаючы, сказаў ён, пачаў апранацца.

Пра свае сны не стаў гаварыць, бо жонка і так была сама не свая. Ён не верыў ніякім варажбіткам, не верыў у бога, але ў апошнія гады ўсё часцей задумваўся: не можа быць, каб між людзьмі, такімі складанымі, дасканалымі істотамі, не існавала нейкая сувязь, яшчэ не адкрытая навукаю, сувязь на многія сотні кіламетраў, нават незалежная ад адлегласці. Заўсёды помніў, як расказваў партызан-акружэнец: сядзеў ён у акопе, задрамаў, а маці і будзіць яго: «Сынок, мелкі твой акоп. Схавайся ты лепей за кусцік, там сабе акоп выкапай». Ён перабег за кусцік, узяўся за рыдлёўку, і тут ляснуў

выбух, на месцы яго акопчыка ўтварылася глыбокая варонка...

Пракапенка адчуваў, што з Генкам і цешчай справы кепскія, пэўна, яны ў цяжкім стане. Яму хацелася птушкаю ляцець у Бяседавічы, шкадаваў, што не паехаў ноччу. Яму здавалася, што Генка яго вельмі чакаў, можа, клікаў на дапамогу...

Антон Яўсеевіч не памыліўся. Ноччу Генка амаль што не заснуў. Ён ляжаў у школе, на падлозе, на якую накідалі саломы, заслалі дзяружкаю. Покатам ляжалі жанчыны, дзеці. Побач з ім стагнала, кідалася ў гарачцы бабуля. Яна трызніла, цяжка дыхала, часта ўскідвала ўгору рукі, быццам нешта лавіла ці ад некага адбівалася. Потым яна войкнула, схапіла ўнука за руку ля локця, моцна сціснула, бы кляшчамі, і заціхла.

Генка заплакаў, закрычаў.

Прыбегла медсястра, зірнула на бабулю, пачала яго супакойваць:

— Не бойся. Бабуля старэнькая. Яна памерла. Ёй час прыйшоў паміраць. А ты малады, ты будзеш жыць. Не плач, — яна ўзяла ручнік, што ляжаў пад падушкаю, выцерла яму слёзы.

Ад яе пахла лекамі — ёдам і парфумай. Гена памалу супакоіўся, бо сорамна плакаць перад дзяўчынай. А медсястра бінтам падвязала бабулін падбародак, каб не адвальваўся, і пайшла.

Страшна было хлопцу, вусцішна, але пад ранне сон змарыў яго. Прачнуўся ад галасоў, адкрыў вочы і не паверыў: у дзвярах стаяў бацька, з-за яго пляча выглядвала маці.

— Татка! — крыкнуў ён, паспрабаваў падняцца, але ногі не трымалі, падгіналіся. Бацька падхапіў яго на рукі, потым асцярожна паклаў на падушку.

Арына загаласіла над сваёй маці.

— Тата, цёця доктар сказала, што я буду жыць. Ты не бойся. Я не памру. Я лепш сябе адчуваю. Галава ўжо не так баліць. Толькі слабасць ва ўсім целе, — ціха гаварыў Генка, а яго вялікія цёмныя вочы суха блішчалі. — Забяры мяне дамоў... Я папраўлюся. Вось пабачыш, татка, я буду жыць...

## XVIII

Тое лета было багата на грымоты. Быццам само неба ўзлавалася на людзей за грукат, які яны ўсчалі, і паслала на іх перуны. І як надыходзіла ноч, неба ўспыхвала бліскавіцамі. Андрэйка спаў на палку разам з маці, а браты на гарышчы, на столі, як гаварылі хатыньчане. Там было свежае сена, якога накасілі самі і прынеслі.

Часта Андрэйка прачынаўся, бо ў вокны ярка, раз-пораз свяціла маланка. Маці зачыняла юшкаю комін, апраналася, будзіла хлопцаў. Гром яшчэ быў не чуцен, але хмара насоўвалася, маланкі ўсё ярчэй асвятлялі неба, успыхвалі, звіваліся імгненнай стружкаю, даносілася глухое вуркатанне грому. Грукатала ўсё бліжэй, і вось пярун, ад якога, здавалася, бы арэх, раскалолася зямля, ударыў дзесьці побач.

— Уставайце, дзеткі. Ідзіце ў хату, — клікала маці сыноў. — Во пярун смаліць, як з ружжа... І хмара страшная такая, — маці звязвала няхітры скарб сям'і ў клунак, каб можна было выкінуць адразу, калі што якое. — Гані, божачка, ету хмару куды-небудзь на лес, на балота, дзе няма людзей, — шаптала маці, быццам малітву.

Але «божачка» быў такі неслух. Хмара нібы застыла над хатаю, маланкі свісталі безупынку, ляскатаў над прыціхлаю вёскаю пярун.

Маці сядзела над клункам, а да яе цісналіся, бы птушаняты, дзеці. Васька спаў седзячы, Коля стараўся зірнуць у акно — ці не святлее неба, а Андрэйка дрыжаў ад страху. Ён чуў ад маці, што ў Белай Гары маланка спаліла хату, а пад бярозай на саковіцкім шляху забіла жанчыну — яна вярталася з царквы. Андрэйка ніколі не быў у царкве, бо ў Хатынічах яе няма, ніколі не маліўся і не хрысціўся, як і ягоныя браты, але тут ён гатовы быў шаптаць малітву, каб толькі «божачка» пагнаў хмару на лес, на балоты.

Памалу навальніца сціхала, гром вуркатаў усё цішэй і цішэй, быццам і яго браў сон. Хлопцы зноў лезлі на столь. Андрэйка поўз на сваё месца, ныраў пад коўдру, якая яшчэ трымала цеплыню. Маці, не распранаючыся, клалася побач.

Малы засынаў адразу. Калі прачынаўся, сонца было ўжо высока, а яму здавалася, што спаў ён усяго адну хвіліну. І калі гэта сонца паспела гэтак высока ўскарас-

кацца на неба, што і качаргой ужо не дастанеш, — паўтараў ён у думках матчыны словы.

А праз колькі дзён надвечар прыехала Марына. Прывёз яе Арцём, які вазіў да доктара сваю Хадору з малой. Андрэйка глядзеў на сястру і не мог пазнаць яе: нейкая худая чужая дзяўчына з вялікімі сумнымі вачамі ўзяла яго за руку — і рука ў яе тонкая, белая, аж відаць сінія жылкі. А галоўнае, у гэтай «чужой» дзяўчыны не было касы, тоўстай, пушыстай Марынінай касы, якая так падабалася яму.

— Ты што, Андрэйка, не пазнаеш мяне? Ах ты, Жэўжык, малы. Ці ж можна гэтак хутка забыць мяне? — і яна прыхінула брата да сябе, цмокнула ў шчаку.

І пахла ад Марыны незнаёмым, акурат нафталінам з куфра, ак і ад таго параненага салдата. «Мусіць, усе хворыя пахнуць аднолькава. Бальніцаю», — падумаў Андрэйка, яшчэ раз агледзеў Марыну. Яму падалося, што бровы яе пацямнелі, сталі даўжэйшыя, лоб такі ж высокі і чысты, як і быў, а галава паменела — мо таму, што была шчытна завязана пад бараду сіняй хустай у белыя гарохі.

— А каса ў цябе хутка вырасце? — не стрываў, каб не спытаць.

— Ой, сынок, была б галава на плячах, а каса вырасце, усміхнулася маці.

— Андрэйка, ты хочаш, каб зноў была каса? — Марына пяшчотна пагладзіла цёплай лёгкай далонню яго віхор. — Будзе, Жэўжык, каса. Я ж яшчэ не старая, так?

— Ты падобна на школьніцу зараз.

— Не, Андрэйка, у школу болей не буду хадзіць. Мне ўжо дзевятнаццаць гадкоў стукнула... Мама, доктар Ласоўскі прапанаваў мне санітаркаю ў бальніцы працаваць. Што рабіць, як ты думаеш? Згаджацца ці не?

— Глядзі сама, дачушка. Табе відней.

— Сказаў: стала быць, праз тры дні прыходзь... Абаранкі табе, Жэўжык, буду прыносіць.

— А форму салдацкую і сумку с крыжам табе дадуць? Як у той санітаркі, што параненых везла? — спытаў малы.

— Форма ў нас іншая. Белы халат.

«Шкада, — падумаў хлапчук. — Цяпер Марына будзе заўсёды пахнуць бальніцаю... Зато ж абаранкі будуць...»

Тут у хату ўвайшлі Васька і Коля, адразу памкнуліся да Марыны.

— А ты падрос, Козлік, а? — узрадавалася Марына.

— Глядзі, табе да барады дастаю, — Коля прыўзняўся на дыбачкі, пацёрся лбом аб Марынін падбародак.

— Які бальшун! Ну, увосень пойдзеш у школу. Восем гадоў скора. Хопіць лынды біць... Васька, а ты ці чытаў што-небудзь за лета? — павярнулася Марына да Ваські.

— Няма калі мне чытаць. І кніжак у нас няма... — і каб унікнуць гэтай размовы, хлопец узяў вядро і хуценька шуснуў па ваду.

— Вось пайду працаваць... Зараблю грошай. Куплю падручнікі вам, кніг розных, — паабяцала Марына.

«Эх, каб навучыцца чытаць! Я б тады ўсё на свеце ведаў», — падумаў Андрэйка і ўспомніў спрэчку ля вогнішча.

— Марына, а хто такі Ахрымед?

— Хто-хто? — перапытала сястра.

— Архі-мед, Жэўжык, — паправіў Коля.

— А-а... Быў такі вучоны. Вялікі матэматык.

— О, я ж гаварыў! — падскочыў Коля. — А Васька даказваў...

Тут адчыніліся дзверы, на парозе стаяў Васька з поўным вядром вады, у закасаных старэнькіх штоніках. Адну штаніну ён абліў, да мокрай нагі наліпла пяску.

— Сынок, ты ж бы не набіраў так поўна. Ета ж не за грошы. Я і сама б схадзіла, — ласкава пажурыла маці, і ў голасе яе чуўся не дакор, а ўдзячнасць.

— Чуеш, Васька, Архімед быў матэматык, а не маршал, — падбег да яго Коля.

— А я і не казаў, што ён маршал... І мы пра яго яшчэ не праходзілі, — Васька ўзяў сякеру, што стаяла ў кутку пад лавай, дзелавіта пагладзіў трэснутае куртатае тапарышча і крутнуўся за дзверы.

— Пра Архімеда ў пятым ці ў шостым класе вучаць. А Васілёк толькі ў чацвёрты перайшоў, — заступілася за брата Марына.

— Дзеткі мае, не забівайце вы сабе галовачкі етаю навукаю. У нас з яе хлеб есці не будзеш, — маці прысела ля печкі і з радасцю, замілаваннем глядзела на дзяцей і, можа, у душы дзівілася: як яны ацалелі? — А там, можа, і Пятрок вернецца дамоў...

— Дачушка, а што на хронце чутно?

— Драпае немец. Нашы вызвалілі ўсю Беларусь. Ужо з Польшчы фрыцаў гоняць.

— Слава богу! Можа, да зімы і Берлін возьмуць?

— Не, мам, далёка яшчэ да Берліна, — уздыхнула дачка.

— Скарэй бы скончылася етае ліха... Ураджай во сёлета будзе слабы. Спякота. Грыміць ледзь не кожную ночачку. Маладня смаліць безупынку. А дажджу няма. Бульбоўнік ужо сохне. Як нам зімачку перамадзець?

— Нічога, мама. Як усе людзі, так і мы. Вайна скончыцца. Бацька прыйдзе. Зажывём...

У голасе Марыны чулася такая надзея на добрае жыццё, што Андрэйка ўсім маленькім сэрцам паверыў ёй, і яму таксама хацелася чым-небудзь супакоіць маму, але на вуліцы зарыкалі каровы. Маці пайшла сустракаць Красулю. Андрэйка і Коля таксама падаліся за ёй. Пакуль маці даіла карову, хлапчукі лёталі па вуліцы.

Што за асалода бегаць надвячоркам па яшчэ не астылым пяску! У паветры пахне цёплым малаком, расяным бульбоўнікам, прыдарожнымі рамонкамі і пылам, гудуць чорныя, бліскуча-зеленаватыя жукі. Гонішся за ім, нібы ён варожы самалёт, саб'еш, ён варушыцца ў пылу, увесь зробіцца шэры, перапэцкаецца, але яго не забівалі — хай жыве. Нізка над зямлёю лётаюць ластаўкі. О, гэтую не саб'еш і не зловіш! Такія яны прыткія. А вось вуліцу пераходзіць рыжы, як ліса, Арцёмаў кот. З крыкам, піскам пікіруюць на яго ластаўкі. Кот падцінае хвост, аблізваецца і хутчэй хаваецца пад плотам.

Пазней, як ацямнее, гоняць на начлег коней. Табунок іх невялікі, але тупату і пылу даюць на ўсю вёску. Коні фыркаюць, чмыхаюць, за кабыламі стрыгуць ножкамі жарабяткі. Адно жарабё, ад кабылы Куля — той самай, якую выхадзіў дзед Гылігор, — чорнае, белакапытае, на лобе зорачка, асабліва падабаецца хлапчукам.

А калі зусім сцямнее, пачынаюць лётаць кажаны, хутка і бясшумна, толькі мільгаюць у паветры імклівыя цені.

— Давай пасцелем што-небудзь белае, тады кажан сядзе, — гаворыць Коля. — Ідзі папрасі ў Марыны белую хусту.

Андрэйка кіруецца да сваёй хаты, а насустрач выходзіць маці.

— Дзе ты бегаеш, шалапута? А той дзе, непаседа? Заганяць вас трэба. Вячэра ўжо стыне. Хутчэй гукай Колю двору.

— Козлік! — крычыць Андрэйка. — Дамоў! Хутчэй!

Маці паварочваецца ісці ў хату, Андрэйка кідае позірк на лес: ці не відно хмары? Над лесам густы туман, быццам нехта завесіў небакрай даўжэзным ручніком, які імкнецца разадраць дзяргач, бо ў тумане толькі і чутно: драп-драп, драў-драў.

«Калі ноччу будзе навальніца, я не спужаюся, — думае малы. — Марына дома. Нас паболела. А прыйдзе татка, я нічагусенькі не буду баяцца...»

## XIX

Лета прамільгнула неўзаметку. Дні рабіліся карацейшыя, скошаны поплаў рыжэў, за Бесяддзю, дзе быў лясковіцкі луг, сакавіта заблішчала пад сонцам атава. А ў Дубніку трава яшчэ стаяла няскошаная: не паспелі да жніва.

— Так ёй і стаяць там, — пыхкаючы цыгаркаю, сказаў дзядзька Арцём. — На карані ўчаўрэла. Аддалі б нам... Бабы сярпамі пажалі б. І то карысць нейкая. Дык — нельга.

— І ў нас мала сена. Колькі там тае атавы прыпадзе? Ды з яе малака не наясіся. І бульба сёлета, як жалуды. Яшчэ скараспелка была нічога. З вясны дожджык памачваў. Як будзем зімаваць? — уздыхнула маці.

Усе, хто сядзеў у гэты надвячорак на лаўцы ля Арцёмавай хаты — а былі тут, як заўсёды, Хадора, Параска, дзед Гылігор, — загаманілі пра будучую зіму, як яе перажыць. Толькі малая Ксенька тэпала слабымі крываватымі ножкамі па траве, капалася ў пяску, пэцкаючы доўгую кужалёвую кашульку.

— Вечар добры, — пад'ехаў на веласіпедзе настаўнік Пётр Еўдакімавіч, прыхінуў сваю машыну да вугла.

Веласіпедам адразу зацікавілася Ксеня. І Андрэйка вачэй не зводзіў з блішчастых спіцаў, круглых колаў, і хоць вельмі хацелася патрымацца за руль, дзынкнуць званком, падысці не адважыўся.

— Сядайце з намі, Аўдакімавіч, — сказала Хадора, падціскаючы жанчын, каб даць месца настаўніку.

Пётр Еўдакімавіч не спяшаўся садзіцца, аглядаў новую Арцёмаву хату, што яшчэ пахла смалою, свежым мохам, які сям-там выбіваўся між бярвення.

— Ну, Арцём Іванавіч, малайчына. Такую хату адгрукаў, — пахваліў настаўнік.

— Даражэнькі, Аўдакімавіч, брат-значыцца, яшчэ пры немцу я ўструб зрабіў. Стаяў ён на балоце. Дык і не згарэў. А цяперацька во прыбраў за лета. Людзі пасобілі. Аўціхавіч пастараўся, — кіўнуў Арцём на дзеда Гылігора, той крэкнуў, пачухаў бараду.

— Можа, і ты пасобіш мне, калі я буду хату ставіць. Аднаму добра толькі да дзевак хадзіць. Ды і то ў маладыя гады, — дзед Гылігор скруціў цыгарку, папрасіў у Арцёма прыкурыць, бо ў таго ў зубах яшчэ дыміўся недакурак.

— Каб ты здароў быў, Аўціхавіч! Яшчэ пра дзевак успамінае, — упікнула яго Хадора.

— Мужчын цяперацька мала, дык і дзед Гылігор кавалер, — смеючыся сказала Параска, але смех яе быў невясёлы, бо на свайго мужа яшчэ летась атрымала пахаванку.

— Я да цябе з просьбай, Арцём Іванавіч, — настаўнік памаўчаў, быццам не адважваўся выказаць свой клопат. — Прыязджае да нас з Лабанаўкі новая настаўніца. Недзе ж яе трэба ўладкаваць на кватэру. Хата ж у цябе ладная...

— А што яна дзеўка яшчэ? Не замужняя? — спытала Хадора.

— Вы, цётка Хадора, як у ваду глядзелі. Была яна замужам. Сына мае. А муж загінуў, — ціха сказаў Пётр Еўдакімавіч.

Андрэйка ўпершыню так блізка бачыў настаўніка, слухаў яго. Ён нават пра веласіпед забыўся — усё разглядаў употай Пятра Еўдакімавіча, яго боты, з пабялелымі ад расы мысамі, галіфэ, цёмна-сіні, трохі выгаралы за лета кіцель, верхні гаплік каўняра адшпілены, і было відно, як рухаецца на шыі кадык. «Можа, скрылёк бульбіны застраў? — падумаў Андрэйка са спагадлівым пачуццём. — І яму балюча цяпер гаварыць». Але голас у Пятра Еўдакімавіча быў гучны, чысты, хударлявы, гладка паголены твар хоць і быў заклапочаны, але свяціўся ад нейкай вясёлай узрушанасці.

Не мог зразумець тады малы Сахута, што на душы ў настаўніка быў радасны ўздым: пачынаецца новы на-

вучальны год, немца пагналі далей, прысылаюць новую настаўніцу, а гэтага не проста было дамагчыся. Давялося з'ездзіць у райком партыі да Азаравай, растлумачыць сітуацыю: настаўніца Ганна Мікітаўна выйшла замуж, к вясне ў яе, магчыма, паявіцца дзіця, не будзе каму весці ўрокі.

Азарава ўважліва выслухала яго, памаўчала, нешта чырканула сабе ў блакнот.

«А за каго ж яна выйшла?»

«Крамнік Сямён Чукіла ўгаварыў. Малады мужчына, быў на фронце. Вярнуўся дамоў паранены, кантужаны. Ачуняў дома. Ажаніўся».

Пётр Еўдакімавіч не стрымаўся і расказаў гісторыю пра шпалеры, маўляў, вось з чаго пачынаецца каханне. Азарава слухала, усміхалася і сама быццам маладзела на вачах.

«Ну, а як ваша сямейка?»

«Дзякуй, Дар'я Трафімаўна. Расце, прыбаўляецца. Нядаўна сын нарадзіўся. Цяпер у мяне дзве дачкі і два сыны...»

«Ладная ў вас сямейка! — здзівілася Азарава. — Вы ж яшчэ малады. Вучыцца б вам трэба. А то прыедзе які малады хлопец з інстытута, і мы вымушаны будзем яго ставіць дырэктарам. Ды і школу ў Хатынічах з цягам часу адкрыем большую. Сямігодку. Дырэктару сам бог загадаў інстытут канчаць...»

Між тым няспешная гутарка ля Арцёмавай хаты ішла сваім ходам. Арцём Іванавіч нібыта і не пярэчыў супраць таго, каб узяць на кватэру настаўніцу, бо разумеў, што ён, як старшыня калгаса, павінен дапамагаць школе, значыць, і з кватэраю трэба памагчы. Каго ты яшчэ ўгаворыш? Любы скажа: у цябе ж самога новая хата.

Але Хадора апярэдзіла яго:

— Дык у нас жа во малая. Спіць, бывае, ноччу дрэнна. Плача, крычыць. І яшчэ ж у нас двое дзяцей... І школа ад нас далёка, і крама. Можа, там у Канчанскім баку? І Парцюкоўка ж не згарэла.

Тады падала голас Кацярына Сахута:

— А ў старой Рыпіны не пыталіся вы, Аўдакімавіч? Мы зімавалі ў яе ў падсуседзях. А цяперацька яна з дочкамі засталася. Ды я чула, нібыта Нінка яе замуж збіраецца. У Віроўку.

— От добра вы мне падказалі. Там і школа блізка,

і крама. Паеду да Рыпіны, — настаўнік развітаўся, ускочыў на веласіпед і пакаціў.

А ля Арцёмавай хаты да цёмнага яшчэ ішла гутарка: жанкі абмяркоўвалі навіну — Рыпініна дачка ідзе замуж аж у Віроўку.

Ды і нядаўняе вяселле настаўніцы Ганны Мікітаўны таксама яшчэ не забылася.

Андрэйка слухаў іх і дзівіўся: чаму яны не ўспамінаюць пра вайну? Яна ж яшчэ не кончылася, татка і Пятрок не вярнуліся дамоў.

Тым часам Пётр Еўдакімавіч удала выканаў сваю місію: старая Рыпіна згадзілася ўзяць на кватэру новую настаўніцу.

Едучы дамоў, Пётр Еўдакімавіч не стрымаўся і павярнуў да школы. Дзверы яе былі зачынены, але з хаты напроці выйшла Хоўра Ігнатаўна, якая была і прыбіральшчыцаю і вартаўніком, адамкнула.

— Не паспела я сяння памыць мост у класах. Дык вы ўжо не лайце мяне, Аўдакімавіч. Заўтра я ўсё зраблю, — павінілася кабета.

— Дык яшчэ ж ёсць час. Мне захацелася зірнуць, як вокны зашклілі. Ці хапіла шкла?

— Хапіла. Усе пабітыя балонкі памянялі. І я дзве шыбіны ўзяла, што засталіся. Яны ў мяне будуць цалёхенькія. Я не сабе. Не думайце, — Хоўра аблізнула тонкія, усохлыя ўжо губы, зірнула на настаўніка яснымі, як у дзіцяці, вачамі.

— Я так і не падумаў, Хоўра Ігнатаўна. Я ж вас ведаю...

Пётр Еўдакімавіч ужо тупаў па цемнаватым калідорчыку, увайшоў у прыхожую, па сутнасці — вестыбюль, хоць і маленечкі, павярнуў налева ў большы клас, у якім было аж чатыры акны: два на паўночны ўсход, на вёску, і два на паўднёвы ўсход, на Бесядзь, на лес. Тут займаліся з раніцы першакі, а па абедзе — трэцякласнікі.

Нават цяпер, надвячоркам, у класе было відна. Пётр Еўдакімавіч прайшоў між драўляных партаў — пяцьшэсць дзяцей садзіліся за такую парту, канструкцыі дзеда Гылігора і Арцёма Шандабылы, — да акна на Бесядзь, у якім былі разбітыя дзве шыбіны. Цяпер замест іх былі ўстаўлены новыя, падагнаныя шчыльна і нават закітаваныя. Шкло настаўнік раздабыў у раёне — дапамагла Азарава. А ўстаўляў балонкі Сямён-

крамнік са сваім бацькам — у старога Чукілы нават збярогся з даваенных часоў алмаз.

Пётр Еўдакімавіч зірнуў у акно і міжволі залюбаваўся краявідам, што адкрываўся вачам: злева на стромым беразе стаяла бяроза з буслянкаю, бераг ніжэй, бо справа Канчанскі ручай упадаў у раку. Бесядзь была тут шырокая, на тым баку раслі густыя купкі лазняку, бы копы сена, а далей цямнеўся грэбень лесу. Асветленае заходзячым сонцам наваколле здавалася нерэальнай, фантастычна прыгожай карцінай мастака. І мастак гэты — сама прырода-матухна.

Потым Пётр Еўдакімавіч аглядзеў акно ў настаўніцкай. І тут майстры пастараліся, ніводнай шчыліны, ніводнай трэснутай шыбіны: крамнік Сямён стараўся дагадзіць жонцы-настаўніцы, а ягоны бацька — нявестцы.

«Малайчына, Ганна Мікітаўна. Адважылася выйсці за Сямёна, параненага, кантужанага. Мабыць, ёй гаварылі, што Чукілы — скупярдзяі вялікія... А во, глядзі ты, якую работу зрабілі! За дзякуй. Бо плаціць ім няма чым...»

З акна настаўніцкай была добра відаць Бесядзь пасля ўпадзення ў яе Канчанскага ручая, высокі пясчаны бераг, на якім раслі пахіленыя старыя вербы. На гэтым беразе перад вайной вучоныя-археолагі адшукалі стаянку першабытнага чалавека. Далей, уніз па рацэ, кіламетры за два ёсць старажытнае гарадзішча, там яшчэ і зараз можна знайсці крэмневыя сякеры, цёркі, своеасаблівыя малаткі, зубілы.

На ўроку гісторыі ў чацвёртым класе Пётр Еўдакімавіч вадзіў туды вучняў. Як яны слухалі яго! А як старанна шукалі сляды сваіх далёкіх продкаў. Крэмні заўсёды знаходзілі, і не толькі там, а і тут, на хатыніцкім беразе.

Пётр Еўдакімавіч успомніў археолага, што кіраваў раскопкамі. Быў ён ужо сталага веку, невысокі, шыракалобы, хадзіў у старэнькім саламяным капелюшы, сандалях на босую нагу. Часцяком заходзіў ён у школу да Пятра Еўдакімавіча, не раз надвячоркамі сядзелі яны і на ўзгор'і. З педвучылішча Пётр Еўдакімавіч вынес не дужа багаты запас гістарычных ведаў, але цікавасць да гісторыі ў яго была, ва ўсякім разе слухаць ён умеў. Гэта падабалася старому археолагу, які сам нарадзіўся ў тутэйшых мясцінах і хацеў абудзіць у настаўніку пра-

гу да ведаў, да гісторыі свайго краю, а настаўнік зможа перадаць гэта сваім вучням.

— Вось уявіце сабе, малады дружа, — гаварыў археолаг, — што на гэтым месцы, дзе мы сядзім, прыкладна сто тысяч гадоў... Не менш як сто тысяч, а мо і болей. Гэта я кажу на падставе нашых знаходак. Дык вось сядзелі тут першабытныя чалавекі... Пойма Бесядзі адкрывала шырокія далягляды. Калі чалавек быў сыты, ён мог і залюбавацца гэтымі краявідамі. У ім магло прачнуцца жаданне заспяваць, намаляваць нешта, вылепіць з гліны. А мо і нейкае пачуццё любові да сваёй супляменніцы... Можа, ён сказаў ёй нейкія словы, якую-небудзь першабытную элегію стварыў... Месца тут выключнае. Чыстая вада, багатыя лясы. Значыць, рыба, у зарасцях розная дзічына, у лесе звяры, пушніна, арэхі, грыбы...

— Ды і ягады таксама, — нерашуча падаваў голас Пётр Еўдакімавіч.

— Ягады таксама. Улетку, вядома. А грыбы і арэхі збіраліся на зіму... Крэменю ля Бесядзі багата. А гэта вельмі важна. Усе прылады ў каменным веку рабіліся з яго. Я думаю, нашы далёкія прашчуры крэменем гандлявалі. Абменьваліся з іншымі суседзямі... З блізкімі і далёкімі. Майстры тут жылі. За Бесяддзю ёсць вёсачка Гутка. Там калісьці была гутка — фабрыка, дзе рабілі шкло... Вось і цяпер у Саковічах два разы на гаду збіраюцца людзі на кірмаш. З Браншчыны, з Чарнігаўшчыны прыязджаюць. А можа, гэтая традыцыя ідзе ў глыбокую даўніну?

— Ваша праўда. Тут ёсць над чым падумаць, — ажыўляўся Пётр Еўдакімавіч.

— Нашы продкі найчасцей сяліліся паблізу рэк, азёр, крыніц. Летапісец Нестар пісаў, што ў язычніцкія часы славяне маліліся не багам, а рэкам, азёрам. Ля вады ўсе гулянні, скокі адбываліся. Адсюль і паданні розныя пра русалак... У праславянскай мове рака называлася «руса». Можа, адсюль і пайшлі русіны? Значыць, рускія, а потым і беларусы. Вось так, мой дружа...

— Рака, балота дапамагалі абараняць сваё жытло, — смялеў настаўнік, выказваў і свае думкі.

— Абсалютна правільна. Усе крэпасці, як правіла, будаваліся на берагах рэк... Войны пачаліся даўно. Надпісы на камені данеслі да нас вестку аб вайне, якая адбылася трыццаць тры стагоддзі назад. Рамзес, фа-

раон егіпецкі, ваяваў з царом хетаў Хетасарам. Потым яны замірыліся.

— Мая маці на лянівага хітрага чалавека гаварыла: «Во, хваравон які...» А яна ж ніводнай кніжкі не чытала. Адкуль жа прыйшоў гэты «хваравон»?

— Але, цікава паразважаць, пашукаць карані слоў. Дарэчы, Волга ў глыбокай старажытнасці называлася — Ра, а Нёман — Рось... Гісторыя яшчэ поўная загадак...

Можа, таму, што ў Еўропе ўжо шугала полымя вайны, археолаг з сумам і болем зноў загаварыў пра войны, якія вяло чалавецтва, што іх ужо адбылося на зямлі больш як пятнаццаць тысяч. І назвы яны мелі самыя розныя, і прычыны, праз якія ўспыхнулі...

«Дзе цяпер той археолаг? Ці ацалеў ён у агні самай жорсткай і вялікай вайны?..» — падумаў Пётр Еўдакімавіч і спахапіўся: ужо цямнела, а ён не аглядзеў яшчэ вокны другога класа.

Два акны меншага пакоя выходзілі на дарогу, што бегла цераз мост у Мамонаўку-Парцюкоўку. Напроці школы, за дарогай, на пагорку стаялі хаты — тут канчаўся Канчанскі бок. Некалькі дамоў пабудавалі хатыньчане перад вайной паўз ручай, абапал дарогі, што вядзе ў Бярозавае балота, пасёлак Вуглы і на саковіцкі бальшак. Там, у маладым бярэзнічку, стаяла хата і Пятра Еўдакімавіча. Яшчэ перад вайной ён хацеў пабудаваць ля ручая невялічкую лазню, але памагчы не было каму, а ў самога не ставала часу: школа, малыя дзеці — усё гэта забірала час і сілы.

Сонца схавалася за могілкамі, парты ў класе ахутаў паўзмрок. Настаўнік спяшаўся дамоў, хоць яму яшчэ хацелася памарыць: як увойдзе ён сёлета ў клас, як будзе ўглядацца ў твары дзяцей, — усіх ён ведае, бо летась у яго былі першы і трэці класы, значыць, цяпер другі і чацвёрты.

Другі, відаць, ён перадасць новенькай, Валянціне Сцяпанаўне, першы і трэці, пакуль будзе магчы, хай вядзе Ганна Мікітаўна. А сабе возьме чацвёрты, выпускны клас. З ім трэба папрацаваць, каб не сорамна было за вучняў. У пяты клас некаторыя пойдуць у Белую Гару — усе шамаўцы, астатнія — з Канчанскага боку і з Мамонаўкі — цераз Бесядзь у Зарэчча, бо сюды ім бліжэй. Нават рака, гэтакая перашкода, іх не стрымлівае. Затое па лесе хораша прабегчы пару кіла-

метраў, і тут за вялікім лясным возерам ціхая і ўтульная Зарачанская школа.

Як заўсёды, думкі настаўніка скіраваліся ў будучыню, хацелася верыць — блізкую будучыню, калі ў Хатынічах адкрыецца свая сямігодка. Трэба самому вучыцца. Праўду сказала Азарава: прышлюць якога-небудзь хлапчука з інстытута і той пачне дырэктарстваваць.

«Скончыцца вайна, паеду ў Мінск ва універсітэт. Калі жонка адпусціць, дык і на стацыянар паспрабую», — вырашыў для сябе Пётр Еўдакімавіч.

## XX

Неяк прачнуўся Андрэйка раніцай, у хаце было ціха, толькі цікаў стары гадзіннік-ходзікі. Гірка слаба нацягвала ланцужок, таму Васька ў дадатак падвесіў нямецкі кінжал. «Дзе ж хлопцы?» — здзівіўся малы, нацягнуў кужалёвыя падсіненыя штонікі, прыліп да акна.

У хату ўвайшла маці з вядром — карміла парсюка. Яна была ў шэра-зялёным нямецкім кіцелі з закасанымі рукавамі, бо яны былі доўгія, з блішчастымі гузікамі, на якіх шмат нейкіх дробненькіх крапінак, бы наколатых іголкаю. Яна даўно збіралася адпароць гэтыя гузікі, але іншых не мела.

— Заспаў ты сянні, сынок. Хлопцы пайшлі ў школу.

— А чаму не ўзбудзілі мяне? — Андрэйку ад крыўды захацелася плакаць, слёзы навярнуліся на вочы.

— Мой ты любы, як пойдзеш у школу, дык няхоццю будзеш уставаць рана. Запражэшся на дзесяць гадкоў... А спаў ты так соладка. Хлопцы ціхенька сабраліся — і ходу. Ну, мыйся, сядай есці.

Дзён праз колькі, у нядзелю ранічкай, калі не трэба было спяшацца ў школу, Міколка расказаў сон:

— Ой, што мне сянні прыснілася! Усю ночачку буквар чытаў, малюнкі разглядаў. Мой буквар, а не чыйнебудзь. Новенькі. Дайжа лепшы, прыгажэйшы, чымся той, што Ганна Мікітаўна нам паказвала.

— Адкуль жа ён узяўся? З неба зваліўся новенькі буквар? — падсміхнуў Васька, надзяваючы порткі.

— І не з неба. Марына купіла. Можа, і не Марына, я не помню. Ці то бацька прынёс з Саковіч...

Маці завіхалася ля печы, пачула пра Міколкаў сон:
— Ай, сыночак, не бядуй ты пра еты буквар. Я зроду яго не чытала, не бачыла. І ў сне ён не сніўся мне.
— Таму і не сніўся, што не бачыла, — важна сказаў Коля. — А я ж бачыў. Настаўніца паказвала. Ён і стаіць у мяне перад вачамі... Эх, каб мець свой буквар! Я б яго ўвесь прачытаў. На памяць бы вывучыў за тры дні. А тады можна і аддаць назад.
— Навошта аддаваць? — падхваціўся Андрэйка. — Мне ж таксама чытаць трэба...
— Калі пазычаны, дык трэба аддаць, — не пагадзіўся Коля.
— Як я прачытаю, тады, — стаяў на сваім Андрэйка.
— Ну, Жэўжык, ты даеш! Яшчэ літар не ведаеш, а хочаш увесь буквар прачытаць. Думаеш, так проста! — даводзіў Коля.
— А я прачытаю! Я хачу чытаць буквар, — захліпаў Андрэйка.
— Ну во, етага толькі не хапала. Яшчэ паб'яцёся за буквар, якога няма, — маці з чапялой падышла да хлопцаў. — Татачка мой, нябожчык, расказваў, як паляўнічыя збіраліся дзяліць шкуру незабітага мядзведзя, перасварыліся. А мядзведзь тым часам вылез са свайго берлагу і ўцёк... Так і вы. Як пабагацеем, купім буквар. А цяпер скоранька адзявайцеся...
Андрэйку карцела запытацца, ці злавілі паляўнічыя таго мядзведзя, але маці ўжо ляпнула дзвярыма, яе голас пачуўся на двары: цып-цып-цып — склікала яна курэй.
Аднойчы маці сказала:
— Зіма-сібірніца не за гарамі. А дроўцаў у нас малавата. Вада ў Бесядзі паболела. Можна прыгнаць з Бабінай Гары колькі палак. І на хляўчук яны спатрэбяцца.
— Як іх гнаць? А калі зачэпяцца? — дапытваўся Андрэйка.
— Спярша іх трэба напілаваць, сцягнуць да ракі, звязаць. Плыт зрабіць. А тады плыві сабе, як барын, папіхвайся шосцікам, — адказала маці.
Пайшла яна да лесніка Захара Махавікова, каб адвёў дзялянку бліжэй да ракі, бо няма каму траляваць дровы здалёк. Ляснік паслухаўся яе, дазволіў зваліць пяток дрэў на Бабінай Гары.

Некалькі дзён хадзілі яны ўтраіх: маці, Марына і Васька ў лес. Школу Васька прапусціў, за ўрокі і не браўся. А потым пайшлі з вяроўкаю — сплаўляць дровы па рацэ.

Андрэйка ніяк не мог дачакацца, калі прыбяжыць са школы Коля, каб разам з ім ісці да Бесядзі сустракаць плыт. Доўга ім давялося чакаць і на рацэ. А дзень быў ветраны, халодны. Свінцова-цёмная вада плёхалася ў берагі.

Нарэшце з-за Лукі — Бесядзь вільнула да лесу і зрабіла пятлю, нібы напятую цеціву лука, — паказаўся невялікі плыт. На ім важна стаяў з доўгім шостам Васька, а побач сядзела маці. Васька штурхаўся з левага боку, каб прыстаць да берага, але вецер дзьмуў паўночны, ад берага, і цячэнне тут было моцнае — плыт адносіла. Узялася за шосцік і маці. Тут было глыбакавата, цяжка ўпірацца ў дно.

Маці з Васькам упіраліся з усіх сіл, але плыт не слухаўся іх, амаль не набліжаўся да берага. Тады Васька апусціў свой шост з пярэдняга краю. Пад напорам плыта шост рэзка задраўся ўгору, а малы плытагон ледзь не паляцеў у ваду — маці паспела схапіць яго за куфайку. Плыт развярнула, ён трохі наблізіўся да прыбярэжных водарасцяў і задам наперад плыў далей.

На беразе шчытна стаяў алешнік, Коля і Андрэйка бегалі між кустоў і крычалі. Асабліва стараўся Коля.

— Мама, кідай нам канец вяроўкі! Мы будзем цягнуць.

— Каб жа яна была, тая вяроўка. Трымай-ка шост за канец, — маці стала на самы край плыта, падала жэрдку. Коля ўхапіў яе, але не змог утрымаць — жэрдка пляснулася ў ваду, абдаўшы хлапчукоў халоднымі пырскамі.

— От бязрукі, Козлік! — крыкнуў перапалоханы Васька. Але маці супакоіла яго:

— Не крычы. Ціхенька, Колечка, не сунься ў ваду. — Калі спрытны Коля ўсё ж дацягнуўся да жэрдкі, яна параіла: — Андрэйка, вазьміся за алешыну, дай руку Колю. Падтрымай яго.

Андрэйка ўхапіўся за халодны і шурпаты ля камля ствол алешыны, падаў руку Колю і адразу адчуў, як пацягнула яго ў ваду, адчуў, што яго ныя пальцы вось-вось расшчэпяцца, а калі не расшчэпяцца, то ён раз-

дзярэцца напалам. А больш за ўсё баяўся, што яны з Колем сцягнуць маці ў ваду, а яна ж плаваць не ўмее. Плыт павольна набліжаўся да берага. Васька пасмялеў, тут было мялей, зручней адпіхвацца, і ён моцна адштурхнуўся шостам.

— Адпускайце жэрдку! — крыкнула маці. — Цяпер ужо не страшна. Тут вада ціхая. Прыб'ёмся.

Плыт быў зусім блізка, Коля скокнуў на бярвенні, але маці прагнала яго назад, сама саскочыла на бераг. Недалёка ад пераходу Васька ўвагнаў у зямлю калок, прывязаў плыт, жэрдку перасек напалам, між бярвення ў вадзе загнаў яе ў зямлю, каб мацней трымаўся плыт.

На тым баку ракі паказалася Марына, яна несла на руцэ цяжкі кош. Марына стомлена апусцілася на траву, пачала разувацца.

— Дачушка, як жа ты пярэйдзеш? Вада глыбокая і халодная. Пастой, можа, ля кузні човен ёсць. Коля, збегай зірні. Тады гукнеш Ваську, ён перавязе.

— Баюся я ў тым чоўне ехаць, — сказала Марына. — Лепш перайду.

Тады маці загадала хлопцам ісці дамоў, а сама засталася чакаць Марыну. Адыходзячы, Андрэйка азірнуўся: Марына, падняўшы спадніцу, уваходзіла ў ваду, калені ў яе былі чырвоныя, а ногі вышэй белыя-белыя, быццам дзве вялізныя срэбнабокія рыбіны высунуліся з вады.

Сям'я Сахутаў абедала, хлопцы дружна, навыперадкі, сёрбалі гарачую капусту, калі бразнула клямка, пачуўся шоргат ног у сенцах, і ў хату ўвайшоў дзед Гылігор. У рыжай барадзе яго тырчала кароткая саломінка — відаць, рабіў нешта ў хляве, бо і аблавушка была зацярушана сенам.

— Сядай, Аўціхавіч, пасёрбай з намі капусты гарачанькай, — маці паднялася з лавы, даючы старому месца.

— Не, не, Кацярынка, спасібачкі. Я толькі ад свайго стала. Насёрбаўся. Каб чаго мацнейшага, — хітра зірнуў дзед на Марыну. — Можа, якое зелле ёсць ад жывата? Каб прусакі там не завяліся...

— Няма дзед. Не даюць нам цяпер спірту. Строга дужа, — сказала Марына і выйшла з-за стала. — Мама, што будзем рабіць з апенькамі?

— Перакінем іх, памыем. А заўтра ўранні пасмажым. Астатнія ў чыгунок — на абед.

Дзед Гылігор зірнуў у кош, дацягнуўся рукой, дастаў некалькі пяшчотна-жоўтых апенек з таўставатымі ножкамі, дзьмухнуў, мабыць, здуваў пясчынкі, паклаў назад грыбы ў кош.

— Добрыя грыбкі. Тоўсценькія, крамяныя, — дзед выцягнуў з кішэні зашмальцаваны капшук, пачаў скручваць цыгарку. — Ета ж я ўчора іду з лясніцтва... Звярнуў на Бабіну Гару. Стаіць такая сасонка, троху выгнутая, як полаз. На ёй сямейка апенек. Сядзяць сабе, жоўценькія, што кветкі. Вышэй яшчэ сямейка. А ўверсе, як рукой дастаць, яшчэ. У тры паверхі кватэра грыбная. Зрэзаў іх — на скавараду грыбоў. З аднаго дрэва. Не трэба хадзіць, ныкаць па лесе. На пнях трапляліся, а то і так на зямлі сярод лісця. Ды такія чыстыя, крэпенькія. Даўно такіх апенек не было. Хоць на выстаўку іх вязі.

— Дзеду, а як грыбы ўзлезлі на дрэва? — падсеў да яго Андрэйка.

— А ў іх ножкі ёсць. От яны і ўзбеглі, — стары ўсміхнуўся, пусціў клуб шызага дыму. — Ну, ці прыгнала колькі лясін? — павярнуўся да гаспадыні.

— Трохі прыгнала. Можа, якіх два дзесяткі палак. А набраліся страху, Аўціхавіч, па макаўку.

— А хто вас там напужаў? — ажывіўся дзед, нават цыгарку з рота вынуў.

— Звязалі мы сяк-так бярвенцы. Лясіны тыя зыбаюцца пад нагамі, як жывыя. Кажу Ваську: садзіся, сынок, і гані па вадзе. А ён кажа: баюся, мама, я ніколі не ганяў плыты. І Марына: і я не паплыву, баюся. Я й сама зроду не ганяла плыты.

— Ты ж ба мяне папрасіла. Я б і звязаць пасобіў. І прыгнаў бы. Ета ўжо валіць дрэвы, цягаць іх мне не пад сілу. А гатовыя, страляваныя, я ж ба ўвязаў так, што хоць да Гомля гані.

— А мой ты Аўціхавіч даражэнькі. Я ж ведаю, што прыйдзецца прасіць цябе трысценчык еты зрубіць. Можа, яшчэ каго. І Васька пасобіць. І я з Марынай... Ну, дык што ж было рабіць? Сядзім у Бабінай Гары на беразе. І плыток наш нягеглы на вадзе гайдаецца. І мне самой страшна, — цяпер маці гаварыла з усмешкаю, радая, што гэтак удалося прыгнаць бярвенцы, і дровы ёсць, і на хляўчук застанецца. — Тады кажу: давай, Васілёк, мы з табой удваіх паспрабуем. Сталі на плыток, Марына адвязала. Адштурхнуліся мы і

паплылі. Сухастоіны ўвязалі, як бубен, сухія. Трымаецца наш плыток на вадзе, плыве сабе лёгка. Абагнулі мы адно калена, ужо Дубнік блізка. Павесялеў Васька і кажа: мама, ніколечкі не страшна. Так лёгка ідзе наш плыток.

— Калі б мяне ўзялі вясной сплаўшчыкі, дык я б вялікі пагнаў плыт, — расчырванелы, угрэўшыся над капустаю, сказаў Васька.

— Малы ты. Пацанёнак. Паспееш яшчэ. Чаго-чаго, а работы на твой век хопіць. — Дзед Гылігор падняўся і ўжо ля парога сказаў: — Гукай тады, Каця, калі трысцен надумаешся ставіць...

У тую восень рана захаладала. Неяк зірнуў Андрэйка ў акно — поплаў ля Бесядзі зусім белы, стрэхі таксама белыя, а на дарозе снегу няма, і на гародзе зямля чорная, толькі змерзлася камлюкамі, а грады як цагліны зрабіліся.

— Мама, ета снег, ці што?

— Не, сынок, шэрань-сібірнік забяліў зямельку. Марозік ціскануў. Як патаўсцее лёд на лужынах, пойдзем касіць асаку. Што на падсцілку, а што і з'есць Красуля. Як лепшага не будзе, дык з'есць, нідзе не дзенецца.

Андрэйка даўно чакаў снегу, чакаў з радасцю і нецярпеннем: бацька прыслаў яму і Колю буркі з бахіламі, а Ваську салдацкія бацінкі. Так што цяпер ён, Андрэйка, можа катацца цэлымі днямі, бо ўрокі яму рыхтаваць не трэба. Пачуўшы, што маці хоча ведаць, ці моцна замерзлі лужыны, ён вырашыў схадзіць у разведку, але адзін пабаяўся. Чакаў Колю. Той адразу згадзіўся, за якія паўгадзіны зрабіў урокі, і яны памчалі ў разведку.

Амаль насупраць Арцёмавай хаты цераз гароды быў правулак на балота, па выхадзе леваруч зямлянка дзеда Гылігора. «Із-за лесу, із-за гор выйшаў стары Гылігор», — прыгадаў нечую нескладуху Коля, калі шыбавалі правулкам.

— Чаму дзеда ўсе клічуць Гылігорам? — спытаў Андрэйка.

— Хто яго ведае? Можа, ён гусей ганяў і крычаў на іх: «Гыля!» — няпэўна адказаў Коля.

Андрэйка вырашыў спытаць у дзеда, калі той прыйдзе па лісток чысленніка. Хлапчукі якраз ішлі міма Гылігоравай зямлянкі. Сам стары дзёўбаў сякерай —

абчэсваў бярвенне, мабыць, збіраўся з вясны ставіць хату. Браты выбеглі на балота, злева былі курганы — Градзь, туды вяла цупкая сцежка, цяпер коўзкая, мокрая, бо шэрань растаў, нарабіў гразі.

Збоч Градзі амаль да самай Бесядзі ляжала балота, увесну дрыгатлівае, нібы студзень. Гылігораву зямлянку ад Градзі аддзяляў балоцісты перашыек, праз які, перакінулі кладку. У вайну тут узарвалася бомба.

«Няўжо немцам пільна трэба было ўзарваць, разбіць кладку? Мусіць, яны думалі, што тут ходзяць партызаны», — разважаў Андрэйка.

Так было ці не так, а бомба выбухнула, утварылася круглая ямка, улетку заўсёды зацягнутая фіялетава-блішчастаю балотнаю вадою. Цяпер яна замерзла і ззяла пад сонцам, як люстэрка.

Першым на лёд ступіў Коля, тупнуў раз, другі — лёд трымаў, толькі ценелька дзесьці трэснуў ля берага. Асцярожна ступіў і Андрэйка. Крок за крокам хлапчукі смялелі. Лёд быў чысты, гладкі, але гумовыя бахілы не слізгалі, быццам супраціўляліся.

— Не коўзаюцца, — расчаравана сказаў Коля. — Можа, іх зняць? Лёд жа сухі...

Знялі бахілы. Буркі адразу панесліся, нібы іх чым падмазалі. Хлапчукі расчырванеліся і, калі хто падаў, рагаталі да слёз.

Ох, як хораша коўзацца па першым лядку! Разгонішся — і ляціш ад аднаго берага да другога. Лёд усё часцей патрэскваў, але хлапчукі так заюшыліся, што не зважалі на гэта. Першым разганяўся Коля, за ім Андрэйка.

Неяк Коля не даехаў да краю лужыны, а тут яго дагнаў Андрэйка, лёд не вытрымаў двух рызыкантаў, затрашчаў, ва ўсе бакі разбегліся трэшчынкі-маланкі. Коля паспеў скочыць на бераг, Андрэйка адной нагой шчабоўкнуўся па калена. Вада цераз верх палілася ў бурку, і нагу нібы хто сціснуў халоднымі абцугамі.

— Эх ты, Жэўжык! Чаго ты так спяшаўся? — дакараў брата Коля. — Во што цяпер рабіць? Будзе ад маткі...

Андрэйка маўчаў, толькі шморгаў носам. Коля дапамог усцягнуць бахілу на мокры бурак, і яны пацягнуліся дамоў. Стары Гылігор кінуў на іх вокам, зразумеў, у чым справа, пачаў ушчуваць:

— Ну што, абнавіў абутак? Такія бурачкі... Як

лялька. Ні ў кога ў вёсцы такіх няма. А ты іх у лужу... Лёгка дасталіся? Бацька, можа, тры дні не еў, увесь паёк аддаў за іх. От, рэмень па табе плача...

Андрэйка гатовы быў праваліцца скрозь зямлю, але сцежка была тупкая, трымала моцна, не тое што лёд. Хлопцы пацягнуліся дамоў, дзе іх абодвух чакала прачуханка.

Праз колькі дзён, калі памацнеў лёд на лужынах, Кацярына Сахута з сынамі пайшла касіць асаку. Узялі і Андрэйку.

— Васька будзе касіць, а мы выносіць на бераг, — сказала яна хлопцам.

Дзень выдаўся светлы і ціхі. Касыя промні нізкага сонца залівалі наваколле зыркім, сляпучым святлом. Луг серабрыўся шэранем, скаваныя лёдам лужыны адлівалі сталёвым бляскам, быццам вялізныя талеркі. Блішчала каса, што вісела на Васькавым плячы.

Маці ў нязменным салдацкім бушлаце, падперазаным вяровачкай, у разбітых, клееных-пераклееных гумовіках ішла паперадзе, ведучы Андрэйку за руку. На плячы ў яе целяпаліся рэзгіны, нібы складзеныя два крылы нейкага рыбацкага прычындалля.

Коля з Васькам ішлі ззаду. У Колі на худзенькім плечуку паблісквала маленькая сякерка з куртатым тапарышчам: раптам пад лёдам будзе відаць рыбка, то яе можна прыглушыць. Ідучы, браты гучна абмяркоўвалі такую магчымасць, як заўсёды, пачалі спрачацца і ўсё болей адставалі.

Андрэйка шпарка тэпаў у сваіх бурачках, якія добра высахлі, пісягі на заднім месцы ад матузоў таксама сышлі — як і не было таго здарэння каля кладкі.

— Дзеці, пайшлі хутчэй! — гукнула маці сыноў. — Ета ж няблізкі свет. Пад Бабіну Гару. У другі вугал ісці.

Андрэйка ўжо ведаў, што вугламі называліся месцы, дзе рака рабіла петлі, адступала далей ад вёскі. Улетку ён з Колем хадзіў нават у трэці вугал рэзаць лазу на кашы, якой там процьма, расце у тым вугле і прыгожая чырваналозка.

На гэты раз яны далёка не зайшлі. Ледзь перабраліся па кладцы-жэрдачцы цераз Пагон — ручай, які цёк па лузе, месцамі разліваючыся шырокімі затокамі, — і ля Бургаўцовага кургана спыніліся. Тут разляглася доўгая выцягнутая лужа, нібы след ад велі-

зарнага бота. Над лёдам суха і спалохана шамацела асака, быццам скардзілася на сваю долю.

— Васілёк, давай тут і паспрабуем, — маці палажыла на лёд рэзгіны.

Васька замахаў касою, сухая, выпетраная трава з шоргатам клалася ў пакос. Коля стукаў абушком: на лёдзе ўспыхвалі ружова-фіялетавыя, надзвычай маляўнічыя і вясёлыя кругі, нібы крылы казачнай жарптушкі.

— Ой, якія пеўнікі прыгожыя пад лёдам! — здзівіўся Андрэйка.

— Шчупак, шчупак, — крыкнуў Коля.

Васька кінуў касу, падбег да яго.

— Во такенны шчупак! — Коля шырока развёў перад сабою рукі. — Вунь туды жыгнуў. Дзе чарацінка.

З сякерай напагатове Васька асцярожна, на дыбачках ішоў да адзінокай чарацінкі, што самотна зыбалася пад ветрам.

— Глядзі, вунь хвост чорны. Ля casніка, — шаптаў Коля.

Тут і Андрэйка ўбачыў каля чорных кос водарасцяў востры шчупакоў хвост і падзівіўся, чаму рыбка не ўцякае. Васька размахнуўся і гахнуў абухом па лёдзе, потым яшчэ і яшчэ. Чорная трава нібы расступілася, і тоўсты шчупак перавярнуўся жоўтым брухам дагары. Хлопцы заскакалі ад радасці. Васька прасек лёд, дастаў шчупака.

— Глядзі ты, і праўда рыбка, — узрадавалася і маці, узяла шчупака ў руку. — Цяжкі. Больш як хунт пацягне...

— З паўкіло будзе, — тонам сталага рыбака зазначыў Васька.

Ён забыўся пра касьбу, гахаў і гахаў па лёдзе сякераю. Так ён здабыў яшчэ двух ладных шчупачкоў-леташкаў. Маці тым часам сама пакасіла тут асаку, трэба было ісці далей. У другой лужыне Васька касіў, а меншыя браты ўзяліся лавіць рыбу.

— Дай мне стукнуць, — прасіў Колю Андрэйка. — Усё ты... А я ні разу не ўдарыў.

Нарэшце Коля нацешыўся і аддаў сякеру малому. Андрэйка стукнуў па лёдзе і аж падскочыў ад радасці, калі вакол белай падковы-адбітка ўспыхнуў вясёлкавы круг. Але тут чорнай маланкаю жыгнула нейкая рыбка. Коля выхапіў у брата сякеру і пачаў малаціць па лёдзе,

пакуль рыбіна не павярнулася дагары. Гэта быў цёмна-шэры вусаты мянтуз. Неўзабаве яны аглушылі яшчэ двух ментузоў.

Неўзаметку прамільгнуў кароткі восеньскі дзень.

— Пойдзем, дзеткі, двору, — сказала маці. — Асакі вазок назбіралі. Можа, заўтра каня вырву ў брыгадзіра. Дык прывязём. Дасць бог, пераб'ёмся як-небудзь зімачку, — яна паправіла хусту, палінялую, старэнькую, у чорна-белыя вялікія клеткі, зірнула на рыбу, узрадавалася: — Трэба ж так сянні нам падвязло. Насмажым на вячэру. Мучыца ёсць і жменька солі. Паўнюткая скаварада будзе рыбы. Еш ды не хачу... Восенню лацвей жыць. Увосень і кабан паросен...

— Я ўжо хочу есці, — не вытрымаў Андрэйка.

— І я таксама, — уздыхнуў Коля.

Васька стрымана змоўчаў, але ўсе добра ведалі ягоны апетыт.

— Пайшлі хутчэй. Марына, мусіць, вярнулася з дзяжурства, — заспяшалася маці.

Яна расчырванелася ад працы на ветры ды і ўвогуле за восень трохі паздаравела, цёмныя кароткія бровы нібы пагусцелі, і падалося Андрэйку, што і маршчын паменела ля вачэй, такіх добрых матчыных вачэй, якія зараз былі сінія-сінія, быццам увабралі ў сябе блакіт чыстага неба, а іншы раз яны здаваліся то шэрымі, то зеленаватымі.

«Прыгожая наша матка, — думаў Андрэйка. — Хутчэй бы скончылася вайна. Прыйдзе татка. Будзе касіць сена, вазіць дровы. Грошы зарабляць... Васька падрасце, Козлік, я. Мы ўсё будзем рабіць. А матка хай адпачывае...»

Андрэйка ішоў, трымаючыся за матчыну руку, шурпатую ад мазалёў, але такую цёплую і ласкавую, і стараўся забегчы наперад, каб яшчэ раз зазірнуць маці ў твар.

— Мам, бачыш, як Жэўжык шпарыць? Во, рыбкі захацеў, — хіхікнуў Коля.

— Я ўжо чую, як яна пахне, — аблізнуўся Васька.

«Добра было б жыць, каб не хацелася так есці, — думаў Андрэйка. — Каб хлеб заўсёды быў на стале. Захацеў — адрэзаў лусту. Солькі сыпнуў. Вады карэц. І еш сабе, колькі ўлезе... Не, усё-такі добра жыць на свеце. Немцаў няма. Не трэба нікога баяцца... Хутчэй бы вырасці. У школу пайсці. Кніжкі чытаць...»

Андрэйка акінуў вокам вёску. Яна была адсюль — як на далоні. Вось Шамаўская гара, затым мост цераз ручай, потым чарада нізкіх зямлянак і малых хацін, над якімі сям-там чарнелі голыя дрэвы, далей ацалелы Канчанскі бок. За ім садзілася чырвонае набрынялае сонца. Школы не відно было адсюль, толькі бяроза з цёмна-шэраю буслянкаю маячыла на светла-ружовым небе. Але Андрэйка ведаў: пад гэтаю бярозаю стаіць школа, і настане час, калі школа сустрэне яго і ён будзе, таксама як і Коля, прыносіць дамоў толькі пяцёркі.

*Адаслана 9 лістапада 1944 года.*

## *ПРЭЗІДЭНТУ РУЗВЕЛЬТУ*

*Вашынгтон*

*Шлю Вам свае віншаванні з выпадку Вашага пераабрання. Упэўнены, што пад Вашым выпрабаваным кіраўніцтвам амерыканскі народ завершыць разам з народамі Савецкага Саюза, Вялікабрытаніі і іншых дэмакратычных краін справу барацьбы супраць агульнага ворага і забяспечыць перамогу ў імя вызвалення чалавецтва ад нацысцкай тыраніі.*

*І. Сталін.*

*Атрымана 11 лістапада 1944 года.*

## *АСАБІСТА АД ПРЭЗІДЭНТА ДЛЯ МАРШАЛА СТАЛІНА*

*Я быў вельмі рады атрымаць Ваша віншавальнае пасланне і шчаслівы, што Вы і я можам працягваць сумесна з нашымі саюзнікамі знішчаць нацысцкіх тыранаў і ўсталяваць працяглы перыяд міру, у час якога ўсе нашы народы, вызваленыя ад нягод вайны, змогуць дасягнуць больш высокай ступені развіцця і культуры, кожны ў адпаведнасці са сваімі ўласнымі імкненнямі.*

# XXI

Ужо чатыры месяцы Валодзька Бравусаў працаваў у лабанаўскай міліцыі, насіў пагоны старшыны і фуражку з малінавым аколышам. Маці расплакалася ад

радасці, калі ён прыехаў у вёску ў поўнай форме, падаўся ён і вышэй ростам, у плячах шырэй і з твару гладкім. Падрос ён, відаць, толькі ў матчыных вачах, а што пагладжэў з твару, то гэта была праўда. Акрыяў Валодзька, адчуў сілу, высока насіў галаву ў прыгожай фуражцы.

Начальнік міліцыі маёр Гоманаў, немалады ўжо, у цёмных акулярах і са шрамам на лобе — асколак драпануў яго пад Сталінградам, неяк адразу палюбіў Валодзьку, як сына. На свайго сына Гоманаў атрымаў пахаванку — загінуў на Проні, пад Чавусамі. Здаралася, даваў начальнік прачуханкі Валодзьку за ліхацтва, неабдуманасць яго дзеянняў, але потым, як праходзіла злосць, гаварыў:

— Вучыся працаваць, Бравусаў. Я думаю атэставаць цябе на афіцэрскае званне. Прызначым участковым. Будзеш адказваць за дзесяткі населеных пунктаў. Участковы павінен ведаць законы, пастановы. Ён — прадстаўнік Савецкай улады.

Бравусаў вучыўся. Перш за ўсё — страляць з пісталета. Нікому не прызнаўся, што некалі яго камісавалі па вачах з арміі, хадзіў без акуляраў, і вочы не падводзілі, асабліва ўдалечыню ён бачыў добра, а вось калі чытаў, даводзілася схіляцца нізка. Ён клаў паперу на стол, уставаў і чытаў. Так ён рабіў, калі быў не адзін. Дома ў маці або на сваёй лабанаўскай кватэры ён сядаў бліжэй да акна і зубрыў Крымінальны кодэкс: трэба ведаць, за што можна затрымаць чалавека, які штраф належыць самавольнаму парубшчыку лесу і самагоншчыку, якое пакаранне спекулянту і дэзерціру. Даводзілася яму лавіць і спекулянтаў, і дэзерціраў, якія мелі пры сабе зброю.

Вось і нядаўняе здарэнне, яшчэ свежае ў памяці. Ён дзяжурыў, калі ўранні прыбегла з вёскі Загор'е Тамара Мацкевіч, інструктар райкома камсамола, са слязьмі на вачах: у цётчынай хаце дэзерцір хаваецца. Бравусаў пазваніў начальніку міліцыі. Загад быў кароткі: бяры трох чалавек і неадкладна едзь у Загор'е.

«Зброю прымяняць можна?» — «Раз ён узброены, значыць, можна. Пастарайцеся ўзяць жывым. Не страляйце першымі. Не рабіце лішне шуму...»

Па дарозе Бравусаў распытаў у дзяўчыны, як яна даведалася пра гэта. Вось што яна расказала.

Прыйшлі яны пехатою ў вёску, разам з ёю — загад-

чык аддзела агітацыі і прапаганды райкома партыі Ніна Гаўрыленка. Дарога восеньская, гразюка, лужыны. Прыйшлі позна, стаміліся. У Ніны Гаўрыленка туфлі былі велікаватыя — выдалі па ЮНРРА,— яна падвязвала іх стужкамі. У вёсцы зайшлі да Тамарынай цёткі, тая дала ім павячэраць. Ніна, змораная, адразу заснула, тады ўвайшоў у хату няголены, аброслы мужчына на падпітку. Цётка сказала, што гэта яе пляменніца з сяброўкай. «А дзе працуе яе сяброўка?» Тамара вазьмі ды і скажы: у райкоме партыі. Як падхапіўся ён і да Ніны: задушу бальшавіцкую шлюндру. Яны з цёткай трымаць яго. Ніна прачнулася, паглядзела на яго і зноў заснула. Тамара дачакалася раніцы і пабегла ў міліцыю.

Прыехалі ў Загор'е яны апоўдні. Ніны Гаўрыленка не было — пайшла ў кантору калгаса. Цётка, бледная, перапалоханая, сказала, што яе госць спіць на гарышчы. Бравусаў пачуў, як закудахталі ў хляве куры. Міліцыянеры акружылі хату і хлеў.

Бравусаў стаіўся за вуглом, пачуў шамаценне саломы, лёгкі трэск: ён зразумеў, што незнаёмец прадзірае страху, — і тут жа аброслы мужчына ў куфайцы гопнуўся на зямлю і кінуўся бегчы. «Стой! Страляць буду!» — крыкнуў Бравусаў. Уцякач спыніўся, азірнуўся, ссутуліўся, неяк згорбіўся адразу і падняў рукі ўгору.

Начальнік міліцыі пахваліў Бравусава за ўдалую аперацыю і спытаў:

— А што вам расказала Гаўрыленка? Сапраўды ён пагражаў ёй?

— Не ведаю. Мы не знайшлі яе. Пайшла яна па вёсцы. Яна ж упаўнаважаная. Ды навошта яе паказанні? Злавілі ж яго, — Бравусаў пераступаў з нагі на нагу, як застаялы конь.

— Ну, дзівак ты, Бравусаў. Калі ён сапраўды пагражаў упаўнаважанаму, дык яму большае пакаранне належыць. А па-другое, гэтая пляменніца, можа, даўно ведала, каго цётка хавае, і маўчала. А цяпер вымушана была бегчы да нас, бо ён сам сябе выдаў. Справай гэтай займецца следчы. Але на будучае запомні: заўсёды трэба ўсіх апытаць на месцы, скласці акт, каб людзі падпісаліся. Потым працей разблытаць справу. А цяпер ідзі адпачывай, — начальнік падаў яму руку.

Старшына міліцыі ацаніў гэта як падзяку за добрую службу.

Неўзабаве Бравусаў атрымаў новае заданне: арышта-

ваць хатыніцкага старасту Куцаёва. «Нарэшце забрытаю яго. Хопіць яму гуляць на свабодзе», — падумаў ён і не стрымаўся, каб не спытаць:

— Калі ўцякаць надумае, можна зброю?.. Ну, страляць можна?

— Куды ён уцячэ? Каб думаў ён гэта рабіць, даўно б збег. Варонін жа нас не чакаў. Разам з немцамі драпануў. — Начальнік памаўчаў, быццам нешта прыгадваў. — У Куцаёва два сыны на фронце. Так што дужа не хапайся за пісталет... Паедзеш з Міхалёвым.

— Зразумеў. Даставім чынна і культурна.

— Добра. Дзейнічай, — усміхнуўся начальнік.

Паездка ў Хатынічы выклікала цэлы рой згадак. Успомніўся Іван Сырадоеў. Дзе-то ж ён ваюе зараз? А мо адваяваўся? І знайшоў сабе вечны супакой... Выплыла з памяці, як марозным ранкам у хвойнічку пад Рагачовам хавалі васьмярых салдат са свайго ўзвода. Калі выкапалі магілу — зямля была мяккая, зверху трохі схопленая марозам, а далей жаўтлявы пясочак, — сяржант Дарэнскіх, немалады ўжо сібірак, закурыў цыгарку, прагна зацягнуўся, хмурна паглядзеў на трупы салдат, перавёў позірк на гурбу свежай зямлі:

— Месца добрае. Будуць ляжаць хлопцы, як у пярыне... А то во сам не ведаеш, дзе ляжаш. Мо ў балоце якім... У багне згніеш...

— Якая розніца, дзе ляжаць? — разняў абсівераныя, патрэсканыя губы Іван Сырадоеў. — Жыць не ўсё роўна дзе. А ляжаць...

— Э, браток, і ляжаць не ўсё роўна. Ты яшчэ зялёны. А як дажывеш да маёй саракоўкі, дойдзе да цябе, што і памерці хочацца на радзіме. Дзе бацькоўскія магілкі. Там карэнне. Там і спачываць лепей...

— Ну, хопіць балбатні. Развялі анцімонію, — як старшы па званню, рашуча сказаў Бравусаў. — Канчаць трэба.

У маўклівай цішы апускалі ў магілу трупы салдат. Калі дайшла чарга да Якава Рацэева, калі ўбачыў Бравусаў яго жоўта-сіні твар, пашкуматаны асколкамі скрываўлены бушлат, з якога тырчалі ашмоткі ваты, — адвярнуўся, схапіўся за жывот і пасунуўся як не сваімі нагамі пад хвойкі. Яго пачало ванітаваць. Бравусаў доўга корчыўся ў сударгах. Дарэнскіх таўхануў яго ў плячо, падсунуў флягу:

— Глыні кроплю. Адразу палягчэе.

Бравусаў выпіў, перавёў дых, прахрыпеў:

— З'еў нечага. Можа, кансерва пашкодзіла...

— Усё можа быць. Ды і пахаванне з непрывычкі... А хіба можна да гэтага прывыкнуць?! Што за жыццё!— Дарэнскіх ціха, скрозь зубы вылаяўся.

Бравусаў думаў пра сваё, перад вачамі стаяў жоўтасіні твар Якава Рацэева. Ён чамусьці адразу яго неўзлюбіў за спаважнасць, памяркоўнасць, ніколі той не спяшаўся, усё рабіў з нейкаю абыякавасцю ці з нейкаю асуджанасцю, маўляў, як ні мітусіся, як ні хавайся — канец адзін. Ажываў ён, калі ўсчыналася размова пра жыццё пасля вайны, калі не будзе калгасаў — нехта пусціў чутку, што нібыта нейкі ваенны чын сказаў такое салдатам: пасля вайны зямлю раздадуць на двары, кожны будзе апрацоўваць колькі зможа, колькі захоча. Бравусаў тады запярэчыў, што такога не можа быць, што зноў паявяцца кулакі, багацеі.

— Кулак — хто не лайдак і не п'янтос. Хто дбае, той і мае, — горача даводзіў Рацэеў. — Калі чалавек лянівы, не гаспадар, то дай яму самую лепшую зямлю, дык пырнік і лебяда ўсё заглушаць.

— Не будзе зноў аднаасобніцтва. Як жа без калгасаў? — паціскаў плячамі Бравусаў, гарачыўся, хваляваўся, бо помніў, як маці, перадавая льнаводка, з ахвотаю працавала ў калгасе. — Людзі толькі смак адчулі, калі разам рабіць, дружна. Тут табе і трактар, і малатарка. А не на сваёй дзялцы пуп надрываць...

— Канечне, у калгасе лацвей жыць: адзін косіць, сем ляжыць, — падсміхнуў Рацэеў. Яго сёй-той падтрымаў, вакол зарагаталі.

Бравусаў аж падскочыў:

— Дык ты што? Супраць калгасаў? Супраць савецкай улады?

— Чаго ты ўзвіўся? Хто супраць улады? Я кроў за яе праліваю, — Рацэеў аднойчы быў паранены ў руку, але лёгка, далей санчасці не трапіў і неўзабаве вярнуўся ў свой узвод. — І ты не маеш права такое гаварыць. Сапляк ты яшчэ...

Бравусаў быў схапіўся за вінтоўку, але яго адцягнулі, прыпужнулі камандзірам. Так і скончылася тады размова. Але мела яна свой працяг.

Неяк з месяц перад гэтым Бравусава паклікалі ў штаб палка. Ішоў ён поўны думак, здагадак і трывогі. Са штаба яго адвялі ў суседнюю зямлянку. Там сядзеў

незнаёмы лейтэнант, ля печкі завіхаўся салдат у расшпіленым бушлаце.

— А, Бравусаў, праходзь, сядай, — як старому знаёмаму ўзрадаваўся лейтэнант, падсунуў яму табурэт. — Сядай, Уладзімір Усцінавіч.

Ад нечаканасці Бравусаў аж здрыгануўся: упершыню за службу яго назвалі па бацьку, без афіцыйнай прыбаўкі звання. Яму нават падалося, што гэта звяртаюцца не да яго, а да некага іншага, і ён спалохана глянуў на лейтэнанта. Той схіліў бледны, хударлявы твар, гартаў нейкія паперы, потым падняў стомленыя вочы пад чырвонымі павекамі, востра зірнуў на Бравусава.

— Ну што там, дровы разгарэліся? Ідзі, браток, пакуры, — сказаў ён салдату. Той адразу сігануў за дзверы. — Дык вось, Уладзімір Усцінавіч, ёсць да цябе просьба... Спачатку давай дамовімся: пра тое, што я табе скажу, не павінна ведаць ніводная душа. Гэта ў тваіх жа інтарэсах. Згодзен? Нікому ні слова, ні паўслова.

— Ёсць, таварыш лейтэнант. Нікому ні слова, ні паўслова, — падхапіўся Бравусаў.

— Сядзі, сядзі, Уладзімір Усцінавіч. Ты да мяне будзеш заходзіць як да таварыша. Не трэба казыраць, выцягвацца ў струнку. Прыйшоў: «Здрастайце. У нас такія-та дзялы...» Сутнасць вось у чым. Сярод байцоў, што ўліліся ў армію з вызваленых раёнаў, ёсць ненадзейныя людзі. Вось ты быў на фронце, у партызанах ваяваў. А некаторыя былі ў паліцыі, а як убачылі, што наша бярэ, перабеглі ў партызаны. Зараз яны могуць драпануць да немца. А іншыя куркулі сядзелі дома, пад жончынай спадніцаю хаваліся. Сынкі кулакоў, падкулачнікі розныя. Нам трэба ведаць, пра што гавораць між сабой салдаты, хто пра што думае. Вось у сваім узводзе, Уладзімір Усцінавіч, ты будзеш нашым чалавекам. Так сказаць, вочы і вушы...

На развітанне Бравусаў падпісаў паперку, што ўсё будзе трымаць у тайне, і разы два ўжо схадзіў да лейтэнанта. Пасля стычкі з Рацэевым ён схадзіў таксама.

А потым выклікалі Рацэева. Вярнуўся ён чырвоны, як вараны рак, касавурыўся на Бравусава, а неяк увечары прыпільнаваў яго ў траншэі, схапіў за горла. «Ты накляпаў на мяне, шчанюк?» — «Адпусці мяне», — захрыпеў Бравусаў і каленам стукнуў Рацэева ў пах.

Той завойкаў, скурчыўся ад болю, прашыпеў: «Ну, пачакай. Будзе атака. Тады мяне ўспомніш...»

Праз некалькі дзён, на досвітку, была атака. Бравусаў бег, азіраючыся, каб не быць наперадзе Рацэева. Ля куста ён знарок спатыкнуўся, прылёг, салдаты з крыкам «Ура!» беглі далей. Бравусаў узяў на мушку Рацэева, які валюхаўся збоку, злева. Пырхалі сняжынкі, ужо добра развіднелася. Бравусаў не паспеў стрэліць, як упаў Рацэеў. «Забіла ці параніла? А мо хітруе?» — падумаў ён.

Страляніна не сціхала. Загаманілі гарматы. Счакаўшы некалькі доўгіх хвілін, Бравусаў папоўз наперад, павярнуў да Рацэева, здаля ўбачыў яго ашчэраны твар, сняжынкі ўжо не раставалі на ім. Паблізу грымнуў выбух, над галавой прасвісталі асколкі, камякі зямлі. Ля куста, пад якім раней ляжаў Бравусаў, цямнелася варонка. Пахілены куст амаль увесь засыпала зямлёй.

Бравусаў падхапіўся і пабег наперад, яго трэсла як у ліхаманцы, клацалі зубы. Ён бег і прасіў, маліў, каб снарад упаў бліжэй каля Рацэева. «Я не страляў, а могуць падумаць на мяне», — білася шалёная думка ў атупелай галаве. І калі ляснуў выбух, ён упаў, азірнуўся і на імгненне аж узрадаваўся: там, дзе ляжаў Рацэеў, чарнелася гурба свежай зямлі. Ногі самі panеслі Бравусава наперад, далей ад гэтага страшнага месца. «Калі б не я, яго б, можа, і не забіла», — з жахам і з жалем падумаў Бравусаў, выціраючы рукавом шыняля пот і слёзы.

А потым было пахаванне забітых. Бравусава ванітавала, калі апускалі ў магілу Рацэева. А праз тыдзень параніла і Бравусава. У шпіталі паспрабавалі зняць яго валёнкі, а яны не здымаліся.

— Я тры месяцы не разуваўся, — прастагнаў паранены.

Валёнкі давялося разрэзаць. Калі іх сцягнулі, то ўсе пазатыкалі насы: гнілым смярдзючым пахам патыхнула з валёнак.

Успамін пра тую атаку, пра Якава Рацэева, Бравусаў заўсёды стараўся адагнаць, але гэта было немагчыма: ён, гэты ўспамін, жыў у ім заўсёды і паўсюды і выплываў з памяці ў самы нечаканы момант.

Вось і цяпер, калі ехалі ў Хатынічы, Рацэеў зноў і зноў паўставаў перад вачамі. Тады Валодзька хапаўся

за пугу, са злосцю сцёбаў каня. Міхалёў, які сядзеў поплеч, недаўменна пазіраў на яго:

— Пашкадуй каня. Не гані так. Быццам да цешчы на бліны ляціш. Слухай, можа, у старасты самагоначка будзе, га? Любіў ён гаварыць: «Давай гарнец!» А цяпер мы скажам.

— Я табе дам самагоначку! Ты што, заданне хочаш сарваць?

— Дзівак-чалавек, мы ж там піць не будзем. З сабой прыхопім. Даставім у Лабанаўку старасту, зойдзем да мяне і шарахнем.

— Ну, калі знойдзем, дык прыхопім. Зброі трэба пашукаць у яго, — падказаў Бравусаў кірунак дзеяння свайму напарніку.

Ахрэм Куцаёў быў з жонкай Аўдуляй на гародзе: ссякаў капусту, жонка складвала качаны ў мех. Ён здалёк убачыў двух міліцыянераў і Арцёма Шандабылу і як стаяў з блішчастай сечкай, што нагадвала паўмесяц з ручкай, так і застыў.

— Здароў вам! — гучна павітаўся Бравусаў.

Услед за ім моўчкі сігаў худы, даўгалыгі, як бусел, Міхалёў.

Куцаёў нічога не адказаў. Аўдуля мармытнула: «Здрастайце» і разявіла рот ад страху і здзіўлення. Арцём стаяў, гледзячы некуды ўбок.

— Збірайся, Ахрэм Данілавіч, паедзеш з намі, — весела сказаў Бравусаў. — Капуста ўжо табе не спатрэбіцца. Казённую будзеш есці.

Рукі ў Куцаёва дробненька задрыжалі, з лютай злосцю ён секануў бліжэйшы качан і распалавініў яго да храпкі.

— Што ты, здурнеў? — апамяталася Аўдуля. — Свой качан вінаваты, а не капуста. Я ж табе казала: хавайся ў гумне, уцякай ад немцаў... А што ж цяпер будзе? — загаласіла Аўдуля.

— Цыц, раскудахталася! І без твайго ляманту моташна, — рэзка і ў той жа час спакойна сказаў Ахрэм і павярнуўся да Бравусава: — Дазвольце, таварыш нальнік, капусту знесці дамоў, а то баба адна не справіцца.

— Не таварыш, а грамадзянін начальнік, — паправіў Міхалёў. — Прывыкаць трэба.

— Калі трэба, то прывыкну. Хаця і позна ўжо... Ссівеў, акурат капусная храпка, — уздыхнуў Куцаёў,

узяўся за мех, але не ведаў, што з ім рабіць. — Дык што з капустай?..

— Хлопцы, давайце пасобім. Вы ж на кані. Ускінем на воз етыя мяшэчкі... — заступіўся Арцём.

— Ета, таварыш старшыня, гнілы лібералізм называецца. Памагаць класаваму ворагу — значыць шкодзіць пралетарыяту, — важка сказаў Бравусаў.

— Ён жа нам у вайну пасабляў. Як мог ратаваў, — даводзіў сваё Арцём.

З думкаю старшыні калгаса Бравусаў не мог не лічыцца, начальства ён заўсёды паважаў. Ды і настрой у яго быў добры: яму даручана адказнае заданне — арыштаваць былога старасту, нямецкага прыхвасня, Куцай ужо ў іхніх руках. Ён, Валодзька Бравусаў, вяршыць справядлівасць.

Радаваў яго ядраны светлы дзень, якія зрэдку пракідаюцца позняй восенню, бадзёрыла халаднаватае паветра, якое моцна пахла сакаўной, крамянай капустай.

— Ладна, хрэн з вамі. Міхалёў, давай сюды каня, — рашуча сказаў ён.

Капусту ўскінулі на калёсы, адвезлі, паставілі мяхі каля пaграбні. Аўдуля кінулася ў хату збіраць нешта на дарогу.

— Зброю дзе хаваеш? Прызнавайся. Лепей будзе, — строга зірнуў Бравусаў на былога старасту, а Міхалёў нават зняў з пляча вінтоўку.

— Няма ў мяне зброі. Не верыце — шукайце. Наліха яна мне... — Куцаёў стаяў сярод двара, доўгім паглядам абвёў новую хату, двор, усё нажытае сваімі рукамі, нястомнаю працаю, яшчэ маладыя яблынькі — пасадзіў перад вайною, цяпер яны стаялі голыя, цёмна-шэрыя ствалы, кашчавыя бліскуча-чорныя мокрыя галінкі.

— Няма, кажаш, аружыя. Паверым, шукаць не будзем. Можа, у цябе і самагонкі няма? — ухмыльнуўся Бравусаў.

— І самагонкі няма. Адкуль ёй быць?

— Ну вось што, не фінці, дзед. Пару пляшак прыхапі з сабою. А то мы адубелі, пакуль даехалі. Не бойся, пра ета нікому не скажам, — Бравусаў зірнуў на Міхалёва, нібы загадваў таму маўчаць.

— Папытаю ў Аўдулі. Можа, пазычыць у каго...

— Не трэба, дзед. Ты сваю норму выбраў, — са

смешачкай крактануў Бравусаў. — А нам не паложана... Мы на службе.

Неўзабаве фурманка выехала з двара Куцаёва. Сам гаспадар у старой, палапленай куфайцы, сціснуўшы зубы, перакатваючы пад скураю жаўлакі, сядзеў паміж міліцыянераў. Аўдуля, галосячы, ламаючы рукі, стаяла каля хаты.

Фурманка прагрукатала цераз Шамаўскі мост, дзе ля ручая бегалі малыя з чырвонымі рукамі і пасінелымі ад холаду насамі. Яны спыніліся, перашэптваліся, глядзелі на міліцыянераў, на іх прыгожыя чырвона-сінія фуражкі. Былі тут і Коля з Андрэйкам.

— Ну што, арлы, насы павесілі! — падміргнуў Бравусаў і ссунуў фуражку на лоб. — Расціце скарэй. Прыходзьце служыць у міліцыю.

— Прыйдзем! — крыкнуў Віцька, усе загалёкалі і пырхнулі да Бесядзі, нібы чародка шчыглоў, якую сагналі з канапель.

## XXII

На дварэ стаяла ўжо глыбокая восень, але раптам зноў пацяплела, вецер падзьмуў у акно ад выгану — заходні. Неба зацягнулі нізкія шэрыя аблокі, пасыпаў дробны халодны дождж. Зіме давялося адступіць, растаў лёд, адтала зямля. У полі яркім аксамітам, нібы і не было ніякага марозу, зелянелі лапікі руні.

Доўга набіралася сілы зіма, быццам усё не магла адважыцца рушыць у новы наступ. І толькі дзесьці ў сярэдзіне снежня ўдарыў мароз, на Бесядзі замерзлі беражніцы, паплыў па вадзе шарэш, памалу лёд шырыўся, таўсцеў, вада быццам цішэла, засынала, і, нарэшце, пакрылася зеленавата-бліскучым дахам — мароз замасціў раку, — так гаварыла маці. Поле было шэрае, толькі серабрыстым аксамітам пералівалася рунь. Зямля ляжала галашчокам і чакала снегу.

І аднойчы пасля снядання Андрэйка выбег на гародчык, паскакаў па змерзлых, бы цаглінкі, градах, дзе яшчэ тырчалі там-сям усохлыя цурбылі сланечніку, і тут ён убачыў, што ў паветры запырхалі белыя лёгкія сняжынкі. «Праўда, як белыя мухі», — падумаў ён, згадаўшы гаворку дзеда Гылігора, які прыходзіў нядаўна па лісток чысленніка: хутка мухі белыя паля-

цяць. Тады Андрэйка не зразумеў, а цяпер ён сам бачыў, як лёталі гэтыя «мухі».

Тым часам вялізная цёмна-шызая хмара зацягвала неба над полем, напаўзала на вёску. Снег падаў усё гусцей і гусцей. Увачавідкі цямнела, нібы бралася на вечар. Коля таксама выбег на двор.

— Жэўжык, давай лыжы майстраваць...

— Лыжы? А як іх майстраваць? — з няверай спытаў малы.

— Трэба знайсці клёпкі ад бочкі. Толькі дзе іх знайсці? — задуменна сказаў Коля. — Пакуль што зробім з лучыны.

Андрэйка не пярэчыў, хоць і не ўяўляў сабе, якія гэта будуць лыжы. На печы, на чарэні, сушылася шмат тонкіх, вузкіх лучынак, але як на іх катацца. Коля выбраў ля хаты самы доўгі асколак сасновага чурбана — з такіх шчапалася лучына. Калі гэта рабіць тонкім нажом-коскай, можна аддзіраць слой за слоем, а калі тоўстым нямецкім кінжалам, то і лучынкі будуць тоўстыя. Коля вырашыў, што кінжал тут будзе найбольш прыдатны, шмыгануў у хату і вынес нямецкі цясак і малаток.

— Трымай асколак, — сказаў ён Андрэйку, а сам прыставіў кінжал паміж ружаватых смалістых рысак-слаёў, пачаў стукаць па кінжале малатком. Лязо мякка ўвайшло ў драўніну.

Спачатку лучыны былі вузкія, бо асколак у тарцы меў форму трапецыі. З кожным слоем адскоквалі ўсё шырэйшыя лучыны. Ля самай балоні яны атрымаліся самыя шырокія. Дзве з іх і выбраў Коля. Узяў пару лучынак і Андрэйка.

— Пакладзём іх на чарэна. Хай пагрэюцца. Тады паспрабуем загнуць, — тонам бывалага майстра сказаў Коля.

Назаўтра, пакуль Коля быў у школе, Андрэйка правёў выпрабаванне лыж. Ён ставіў адну нагу на лучынку, другой папіхаўся і ехаў такім чынам па дарозе. Нага часта саслізгвала, прывязаць або яшчэ як-небудзь прымацаваць было немагчыма. З горкі малы спрабаваў ехаць на абедзвюх лучынках, і амаль кожнага разу падаў, бо «лыжы» разбягаліся ў бакі, выслізгвалі з-пад бахіл.

Потым яны каталіся разам з Колем, але таксама рэдка ўдавалася праехаць. Лыжы сябе не апраўдалі, і

тым не менш паўдня хлапчукі гайсалі па вуліцы. Ужо сцямнелася, калі маці загнала іх дамоў. Пра ўрокі яна не клапацілася, бо ведала, што Коля робіць іх добра і хутка. Вучыцца толькі на «выдатна». Яна помніла размову з настаўніцай Ганнай Мікітаўнай. Андрэйка таксама чуў тую гутарку. Коля з Васькам пайшлі ў лес па хвораст, а малы сядзеў на печы, бо пярхаў як у бочку і маці на вуліцу яго не пускала.

— Вельмі здольны хлопчык ваш Коля, — гаварыла настаўніца. — Памяць у яго выдатная. Усё з ходу запамінае. Не паспею задаць пытанне, як ён ужо руку паднімае. Усё ведае... І ўсё правільна адказвае. І такі ўжо ўвішны, такі цікаўны...

Маці слухала, ківала галавой. Андрэйка бачыў, што маці вельмі задаволена, яе радуюць словы настаўніцы, але сказала яна чамусьці сумна:

— Лёгкі Савачка... Усюды паспее. Есць нешта слаба. Зараз во з восені, дзякаваць богу, ёсць за што зуб зачапіць. Дык дужа перабірае. Таго не хочу, етага не хочу... А так ён хлопец слухмяны. Пасабляе мне. Ці вады прынесці, ці дроў — толькі скажы...

Зіма ўжо ўвабралася ў сілу. Маразы былі моцныя, але снегу падкінула малавата, хоць і набліжаўся Новы год. Лёд на Бесядзі быў тоўсты і чысты, як шкло.

Неяк у нядзелю Коля і Андрэйка пайшлі на раку з сякераю. Спачатку зноў цешыліся каляровымі «пеўнікамі» пасля ўдару абухом. Рыбы прыглушыць не ўдалося: яна пайшла ў глыбокія віры, убачыць яе там было нельга, ды і лёд надта тоўсты — там, дзе ён патрэскаўся, было відно, што вада замерзла на добрыя два дзесяткі сантыметраў.

Па застылай рацэ, як мурашы, снавалі хлапчукі на самаробных каньках. Што гэта былі за канькі! Драўляныя брускі з дзюркамі, у якія прадзяваліся аборы і мацаваліся да нагі, сточаны ніз бруска падбіваўся металічнай стужкай. Гэтакімі канькамі, быццам рашпілямі, паласавалі лёд малыя хатыньчане. А Віцька лётаў на самых хуткіх каньках, падбітых сталёвым дротам. Папіхаліся хлопцы пікаю — палкаю з вострым цвіком. Прыгнуўшыся, раз-пораз упіраліся гэтай пікаю ў лёд і шпарка імчалі па рацэ.

Коля і Андрэйка бегалі па лёдзе, коўзаліся, але бахілы не канькі, надта не разгонішся, гахаць сякераю надакучыла, і з непрыхаванаю зайздрасцю назіралі за

сябрукамі, што лёталі на каньках. Нарэшце Коля не вытрымаў:

— Віцька, дай мне пакатацца, а? Ну дай... Я ж не з'ем твае канькі. Праеду і аддам.

Расчырванелы Віцька важна шмаргануў носам, памаўчаў, падвярнуў ступню набок, паказаўшы блішчасты дрот, быццам даваў магчымасць палюбавацца ягонымі канькамі.

— На маіх не ўстоіш. Войстрыя, коўзкія. Паўлік, дай сваіх канькоў. Развязвай! — загадаў ён брату.

— А тады і я пакатаюся, — падбег Андрэйка. Яму так хацелася праехаць на каньках, што, здаецца, усё на свеце аддаў бы за гэта.

— Я сам не накоўзаўся, — прамычаў надзьмуты Паўлік, выціраючы рукавом саплівы нос. Рабіў ён гэта, відаць, не першы раз, бо рукаў ужо блішчаў, як намаслены.

— Табе што сказана! — строга крыкнуў Віцька. — Па вушах хочаш зарабіць?

Меншы брат зразумеў, што гэта не пустая пагроза, адразу пачаў развязваць аборы. Коля хуценька прывязаў канькі, узяў піку-папіхач. Ён зрабіўся вышэй, нібы ўвачавідкі падрос. Коля паставіў піку між ног, паспрабаваў папіхнуцца, але ногі раз'ехаліся ў бакі, і ён шлёпнуўся на лёд.

Так паўтарылася разы са тры. Тады Паўлік падышоў бліжэй:

— Давай мне канец пікі. Трымайся аберуч за яе.

Коля ўчапіўся за піку, а Паўлік бягом катаў яго. Асвойтаўшыся, Коля і сам памалу пачаў коўзацца, але тут прычапіўся Андрэйка. З дазволу ўладальніка — Паўліка таксама стаў на канькі. Адчуў сябе на сёмым небе ад радасці, пагардліва, звысака аглядзеў родную ваколіцу і тут жа ганебна зваліўся на лёд пад звонкі рогат сябрукоў.

— Ну, Жэўжык, ты як карова на лёдзе, — падсмейваўся Коля, але тут жа падаў руку, дапамог падняцца, а потым катаў брата, які аберуч трымаўся за піку.

Хутчэй за ўсіх лётаў Віцька. Ён рытмічна прыгінаўся і выпростваўся, раз-пораз дзёўбаючы пікаю між ног лёд.

«От, каб мне такія канькі! — заходзілася Андрэйкава сэрца ад зайздрасці. — Я б насіўся як вецер. Ніхто б мяне не дагнаў».

Расчырванелыя, як снегіры, узбуджаныя і спатнелыя, вярнуліся хлапчукі дамоў.

Назаўтра раніцай Андрэйка чуў, як маці будзіла хлопцаў у школу. Васька пачаў адразу збірацца, бо ўлавіў пах снядання, а Коля неахвотна падняў галаву, пасядзеў і зноў лёг.

— Чаму ты не ўстаеш, Коля? — спытала маці.

— Нешта я не выспаўся. Галава баліць.

— Ды ўжо ж на коніках пакатаўся ўчора. Распарыўся. Насіўся ж як падсмалены. Можа, не ідзі ў школу? Лезь на печ і сядзі.

Коля ўсё ж устаў, схадзіў у школу. Увечары ён кашляў, але ўрокі зрабіў, пра тое, што баліць галава, больш не гаварыў. На другі дзень ён кашляў мацней.

— Лезь на печ. У школу не пойдзеш. І за парог не пушчу нікуды, — строга сказала маці.

Коля ціха падняўся і палез на печ, толькі бліснулі пяткі, якія яшчэ былі цемнаватыя — усё не маглі адмыцца пасля лета. Увесь дзень ён ляжаў на печы, надвечар злез, пахадзіў трохі. Кашаль не пераставаў.

— Ну як ты, сынок? — маці ўжо не сварылася, а з трывогаю пазірала на Колю. Прыклала сваю шыракаватую парэпаную далонь да яго лоба. — Гарачая галава. Паліць цябе, сынок. Вось Марына прыйдзе. Дасць табе парашкоў... Я ж заўсёды кажу: асцерагайцеся, дзеткі. Застудзіцца не штука. Напратка ж во слабенькая. Пасталееце троху, не так будзе страшна...

— Нічога, мам. Мне ўжо лепей. Заўтра пайду ў школу. А цяпер паляжу. Толькі на печ не хочу. Тут, на палу паляжу...

Коля гаварыў ціха, быццам ён вельмі стаміўся або яму не хапае паветра. Андрэйка хацеў сказаць, што Коля не даваў канькоў яму, усё сам катаўся, але чамусьці шкада стала брата: «Мусіць, блага яму, раз ён такі ціхі зрабіўся...»

Маці адчыніла куфар, стары, калісьці ён быў чырвоны, з нейкімі ўзорамі, але цяпер, асабліва пасля таго як паляжаў закапаны ў зямлі, пацямнеў, страціў свой бляск, — пакорпалася ў прыскрынку, знайшла градуснік, паўглядалася на яго.

У хаце цямнелася, кароткі зімовы дзень дагараў, нізкае, барвова-чырвонае сонца, якое абяцала назаўтра вецер, заходзіла ў цёмную хмару.

— Нешта я не разбяру. Колькі на ім чаго? Нат-ка,

сынок, у цябе вочы маладзейшыя, — падала градуснік Андрэйку.

Той і так павярнуў градуснік, і гэтак, — шкло халодна блішчала, і толькі ўгледзеў ён чырвоную рыску.

— Дайце мне, — не ўцярпеў Коля, працягнуў танклявую худую руку, кінуў вокам на шкалу: — Тут трыццаць пяць з паловаю. Трэба стрэсці, — ён разы два махнуў рукою і, знясілены, бухнуўся на падушку. На лобе выступілі кропелькі поту, вочы былі як засланыя туманнаю плёнкаю. — Уся ртуць скацілася ўніз. Можна ставіць, — танклявая рука з доўгімі тонкімі пальцамі нырнула за пазуху.

Неўзабаве Коля выцягнуў градуснік.

— Сынок, ты ж мала трымаў. Не нацягнула...

— Ужо трыццаць восем, — нібы ўзрадаваўся Коля, зноў паставіў градуснік.

— Няўжо? А мой жа ты татулечка! Я ж бачу, што ты ўвесь гарыш... А што ж нам рабіць? Хоць бы ж Марына хутчэй прыйшла, — маці зірнула ў акно, ці не ідзе з Канчанскага боку дачка.

На вуліцы пачыналася завея, сняжынкі мільгалі то павольна, то раптам імкліва кідаліся адна за другою, быццам гулялі ўперагонкі.

Коля дастаў градуснік другі раз і ціха сказаў:

— Трыццаць восем і сем... Дай вады, мама...

Андрэйка засіліў карэц вады, падаў брату, але той не мог утрымаць карэц, паставіў яго побач з сабою. Маці падымала Колеву галаву, падносіла да рота карэц. Коля піў, зубы яго дробненька клацалі аб метал.

Марына прыйшла, калі ўжо добра сцямнела. Коля быў увесь гарачы. Тэмпература пераваліла ўжо за сорак. Марына дала яму парашкоў — сульфідыну і аспірыну. Коля пачаў кідацца, штохвіліны раскрываўся, прасіў піць. Маці прынесла ад суседзяў малака. Але Коля не мог піць: малако кацілася па сасмяглых тонкіх вуснах, гарачых шчоках на падушку. Андрэйку адразу прыгадаўся той паранены салдат.

— Трэба везці Колю ў бальніцу, — устрывожылася Марына. — У яго нешта сур'ёзнае. Гарыць увесь...

— Ой, такі ж холад на дварэ. Завея ўсхадзілася. І ваўкоў жа развялося... Адкуль жа такая бяда на маю галовачку? А мой жа ты сыночак любы, — маці абшчапіла гарачую сынаву галаву, прыхінула да грудзей.

Коля раптам супакоіўся, прыціх, абвёў вачамі хату:

— Чаго вы ўсе сабраліся? Жэўжык, і ты не спіш? Вунь лучынка дагарае, а ты не бачыш.

У прыпечку, між цаглін, была зроблена шчыліна, куды ўтыркалі лучыну. Васька запаліў новую лучынку, усунуў яе ў шчыліну. Коля цяжка дыхаў, стагнаў, зноў расплюшчыў вочы:

— А чаму ты плачаш, мама? Не трэба.

— Што ў цябе баліць, сыночак мой любы? Дзе баліць?

— Усё баліць. У грудзі коле, спіну быццам хто ламае. А ў галаве званы ўсё нейкія звоняць. Як у школе... Не плач, мама... Вунь салдат колькі загінула... Ніхто не плакаў... Калі я памру, вы каб не плакалі... Жэўжык за мяне будзе ў школу хадзіць... Во зноў зазванілі. Урокі кончыліся... Куды бягуць? Дай, дай мне званок... Я таксама... — Коля застагнаў, забрыкаў нагамі, быццам некуды рваўся, адбіваўся ад некага, хто насеў на яго.

Марына таропка апраналася.

— Пабягу да Арцёма. Трэба Колю ў бальніцу...

— Я сама, дачушка. Ты ж толькі з дарогі.

Маці ўскінула на плечы салдацкі бушлат і кінулася за парог. Коля яшчэ мацней застагнаў:

— Пусці мяне! Пусці, пяхцер! Наваліўся, як мядзведзь... Канькі мае... Я буду катацца. Пойдзем, пойдзем на Бесядзь... Я сам, сам пайду, — сіліўся падняцца Коля.

— Што ён гаворыць? Я ж яго не чапаю, — пакрыўдзіўся Васька.

— Ён трызніць. Беспрытомны, — прашаптала Марына. — Коля! Міколка, чаго ты хочаш?

— Мой... Мой патрон... У цяпло... Кідай у цяпло... Бу... Бульба спяклася? Ці гатовая? І пражмо есці... Дай яшчэ каласок. Адзін каласок... Ой, гарыць! Дзе наша вядро? Тушы цяпло... Давай карэц... Ой, пячэ, — Коля адчайна замахаў рукамі, узбрыкнуў, скінуў з сябе коўдру. Галава яго звалілася з падушкі, адкінулася назад, ён увесь курчыўся ад болю, круціўся, вырываўся з Марыніных рук, быццам ад некага ўцякаў.

Андрэйку зрабілася страшна, так шкада Колю, аж сэрца разрывалася. Ён у душы лаяў сябе, што адбіраў у Колі гарэлікі — падгарэлыя зверху ў чыгунку бульбіны, — дні тры назад яны за іх пабіліся. А потым маці дала абаім матузоў.

«Я ва ўсім вінаваты. Каб Козлік болей еў гарэлі-

каў, быў бы здаравейшы. Можа б, і не захварэў... Паправіцца Козлік... Буду дружыць з ім... І алоўкі яго браць не буду. Калі толькі сам дасць. Ён так шкадуе алоўкаў, беражэ іх. Бо ў класе больш ні ў когенька няма каляровых...»

У хату ўвайшла маці, за ёй уварваўся белы клуб марознага паветра. Удваіх з Марынай яны адзелі Колю, захуталі ў старэнькі кажух і панеслі на сані.

Раніцай Васька сам прапаліў у печы, зварыў бульбы, напарыў драбнейшай бульбы парсюку, даў сена Красулі. У школу не пайшоў і нават быў рады, што ёсць дома занятак і маці не будзе лаяць за прапушчаныя ўрокі.

— Жэўжык, пад'ём! — скамандаваў ён. — Снедаць пара... Паможаш вынесці карове...

Пойла карове разводзілі ў невялікай шайцы, і аднаму вынесці шайку было цяжка і нязручна.

Андрэйка аглядзеў палок — Колі там не было, ля печы стаялі толькі яго, Андрэйкавы, бурачкі. Ён скокнуў на халодныя, настылыя масніцы, усунуў ногі ў бурачкі. Васька зачарпнуў карэц вады з чыгуна.

— Хадзі палью. Памыйся, хоць вочы прадзяры...

Малому так не хацелася ўмывацца, бо вада халодная, маці звычайна падагравала, ды што зробіш — трэба. Андрэйка выставіў свае ручаняты над шайкаю, Васька лінуў на іх вады, яна была летняя, падагрэтая. Малы здзівіўся:

— Ты падагрэў вады?

— Ну, а хто ж? Дзед-мароз не нагрэе. Выцірайся, — строга сказаў Васька.

Ля парога вісеў на цвічку доўгі кужалёвы ручнік, з абодвух канцоў ён быў упрыгожаны чырвонымі паласамі з чорнымі крыжыкамі. Васька ўжо абшкроб некалькі гарэлікаў, смачна хрумстаў, завіхаючыся ля печы. Андрэйка таксама ўзяўся за гарэлікі, яны былі яшчэ гарачыя, аж пякло ў роце, а ён нібы не чуў — усё глядзеў у акно, ці не пакажацца кабыла Куля з санямі. Потым выбраў два самыя большыя гарэлікі і самыя смачныя з выгляду, скокнуў да печы.

— Васька, хай етыя гарэлікі Козліку. З'есць, як прыедзе. Ён жа любіць гарэлікі...

Васька моўчкі паклаў бульбіны на скавародку, потым дадаў да іх яшчэ некалькі бульбін і накрыў драўляным кружком.

Але Коля не прыехаў к абеду, не вярнуліся маці з Марынаю і к вечару. Так і заснуў Андрэйка, нікога не дачакаўшыся.

Прачнуўся ён позна і адразу пачуў нейкі незнаёмы пах, быццам гарэла штосьці духмянае. Ён прыўзняў галаву і застыў ад жаху — ля стала, на лаве, ляжаў Коля, нейкі доўгі, выпрастаны і жоўты, тварык яшчэ болей завастрыўся, у тонкіх сашчэпленых руках уторкнута свечка, якая свяцілася кволым, дрыготкім агеньчыкам.

Андрэйка доўга глядзеў на Колю і не мог паверыць, у яго маленькім сэрцы не ўкладвалася, што ягоны брат, няўрымслівы гарэза Козлік — мёртвы, больш ужо ніколі не паднімецца, не пабяжыць з ім на Бесядзь...

Слёзы заслалі вочы, нібы гарачым туманам. Андрэйка ўткнуўся галавою ў падушку і заплакаў, ціха, бязгучна, але так, як ніколі яшчэ не плакаў у сваім жыцці.

А потым пачалі збірацца людзі, гаманілі ціха, быццам баяліся пабудзіць Колю. Некаторых Андрэйка ведаў, а большасць былі незнаёмыя — найбольш жанчыны, захутаныя хустамі, старыя і маладыя.

Забеглі, ідучы са школы, Коліны аднакласнікі — шапталіся, стоячы ля парога, камячылі шапкі, з цікаўнасцю, хоць і спадылба, глядзелі на свайго сябрука. Як выходзілі, нехта зачапіўся за клямку, нехта хіхікнуў, а на вуліцы пачалі тоўхацца і з галёканнем памчалі далей. Ніхто з малых, мабыць, не падумаў, што кожны з іх можа памерці і абавязкова памрэ ў старасці.

У тым і сіла жыцця, што яно не хоча думаць аб канцы, заўсёды жадае яго аддаліць. Жывое думае пра жывое.

Маці сядзела над Колем моўчкі, потым пачала галасіць:

— А мой жа ты сыночак любы...
А што ж ты рана пакінуў нас?
Сонейка ж ты маё яснае,
Чаму ж ты закацілася без пары?
Каб жа не вайна ета праклятая...
Ні паесці, ні надзець няма...
А татулечка ж ты мой залаценькі...

— Каця, ну што ты зацягнула? Ці ж етым паможаш? Бог даў, бог і ўзяў. Усе там будзем, — размахваючы рукамі, суцяшала маці Параска. — Каб жа была тая сываратка, можа б, і ўратавалі. А цяперацька што

ўжо галасіць... Каб не завея такая. Усё сабралася ў кучу: і мароз, і завея, і беднасць наша... Кажуць людзі, што пасля етага менягіту здаровымі не бываюць... Думай, Каця, пра жывых, пра іх клапаціся...

Але маці гэта не суцешыла. Яна яшчэ мацней заплакала. Тады Марына пачала яе супакойваць:

— Мам, ну, хопіць табе... Не трэба так убівацца... — а сама плакала, вочы яе былі чырвоныя ад слёз, а нос распух, быццам ад марозу.

Андрэйка ўжо зразумеў, як усё здарылася. Колю прывезлі ноччу ў Саковічы, але доктар сказаў, што ў іх няма такога лякарства. Колю павезлі ў Лабанаўку за трыццаць кіламетраў. І не давезлі...

Уся маленькая істота, уся Андрэйкава душа паўставала супраць смерці брата. Бабуля памерла, дык яна была старэнькая, нямоглая. Андрэйка сам чуў, як яна прасіла-маліла «божачку», каб узяў яе да сябе, бо яна стамілася жыць. А Коля яшчэ малы, толькі ў школу пачаў хадзіць, першы клас не скончыў. На ньках не накатаўся ўволю, не вырас вялікім, нічога не паспеў зрабіць — ніводнай хаты не збудаваў. Андрэйка чуў ад старога Гылігора, што кожны мужчына павінен збудаваць хоць адну хату...

Апоўдні Арцём і дзед Гылігор прынеслі труну. У хаце адразу запахла халоднымі вільготнымі дошкамі, смалой-жывіцаю. У труну паклалі Колю.

— Што ж рабіць, мужчынкі, не ведаю? Галава раскалваецца, — маці паправіла на галаве цёмную хусту. — Учора адбілі тэлеграму Мацвею ў Бранск. Павінны ж адпусціць...

— Бачыш, Каця, урэмя ваеннае. Пакуль тая тэлеграма дайшла. Пакуль там будуць думаць. А тут Новы год акурат... І дабрацца цяпер няпроста. Таварняком не паедзеш сярод зімы. Дарогі ўсе разбітыя. От, ліха якое, — уздыхнуў Арцём, пацёр няголены падбародак, выцягнуў капшук з тытунём-самасадам, развязаў, а потым, нібы спахапіўшыся, завязаў і схаваў у кішэню.

Людзі сядзелі, чакалі, сцішана гаманілі. У хаце пачало ўжо сутонець.

— Ну што ж, людцы дарагія. Мусіць, трэба ісці. Андрэйка, ідзі развітайся з Колем...

Андрэйка асцярожна, як па гарачым вуголлі, падышоў да труны і стаў бы скамянелы.

— Пацалуй Колю ў лоб і папрасі прабачэння, —

ціха шапнула Марына. — Скажы: даруй, братка, за ўсё...

Андрэйка схіліўся над труной, дакрануўся вуснамі да Колі — і жахнуўся: лоб у таго быў халодны як лёд. Слёзы навярнуліся на вочы, малы захліпаў і нічога не сказаў.

Праз многа гадоў Андрэй Сахута будзе ўспамінаць гэты момант і заўсёды шкадаваць, што не папрасіў у брата прабачэння.

Як сцямнелася, у хату пачалі збірацца людзі. Арцём прынёс лямпу, убіў у брус пад столлю цвік, павесіў лямпу. У хаце зрабілася незвычайна светла. Жанчыны неслі хто міску салёных гуркоў, хто капусты, хто талерку аладак у смятане.

Дзед Гылігор паставіў на стол вялікую зялёнага шкла бутэльку з вузкім горлечкам, заткнутым чорным гумавым заткалам. Усе паселі за стол. Арцём узяў бутэльку і наліваў усім у шклянкі — найбольш самаробныя з паўлітэрак і чацвяртушак, а Параска падсунула алюмініевую конаўку.

— У цябе, Парасся, такі посуд, што ўсіх можаш абдурыць. Памяняемся, можа, га? — сказаў Арцём.

— Ты лі, Арцёмка, не шкадуй. А мяняцца будзем потым...

Пасадзілі за стол Ваську і Андрэйку.

— Ну, давайце памянём Міколку... Добры быў малец... Што ж тут паробіш?.. — Арцём закашляўся і сказаў ужо зусім другім тонам: — А дзе ж твая чарка, Андрэйка? І пра Ваську забыліся. Так не гадзіцца. Нат-ка, Андрэйка, паспрабуй, — і падсунуў сваю шклянку. — За брата трэба...

— Не, не, Арцём. Не трэба ім етай атруты, — запярэчыла маці. — Няхай лепей бульбу ядуць ды аладкі.

Тады Андрэйка смялей зачэрпнуў драўлянаю лыжкай бульбяных камоў.

— З гурочкам будзе смачней, — Параска ўсунула яму ў руку тоўсты салёны агурок.

Гамана за сталом гусцела. Расчырванелы Арцём задыміў цыгаркаю, услед за ім скруціў самакрутку і дзед Гылігор.

— Вот яна, наша жызня... Вольга сянні сына нарадзіла. Трэба ў адведкі схадзіць. І там будзе чарка, — гучна гаварыла Параска, запіхваючы ў рот чарговую аладку.

— Кажуць, Цімох падладзіўся, — выдыхнуў клуб сіняга дыму дзед Гылігор.

— Хоць рука і адна, а баб абдымаць ён майстра, — ухмыльнуўся Арцём.

— І цябе толькі пусці, дык пабяжыш за любой спадніцай, — таўханула яго пад бок Хадора. — І кульгаць перастанеш. Сядзі ўжо, страмнік. Усе вы, мужыкі, такея...

Больш ніхто ўжо не ўспамінаў пра Міколку. Гаварылі пра вайну, хто якія весткі атрымаў з фронту. Лямпа пачала дыміць, кнот зачырванеўся ад нагару. Арцём зняў лямпу, пабоўтаў ля вуха:

— Усё. Карасін выгараў.

Маці запаліла лучыну. Людзі пачалі разыходзіцца. Андрэйка глядзеў на лучыну, а ўваччу стаяў ціхуткі трапяткі агеньчык свечкі ў Колевых руках.

## XXIII

Старшыня райвыканкома Пракапенка разумеў, што гэтая зіма не будзе лягчэйшай за мінулую. У адным палёгка — фронт ужо не абзываўся грукатам ля Чавусаў, а быў ужо далёка, уся Беларусь вызваленая ад немца.

З Лугаўцовым Пракапенка развітаўся на пачатку восені — паехаў той на Брэстчыну сакратаром райкома партыі. Прыслаў нядаўна кароценькі ліст, піша, як пачаў там працаваць, што атрымаў ужо «хрышчэнне» — вяртаўся з аддаленай вёскі і ў лесе абстралялі бандыты. З ім было два міліцыянеры, яны таксама ўсчалі стральбу і праскочылі, але аднаго міліцыянера цяжка паранілі.

Вельмі шкадаваў Антон Яўсеевіч, што забралі Лугаўцова, ім добра працавалася разам, даўно ведалі адзін аднаго, разумелі. Бывалі, канечне, спрэчкі, нязгоды, але была павага, клапатлівае таварышоўства. Вось і ліст, хай сабе кароткі, гаварыў пра гэта — не забыў Васіль Пятровіч свайго таварыша.

А як складуцца адносіны з новым першым сакратаром? Дайшла чутка, што нібыта прыедзе да іх Акапян, той самы Акапян, які да вайны працаваў інструктарам у райкоме, партызаніў дзесьці пад Магілёвам. Пракапенка смутна помніў смуглявага маладога хлопца-ар-

мяніна, які служыў у Беларусі, прыжаніўся тут і застаўся.

Кадраў не хапала, якія былі, хутка мяняліся: адных даводзілася здымаць, іншыя самі прасіліся ў адстаўку, бо на першым часе пасля вызвалення прызначалі кіраўнікамі калгасаў, старшынямі сельсаветаў жанчын, інвалідаў, як правіла без адпаведнай адукацыі. Вось і нядаўна знялі старшыню Белагорскага сельсавета. Летась ён кепска арганізаваў лесанарыхтоўкі і да гэтай зімы не падрыхтаваўся. Людзі жывуць у зямлянках, а лес ён у першую чаргу выдзяляў сваім родзічам.

І ў райвыканкоме не хапала людзей. Ужо нашто энергічны і разваротлівы Крупадзёраў, а і той яшчэ не ўкамплектаваў поўнасцю штат статыстыкаў і харчовых агентаў. Пуставала некалькі месяцаў пасада старшыні райплана: Даўгалёў цягнуў за двух — і як сакратар выканкома, і як галоўны планавік. Пракапенка быў задаволены ім, часта ўспамінаў, як яму ўдалося ўгаварыць Даўгалёва застацца, бо чалавек ужо наважыўся ехаць з Лабанаўкі, а цяпер атабарыўся тут трывала: жонка прыехала, дзіця нарадзілася, сам Даўгалёў бы на крыллях лётае, здаецца, і кульгаць стаў не так моцна.

Пракапенка часта калясіў па раёне і быў упэўнены, што калі прыйдзе чалавек у райвыканком па справе — часцей за ўсё гэта былі скаргі, то Даўгалёў зможа разабрацца, вырашыць аператыўна, і пазваніць куды трэба, і параіць. Старшыні ён дакладваў аб усім коратка, сцісла, па-ваеннаму.

Усё часцей Даўгалёў гаварыў пра ўпаўнаважанага па нарыхтоўках Крупадзёрава: найбольш скардзіліся людзі на яго. Скаргі былі розныя, не ўсе абгрунтаваныя, але не мог не прыслухацца да іх Пракапенка, ды, на жаль, і ўплываць на Крупадзёрава не мог. Той нікога не прызнаваў у раёне, апроч першага сакратара райкома Лугаўцова, якога трохі пабойваўся і асцерагаўся. А цяпер Лугаўцова няма, то Крупадзёраў можа зусім разбэсціцца. Апошнім часам ён амаль штодня наведваецца да дырэктара спіртзавода. Бывае, і з раніцы ад упаўнаважанага патыхае, як з піўной бочкі. У яго пакуль што няма намесніка. Вось каб падшукаць добрага разумнага хлопца, каб потым і Крупадзёрава прыструніць, а то і замяніць, калі не абразуміцца чалавек.

Кадры, кадры... Зноў думкі старшыні райвыканкома

вярталіся да гэтай праблемы. Ён разумеў, што новы год паставіць перад ім дзесяткі пытанняў. Вышэйшае кіраўніцтва будзе больш строга патрабаваць, маўляў, вы ўжо больш года працуеце на вызваленай тэрыторыі. Адно было спадзяванне на новы год, што пераможам Гітлера, скончыцца вайна, а там пачнём будаваць, шпарчэй аднаўляць разбураную гаспадарку.

Пракапенка памалу, нетаропка хадзіў у сваім кабінеце. Адна масніца рыпела, ён стараўся цераз яе пераcігнуць, на яе не наступаць. Так і сігаў, як бусел цераз купіну, бо масніцы былі шырокія — тоўстыя дрэвы раслі ў прыбяседскіх лясах.

У калідоры пачуліся крокі, цяжкія, няроўныя, з лёгкім стукам мыліцы: так мог тупаць толькі Даўгалёў. Дзверы ў прыёмную былі адчынены, бо сакратарка адпрасілася дамоў — захварэла дзіця. Цераз парог пераступіў Даўгалёў з сіняй кардоннай папкай, у якой звычайна прыносіў старшыні пісьмы, скаргі, паперы на подпіс. За ім паказаўся твар незнаёмага чалавека ў гімнасцёрцы без пагонаў.

— Антон Яўсеевіч, можна да вас? — спыніўся Даўгалёў ля парога.

— Чаму ж не? Заходзьце.

— Я не адзін. Гэта таварыш Чэпікаў, Сцяпан Ігнатавіч. Франтавік, шукае работы...

Пракапенка падаў Чэпікаву руку, запрасіў сесці.

— Антон Яўсеевіч, можа, я пайду? Там у мяне яшчэ людзі, — Даўгалёў нерашуча таптаўся ля парога. Стаяў і Чэпікаў.

— Ты ж прывёў чалавека. Дык закінь за яго слова. А то, называецца, пазнаёміў, — усміхнуўся Пракапенка.

— Ён сам усё вам раскажа. А слухаць вы ўмееце, Антон Яўсеевіч.

— Не люблю падхалімаў. Можаш ісці, — знешне строга сказаў Пракапенка, хаця яму спадабаліся словы падначаленага, што ён умее слухаць. — Ну дык сядайце, расказвайце, Сцяпан Ігнатавіч.

Чэпікаў сеў, расправіў гімнасцёрку, яшчэ па-вайсковаму туга зацягнутую рэменем, сцішана кашлянуў у кулак.

— Не ведаю, Антон Яўсеевіч, з чаго пачаць?

— Адкуль вы родам? Дзе ваявалі?

— Родам я тутэйшы. З Баравухі. Бацькі жывуць

там, старыя ўжо. Да вайны скончыў у Белай Гары дзесяць класаў, працаваў фінагентам...

— Колькі вы працавалі фінагентам?

— Мусіць, з год... Вайна пачалася. Быў пад Масквой. У партыю ўступіў перад наступленнем... Пад Масквой і параніла. Потым наша армія вызваляла Гомель. Пад Брэстам яшчэ раз параніла. Тры месяцы ў шпіталі кантаваўся. Спісалі дамоў...

Пракапенка слухаў яго надзвычай уважліва, пачуўшы, што працаваў фінагентам, падумаў: во каго трэба зрабіць наменснікам Крупадзёрава — малады, але ўжо з вопытам, франтавік, партыец, тутэйшы родам, адукаваны.

Гаварылі яны доўга: Пракапенка распытаў пра ўсё — як жывуць бацькі, якую маюць хату, якую прафесію мае жонка.

— Жонка настаўніца. Да вайны скончыла педтэхнікум...

— Нам вельмі патрэбны настаўнікі. Нават у Лабанаўцы, у самім райцэнтры, школа не ўкамплектавана. І вам работа знойдзецца. Давайце дамовімся так, — Пракапенка памаўчаў, а потым спытаў, нібы спахапіўся: — А дзе вы сёння начуеце?

— Я думаў, што паспею дамоў. Восем кіламетраў да Баравухі... Але затрымаўся. Міхаіл Касьянавіч запрасіў да сябе...

— Добра, калі так. Тады заўтра ў дзесяць заходзьце да мяне. Нешта прыдумаем, — Пракапенка падняўся, падхапіўся і Чэпікаў.

Яны стаялі напроці, амаль аднаго росту, каржакаватыя, прысадзістыя, толькі Чэпікаў быў гадоў на дваццаць маладзейшы.

— Вялікае вам дзякуй, Антон Яўсеевіч...

— Няма за што. Пакуль што я нічога для вас не зрабіў. Пагаманілі, пазнаёміліся.

— Я столькі часу ў вас забраў. Дзякуй за ўвагу.

— Мілы чалавек, я ж павінен вас выслухаць. Інакш вы будзеце думаць, што савецкая ўлада няўважлівая, а старшыня райвыканкома — бюракрат. За паперамі не бачыць жывых людзей, — усміхаўся Пракапенка і сваёй шчырасцю, усмешлівасцю яшчэ больш спадабаўся Чэпікаву.

Калі наведнік выйшаў, Пракапенка ўзяўся чытаць пісьмы, скаргі, але адчуў, што галава ўжо дужа стамі-

лася за дзень і ён не ўсё разумее. Адклаў паперы на раніцу, а зараз вырашыў схадзіць у райком партыі, бо і новы першы сакратар Сяргей Хачатуравіч Акапян, які нядаўна прыехаў у Лабанаўку, позна сядзіць на рабоце. І сапраўды вокны ягонага кабінета яшчэ свяціліся.

У прыёмнай не было нікога, Пракапенка коратка пастукаў і адчыніў дзверы.

— Заходзь, Антон Яўсеевіч, заходзь, душа любезны, — Акапян падняўся яму насустрач, пааздароўкаўся, хоць яны ўжо сёння бачыліся. — Сядай. Добра, што зайшоў. Я тут вывучаю план лесанарыхтовак. — Акапян падсунуў Пракапенку пачак «Казбеку». — Закуры, дарагой.

— Хіба што за кампанію. Калісьці ў маладыя гады і я курыў, а потым кінуў. У партызанах мне зайздросцілі хлопцы, што не куру. Яны, бедалагі, калі канчалася махорка, дык мох курылі, альховае лісце. Праўда, як пабагацелі на курыва — захапілі ў немцаў багата цыгарэт, — дык і я дыміў. Лета было, машкарэчы поўна, лезе ў вочы. А дым адганяе.

— Гэта мне знаёма. Я ў лесе адпакутаваў без курыва, затое калі была махорачка, зацягнеш самакрутку каля вогнішча пад елачкаю — і жыць зноў хочацца. А потым з Бальшой зямлі «Казбеку» нам падкінулі, дык я быў проста шчаслівы. Цяпер без яго жыць не магу. Затое якія маразы былі, завірухі, ніводнага насмарку не ведаў. Я ж чалавек каўказскі, не прывычны... А нядаўна такая прастуда аднекуль прычапілася. З носа, з вачэй цякло. Праўда, хутка вылечыўся. Параілі добрыя людзі партызанскі спосаб. Ведаеш які? Памазаць лусту хлеба гарчыцай, пасыпаць перцам, соллю, наверх цыбульку і да гэтага чацвярцінку. Шарахнуў. І раніцай прачнуўся здаровы, — усміхнуўся Акапян.

— Трэба сэрца мець моцнае.

— Пакуль што вытрымаў матор... Дык вось, Антон Яўсеевіч, сяджу над планам. Цяжка нам будзе.

— Ой, у мяне ўжо каторы дзень галава баліць. Помню, як летась напакутаваліся. Дык тады ж план быў меншы. У асноўным — рудстойка. А цяпер давай дзелавую драўніну. Давай шваі-калоды. А хто іх будзе даваць? Інваліды, жанчыны ў вёсках...

— І тым не менш, душа любезны, план трэба выканаць.

— Трэба, нідзе не дзенешся, — уздыхнуў Пракапенка. — Перш за ўсё нам трэба стварыць катлапункты. Каб чалавек хоць раз у дзень пасёрбаў гарачага. Але тут загваздка. Няма катлоў. Летась прыстасавалі пару партызанскіх. А на астатніх лесаўчастках хто як перабіваліся... Прасіць у вобласці трэба. Далей. Усе калгасы заходняй і паўночнай зоны... — Пракапенка падышоў да карты раёна, што вісела на сцяне, Акапян стаў побач. — Усе гэтыя калгасы, прыгарадныя гаспадаркі, словам, усе, каму бліжэй на станцыю, хай возяць лес сюды. Чыгуначнікі абяцаюць вагоны. Я гаварыў з начальнікам станцыі... А ўсе зарэчныя калгасы хай трэлююць лес да Бесядзі. Сплаўкантора арганізуе прыёмку і ўсё такое.

— Ну што ж, думаю, гэта правільна. І людзі будуць бліжэй ад дому. І ў лазні падскочаць памыцца, і харчу якога прыхапіць... На днях на бюро ўсё абмяркуем. Заседзеўся я ў кабінеце. Раён трэба вывучаць, з людзьмі знаёміцца... Хачу дзён на дзесятак у лес выбрацца. Высечы дзялянку. Кажуць, добры прыклад — лепшая агітацыя.

— Дык і я не супраць. Мой бацька цесляром быў...

— Спачатку я з'езджу, а потым ты. Нельга ж раён пакінуць... без улады. Праўда, мой бацька не быў лесарубам. Ён вінаград расціў. Але ў партызанах і я навучыўся пілу і тапор трымаць.

Яны яшчэ доўга гаварылі аб розных справах, бо ў канцы года іх набягае заўсёды багата, і, вядома, зайшла гаворка пра кадры.

— Заходзіў да мяне сёння чалавек. Франтавік, партыец. Родам з нашага раёна, з Баравухі. Да вайны фінагентам працаваў, — сказаў Пракапенка, але не спяшаўся выкладваць усё.

— Ці ёсць у фінаддзеле месца? Трэба ўладкаваць чалавека.

— Няма ў фінаддзеле. Туды дзяўчат набралі. Хоць і без адукацыі, але стараюцца. Будуць вучыцца. Маладзенькія ж яшчэ.

— А што, калі старшынёй сельсавета? Можна і калгас які прапанаваць. Пасля Новага года будзем праводзіць справаздачныя сходы...

— Я таксама падумаў пра гэта, — схітрыў Пракапенка, — ды мала ведаю чалавека. Дарэчы, у Крупадзёрава няма намесніка. А тут былы фінагент, вопыт

мае. І дзесяцігодку скончыў, адукаваны. Не тое што сам упаўнаважаны. Ён хоць і піша ў дакументах: скончыў шэсць класаў, але гэта не так. Гаварылі мне людзі з ягонай вёскі, што вучыўся Крупадзёраў усяго адну зіму.

— Гэта, можа, плёткі. Галоўнае, як чалавек працуе. Раён па нарыхтоўках у перадавіках ходзіць. У вобласці Крупадзёравым задаволены.

— Яно так. Грукаць па стале ён умее. Але і скаргаў на яго багата. І выпіць любіць...

— Я думаў запрасіць яго на днях на гутарку. Наконт нядоімшчыкаў. Трэба паглядзець, хто ў нас нядоімшчыкі. Ці сапраўды беднякі, ці хітруны вялікія. А заўтра давай да мяне гэтага чалавека. Пагамонім, пазнаёмімся, тады паклічам Крупадзёрава.

Пракапенку падабалася гэтая рыса Акапяна — не адкладваць надоўга справы, не займацца лішняй гаварыльняй. Клопату ў яго цяпер па макаўку, але заўтра хоча пазнаёміцца з новым чалавекам, падтрымаць яго.

— Сяргей Хачатуравіч, Новы год на парозе. Дзе будзеце сустракаць?

— Дзе? На сваім рабочым месцы, — весела адказаў Акапян, быццам такая перспектыва яго дужа радавала. — Хачу з'ездзіць да сям'і. Не ведаю, ці ўдасца.

Сям'я жыла дзесьці пад Гомелем, і дабрацца туды цяперашнім часам не так і проста, бо паязды хадзілі рэдка, былі яны перапоўненыя, на маленькай станцыі проста не ўбіцца.

— Калі што якое, заходзьце да мяне. Я ўжо троху абжыўся. Бульбу сваю маю. Гурочкі салёныя ёсць, капуста. Ну, і па кроплі знойдзецца той вадзіцы, што гусі не п'юць. Правядзём стары год, спаткаем новы.

— Дзякуй, Антон Яўсеевіч. Не гавары мне «вы», душа любезны. Давай на «ты». Згода? — Пракапенка кіўнуў у адказ, Акапян падаў яму руку, абняў за плечы. — Нам трэба сустракацца і гаварыць не толькі ў кабінеце. Як твае сыны вучацца?

— Стараюцца хлопцы. Генка на пяцёркі канчае чвэрць. А Вадзік, першакласнік, па пісьму чацвёрку мае.

— Малайцы, так ім і скажы. А ў мяне адзін сын. На другога пакуль што грошай не ставала. Мо цяпер, пасля вайны пабагацеем... Хачу паехаць да іх... Калі не ўдасца, прыйду абавязкова...

На гэтым яны развіталіся. Акапян яшчэ застаўся ў райкоме, а Пракапенка пайшоў дахаты. Нягледзячы на цяжкі, тлумны дзень, настрой у яго палепшыўся, і было прадчуванне, што з Акапянам яны будуць ладзіць і дружна працаваць.

## XXIV

Ноччу Андрэйку прысніўся сон: яны з Колем бегаюць па замерзлай Бесядзі і раптам убачылі пад лёдам вялізную чорную рыбіну. «Гэта сом!» — крыкнуў Коля, пачаў стукаць абухом. «Мацней бі! Уцякае рыба!» — Андрэйка топаў нагамі. Лёд затрашчаў, праламаўся, і Коля шуснуў у ваду. Андрэйка схапіў яго за руку і з усяе сілы цягнуў на лёд, але моцы не хапала. Колю ўсё глыбей зацягвала ў пролубку, рука яго слабела, пальцы разагнуліся, выслізнулі. Андрэйка бацнуўся спінаю на лёд. Калі падняўся, у пролубцы плавала Колева аблавушка.

Тут Андрэйка прачнуўся. У акно нехта стукаў.

— Іду, іду! — крыкнула маці, апранаючыся.

Праз хвіліну яна вярнулася ў хату, следам за ёй увайшоў нехта яшчэ і грукаў ботамі ля парога. Андрэйка пачуў абрывак гаворкі.

— Як гэта здарылася? — пытаўся хрыплаваты мужчынскі голас.

— Ой, Мацвеечка, нацярпеліся мы горачка...

— Гэта бацька, — здагадаўся Андрэйка, і сэрца яго закалацілася ад радасці. Ён падняўся, каб пагля дзець на бацьку, але ў хаце было цёмна. Маці спрабавала раздзьмуць вугольчыкі, каб запаліць лучыну.

— У мяне ж ёсць запалкі, — успыхнула сярнічка і асвяціла мужчыну з паголенаю галавою, высокім ілбом, прамым носам і вусамі. — А дзе ж ён? — агледзеў хату мужчына.

Андрэйка ледзь не крыкнуў: «Я тут. Я не сплю», — але маці апярэдзіла яго, праз слёзы сказала:

— Пахавалі ўчора. Чакалі цябе да вечара...

Бацька стомлена сеў ля стала, прываліўся да сцяны:

— Я так спяшаўся. Дзве ночы не спаў... Бедны Міколка. Згарэў як свечка. Праклятая вайна... З усіх бакоў б'е...

— Можа, назусім пусцілі? — маці распальвала печ.

— Не, на пяць дзён. Па вясне, можа, назусім...

Лучына разгарэлася мацней, і Андрэйка разглядаў употайкі бацьку: вусы ў яго, як у маршала Варашылава, што ў буквары на малюнку, а вочы сінія, сумныя, ледзь не плачуць — шкадуе Колю.

Бацькавай карткі не было ніводнай: да вайны ён з маці ні разу не фатаграфаваўся, і Андрэйка ні разу не здымаўся і не меў ніводнай фотакарткі. Ён глядзеў на бацьку, пазнаваў яго і не пазнаваў. «Ці помніць ён мяне?» — малому карцела падбегчы да стала і ў той жа час было страшнавата гэта зрабіць.

— А як Васька, Андрэйка? — нібы адгадаў думкі малога бацька.

— Ну, нічога. Растуць памалу. Спяць вунь на палку.

— А я не сплю! — нечакана для сябе падаў голас Андрэйка і з галавою схаваўся пад коўдру.

— Хто там такі смелы? Што ета за ранняя птушачка? — бацька падышоў да палка, адгарнуў посцілку. — Хадзіт-ка сюды, разбойнік малы! — дужыя рукі паставілі Андрэйку на ногі, ласкава абцягнулі ягоную кашульку, што і так была амаль да каленяў. — Ого, які бальшун! Вышэй за мяне, — бацька ўзяў Андрэйку на рукі, прыхінуў да сябе, колючы вусамі і няголенаю барадою. — Пачакай, сынок. Я ж табе нешта прывёз...

Бацька развязаў рэчавы мяшок і дастаў адтуль нешта цёмнае, толькі цёпла чырванелася вялікая зорка.

— Заплюшчвай вочы! — Андрэйка зажмурыўся і адчуў, як на галаву яго бацька насунуў нешта халоднае і мяккае. — Ета будзёнаўка. У арміі іх ужо не носяць. Але во недзе завалялася на складзе... Цяпер ты, сынку, і сапраўды — як Герой Савецкага Саюза. Помніш, калі малы быў, усё гаварыў, што ты герой?

Андрэйка моўчкі, асцярожна сцягнуў з галавы шапку — хацелася разгледзець яе, памацаць гузікі, і яшчэ карцела пабудзіць Ваську, каб пабачыў яго ў будзёнаўцы. Але брат моцна спаў і нічагуткі не чуў.

Маці тым часам згатавала бацьку сняданне, падала на стол.

— Не ўберaглі Колю, — уздыхнула маці. — Такі ён быў шустры. Такі непаседа... А вучыўся лепей за ўсіх у школе... — Бацька перастаў есці, нібы засела нешта ў горле, ён згорбіўся і падаўся Андрэйку старым і вельмі змораным. — І Пятрок невядома дзе... Гадавалі дзяцей, расцілі... Еткая была сямейка... — далей маці не магла гаварыць, закрыла далонямі твар,

і плечы пад накінутаю старэнькаю клятчастаю хустаю ўздрыгвалі ад бязгучнага плачу.

Бацька неяк нерашуча паклаў ёй руку на плечы, ціха пагладзіў, бы малое дзіця:

— Ну, не трэба, Каця. Ва ўсіх гора... Колькі сем'яў немец вынішчыў поўнасцю. Колькі вёсак спапяліў. З усімі людзьмі... Выпі во лепш чарку. А то сама ўчарнела. Мусіць, нічога не ясі...

— Давай, Мацвейка, за тваё вяртанне. І за Петракова! — маці зажмурылася і кульнула поўную чарку.

Размерана і нястомна цікаў гадзіннік, ланцужок тарганууўся ўніз пад цяжарам гіркі і кінжала.

Час — вялікі лекар чалавечых ран — адлічыў гадзіны новага, сорак пятага года.

Назаўтра выдаўся светлы, сонечны дзень з марозікам, снег рыпеў пад нагамі, калючы ветрык шчыпаў за нос і вушы. Але мароз не палохае, калі на галаве цёплая будзёнаўка, яна шчыльна затуляе вушы і нават шыю, на нагах новыя буркі з чырвонымі бахілкамі.

Андрэйка катаўся з горкі ля хаты на лучынках, падаў часта, бо разбягаліся яны ў бакі. Каля Арцёмавай хаты пабліскваў лёдам, выслізганы штонікамі і куфайкамі, каўзель. Бацька зірнуў на Андрэйкавы лыжы, паківаў галавою, потым узяў пілу, паклікаў Ваську. Адрэзалі яны невысокую, без сучкоў, калодачку.

— Сядай на калодку і катайся з горкі, — сказаў бацька. — І штонікі будуць цалейшыя. Меней падаць будзеш.

Радаваўся Андрэйка: бацька прыехаў, будзёнаўку прывёз, новыя бахілкі і бурачкі, калодачку зрабіў. Як тут не радавацца, але няма Колі, і Андрэйка хадзіў сумны. Бывала, захапляўся гульнёй, забываўся, нават смяяўся, але тут жа, нібы спахапіўшыся, змаўкаў, бег дахаты, каб паглядзець на бацьку, паслухаць яго.

Як бы ўсе радаваліся: і мама, і Марына, і Васька, і Коля...

Ён, Коля, так хацеў пабачыць бацьку! Чаму чалавек павінен памерці? Ну, калі стары Гылігор, якому, можа, надакучыла жыць, як і бабулі Васілісе, памрэ, дык нічога дзіўнага. А калі малы, такі, як іхні Коля, які нават школу не скончыў, ажаніцца не паспеў, дзяцей пасля яго не засталося... Такая смерць, лічыў Андрэйка — вялікая несправядлівасць, і супраць гэтага паўставала ўся яго маленькая істота. Вось лісце на дрэвах увосень

ападае, трава сохне, дык вясной яны зноў зеленеюць, зноў нараджаюцца, а чалавек як памёр, дык і ўсё. Няўжо ён болей ніколі ўжо не народзіцца зноў?

Цяжкія думкі прыгняталі Андрэйку, і папытацца пра гэта ён ні ў кога не адважваўся. Як вырасце вялікі, сам пра ўсё даведаецца.

А ў хаце стаяла гамана. Заходзілі суседзі, сядалі на лаве, тоўпіліся ў парозе. Потым прыйшоў незнаёмы мужчына ў шынялі без пагонаў, з адной нагой у валёнку. Ён адчыніў дзверы, ускочыў на парог, тады пераставіў мыліцы, прычыніў дзверы, сігануў далей. Бацька рвануўся яму насустрач, схапіў у абдымкі, яны доўга стаялі сярод хаты, ціскаючы адзін аднаго. Мыліца грымнулася на падлогу. Арцём падняў яе. Бацька давёў незнаёмца да стала, селі яны побач і ўсё ўглядаліся, усміхаліся.

— Во, значыцца-брат, сустрэліся два брыгадзіры, — Арцём таксама абняў незнаёмца. — Добра, што ты прыйшоў, Макар. Адкуль ты дазнаўся, што Мацвей дома?

— Сарока на хвасце прынесла... Ледзь дакавыляў з Канчанскага боку, — мужчына зняў шапку, выцер ёй белы і чысты лоб. — Ну, дык як ты, Мацвей? Жывы, здаровы. Ведаю, гора ў цябе... Шкада мальца. Ладны хлапец. Кажуць, у школу хадзіў... Ну, а сам як? Галоўнае, жывы...

— Жыў-то жыў, ды нядуж. Разы два мяне скубанула. Праўда, рукі-ногі, як бачыш, не зачапіла... А цябе, Макар, дзе ета прыхапіла?

— На Курска-Арлоўскай... Арол бралі. На міну наскочыў. Асколкам рубанула. Вот і адчыкрыжылі па самае некуды... Каб ніжэй калена, дык можна б з пратэзам хадзіць. Хоць на танцы. А з такой кульцяй толькі дома сядзець. Затое эканомія — адзін валёнак трэба, — усміхнуўся Макар, ад чаго ў кутках каля вачэй збегліся ў пучок маршчынкі. Падстрыжаны ён быў высока, пад бокс, густы шчаціністы вожык валасоў з тонкімі ніткамі сівізны давяршаў яго аблічча.

Андрэйка зразумеў, што незнаёмца завуць Макарам Тарасавічам, што да вайны ён, як і бацька, працаваў брыгадзірам.

Макар Тарасавіч гаварыў пра Сталінград, пра Курск, Арол. Андрэйка ведаў, што Сталінград і Курск — гэта гарады. А вось Арол, які бралі, гэта што? Чуў пра та-

кую птушку, песню пра арла, які лятае высока-высока. Як жа яго бралі? Няўжо стралялі?

Гамонка ў хаце скіравалася ў іншае рэчышча: Арцём пачаў апавядаць, як нашы чырвонаармейцы вызвалялі Хатынічы. Арцём расчырванеўся, Макар таксама заружавеўся, і бацька расшпіліў верхнія гузікі гімнасцёркі.

— Спярша былі сунуліся ў лоб узяць. З лесу, цераз Бесядзь. А немец як лупяне з кулямётаў. Куды там? Сядзі і галаву не падымай. Тады ноччу перайшлі Бесядзь у Ключы, цераз луг прабраліся. Кустоў там багата. Ды немцы іх там не дажыдалі, не думалі, што праз балота нашы пойдуць. А яны праз Сіліцкі ручай, а ён цячэ па раўчуку, выйшлі на дарогу Белагорскую. Перайшлі Глымазіна балота, а ў Галным балоце, у кусціках, акапаліся... Поле ўсё відно і хаты як на далоні... І вот уранні з лесу арудзіі ўдарылі, а яны тады з поля часанулі немцу ў зад. Тут і ад Бесядзі падняліся, крыкнулі «Ура!». Дык немец і ў штаны напусціў... Не ведалі, куды кідацца. Драпанулі на саковіцкі бальшак, а тут з Галнага іх і разанулі. Як па выгане ехаць, а тады паваротка на Бярозавае балота, ляжалі немцы, як дровы. Штук дваццаць, а мо і трыццаць. Яны па выгане беглі ці, можа, ехалі, а іх і секанулі... Ета ж я падсаветаваў засесць у Галным балоце, — Арцём памаўчаў, разумеючы, што моцна заінтрыгаваў слухачоў, падміргнуў Андрэйку, маўляў, ведай нашых, мы таксама ваявалі.

— Значыцца-брат, я быў у лесе. Прыходзяць парцізан і салдат. Парцізан родам з Лясковіч, ён мяне ведаў, і кажа: цябе, Шандабыла, да камандзіра завуць. Павялі мяне. За Бабінай Гарой у бліндажы ў іх штаб знаходзіўся. Камандзір ці начальнік штаба, не ведаю, хто ён быў, капітан па званню, распытаў у мяне ўсё: ці можна абысці дзярэўню, каб з поля немцу ў зад ударыць. Даў мне падумаць дзесяць мінут. Я паказаў ім, дзе перайсці Бесядзь, як праз луг. Толькі, кажу, не магу правесці вас, ногі кароткія... Тады яны прывялі Пецьку Шкрэдава са Стараселля. Разам з Пецькам мы ўсё абмазгавалі, і ён павёў іх ноччу. Чалавек сорак нашых салдат.

— Навучыліся ваяваць і мы. Дарагою цаной далася навука, — уздыхнуў бацька, наліў чаркі. — Ну што, браткі, за перамогу?!

— За перамогу грэх не выпіць, — крактануў Макар і падняў самаробную бутэлечную шклянку.

— Каб хутчэй людзі двору вярталіся, — задуменна сказаў Арцём.

У гэтых кароткіх словах было яго самае запаветнае жаданне. Таксама як і самае запаветнае жаданне зня-вечанага вайною Макара Казакевіча, Мацвея Сахуты, які спадзяваўся, што яшчэ вернецца яго старэйшы сын.

— Мы ўжо тут саўсім падбіліся. Я во сяджу з вамі, гаманю, а сам думаю: як ета шваі вывезці. План прыслалі. А ў лес няма каму ехаць, хоць плач, — Арцём узяўся круціць цыгарку, а то б і напраўду заплакаў. — Тую зіму Ахрэм Куцай-гарнец адседзеў у лесе. Даваў рудстойку. Вольга рабіла, другія бабы... А сёлета план большы. Як бы мне адбіцца ад етага старшынёўства? Прышлюць паперу якую, дык я бэкаю-мэкаю. Адну зіму ў школу хадзіў. Адкуль тая грамата будзе.

— А я тры зімы. Недалёка адбегся ад цябе, — сумна ўсміхнуўся бацька. — Толькі зімы. Увосень не было калі. А як снег раставаў, школу кідаў. Каровы пасвіў.

— Я вас абскакаў, — зарагатаў Макар. — У мяне чатыры класы і пяты калідор. Паўзімы пахадзіў і кінуў.

— Вось і быць табе старшынёй. Скора сход. Ты чалавек парцейны. Маладзейшы за мяне. Кіруй. А я брыгадзірам пайду. Пакуль Мацвей вернецца, а тадыканюхам буду. От люблю коней даглядаць! Карміць іх, паіць, ездзіць з вецяркам. Конь — ета ж такая разумная жывёліна... — твар дзядзькі Арцёма зрабіўся мяккі, задуменны, а невялікія зеленаватыя вочы паглядалі цёпла і ласкава.

«Праўду кажа дзядзька Арцём. Конь — самая разумная жывёліна. Вось як выраcту, буду памагаць Арцёму дагледаць коней, — вырашыў Андрэйка. — У мяне ж будзёнаўка ёсць. Буду ездзіць, як сапраўдны кавалерыст».

*Вайна блізілася да заканчэння. Пятнаццатага студзеня 1945 года І. В. Сталін пісаў прэзідэнту Ф. Рузвельту:*

*«...Пасля чатырох дзён наступальных аперацый на савецка-германскім фронце я маю магчымасць паведа-*

*міць Вам, што, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, наступленне савецкіх войск разгортваецца здавальняюча. Увесь цэнтральны фронт, ад Карпат да Балтыйскага мора, знаходзіцца ў руху на захад. Хоць немцы супраціўляюцца адчайна, яны ўсё ж вымушаны адступаць. Не сумняваюся, што немцам давядзецца раскідаць свае рэзервы паміж двума франтамі, у выніку чаго яны будуць вымушаны адмовіцца ад наступлення на заходнім фронце. Я рад, што гэтая акалічнасць аблегчыць становішча саюзных войск на захадзе і паскорыць падрыхтоўку назначанага генералам Эйзенхауэрам наступлення».*

## XXV

У зімовым лесе ўладарыць цішыня. Зрэдку падасць танклявы жаласлівы галасок сінічка, патукае па званкай сухастойцы дзяцел, нібы перадасць зводку ляснога інфармбюро, быццам камяк снегу з чорным пер'ем прашмыгне сарока, нават чутно, як разразае яна крыламі настылае паветра, патраскоча ўстрывожана, раскажа ўсім лясным жыхарам навіны — і зноў цішыня.

Месячнаю каляднаю ноччу павыюць на паляне ваўкі, трэсне галінка— зломіцца пад снежным цяжарам, — і зноў змоўкне ўсё, толькі вецер, бывае, усхопіцца раптам, змяце з вершалін снег і заціхне, стомлены, у гушчары.

Вялікая, усеабдымная ціша пануе зімой у лесе.

Але не ведаў цішыні беларускі лес у вайну. Не было яе, цішыні, і пасля таго, як прагналі чужынца. Стагнаў бор ад перастуку тапароў, ад уедлівага звону піл, гудзеў ад людскіх галасоў, натужнага скрыпу саней і падсанкаў. Не чуваць было птахаў, і дзяцел асцярожна стукаў, быццам баяўся зламаць сваю дзюбу аб кулю ці асколак.

Лес уздрыгваў, калі з грукатам і стогнам падала вобземлю дрэва. А падалі дрэвы адно за другім. Бо гэтулькі трэба лясін, каб ставіць новыя хаты на месцы зямлянак, гэтулькі трэба дроў, лучыны...

Лесу прасілі разбураныя гарады, заводы, шахты.

Гудзеў прыбяседскі лес, стагналі Чэрыкаўскія, Бранскія лясы.

Нарыхтоўка лесаматэрыялу — была надзённая за-

дача. Разумеў гэта першы сакратар Лабанаўскага райкома партыі Сяргей Хачатуравіч Акапян і адразу пасля Новага года паехаў у Бяседавічы на самы аддалены лесаўчастак.

Сустрэў яго там старшыня Бяседавіцкага сельсавета Мікалай Сідаравіч Раковіч, малады высокі мужчына з перабітым левым плячом, якое выглядвала ніжэйшым і вузейшым, і хадзіў ён неяк бокам, выстаўляючы наперад правае здаровае плячо, асцерагаючы левае, параненае, нібы загароджваў яго нават ад ветру.

Акапян яшчэ не ведаў усіх старшынь сельсаветаў, не кажучы пра кіраўнікоў калгасаў, якіх было больш як паўтары сотні, але з Раковічам паспеў пазнаёміцца: Раковіч выступаў на бюро райкома, калі абмяркоўвалі план лесанарыхтовак, ён паскардзіўся, што завышаны заданні слабым забяседскім калгасам, што не хапае коней, збруі, амаль зусім няма падсанкаў. Акапян адразу не зразумеў, што такое падсанкі, але выгляду не падаў. Затое Пракапенка, можна сказаць, выручыў яго і адразу адпарыраваў: трэба неадкладна рабіць падсанкі, бо траляваць лес без іх немагчыма, доўгае бярвенне будзе валачыцца па зямлі, ніякі конь не пацягне.

Слухаючы Раковіча, углядаючыся ў яго твар, адкрыты, гладка паголены, нават тонкая драпіна ад брытвы была знаць на падбародку, Акапян тады падумаў: а што, калі паехаць мне ў Бяседавічы? Становішча там нялёгкае, і пра гэта ўсе ведаюць. Старшыня сельсавета, здаецца, чалавек талковы, разам з ім можна арганізаваць работу і даказаць усяму раёну, як трэба працаваць, і што ён, Акапян, хай пакуль што не ўсё ведае ў раёне, не ведае, што такое падсанкі, гужба, шваі — а гэтае слова, аказваецца, мае два значэнні: шваяя — тоўстае бервяно, шула і другое — шэсць метраў драўніны, — але ўмее падняць людзей.

Увогуле, на тым пасяджэнні бюро атрымалася так, што Пракапенка задаваў тон, удакладняў, папраўляў, даказваў, а яму, Акапяну, даводзілася толькі паўтараць высновы старшыні райвыканкома і, так сказаць, завастрыць сітуацыю, заклікаць абавязкова выканаць план і паабяцаць сурова пакараць адстаючых. Яго маўкліва слухалі, ніхто не пярэчыў. Калі ён звяртаўся персанальна да некаторых, то па звычцы не-не ды і гаварыў «душа любезны», і тады сёй-той цішком усміхаўся ў рукаў.

Разам са старшынёй сельсавета Раковічам Акапян аб'ехаў усе шэсць калгасаў, размешчаных на тэрыторыі сельсавета, дзве ночы перабыў у старшыні, потым паехалі ў лес.

Лесарубы жылі ў зямлянках, некаторыя кватаравалі ў бліжэйшых вёсках. Надвор'е стаяла ціхае, але марозік ціснуў — ноччу падскокваў да дваццаці градусаў, а ўдзень свяціла зыркае каляднае сонца, пра якое людзі кажуць: свеціць, ды не грэе. Затое грэла работа. Першае, што здзівіла Акапяна — амаль усе мужчыны і жанчыны працавалі без рукавіц, сёй-той у расшпіленых ватоўках.

— Чаму людзі без рукавіц? Мы ж атрымалі многа салдацкіх рукавіц, — павярнуўся Акапян да Раковіча.

— Усім выдалі. Чаго-чаго, а рукавіц маем дастаткова. Як добра ўгрэешся, дык рукавіцы не трэба. А вунь ідзе Шандабыла, хатыніцкі старшыня.

— Гэта які там калгас?

— У Хатынічах? «Пяцігодку ў чатыры гады». У іх Белагорскі сельсавет. Але яны таксама ў нашым лесе працуюць... Арцём Іванавіч! — гукнуў ён старшыню.

Шандабыла ўжо і сам спяшаўся да начальства, бо ўгледзеў райкомаўскі вазок здаля, але ісці хутка ён не мог, ды і снег ужо быў ледзь не ў калена. Акапян пазнаў яго, пайшоў насустрач, падаў руку, той моцна абхапіў яго далонь. Рука старшыні была цёплая, шурпатая, ліпкая ад смалы.

— Як працуецца, Арцём Іванавіч? — спытаў Акапян.

— Грызём памалу... Брат-значыцца, малавата людзей. Усе, хто тут ёсць, стараюцца...

— Кацёл прывезлі? Абеды варыце?

— Кацёл паабяцалі. Ды пакуль што няма. У казанку грэем чаёк. Мы — людзі прывычныя, Сяргей Ха... Хачатурнавіч, — не адразу вымавіў Арцём гэтае слова.

— Завіце мяне Харытонавічам.

— Ета па-нашанску, Сяргей Харытонавіч, — з радасцю сказаў Шандабыла.

— Вось што, таварыш Раковіч, неадкладна едзьце ў сельсавет. Званіце Пракапенку. Заўтра каб кацёл быў тут, — строга сказаў Акапян і дадаў ужо мякчэйшым голасам: — Давай, душа любезны, каці. А я застануся...

Раковіч кіўнуў на развітанне, ускочыў у сані і пагнаў каня. Акапян узяў Арцёма пад руку, што таго вельмі здзівіла, ён і з дзеўкамі не хадзіў пад ручку, и тут

з мужыком, ды яшчэ начальнікам, то ішоў ён, як спутаны, і доўга не вытрымаў:

— Харытонавіч, можа, я пайду паперадзе, а вы па маіх слядах. Так і лягчэй будзе, і хутчэй.

Апошняя заўвага, што будзе «хутчэй», адразу пераканала Акапяна, і ён згадзіўся, паслухмяна засігаў, цаляючы ў вялізныя Арцёмавы сляды. Гледзячы ў яго шырокую, як засланка, дужую, спіну, Акапян падумаў: во з кім трэба стаць разам, чалавек вопытны, здаровы, старшыня калгаса «Пяцігодку ў чатыры гады», разам з ім мы дакажам, што і лесанарыхтоўкі можна выканаць датэрмінова, калі працаваць па-ўдарнаму, з поўнай аддачай.

На лесасецы людзей было, як на кірмашы, з усіх бакоў даносіўся перастук тапароў, звінелі пілы, чуліся гучныя галасы.

— Сцеражыцеся! — роспачна, гучна крыкнуў нехта паблізу.

Арцём пацягнуў Акапяна ўбок.

Высачэзная елка здрыганулася, затрашчала ў камлі і павольна, як бы нехаця, усё больш хілілася да зямлі, бухматыя цёмна-зялёныя галіны-лапы, нібы крылы, задрыжалі, падалося Акапяну, што вось-вось елка ўзмахне сваімі галінамі-крыламі і паднімецца над лесам, паляціць да сонца. Але не, дрэва ўсё хутчэй, імклівей хілілася долу, нарэшце глуха грымнулася на зямлю, ламаючы рэдкі падлесак, і ахуталася воблакам снежнага пылу.

Ля свежага пня, жаўтлява-белага, як галандскі сыр, стаялі барадаты стары і аднарукі малады мужчына.

— Вось наша гвардыя, — выдыхаючы клубок пары, сказаў Арцём.

— Добры дзень, таварышы! Такую барыню вялізную вы палажылі, — усміхнуўся Акапян, вітаючыся з лесарубамі за руку.

— Прахціку маем, таварышу начальніку, — падпіхнуў з ілба сваю аблавушку дзед Гылігор. — А напарнік мой дык і сілу ў дадатак. Ды і вопыт набывае спраўна. Хоць і адну руку мае, а бабы з-пад яго не вылузваюцца...

— Мусіць, яны не дужа хочуць вылузацца. Самі мацней абшчэпліваюць, каб не зваліўся. Ці не так, Цімох? — ухмыльнуўся Арцём, павярнуўся да Акапя-

на. — Ета, Сяргей Харытонавіч, наш брыгадзір Емяльянаў.

— Вы ўжо мяне хоць перад начальствам не ета самае... А то Сяргей Харытонавіч падумае, што і праўда... — зніякавеў Цімох.

— Вы ўжо надта не бядуйце, таварыш Емяльянаў. Трэба ж некаму рабіць і гэту работу. Аднаўляць гаспадарку мы павінны шырокім фронтам. Каб ніякія механізмы не прастойвалі, — вясёлы, радасны настрой ахапіў Акапяна.

Ён ехаў і баяўся, што з усіх бакоў будуць сыпацца крыўды і прэтэнзіі, а тут людзі валяць дрэвы на марозе, па калені ў снезе, ды яшчэ і жартуюць. Адкуль у гэтых людзей такая вынослівасць, жалезная цярплівасць.

— Арцём Іванавіч, давайце мы з вамі кульнём якуюнебудзь прыгажуню, га? — Акапян рашуча зняў мехавыя пальчаткі, узяўся за гладкую, бы паліраваную, настылую ручку пілы і адчуў, як закалола ў пальцы ад холаду.

— Вы рана знялі рукавіцы. Вось калі ўгрэемся, тады можна, — Арцём, пыхкаючы самакруткай, умінаючы снег, абышоў круга тоўстай высознай сасны — глянеш уверх, шапка валіцца. — Ну, куды яна глядзіць, ета барыня? З етага боку голля больш, сюды і нахіл. Значыцца-брат, сюды і пацягне, — Арцём зірнуў на Акапяна, нібы шукаў згоды.

— Ну так, раз голля тут болей, дык яно і пацягне. Гэта, відаць, паўднёвы, сонечны бок, — сказаў Акапян, каб паказаць, што і ён у лесе не навічок.

— Цяпер паглядзім, як яна ляжа. Каб не завісла на дрэвах. Павінна прашчаміцца між етых елак. Давайце зробім надрэз, — Арцём кінуў на снег рукавіцу, апусціўся на яе каленам, другую рукавіцу падаў Акапяну. — Харытонавіч, бярыце пад калена. Ямчэй будзе.

Піла мякка ўвайшла ў тоўстую ля камля кару, потым у смалістую абалонь, сыпанула струменьчыкам белае пілавінне, запахла смалой-жывіцай. Акапян адчуў, як па спіне, між лапатак, разліваецца здаровая, бадзёрая цеплыня.

— Надрэз гатовы, — Арцём вышмаргнуў пілу, перавярнуў яе, зайшлі з другога боку, прымасціліся. Арцём зірнуў угору, на вяршаліну дрэва. — Махіна. З небам гаворыць... Ну што ж, галубка, хопіць табе стаяць,

красаваццa. Папаліў немец хаты. Трэба цябе, значыцца-брат, паваліць...

Арцём папляваў на далоні, і ўзяліся цягаць пілу. Спачатку было даволі лёгка, але чым глыбей уядалася ў дрэва піла, тым цяжэй яна хадзіла. Акапяну было зручней: ён пілаваў правай рукой, Арцём цягаў аберуч, бо адной левай надта не разгонішся. Піла ўжо не звінела, а глухавата шоргала, нібы і ёй было вельмі цяжка грызці тоўстае дрэва, выплёўваючы жаўтаватае пілавінне.

Акапян ужо стаміўся. Рукі яго ўсё мацней наліваліся, нібы свінцом, нейкім цяжарам, па шчацэ ля вушэй пакаціліся кропелькі поту. Так хацелася сказаць: «Давай перадыхнём трохі», але Арцём моўчкі, засяроджана цягаў пілу, нібы для яго зараз нічога іншага не існавала на свеце.

— Стоп! Аддыхнём троху, — Арцём спрытна вышмаргнуў пілу, падняўся, выпрамляючы спіну, паднёс пілу да грудзей, прыжмурыў вока. — Развод, здаецца, добры, але нейкі зубок заядае, — дастаў з кішэні ватнікаў металічную разводку, падраўняў некалькі зубоў.

Акапян тым часам з цяжкасцю падняўся, бо нага здранцвела, ды і другая амаль што анямела, пахадзіў, патопаў, удыхаючы свежае, марознае паветра на поўныя грудзі. Але перадышка прамільгнула імгненна.

— Ну што, Харытонавіч, паедзем далей? — Арцём ужо ўкленчыў ля сасны.

Зноў заспявала сваю песню піла. Акапян пазіраў, як усё паглыбляецца ў дрэве тоненькі раўчук, вось ужо і да палавіны дрэва дагрызліся, піла па самую ручку хавалася ў драўніне, разы два аж стукнуўся пучкамі кулака аб кару, бо Арцём цягаў моцна. Нарэшце перавалілі на другі бок. Акапян так углядаўся, як шырыцца далей надрэз, што, здаецца, вачамі еў дрэвы, але піла хадзіла ўсё цяжэй. Рукі зноў наліліся свінцовай стомай.

— Стоп, Харытонавіч! — скамандаваў Арцём. — Заціскае пілу, шэльма. Трэба клін загнаць, — не падымаючыся з каленяў, ён аднекуль з-за спіны дастаў дубовы клін, уставіў яго ў разрэз, стукнуў абухом. — Так, паехалі, значыцца-брат. Цяпер будзе лягчэй.

І сапраўды, піла лёгка, са звонам угрызалася глыбей, толькі суха шорглася аб клін, а потым заглыбілася, да кліна ўжо не даставала, дрэва, відаць, пачало

хіліцца, бо ўжо зусім не zaціскала пілу. Арцём пачаў цягаць хутчэй, і Акапян стараўся з усяе сілы. Дрэва затрашчала, яны ледзь паспелі вышмаргнуць пілу. Арцём упёрся рукамі ў ствол. Сасна крутнулася на пні, здрыганулася і спачатку павольна, быццам развіталася з небам, сваімі суседзямі, а потым усё хутчэй і хутчэй праціснулася між высокіх елак, збіла з іх снег і грымнулася вобземлю, ахутаўшыся белым снежным воблакам. Зыркія сонечныя промні пранізалі яго. Над паваленай сасной успыхнула іскрыстая вясёлка.

Акапян аж зажмурыўся ад здзіўлення, а калі расплюшчыў вочы, вясёлкі ўжо не было, затое снег вакол пня і далей быў спрэс рознакаляровы. Акапян з дзіцячай радасцю азіраўся вакол, пакуль не перахапіў паблажлівы позірк Арцёма, які завіхаўся з сякерай, абсякаў сукі і рабіў гэта спрытна і лёгка: два разы секане, а за трэцім разам адвальвае таўшчэзны сук.

— Арцём Іванавіч, дай-ка я гэтым займуся, — Акапян сціснуў халаднаватае, абслізганае да бляску тапарышча, сакануў тоўсты сук, потым яшчэ давялося рубануць разоў пяць, пакуль перасек.

Тым часам Арцём абмераў дрэва, зрабіў зарубкі, дзе трэба адразаць. Міма прайшлі дзве кабеты ў куфайках, абедзве з абветранымі, чырвонымі тварамі, ветліва павіталіся: «Здрастайце вам», нешта пашапталіся на хаду і зніклі ў гушчары.

Акапян з Арцёмам звалілі вялізную елку, потым яшчэ адну, але яна нечакана завісла — зачапілася вершалінай за сасну. Арцём выбраў самы тоўсты адсечаны сук, падаў гэтакі ж Акапяну.

— Харытонавіч, давайце паспрабуем падважыць камель, спіхнуць з пня. Тады дрэва крутнецца і, можа, зваліцца.

Уперліся коллем, Арцём скамандаваў: «Раз-два, узялі!» Камель удалося спіхнуць, вершаліна спілаванай елкі каўзанулася па галінках сасны і з'ехала на зямлю.

Падышоў Цімох, шырока ўсміхнуўся:

— Ого, брыгада ух, кожны працуе за двух.

— А ты што думаў? Мы, брат-значыцца, такія: гуляць дык гуляць, а рабіць дык рабіць, — Арцём выцягнуў з кішэні капшук, хацеў скручваць цыгарку, але Акапян падсунуў яму каробку «Казбеку».

— Частуйся, Арцём Іванавіч. У мяне яшчэ ёсць. Прыслалі з Ерэвана.

Задымілі дружна ўсе ўтрох.

— Жанчыны прапануюць зараз перакусіць. Касцёр не паліць. А тады пад вечар зварыць чаго, пагрэцца ля вогнішча, — сказаў Цімох, дакурваючы папяросу.

— Што яны хочуць саўсім нас замарыць? — Арцём зірнуў на Акапяна, чакаючы яго слова, але той маўчаў, хоць і адчуваў стому ва ўсім целе. — Яно-то цяпер пры сонейку, дык можна і без цяпла абысціся. Як вы, Харытонавіч?

— Як народ, так і я, — весела адказаў Акапян.

— Значыць, аднагалосна? — Цімох прытушыў недакурак папяросы, прыладзіў яго за вухам.

— Аднагалосна і аднадушна, душа любезны, — заключыў Акапян, падаючы Цімоху пачак «Казбеку». — Вазьмі ў запас. Да вечара яшчэ далёка.

Цімох нерашуча, неяк сарамліва ўзяў папяроску, падзякаваў і хутка пайшоў па дзялянцы, толькі целяпаўся пусты рукаў ватніка.

Надвечар прыехаў Раковіч, прывёз новенькі трохвядзёрны кацёл, чатыры бляшанкі свіной тушонкі, з дзесятак боханаў хлеба. Усе адразу ўзбадзёрыліся, хутка запалала вогнішча, на вялізнай трынозе падвесілі кацёл.

Пакуль варылася вячэра, Арцём смажыў на лаўцы сала. Ён чапляў ладны скрыль сала, падносіў да агню, сала сквірчала, дымілася, на касцёр каціліся кропелькі тлушчу. Арцём хуценька вымаў скварку, падстаўляў лусту хлеба, каб сцякаў на яго тлушч.

Першую скварку паднёс Акапяну:

— Харытонавіч, паспрабуйце. Няма на свеце нічога смачнейшага, чым сала, смажанае на кастры.

— Дзякуй, Арцём Іванавіч. Я гэта ведаю. У атрадзе зрэдку мы цешыліся смажанай скваркай, — Акапян з асалодай удыхнуў пах сала, адкусіў кавалачак, які пёк язык, праглынуў яго і адчуў цеплыню ўсярэдзіне.

Потым усе дружна сёрбалі хто з кацялка, хто з міскі гарачы духмяны булён. Пры вогнішчы ўсе расчырванеліся, абсушыліся. Гарачаму булёну папярэднічала чарка, а дакладней —алюмініевая конаўка. Арцём міргануў дзеду Гылігору, і той прынёс да вогнішча біклажку.

— У мяне бярозавік ёсць. Ад самай вясны стаяў, у пограбе. Добра ўкіс. Давайце посуд. Буду наліваць.

— Дзед, дык ён жа халодны. Мусіць, замерзла твая

біклажка, — азвалася языкастая Марфа Петрачэнка.

— Ды не, здаецца, не замёрз, — дзед пабоўтаў біклажку. — Пялёскаецца, як жывы.

Марфа падставіла конаўку, дзед шчыра лінуў, але не праліў ні кроплі. Нядоўга думаючы, Марфа сербанула з конаўкі і вытарашчыла вочы. Потым зяўнула, хапаючы паветра, не раўнуючы як рыбіна на пяску. Усе зарагаталі, а Марфа, смеючыся праз слёзы, сказала:

— Ну, стары падманшчык. Наліў першаку, а кажа: бярозавік. Я цяпер такая смелая... Мне цяпер і Бесядзь па калена...

Рэха пакацілася па лесе ад рогату. Марфа з конаўкаю падышла да Акапяна:

— Выпіце з намі, таварыш сакратар, нашай, хатыніцкай... Кажуць людзі, што яна лепшая ў раёне.

— Выпіце, Харытонавіч. Ета ж святая вадзіца. Яе дайжа гусі не п'юць, а толькі добрыя людзі смакуюць, — блазнаваў дзед Гылігор.

— Дык я ж бязбожнік. Як жа мне піць святую вадзіцу? — усміхнуўся Акапян, разумеючы, што адступаць няма куды, давядзецца выпіць.

— Сяргей Харытонавіч, ведаеце, колькі мы сянні зрабілі? — Цімох ступіў бліжэй да вогнішча, каб яго ўсе бачылі. — Я прыкінуў, што сянні мы нарыхтавалі больш як семдзесят кубоў.

— Няўжо? Ого, брат-значыцца, — ажывіўся Арцём. — Дык ета ж чуць не па дзве нормы дзённыя фуганулі. За ета грэх не выпіць, Харытонавіч.

— І праўда, дарагія мае таварышы. Сёння мы добра парабілі. Я разумею, што вам цяжка, асабліва жанчынам. А вас, жанчын, тут большасць. Я налічыў шэсць мужыкоў, а жанчын ледзь не ўтрая болей... Вот за вас, дарагія жанчыны, за ваша здароўе, каб вярнуліся з фронту вашы мужыкі, сыны. Каб усё было добра. І паболей радасці на зямлі... — Акапян прыгубіў гарэлку. — От гэта пітво! Ну, дзед, вы толькі нікому не выдавайце сакрэтаў. І як скончым лесанарыхтоўку, закрывайце вытворчасць. Дамовіліся?

— Як вам сказаць? — дзед пачухаў патыліцу. — А пасяўная? Хіба ж без яе адсеемся? Расці бульба не будзе...

Яго словы зноў пакрыў вясёлы рогат. Акапян выпіў гарэлку закусіў.

— Не, дзед, я сур'ёзна. Цяпер вельмі строга з гэтай справай.

— Тут і строгасць не патрэбна. Зерне канчаецца. А без соладу што за гарэлка? Так што не хвалюйцеся, Харытонавіч, вытворчасць скарачаем. А там і саўсім канчаем.

Пасля вячэры жанчыны ўзяліся шараваць снегам кацёл, мыць міскі і лыжкі, мужчыны падкінулі яшчэ галля, угору сыпанулі залатыя стужкі-іскры. Яны звіваліся, як змеі, падніmaліся вышэй, і нібы раставалі ў цемры, ператвараючыся ў дым.

Што гэта за дзіва — вячэрняе вогнішча ў лесе! Асабліва ў зімовым. І вогнішча вялікае, калі ўскладаюць вялізныя хваёвыя лапы-галіны. Тысячы вогненных іскарак залатым снопам шугаюць тады ўгору, разам з іскрамі ўзлятаюць жоўта-ружовыя стружкі-язычкі, быццам агонь цягнецца лізнуць неба, зоркі.

Можна бясконца сцішана, задуменна глядзець на вогнішча, і розныя думкі — спакойныя, філасофскія аб сэнсе быцця, аб існасці ўсяго жывога на зямлі, аб таямніцах касмічнай прасторы наплываюць у галаву. І сам ты здаешся іскаркай, якая ўспыхнула і ператварылася ў дым.

Акапяну прыгадаліся асцярожныя партызанскія кастры, успомнілася далёкая радзіма, і яму захацелася расказаць гэтым людзям, з якімі сёння працаваў разам, пра сваю далёкую радзіму. Ён неяк унутрана захваляваўся і не ведаў, з чаго пачаць.

Мужчыны дымілі цыгаркамі, жанчыны перашэптваліся, і то адна, то другая паварочвалася да агню спіной: калі холадна, то жанчына заўсёды становіцца да вогнішча спіной. Акапян падышыў да іх бліжэй, і яны, каб стаяць да яго тварам, павярнуліся дружна да агню, ад іх куфаек, бушлатаў паваліла пара.

— Мархва, згарыш! Дым паваліў, як з коміна, — крыкнуў Цімох.

Усе заўсміхаліся, а Марфа не разгубілася:

— Глядзі, каб ты язык свой не абсмаліў. Ці яшчэ што-небудзь.

Смех узняўся з новай сілай, а Марфа, калі трохі пацішэла вакол, далей адкацілася рэха, сказала:

— А вы, Харытонавіч, мусіць, сваю радзіму ўспомнілі?

— Вы ўгадалі. Як у сук уляпілі. Якраз падумаў пра

сваю Арменію. Але сказаць па праўдзе, цяпер Беларусь для мяне другая радзіма. Служыў тут да вайны яшчэ. Жонка з-пад Гомеля, беларуска. І сын на яе падобны. Белагаловы, як сланечнік. Цяпер трошкі стаў цямнейшы валасамі. Можа, вусы будуць як трэба. А то хоць ты гуталінам фарбуй... А да Беларусі я прывык. У нас у атрадзе былі байцы шаснаццаці нацыянальнасцей. І калі паранілі татарына Махмуда, мы з адным беларусам неслі яго сем кіламетраў... Наш чалавек, савецкі... І на фронце ж ваююць людзі ўсіх нацыянальнасцей. За вашы Хатынічы колькі іх палягло... — Акапян змоўк, і ўсе маўчалі, толькі патрэсквала вогнішча. — А цяпер як нам памагаюць. На днях прыйшла тэлеграма, што з Іванаўскай вобласці адпраўляюць у раён паўтараста галоў буйной рагатай жывёлы. Яны самі галодныя, ад сябе адарвалі... З Архангельскай вобласці прыслалі дзесяць тысяч кніг для бібліятэк. Думаю, што ў іх не лішнія былі гэтыя кнігі. Масква, Урал шлюць машыны. Вугаль дае Украіна, Данбас. Усе памагаюць нам.

— А мы ім лес даём... рудстойку, — падаў голас Арцём, бо яму далася ў знакі гэтая рудстойка мінулай зімою.

— Правільна, Арцём Іванавіч, душа любезны. Мы ім лес, рудстойку. І сённяшні лес пойдзе ў розныя гарады, на заводы, у спаленыя вёскі. Ведаеце, што летась у нашым раёне выплачана за год пасобій, пенсій... Ведаеце колькі? Шэсць мільёнаў сто дваццаць пяць тысяч...

— Гэтулькі грошай! На адзін наш райвон? — не паверыў дзед Гылігор. — Ды што вы, браткі? Ета ж такая ціжба грошай...

— Так, дзед, столькі грошай далі нашаму раёну на дапамогу... Нічога, скончыцца вайна, зажывём яшчэ лепей. Вядома, само нічога не прыйдзе. Давядзецца папрацаваць, — Акапян падкінуў у касцёр галля, полымя з іскрамі шуганула ўверх.

— Яно канечне, Харытонавіч. Кажуць жа людзі, што без труда не выцягнеш і рыбку з пруда. А з Бесядзі дык і пагатоў... Не зловіш. Цімох толькі можа ўсець заблытаць. Дык і то злаўчыцца трэба, — сказаў Арцём.

— У Дубніку сом ёсць. І ніяк не магу яго злавіць. Адзін раз бачыў. Як бервяно чорны. Лупянуў хвастом,

чуць човен не перакуліў... — з жывасцю апавядаў Цімох.

— Можа, ета саміха? Ты хацеў яе прыціснуць, — заўсміхалася Марфа, а следам за ёй зарагатала Параска.

— От, бабы, што з імі гаварыць. Галоднай куме хлеб на вуме, — выскаліўся ва ўсмешцы Цімох. — Хаця і галоднаму мужыку таксама тое самае. Наш камандзір узвода, лейтэнант, вясёлы быў чалавек. Адукаваны, вучыўся ў етым самым... універсіцеці. Загінуў пад Масквой. Дык вось ён кажа аднойчы: а ведаеце, хлопцы, як людзі гаварыць навучыліся? Мы кажам: адкуль нам ведаць, даўно тое было. Тады ён і кажа: было, значыць, так. Упалявалі нашы далёкія продкі маманта, падсмажылі, з'елі, сядзяць ля вогнішча. Сытыя, давольныя, а гаварыць не ўмеюць. Тады адзін выціснуў праз зубы: ба, другі — бу, трэці — бы. Бабу бы...

Зноў успыхнуў рогат, а Марфа гарэзліва зірнула на Цімоха, крыкнула:

— Дык выбірай! Хіба табе мала баб?

— Ой не, бабанькі, холадна цяпер. Во, як у лесе птушачкі заспяваюць ды папараць зацвіце, — ухмыльнуўся Цімох. — Тады саўсім другі каленкор. І мох мякенькі, зялёненькі...

Арцём дастаў капшук, які мала схуднеў за сённяшні дзень, затое «Казбек» ужо дакурылі. Зрабіў сабе самакрутку і Акапян. Арцём прысеў ля вогнішча, выхапіў палаючую галінку, прыкурыў, пацягнуў разы два, каб угарэлася. Да яго наблізіўся Акапян прыкурыць сваю цыгарку, пры сполаху кастра ён раптам убачыў на шаліку-абмотцы Арцёма жоўта-чырвоную вош. Яна паўзла і гатова ўжо была матануць за каўнер.

— Ой, іскарка, — ціха сказаў Акапян і злавіў вош, зацінуў між пальцаў і пасунуўся ад кастра. Акапян мацней сціскаў пальцы, быццам трымаў у руцэ ўсю разнамасную пошасць, якая грызла і ела людзей у вайну. Адышоўшыся далей, сунуў пальцы ў снег. «Здыхай, паскуда!» Потым доўга цёр рукі снегам, аж у пальцы закалола, пацягнуў носам халоднае паветра і адчуў, што ноздры зліпаюцца: нанач браўся моцны мароз.

Дзесяць дзён працаваў у лесе Акапян. Раённая газета «Сталінскі заклік» паведаміла, што добра працуюць на лесанарыхтоўках члены сельгасарцелі «Пяцігодку ў

чатыры гады», што для лесарубаў адкрыты новы катлапункт.

А потым з'явіўся артыкул і ў абласной газеце, дзе адзначалася, што першы сакратар Лабанаўскага райкома партыі таварыш Акапян разам з калгаснікамі працаваў у лесе і сваім уласным прыкладам паднімаў народ на спаборніцтва за перавыкананне дзённай нормы выпрацоўкі.

*Чым выразней бачыўся канец вайны, тым больш задумваліся кіраўнікі дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі, дыпламаты аб тым, якім будзе мір пасля вайны. Рыхтавалася стварэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дзесятага лютага 1945 года Франклін Рузвельт пісаў І. В. Сталіну:*

*«Я абдумваў, таму што я павінен быў гэта зрабіць, магчымыя палітычныя цяжкасці, з якімі я мог бы сустрэцца ў Злучаных Штатах у сувязі з колькасцю галасоў, якую будуць мець вялікія дзяржавы ў Асамблеі Міжнароднай арганізацыі. Мы дамовіліся — прычым я, канечне, выканаю гэтае пагадненне — аб тым, каб падтрымаць на маючай адбыцца канферэнцыі Аб'яднаных Нацый прыняцце Украінскай і Беларускай Рэспублік у члены Асамблеі Міжнароднай арганізацыі...»*

## XXVI

Была цудоўная светлая раніца. Над асмужаным лесам выкацілася невысокае ярка-ружовае сонца. Падалі рэдкія бухматыя сняжынкі. Васька пабег ужо ў школу, Андрэйка стаяў ля акна — пільнаваў, калі пагоняць да калодзежа на вадапой коней: ён меў сталае даручэнне — збіраць услед за конямі іх «яблыкі», бо няма чым карміць гусей, а коні ядуць авёс, нешта застаецца ў іхніх «яблыках» спажыўнае. Калі яшчэ трохі падмяшаць паранай бульбы, дык гусі паядаюць гэтую мешанку ўміг.

І важна не прапусціць момант, бо калі пазяваеш, то Хадорына Манька ці Паўлік усё падбяруць.

Андрэйка задумаўся і ўздрыгнуў, пачуўшы галасы на вуліцы — конюхі гналі коней. Хлапчук схапіў у сенях маленькі кошык, палапленую рукавіцу-вязёнку — і на

двор. Акурат напроці хаты цямнелася гурбачка свежых, яшчэ цёпленькіх «яблыкаў». Яны дыміліся парай, але пачалі ўжо цвярдзець ад марозу. За гэтай гурбачкай Андрэйка спрытна падабраў яшчэ некалькі. Коні быццам адчувалі, што калодзеж блізка і шчодра высыпалі свае «яблыкі», вызваляючы месца для вады.

З хаты выбегла Хадорына Манька ў вялікіх кірзачах на тонкіх, як палачкі, нагах і апярэдзіла Андрэйку: далейшая тэрыторыя была ўжо яе.

Неўзабаве Андрэйкаў кош быў амаль поўны, ён паставіў яго ў сенцах, уздыхнуў з палёгкаю. Пах конскіх «яблыкаў» не палохаў малога: у хляве ад парсюка пахла куды мацней, ды і ад каровіных «бліноў» таксама дух быў не лепшы.

Андрэйка ўзяў свае лыжы-лучынкі і пайшоў катацца. Лыжы беглі добра, асабліва калі патрапіш на блішчастыя выслізганыя сляды палазоў, тады можна ехаць на аднойназе, другой папіхацца. Разагнаўшыся, Андрэйка ехаў на адной назе і тут жа падаў у снег.

Стаміўшыся, малы сеў за хатай на прызбе ля акна, што выходзіла на выган, падставіў твар сонейку, заплюшчыў вочы, яму было так хораша, што ён ціха ўсміхаўся сам сабе. Сонейка прыгравала ласкава, пяшчотна. Андрэйка зняў будзёнаўку, правёў рукой па вялікай, нашытай з матэрыі, чырвонай зорцы і раптам успомніў, што ён у будзёнаўцы збіраў конскія «яблыкі». І ўсе гэта бачылі, нават Манька Хадорына. Ад сораму Андрэйка аж пачырванеў. Але потым пачаў разважаць: ён жа таксама робіць патрэбную работу, выконвае сваё заданне.

Яму падалося, што нешта дзынкнула побач, нібы хто пастукаў у аконную балонку. Потым зноў дзынкнула, і з прызбы ў снег пакаціліся блішчастыя льдзінкі. Андрэйка зірнуў уверх — са страхі звісалі тоўстыя матавабелыя сусолкі. З іх капала вада, быццам плакалі ледзяшы, прадчуваючы свой блізкі канец. Наплакаўшыся, адрываліся, са звонам разбіваліся.

Андрэйка ўспомніў Колю, і так шкада яму зрабілася свайго брата. Ужо сорак дзён нядаўна споўнілася, як яго няма. Няўжо ніколі ён, Андрэйка, не пабачыць Колю? Зрабілася вусцішна, і дзень нібы пацямнеў. Пачалі падаць сняжынкі, рэдкія, бухматыя. Адкуль бяруцца сняжынкі, калі свеціць сонца? Ён высунуўся за вугал і ўбачыў, што над полем неба як затканае лёгкімі сівень-

кімі хмаркамі, у твар востра дыхнуў сіверка. Хлапчук зноў схаваўся за хатаю.

Сонца тым часам паднялося вышэй, яно вісела над застылаю, занесенаю снегам Бесяддзю, і толькі цёмныя макаўкі кустоў паказвалі яе рэчышча. Ледзяшы ўсё адвальваліся. Андрэйка лізнуў кавалачак лёду, чуючы востры халадок, і пачаў смактаць лядзяш, бы цукерку. За гэтым заняткам яго і заспела маці.

— Што ета ты робіш, несмысель? Даўно пярхаў, як у бочку? Зноў горла застудзіш, — пачала яна ўшчуваць малога. — Ідзі ў хату. Пагрэйся. Бычка паглядзі, а я схаджу да Хадоры. Трэба маткі праць. Кросны будзем ставіць... Ах які дзень! Сяння ж стрэчанне. Зіма з вясной сустракаюцца, — тут шлёпнула са страхі буйная кропля. — Ого, дык пеўнік сянні нап'ецца вады... Дасць божачка, перазімуем, вясны дажджэмся...

— Мам, што ён дасць, божачка?

— Што? Здароўя дасць, надвор'я добрага.

— А зерня ён можа даць?

— Адкуль жа ён зерня возьме? З неба яно не сыплецца. Затое снегу дае, дожджыку пасылае. А ета ўсё на ўраджай. Ну, бяжы ў хату, а то бычок там налье...

Андрэйка ўвайшоў у хату, цёплым духам дало ў нос, пахла з печы капустаю, нечым яшчэ — гэтаму «нечаму» быў віноўнікам чырванаваты бычок з белаю зорачкаю на лобе. Паявіўся ён у хаце дзён пяць назад. Прачнуўся тады Андрэйка, бачыць ля дзвярэй у кутку ляжыць на саломе цялё. Яно было яшчэ мокрае і ціхутка дробненька ўздрыгвала.

Апоўдні бычок ужо абсохлы, павесялелы, падняўся, шырока расставіў ножкі на мяккіх, васкова-белых капытках, якія слізгалі па падлозе, не маглі яго ўтрымаць. Андрэйка кінуўся памагчы, але маці запярэчыла:

— Не чапай яго. Сам устане. Халера яго не возьме. Пільнуй, каб чаропку падставіць. А то лужу налье...

Бычок сапраўды неўзабаве пайшоў, хістаючыся, аж целяпалася доўгая чырвоная пупавіна. А праз дзень ён ужо бегаў з падскокам. Вось толькі разагнацца яму не было дзе — занадта малая хата.

І пачаліся для Андрэйкі дні радасці і клопату. Ён любіў гладзіць бычка, мацаць мяккія курганкі-рожкі. Бычок тады круціў лабастаю галавою, упіраўся, ішоў у наступ: у яго праразаліся не толькі рожкі, але і харак-

тар забіякі. А клопат быў такі: сачыць увесь час, каб не празяваць падставіць бычку чарапку — калі ён падніме хвост, тут ужо не зявай. І толькі калі клаўся бычок на спачын, Андрэйка мог спакойна разглядаць малюнкі ў кніжцы, а то і збегаць на вуліцу, як гэта ўдалося сёння.

Бычок мірна драмаў, прыціснуўшы лабастую галаву да бруха. Андрэйка хуценька распрануўся, ускараскаўся на печ, адагрэў адубелыя рукі, падклаўшы іх пад сябе на чарэні. Так было хораша, цёпла, утульна, на жэрдцы віселі пляцёнкі жоўта-ружовай цыбулі. Вочы самі сабою заплюшчыліся, але на падлозе зашамацеў саломаю бычок, затупаў пацвярдзелымі капыткамі. Андрэйка шуснуў уніз і якраз паспеў: бычок ужо адставіў пушысты, белы на канцы хвост.

Потым Андрэйка сядзеў ля акна. Падаконнік быў мокры, замерзлыя за ноч шыбіны адталі, знізу і амаль да паловы і без таго маленькае акно і ў гэтай хаце было забіта саломай і дошкамі, глядзець на вуліцу можна было толькі стоячы на ўслончыку. Сонца паднялося ўжо даволі высока, лес пацямнеў, а луг яшчэ болей заблішчаў, заіскрыўся. Увайшла маці.

— Ну, заўтра будзем праць маткі. Бысю выведзем у пуню. Хопіць яму падліваць нам тут. Мароз паменеў. Цэл будзе, сібірнік...

Назаўтра пасля снядання ў хаце сабраліся жанчыны з пранікамі, якімі на падоле пралі бялізну. Вымытая, выдраеная гальцом падлога аж блішчала, хоць і старыя былі дошкі. Вымачаныя ў вадзе маткі нітак, якія маці напрала за доўгую зіму, разлажылі на падлозе, жанчыны паселі з абодвух бакоў — Хадора, Параска, Вольга, старая Гылігорыха, Аўдуля, жонка Куцай-Гарнеца і маці.

— Пачнём, Каця? — Хадора абвяла ўсіх вачамі, нібы правярала, ці ўсе падрыхтаваліся. — Хай будзе добрае, тонкае палатно. І каб ніткі не рваліся.

Хадора коратка размахнулася і лупянула пранікам. Вольга, якая сядзела напроці, апусціла свой пранік услед за ёй. І тут усчаўся гэтакі грукат, што Андрэйка аж вушы заткнуў. Калі б ён пачуў гэтую грукатню і не бачыў жанчын, маці, то падумаў бы, што вярнуліся немцы і страляюць з гармат.

З паўгадзіны лупцавалі жанчыны ніткі, расчырванеліся, паздымалі цёплыя хусты, куфайкі і бушлаты, за-

сталіся ў кофтах, Вольга была ў залатанай палінялай гімнасцёрцы, якая аж трашчала на поўных грудзях, а маці ў нямецкім фрэнчыку.

Ніткі перавярнулі на другі бок, падварушылі іх, каб не злямчыліся.

— Перадыхнём троху, мае вы таечкі. Куды нам спяшацца? Пасядзіце, пагаманіце, — сказала маці.

— Мулка ж тут сядзець, — Параска паднялася з падлогі і села на палок.

— Ты ж бы не здавала воўчую шкуру. Прынесла б сюды. Мы ж ба селі як барыні, — паднялася і Хадора.

— Дык мне ж прэмя далі за ваўка. Грошы заплацілі.

— І як ета ўдалося табе ваўка забіць? — падзівілася Гылігорыха.

Параска пачала расказваць. Андрэйка навастрыў вушы. Хутка ён зразумеў, што гаворыць Параска ўжо не першы раз, бо дужа гладка ўсё ў яе выходзіла.

— ...Чую, гусі закрычалі. А было позна ўжо. Першыя пеўні праспявалі. Схапіла я ў качарэжніку тапор. Стары, вышчарблены, але ёмкі тапорык і — за парог. Бачу, два ваўкі ў хлеў дзяруцца. Ах вы, бандзюгі! — як крыкну я ды за хвост аднаго ваўка цап. А хвост у яго, як палена, тоўсты, цвёрды. Ірвецца воўк, якоча, як сабака, а я тапаром па галаве яму. І раз, і ўдругі. Не помню, колькі лупцавала, пакуль ён у снег і сунуўся. А другі як даў драпака, толькі яго і бачылі. Засекла я ваўчыцу.

— Гаварыў мой Арцём, што ваўчыцу. Ды і ету самую... Як яе? Мацёрую, — падала голас Хадора.

— Ён жа і аблупіў яе. Дык ужо і разабраўся там, якая яна, тая ваўчыца, — Параска паслабіла вузельчык тонкай хусты, жаўтлявай, у ружовыя кветачкі. — Шкуру завезла ў Саковічы ў сяльпо. Здала. Там усе дзівіліся, не верылі. А грошы далі. Во, хусту купіла. А то ж абнасілася ўжо. Усё дарвалася.

Жанчыны разглядалі хусту, хвалілі яе.

— Смелая ты, Параска. Ваўчыца на ваўчыцу напала, — пасміхалася Вольга.

Параска ані не пакрыўдзілася:

— А чаго тута зяваць? Я ж без мужыка засталася. Самой трэба адбівацца і ад ваўкоў. І ад мужыкоў... чужых.

Жанчыны ўсе засмяяліся, а Вольга пачырванела.

Андрэйка гэта заўважыў. Ён сцішана сядзеў на печы і слухаў, разявіўшы рот, хоць і не ўсё разумеў.

— Каб ужо ета вайна скончылася. Скарэй бы вярнуўся Мацвей. А там і Пятрок, можа, азваўся б, — уздыхнула маці.

— Ці піша твой Ахрэм? — спыталася Гылігорыха ў Аўдулі.

Аўдуля доўга маўчала, сцяўшы тонкія вусны, потым прагугнявіла:

— Прыслаў надоечы пісьмо. У Сібіры ён. Маразы вялікія. Горад яны тамацька будуюць. Забыла, як ён завецца тэй горад.

— Адбудзе і вернецца, — супакоіла старую Хадора. — Можа, амнісція выйдзе, як немца паб'юць. Дык і раней прыйдзе... Ці чулі, бабы, што ў Лабанаўцы судзілі етага, ну што быў начальнікам паліцыі?

— Сідарэнку? Судзілі сабаку. Злавілі недзе ў Польшчы. Прывезлі сюды. Нядоўга з ім тута чыкаліся. Пад трыбунал... — Параска сурова падціснула губы, а яе смуглявы твар з круглымі цёмна-карымі вачамі спахмурнеў. — А Вароніна нідзе во і не злавілі. Уцёк гад.

Усе змоўклі. Нейкі час у хаце стаяла нязвыклая ціша.

— Ну што, Каця, чаму ты не камандуеш? — парушыла маўчанне Вольга. — А то мы да вечара прабалабонім. Там дзіця, можа, плача. Матка мая і не справіцца з ім. Не дасць рады.

І зноў жанчыны ўзяліся за пранікі, зноў грукат напоўніў хату, аж пазвоньвалі балонкі вокнаў.

Потым некалькі дзён ніткі ў матках віселі на жэрдцы. Маці з Васькам прынесла ад бабкі Рыпіны цяжкія ставіны, затым навой, бёрды, іншае начынне для кроснаў.

Аднойчы з раніцы маці і Марына ўзяліся навіваць кросны. Стол з кута адсунулі да палка, паставілі вялізныя ставіны, ззаду ў паўкруглы выраз устанавілі навой, на яго нааматвалі ніткі — рабілі аснову, ніткі працягвалі ў ніты, за нітамі ўмацавалі бёрда, а паміж бёрдам і нітамі будзе бегаць чаўнок.

Цалюткі дзень завіхалася маці. Марына пайшла па абедзе ў Саковічы на дзяжурства, Васька сукаў цэўкі, рабіў гэта спрытна і лёгка: ставіў сукала на палок, чапляў цэўку на металічны штыр і круціў даланёю.

Выглядала сукала так: нібы ў маленькія ночвы па краях убілі стаякі, між імі ўмацавалі драўляны стрыжань з колцамі-махавікамі. Па стрыжні, гладкім, выслізганым, зверху ўніз працягвалі далонню, і машына круцілася, нітка наматвалася на цэўку.

У Ваські гэта атрымлівалася вельмі проста, Андрэйку аж завідкі бралі, бо ў ягоных руках сукала не хацела круціцца. Малы так шчыра папляваў на далоньку — не памагло, сукала рухалася, як соннае, а маці забракавала тую цэўку: ніткі з'ехалі з яе.

— Дзеткі, глядзіце, каб нітачка наўскось наматвалася. Так і вядзіце ад краю да краю. А калі ў адным месцы многа наматаць, то і аб'едзе нітка. Усё заблытаецца, — вучыла маці.

Дні ўсё большалі, увачавідкі падрасталі, сонца прыпякала мацней, і ўсё даўжэйшыя сусолкі звісалі са стрэх. Маці адняла саламяны мат з акна ад вуліцы, каб відней было ткаць кросны. Уранні яна хутчэй старалася выпаліць у печы, дагледзець гаспадарку, напаіць бычка і садзілася за кросны.

Васька звечара наматваў усе цэўкі, неахвотна ішоў у школу.

От, каб маці сказала: «Не ідзі, сынок, сянні ў школу, будзеш пасабляць мне», — Васька б з радасцю застаўся дома.

Андрэйку не сядзелася на печы і на вуліцы доўга не забаўляўся: дужа любіў ён глядзець, як маці тчэ кросны, любіў сачыць за чаўнаком, які птушкаю лётаў каля бёрда, падабалася слухаць, як маці стукала гэтым бёрдам, націскаючы нагамі на панажы, якія глухавата і сярдзіта рыпелі.

Калі цэўкі пусцелі, ён браўся наматваць і памалу навучыўся. Так захапляўся работай, аж язык паказваў. Сукала спачатку ніяк не хацела круціцца і цягнуць нітку з клубка. Андрэйка мацней націскаў далонькаю на абслізганы драўляны валік, слюніў яго, каб рука не коўзалася, і ўрэшце валік ціха круціўся, а тады набіраў разгон і круціўся ўсё хутчэй. Вядома, не так, як гэта атрымлівалася ў Ваські.

І ўсё ж некалькі цэвак Андрэйка наматаў. Маці не давялося брацца за сукала, яна ўставала толькі, каб адпусціць навой з наматанай на яго асновай.

Настрой у маці быў вясёлы, яна аж памаладзела. Нават спрабавала нешта ціхутка падпяваць у такт

стукатліваму рытму бёрда. Укладваючы цэўку ў чаўнок, маці заспявала дзіўную песеньку:

Ляцела сава, у перыйка села,
Укропам вочы завесіла,
У зубы рэпы наторкала.
Як сталі людзі дзівіцца,
Стала сварыцца:
  Якія вы, людзі, дзіўныя,
  Я не такое дзіва бачыла,
  Што шчука-рыбка кросны ткала,
  Сіняя жаба ніт падымала,
  Мошачкі скачуць — нітачкі вяжуць,
  Муха гаруе — абед гатуе,
  Камар пішчыць — ваду ташчыць...

— Мам, куды сава села? Што за перыйка? — не вытрымаў, каб не спытаць, сын.

— А хто яго ведае. Можа, у цыбулю села, у зялёнае перыйка.

— Адкуль песні бяруцца? Хто іх складае? — дапытваўся цікаўны Андрэйка.

— Хто складае? Людзі. І перадаюць іх адзін другому. Во ету песеньку матка мая любіла пець:

Вясна, вясна, вясёлачка,
Дзе твая дачка, — Алёначка?
Сядзіць у садочку,
Шые сарочку
Ды свайму сынку Васілёчку.
Сядзіць на скрыне,
Шые пярыну
Ды сваёй дачцэ Кацярыне...

— Я цэўкі сукала, як ты во цяпера, а матка, ну, баба Васіліса, ткала і спявала. А яна, можа, ад сваёй маткі ці бабы навучылася. Вось так і жывуць песні, — маці светла ўсміхнулася і зноў узялася за набіліцы.

Зарыпелі панажы, птушкаю запырхаў чаўнок між нацягнутых, бы струны, нітак.

Андрэйка пільна агледзеў кросны: ці няма там сапраўды сіняй жабы і шчупака. Але нікога ён там не ўбачыў, толькі ў промнях сонца мітусіліся пылінкі, акурат мошкі. Ён узяўся наматваць цэўкі, гэтак захапіўся, што не пачуў, як у хату ўвайшла Марына.

— А хто ета ішоў з табой? — спыталася маці. — У шынялі, у шапцы чырвонай. Не пазнала я, што ета за чалавек.

— Участковы міліцыянер Бравусаў. Ён сам з Белай

Гары родам. У Саковічах быў. Дагнаў мяне каля Парцюкоўкі, распытваў усё: чыя буду, адкуль іду? Як на допыце ўсё роўна, — усміхалася Марына. — А тады пытае: хто ў вас у Хатынічах самагонку гоніць? Я кажу: адкуль мне ведаць? Я не п'ю, таму і не ведаю. Хацеў да нас зайсці ў госці...

— Хай бы зайшоў. Што ж тут такога? Капусты вунь цэлы чыгун стаіць у печы, — сказала маці.

— Ага, трэба яму капуста. Яму гарэлку давай.

— Знайшлася б і чарка. Ці ён жа нежанаты яшчэ?

— Я яму ў пашпарт не глядзела, — чамусьці рэзка адказала Марына.

— Ой, дачушка, не ведаю, каго ты дажджэш. Гады ідуць...

Марына адвярнулася, села моўчкі ля стала. Маці паднялася з-за кроснаў, пачала даставаць з печы чыгуны. Андрэйку таксама захацелася есці, хоць ён ужо і абедаў, хацелася падысці да Марыны і сказаць штонебудзь ласкавае, каб яна не сумавала.

— Калі я вырасту, дык стану міліцыянерам. У мяне будзе чырвоная шапка і наган. І да цябе тады ніхто не будзе чапіцца, — сказаў ён сястры.

Марына павярнулася да яго, на яе вачах бліснулі слёзы, але яна ўсміхнулася, прыхінула да сябе Андрэйку.

— Дзякуй табе, Андрэйка. Вырастай хутчэй.

## XXVII

У маленькім кабінеціку сакратара райкома партыі Азаравай было як ніколі цесна і тлумна — сабралася з дзесятак жанчын. Сход быў незвычайны: засядала раённая камісія па збору падарункаў франтавікам.

Спачатку сядзелі чынна і спакойна, потым разгаварыліся, перасталі адна адну слухаць. Дар'я Трафімаўна і сама загарэлася, падахвочвала жанчын, выказвала свае прапановы.

— Вы ведаеце, што па ўсёй нашай вобласці збіраюць людзі падарункі фронту. Жонкі афіцэраў-франтавікоў... — голас Дар'і Трафімаўны на імгненне як бы асекся, уздрыгнуў, Люся Даўгалёва спачувальна зірнула на яе, бо ведала, што муж Азаравай, афіцэр, загінуў

яшчэ ў сорак другім. — Узяліся назбіраць грошай на цэлы танк...

— Ого, ён жа, знаць, багата стоіць, еты танк? — падала голас жонка Пракапенкі, Арына. Яна была тут самай старэйшай, у яе цёмных валасах, закручаных у куклу, паблісквалі ніткі сівізны. Арына ўсіх ведала, бо яшчэ да вайны жыла ў Лабанаўцы ды і нарадзілася недалёка ад райцэнтра.

— Канечне, нямала. А як узяліся, дык нешта і збярэцца. Як гавораць людзі: з міру па нітцы — будзе кашуля, — адказала Азарава.

— Ты ж можаш спытаць у свайго Яўсеевіча. Ён жа ўсё ведае, — усміхнулася Люся Даўгалёва, за якой ужо трывала замацавалася мянушка «Даўгаліха».

— Дык ён жа не рабіў етыя танкі. І не купляў іх. А як во трэба збіраць, дык і давайце будзем думаць, як і што рабіць. Хто за што адвячаць будзе, — перавяла гутарку ў патрэбнае рэчышча Арына Пракапенка.

— На танк патрэбны грошы. А іх не кожная сям'я, не кожная ўдава-салдатка можа наскрэбці. А вось цёплыя рукавіцы, ручнік, кавалак сала ці масла можна як-небудзь знайсці, — Азаравай самой не спадабалася гэтае слова «знайсці», і яна даволі гучна, з пафасам і з хваляваннем дадала: — Хоць і бедна мы жывём, але для Чырвонай Арміі, для нашых вызваліцеляў людзі гатовы апошнім падзяліцца. Яны аддаюць жыццё за тое, каб мы жылі, каб дзеці нашы не бачылі болей вайны...

І тут пачалося. Усе загаманілі: як лепей арганізаваць збор падарункаў, хто чаго не пашкадуе... Ніна Гаўрыленка, «упаўнаважаны з банцікам», ледзь паспявала запісваць...

— Таварышы, жанчынкі, — спрабавала супакоіць Дар'я Трафімаўна членаў камісіі. — Гаворка не пра тое, хто з нас што можа аддаць. Мы — раённая камісія. Нам трэба арганізаваць гэтую работу па ўсім раёне.

— Сельсаветы падключыць, школы, бальніцы. Што тут анцімоніі разводзіць? Куды трэба, я магу паехаць, — рашуча заявіла Люся-Даўгаліха.

— Мілая мая, табе ўжо не трэба раз'язджацца. А то ў дарозе і раз'едзешся, — упікнула Люсю пракурорава жонка.

Люся зачырванелася, прыкрыла крысом паліто свой

ужо ладны жывот і змоўкла. Затое іншыя жанчыны загаманілі яшчэ гучней.

Азарава зразумела, што чыннага абмеркавання не будзе. Разам з Нінай яна зрабіла прыкідку: каму якія сельсаветы даручыць, з кім там трымаць сувязь.

Разумела яна і тое, што асноўны цяжар гэтай работы ляжа на яе з Нінай. Потым будзе клопату ўсім кабетам: упакаваць падарункі, упарадкаваць, дзе трэба падпісаць, куды пасылаць. І зрабіць усё хутка, каб да дваццаць трэцяга лютага — Дня Чырвонай Арміі франтавікі атрымалі падарункі.

— Жанчыны, нам трэба размеркаваць абавязкі. Слухайце ўважліва, — строга сказала Азарава.

Як ні дзіўна, але размеркаванне абавязкаў многа часу не забрала. Разыходзіліся дружна, бо за акном ужо цямнела. Жанчыны ўспомнілі пра хатнія клопаты: у каго дзіця адно дома, у каго свінчо някормленае. Ды ці мала клопатаў і турбот дае нават добра наладжаная гаспадарка, не кажучы ўжо пра тагачасны рэзрух!

Калі жанчыны разышліся, Азарава і Ніна яшчэ доўга сядзелі, думалі, раіліся. Ды, зрэшты, ім, работнікам райкома, не прывыкаць было сядзець на рабоце позна. Раней дзесяці гадзін вечара рэдка калі гасла святло ў кабінеце Акапяна. А раз першы тут, ён можа выклікаць у любы момант. Акапян сядзеў таму, што ведаў — працуе позна абком. У абкоме сядзелі, бо ведалі, што ў ЦК таксама не спяць. А тыя ў сваю чаргу разумелі: у любы момант могуць пазваніць з Масквы, з Крамля...

У такім рэжыме працы была і суровая неабходнасць ваеннага часу, і, калі хочаце, — мудрасць. Салдат, які не спаў у акопе, мог трохі суцешыць сябе тым, што ў гэты час не спіць і сам Вярхоўны, дае прачуханку генералам і маршалам, думае, каб хутчэй прыкончыць Гітлера, каб людзі зажылі па-людску.

А пакуль што людзі цяжка працавалі. Рабочы-падлетак, жанчына-салдатка, якія ноч стаялі за станком, таксама думалі, што не спіць іх бацька і настаўнік, ён клапоціцца пра іх.

Не дзіўна, што позна працавалі і ўсе іншыя ўстановы, і, вядома, у першую чаргу — партыйныя.

— Куды ты сама хочаш з'ездзіць? — спытала ў Ніны Азарава. — У Хатынічах была?

— Не, не даводзілася яшчэ.

— Вось і з'ездзі. Там дырэктар школы энергічны

чалавек. Зойдзеш да яго. Ён дапаможа. Бяры майго каня і заўтра каці.

— Адной ехаць? — спрабуючы схаваць устрывожанасць, спытала Ніна.

— Паедзеш, як добра развіднее. Лесу тут няма. Пару гадзін — і будзеш у Хатынічах. Калі запознішся, лепей пераначуй там. Скажы конюху, каб аўса паболей усыпаў.

Снегу ў тую зіму было багата. Дзьмуў вецер, дарогу перамятала, толькі дзе густа, шчыльна стаялі кусты, тонкія крывыя бярозкі, наезжаную каляіну не замяло. А ў адкрытым полі рахманы конік сам памалу трусіў, быццам нюхам чуў, угадваў дарогу.

Калі ўднела, выглянула сонца, хоць і нізкае, настылае, а ўсё роўна на душы неяк пацяплела, і языкі пазёмкі, здаецца, паўзлі цішэй, не так залізвалі дарогу, і конік павесялеў, наддаў кроку.

У Хатынічы Ніна прыехала перад полуднем. Адразу пакіравала да школы. Здалёк пачула залівістую трэль меднага званка. З ганка неўзабаве пасыпаліся адзін за адным вучні, подбегам шмыгалі за вугал.

У цесным цемнаватым калідорчыку тоўпіліся, штурхаліся, дурэлі дзеці, але як толькі Ніна пераступіла парог, прыціхлі.

— Дзе ў вас настаўніцкая, дзеці? — гучна спыталася Ніна.

Не паспелі вучні нічога адказаць, як адчыніліся дзверы пакойчыка, напроці якога стаяла госця.

— Хто тут шукае настаўніцкую? Калі ласка, заходзьце, — прыемным, пявучым голасам сказала Ганна Мікітаўна.

Пазнаёміліся хутка. Ніна адразу растлумачыла сваю задачу.

— Пётр Еўдакімавіч, можа, мы зараз аб'явім вучням? — сказала Ганна Мікітаўна. Дырэктар кіўнуў у знак згоды. — Вучні заўтра прынясуць. Сянні ж вы, Ніна Пракопаўна, не паедзеце назад? — Ганна Мікітаўна запытальна зірнула на Ніну.

— Добра было б сёння. Ну, але можна і заўтра.

— Вы трохі перадыхніце. А потым з Ганнай Мікітаўнай паедзеце на пасёлак Мамонаўку. Адтуль трэба пачынаць, — параіў дырэктар. — Шамаўка ўся згарэла. Вы ж самі бачылі...

— І на Шамаўцы паходзім. А то людзі пакрыўдзяц-

ца. У кожнай ці амаль у кожнай сям'і ёсць франтавікі. Чым багаты — падзелімся... А ў нас можна і пераначаваць. Хата вялікая. І сянца каню знойдзем. Так што вы не клапаціцеся, — Ганна Мікітаўна ўзяла Ніну пад руку, як сваю даўнюю сяброўку ці як вучаніцу, хоць і дарослую, але яшчэ па-дзіцячы наіўную, якую трэба вучыць жыццю.

У першы дзень паспелі абысці ўсе хаты Мамонаўкі-Парцюкоўкі. Ніна з радасцю прыкмячала, як цяжэе мех: у ім было ўжо з пуд сала — кожны кавалачак загорнуты асобна, два кадоўбчыкі мёду, пар пяць цёплых ваўняных рукавіц-вязёнак з грубых тоўстых нітак.

За дзень Ніна намерзлася, прагаладалася, бо абедалі наспех. Калі Сямён паставіў на стол запацелую бутэльку, Ніна хоць і рэдка піла, не любіла і баялася гарэлкі, на гэты раз нават ціха ўзрадавалася, што яе прымаюць як важнага госця. Перад ёй Ганна Мікітаўна паставіла гранёную шклянку з вышчарбленым краем, мусіць, яшчэ даваенную, сабе і свёкру — самаробныя чаркі з бутэлек. Сямён наліў у алюмініевую конаўку.

— Каб жонка не бачыла, колькі вып'ю, — бліснуў металічным зубам Сямён. — Мам, можа, і ты каліўку вып'еш? Лепей спаць будзеш, — павярнуўся ён да печы, дзе ляжала нямоглая маці.

— У маю чарку лінеш ёй тады троху, — глухавата прамовіў стары Чукіла, не чакаючы адказу з печы.

Гарэлка была халодная, пякучая, аж заняло дых. Ганна Мікітаўна ледзь прыгубіла, і Ніне зрабілася няёмка, што яна выпіла болей.

— Вы заядайце, Ніна Пракопаўна. Бярыце сальца, каўбаскі нашай паспытайце. Свінчо нядаўна заціснулі, дык во і скаромніна ёсць. Бярыце смялей, — частавала Ганна Мікітаўна госцю.

Сялянская каўбаса прыемна пахла кменам і часнаком. Ніна даўно такой не ела. Потым Ганна Мікітаўна наліла міску бульбы з фасоляй, густой, ужалелай за дзень у печы, і падала госці.

— Гэта мне? Я ж не з'ем.

— Ешце, ешце. У горадзе вам такой ніхто не зварыць, — задаволена сказаў стары, які таксама павесялеў пасля чаркі. — Дапіце ў стыкане. Падлі троху, Сямён.

— Ой, што вы, што вы? — схапіла аберуч шклянку Ніна, каб схаваць яе.

— Я вам адну кропельку. Заліць злосць, як у нас кажуць, — Сямён рашуча ўзяў з яе рук шклянку і ўліў трохі гарэлкі.

— А цяпер сюды лыжку мёду. Будзеце спаць як пшаніцу прадаўшы, — стары адкалупнуў кавалак зацвярдзелага, зацукраванага жоўта-цьмянага мёду і падаў Ніне. — Кладзіце, размяшайце і выпівайце.

На імгненне ў Ніны варухнулася трывога: падалося, што яе хочуць падпаіць, успомніўся дэзерцір у вёсцы, але яна тут жа супакоіла сябе: Ганна Мікітаўна — настаўніца, Сямён — крамнік, савецкі служачы, і ў доме адчувалася злагада, спакон веку ўстаноўлены цвёрды парадак, якім кіраваў тут стары, ашчадны, можа, і скупаваты. Яна бачыла, як ён сабраў са стала крошачкі хлеба і сыпануў іх у рот, не зважаючы на госцю.

Ніна выпіла гарэлку з мёдам, і сапраўды спала як забітая. Уранні прачнулася бадзёрая, адпачыўшая, толькі злёгку шумела ў галаве, як пасля лазні. І конік адпачыў за ноч, весела фыркаў, пускаючы струменьчыкі паветра, як паравоз, і лёгка скрануў вазок. Пераязджаючы цераз Канчанскі роў, з гары ён панёс вазок і ледзь не перакуліў яго ў снег з усімі падарункамі.

Пётр Еўдакімавіч ужо быў у школе, гладка паголены, падцягнуты, рухавы. Ганна Мікітаўна пайшла ў клас, неўзабаве вярнулася.

— Ніна Пракопаўна, пойдзем са мной. Будзем у класе прымаць падарункі. Я буду запісваць у сшытак, а вы прымаць.

— Правільна. Трэба, каб дзеці бачылі, што іхнія падарункі прымае прадстаўнік раёна, — ухваліў прапанову дырэктар.

Прынеслі дзеці некалькі ручнікоў, цёплых ваўняных шкарпэтак, рукавіц, вышываных насавых хусцінак. Апранутыя хто як, абутыя ў лапці, латаныя-пералатаныя бахілы ці галёшы, дзеці падыходзілі да стала, чырвонымі, пакрэплымі ад марозу рукамі, перапэцканымі чарнілам, бо дзе ты іх адмыеш без мыла, — важна клалі падарункі фронту.

Ніна складвала падарункі, дзякавала дзецям, адчувала, што яна гатова заплакаць. Мабыць, голас яе задрыжаў, бо Ганна Мікітаўна наўмысна гучна загаварыла, што вось скора свята — Дзень Чырвонай Арміі і Флоту, што іх падарункі ўзрадуюць салдат-франтаві-

коў, што салдаты, а гэта значыць бацькі і браты вучняў, будуць яшчэ мацней біць ворага, тады хутчэй наступіць перамога, і салдаты вернуцца дамоў. Тады ўсе вучні будуць мець падручнікі, сшыткі і ручкі-самапіскі.

Паўлік падняў руку.

— У цябе пытанне, Паўлік? — падышла да яго Ганна Мікітаўна.

— А якія самапіскі? Такія, як у Пятра Еўдакімавіча? — спытаў малы.

— Розныя. Можа, нават і лепшыя. Набраў чарніла — і пішы. І чарніліцу не трэба насіць. У першым класе ўсё роўна трэба пісаць толькі ў сшытках у касую лінейку. І пяро асобае, каб добра выводзіць літары. А зараз нам трэба напісаць кароткае пісьмо франтавікам. Пра што вы хочаце ў ім сказаць?

— Каб фрыцаў болей забілі! — выгукнуў пасмялелы Паўлік.

— Падзякаваць за вызваленне нашай дзярэўні... — падала голас драбнатварая дзяўчынка, захутаная матчынаю хустаю.

— Вось ты, Надзя, і напішаш ліст воінам-чырвонаармейцам. Почырк у цябе добры. Пойдзем у настаўніцкую, — Ганна Мікітаўна ўзяла падарункі і панесла.

Ніна Пракопаўна развіталася з дзецьмі — яны ўсе дружна падняліся, і пайшла таксама ў настаўніцкую.

Неўзабаве рахманы конік крочыў з вазком па хатыніцкай вуліцы. Сярод школьных падарункаў быў акуратна складзены аркуш паперы, на якім буйным дзіцячым почыркам было напісана — Ніна ўжо ведала гэтае пасланне на памяць: «Дарагія воіны! Шчыра дзякуем вам за наша вызваленне! Прыміце нашы падарункі як адзнаку вялікай любові і павагі. Вас просім, забіце як мага больш фрыцаў, за забітых нашых бацькоў, братоў, за нашы сірочыя слёзы...»

Цяпер Ганна Мікітаўна і Ніна заходзілі не ва ўсе хаты: тыя, з якіх вучні нешта прынеслі, абміналі. Пад'ехалі да хаты Кацярыны, дзе жылі Сахуты.

— Вось тут жыў мой лепшы вучань, — уздыхнула Ганна Мікітаўна.

— Чаму жыў? А дзе ён зараз?

— Памёр. Такі быў хлопчык разумны. Усё наскрозь ведаў. Захварэў на менінгіт і згарэў... Не ўратавалі. У іх яшчэ два хлопцы і дзяўчына. Яна ў Саковічах у бальніцы робіць санітаркаю. Зойдзем да іх...

Ганна Мікітаўна адчыніла дзверы і сіганула ў цемнаватыя невялікія сенцы. Дзверы ў хату былі ababіты саламяным матам для ўцяплення. Без стуку, бо ў саламяны мат не надта пастукаеш, а клямкі не было, якой бы паляпаць, пераступілі парог. Кацярына Сахута сядзела за самапрадкай, на шпульцы было ўжо ладнага нітак. «Мабыць, рана ўстала ці ўчора не дапрала шпульку», — адзначыла Ганна Мікітаўна. Марына сядзела каля печы, зматвала ніткі з матавіла на клубок.

— Добры дзень вам у хату! — гучна павіталася Ганна Мікітаўна. — Мы да вас па дзелу...

— Якое ж у вас дзела? — Кацярына спыніла калаўрот, перастала круціцца і матавіла. Марына прымасціла клубок на прыпечку, але так і сядзела на сваім месцы, пільна пазіраючы на гасцей.

— Садзіцца мы не будзем. Некалі, — Ганна Мікітаўна змоўкла, нібы не магла адважыцца сказаць пра сваё «дзела».

— Мы збіраем падарункі для фронту. Рукавіцы, ручнікі, хусцінкі. Што ў каго ёсць... Калі што можаце, а не дык і нічога. Свая сям'я ў вас, — хвалюючыся, сумбурна тлумачыла Ніна.

— Ва ўсіх свае сем'і. У кожнага сваё гора, — уздыхнула Кацярына. — Адчыні сундук, Марына. Там ля прыскрынка рушнічок ёсць з бялёвага палатна.

Марына адчыніла вечка скрыні. У пакоі адразу запахла нафталінам, нейкімі лекамі, бо ў прыскрынку ляжалі парашкі, таблеткі.

— Ці еты рушнік? — Марына разгарнула доўгі бялюткі ручнік з чырвонымі пеўнікамі па краях.

— Ага, еты. Аддавай, дачушка. Нехта памыецца і нас успомніць... Во наш Петрачок, можа, зямельку парыць. А можа, і жывы яшчэ. Каб жа знаццё... — Кацярына змахнула фартухом няпрошаную слязіну, агледзела хату. — Што б яшчэ вам даць? Во цыбулі вазьміце пляцёначку.

Жоўта-ружовыя пляцёнкі цыбулі віселі на жэрдцы пад столлю, каля печы. Усе павярнулі галовы туды. Госці толькі цяпер заўважылі Андрэйку.

— А, мой будучы вучань грэецца на печы, — усклікнула Ганна Мікітаўна. Андрэйка схаваўся за комін. — Ну, што ж ты хаваешся? Які ж сарамлівы! Як жа ты будзеш вучыцца?

— Толькі на пяцёркі! — данеслася з-за коміна.

— Чуеце, Ганна Мікітаўна, — смяялася Ніна. — Смелы хлопец расце. Выдатнік.

Марына зняла з жэрдкі крайні вянок цыбулі, падала Ганне Мікітаўне.

— Ой, які важкі! — здзівілася тая. — У вас дзеці, Кацярына Патапаўна. Хай вам будзе...

— Бярыце, бярыце. Вясна скора... Нам абы пасадзіць хапіла. А там пер'е зялёнае нарасце... У акопе седзячы, цыбульку з'есці добра. Каб зубы не балелі. А сала ў нас няма. Далі б, каб мелі...

— Ну што вы, Кацярына Патапаўна! Вялікі вам дзякуй і за гэта, — Ніне хацелася сказаць што-небудзь важкае, значнае. — Ад усёй Чырвонай Арміі дзякуй.

— Вазьміце во хусцінку... Нашывала калісьці. Яшчэ да вайны, — Марына падала насоўку, вышытую чырвонай заблыццю.

Ганна Мікітаўна паклала насоўку паверх ручніка і падала Ніне, а сама трымала цыбулю, беражна, моцна, нібы баялася, што гэты вянок развяжацца і цыбуля рассыплецца. Вянок здаваўся дужа цяжкім, быццам кожная цыбуліна была наліта свінцом, слязамі, горам, а не гаючым сокам, які шчыпле вочы і прымушае плакаць, затое дае сілу целу, моц зубам.

Потым заехалі да Арцёма. Яго не было дома, Хадора адваліла кавалак сала. Вазок ужо быў праміNуў праулак на балота: конік запомніў дарогу дамоў і цяпер не чакаў, калі яго падгоняць.

— Тпру! — крыкнула Ганна Мікітаўна. — Трэба заехаць да дзеда Гылігора.

— А мо далей паедзем? А то і сёння не паспею, — сказала Ніна.

— Не, трэба заехаць. А то пакрыўдзіцца стары, — Ганна Мікітаўна тузанула за лейцы, і конік неахвотна звярнуў на балота.

Дзед Гылігор плёў лапці. Самкліда, захутаная вялікаю хустай з махрамі, толькі нос і вочы былі відаць, прала на верацяно кудзелю.

Стары здзівіўся і ўзрадаваўся гасцям, замітусіўся па цеснай, цемнаватай зямлянцы, не ведаў, куды іх і пасадзіць.

— Рыгор Аўдзіхавіч, не клапаціцеся. Некалі сядзець, — Ганна Мікітаўна расказала пра сваю місію.

— Ну, што ж. Трэба і салдацікам памагчы. Яны вызвалілі нас ад фрыца... Мабыць, кавалак сала —

якраз тое, што салдату трэба. Хлеба ж ім дадуць. А сала мы падкінем.

Дзед выйшаў у сенцы. Самкліда тым часам адхінула ручнік-набожнік і дастала з-за іконы бутэльку.

— Нат-ка, ад мяне вазьміце. Хай вып'юць дзеткі нашы, — і падала Ганне Мікітаўне бутэльку. Тая разгубілася і не ведала, што рабіць. — Схувай пад палу, каб стары не бачыў, — спалохана зашаптала Самкліда.

Але Ганна Мікітаўна не паспела схаваць бутэльку, як дзед ужо стаяў на парозе і адразу ацаніў сітуацыю:

— Ці ж можна гарэлку даваць? А, старая?

— А чаму ж? Няўжо толькі табе яе сёрбаць? У акопе ж не на печы. Тамацька ж халодна, зябка. Дык няхай во сагрэюцца.

— Яно, канешне, ета ж не самагонка. Куплёная гарэлка. З крамы... Толькі дзе ж ты яе хавала, Самкліда? Шукаў надоечы. Усё аблахаў і не знайшоў.

— Дзе хавала, там ужо няма, — разамкнула бяззубы рот Самкліда. — Бярыце, хай дзеткі вып'юць. У нас два сыны на хронце. Ці жывыя яны, мае татулечкі?.. — плечы Самкліды неяк апусціліся, і сама яна згорбілася.

— Ну, старая, хопіць сырасць разводзіць. Напішыце, што ета ад нас. Ад Рыгора Аўціхавіча Свярбілы і Самкліды Раманаўны. Так і напішыце. — Ганна Мікітаўна хуценька разгарнула сшытак. Дзед ускудлаціў бараду, прыгладзіў яе, хмыкнуў для большай важнасці. — Значыць, так: «Дарагія дзеці! Ад чыстага сэрца частуем вас сваім салам і гарэлкаю. Ешце на здароўе. У нас таксама два сыны на хронце. Адзін забіты нямецкімі бандытамі. Біце іх, гадаў, не шкадуючы...» — стары раптам змоўк, нібы голас яго падсекла слязой. — Вось такім чынам. Можа, яшчэ чаго падараваць?

— Што вы, Рыгор Аўціхавіч! Дзякуй, хопіць, — Ганна Мікітаўна павярнулася да выхаду, але ўзрушаная Ніна стаяла на месцы. Потым падала дзеду руку:

— Дзякуй вам вялікі, Рыгор Аўціхавіч! І вам, цётка Самкліда, — яна цмокнула Самкліду ў старую, як пергамент, шчаку і крутнулася да дзвярэй.

Ужо добра ацямнела, калі Ніна вярнулася ў Лабанаўку. Заехала на двор райкома, з радасцю адзначыла, што акно Азаравай свеціцца.

— А, явілася прапажа, — зарыпеў снег пад валёнкамі старога конюха. — Я ўжо грэшным дзелам думаў,

што ваўкі цябе недзе перастрэлі. Але, дзякуй богу, цалёханькая...

Конік ціха заржаў, пачуўшы знаёмы голас.

— Усё нармальна, дзеду. Я два мяхі падарункаў сабрала. Памажыце, калі ласка, аднесці іх.

Ніна ўскінула на плечы мех з рэчамі і, размінаючы ногі, якія замлелі седзячы, пайшла да Азаравай. Тая ўзрадавалася, узнялася насустрач.

Потым у кабінет увайшоў задыханы конюх.

— Ну, мех цяжкі. Як камень. Чаго ты напакавала сюды, Пракопаўна?

— Усё тут ёсць. І мёд, і сала, — яна ледзь не сказала і гарэлка, але ў час спахапілася.

— Малайчына, Ніна Пракопаўна. Столькі ты назбірала! — радавалася Азарава. Калі конюх выйшаў, спытала: — Дзе ты начавала?

— У настаўніцы Ганны Мікітаўны. Такія гасцінныя людзі, — і раптам Ніна падумала, што ні Сямён, ні стары Чукіла, ні сама Ганна Мікітаўна нічога не падарылі для фронту.

— А мы толькі ў райцэнтры сабралі пяць тысяч грошай. Даўгаліха ўсіх прымусіла патрэсці кішэні. Ды і астатнія нашы жанчыны шчыра ўзяліся за гэтую справу. Я не думала, што столькі збяром, — Дар'я Трафімаўна разам з Нінай пачала разглядаць падарункі.

Цяпер штовечар акно ў кабінеце Азаравай свяцілася амаль да поўначы: сартавалі, пакавалі, падпісвалі падарункі, якія ўсё везлі і везлі з усіх сельсаветаў.

А праз нейкі час у газетах паявілася тэлеграма Сталіна, у якой гаварылася: «Прашу перадаць жонкам афіцэраў-франтавікоў Магілёўскай вобласці, якія сабралі 80976 рублёў на пабудову танка «Баявая падруга», мае брацкае прывітанне і падзяку Чырвонай Арміі. Жаданне афіцэраў-франтавікоў будзе выканана. І. Сталін».

Лабанаўскія жанчыны адчувалі сябе імяніннiцамі.

## XXVIII

Новы год пачаўся для Валодзькі Бравусава з прыемнай падзеі — яму прысвоілі званне малодшага лейтэнанта і на ягоных плячах заблішчалі афіцэрскія пагоны. А неўзабаве яго прызначылі ўчастковым міліцыя-

нерам. К вясне начальнік абяцаў выдаць яму каня і калёсы, бо ўчастак вялікі: дзе ты пехатой абыдзеш яго? Жыў цяпер Валодзька дома ў Белай Гары разам з маці.

Неяк уранні прыйшоў з Хатыніч малады мужчына ў вайсковым бушлаце, спраўных кірзачах, у салдацкім галіфэ, што абхоплівалі цыбатыя тонкія ногі, і рукі ў яго былі доўгія з вялікімі чырвонымі далонямі, і шыя таксама доўгая.

Чалавек прысеў на лаву, зняў шапку, прыгладзіў русявыя злямчаныя валасы, зірнуў на Бравусава і тут жа адвёў убок вочы.

— Прыйшоў да вас жалавацца. Вы як участковы павінны разабрацца.

— У чым справа? Хто вас пакрыўдзіў?

— Мяне ніхто не пакрыўдзіў. Я салдат, франтавік. Адпушчаны дамоў па раненні... Не магу цярпець такога безабразія...

— Што за безабразіе? Гаварыце ясней, — прыдаючы голасу строгасць і важнасць, спытаў Бравусаў.

— Толькі ета між намі, таварыш начальнік... Знаеце, дзярэўня ёсць дзярэўня. Я па сакрэту. Ляснік наш Захар Махавікоў хавае дома абрэз кулацкі. Мала таго што ружжо мае без бялета, незаконна, дык яшчэ і абрэз. Патронаў нацягаў. Кажуць, у яго і аўтамат ёсць. Хавае пад страхой...

— Праўду кажаш? — адразу зацікавіўся Бравусаў. Яму хацелася даказаць начальству, што ў ім не памыліліся, прызначыўшы ўчастковым, што ён наводзіць парадак на сваёй тэрыторыі. — Як тваё прозвішча?

— Шкурдзюк. Апанас. Кажу ісцінную праўду. Яй-бо. Прыйдзіце, самі ўбачыце, — чалавек шмаргануў дзюбатым носам, а вочкі пад бялёсымі бровамі хутка забегалі, як спалоханыя.

— Праверым. Будзь пасля абеду дома. Прыйду разбяруся.

Шкурдзюк сігануў за парог. Як толькі зачыніліся за ім дзверы, Бравусаў пацёр узрадавана рукі, уявіў, як пакладзе на стол начальніку аўтамат, абрэз, у таго пад акулярамі аж вочы пакруглеюць ад здзіўлення, а то ўсё бурчыць: «Вучыцеся, Бравусаў, працаваць. Зубрыце кодэксы законаў...»

Пасля паўдня Бравусаў быў у Хатынічах. Спачатку завітаў да старшыні калгаса Арцёма Шандабылы, але

той яшчэ не вярнуўся з лесанарыхтовак. Тады Бравусаў пакіраваў да Шкурдзюка і разам з ім прыйшоў у хату лесніка Махавікова. Той якраз абедаў, нядаўна, відаць, вярнуўся з абходу, у парозе стаялі мокрыя валёнкі, на кручку вісела паляўнічая стрэльба-аднастволка.

Бравусаў гучна павітаўся і без лішніх слоў вырашыў адразу браць быка за рогі:

— Ну што, Махавікоў, вядзі паказвай, дзе хаваеш зброю. Аўтамат, абрэз. Нацягаў патронаў. На храна табе ета? Што, ружжа мала? Давай пайшлі! — Бравусаў выцягнуў з кабуры пісталет.

У Махавікова і лыжка засела ў роце. Збялелы, ён падняўся, выйшаў з-за стала, кінуў востры позірк на Шкурдзюка, а той стаяў, гледзячы некуды за акно, быццам яго гэта ані не цікавіла.

— Няма ў мяне ніякай зброі. Шукайце. Мне няма чаго паказваць. Нехта ўзвёў на мяне напрасліну. Можа, той, хто любіць лес красці...

— Значыць, не прызнаешся? Будзем шукаць. Вось у прысутнасці панятога таварыша Шкурдзюка, — Бравусаў патупаў па хаце, зірнуў на вялізны стары куфар. — Што там? Адчыняйце!

Тут падляцела да Бравусава лесьнічыха, немаладая кабета ў шырокай і доўгай спадніцы і пачала даказваць, што няма ў іх ніякай зброі, што нейкі ўраг накляпаў на іх. У яе не было зуба наперадзе, то калі гаварыла, дык аж пырскала сліна з рота. Бравусаў сам рашуча падняў вечка куфра, там ляжалі скруткі палатна, абрусы, ручнікі, нейкія рознакаляровыя шматкі матэрыі, ад якіх моцна пахла нафталінам. Бравусаў перавярнуў некалькі скруткаў — яшчэ мацней ударыў у нос пах нафталіну, ён зачмыхаў і яшчэ болей раззлаваўся.

— Палезем на гарышча! — загадаў Шкурдзюку.

Той падтрымаў старэнькую рыпучую лесвічку, потым услед за Бравусавым ускараскаўся на гарышча. Тут было цёмна, праз маленькае акенца ў франтоне цадзілася скупое святло.

— Не будзе тут нічога. Бачылі людзі, што пад страхою хавае. Дзе дровы, над вуглом ля хлява, — шапнуў ледзь не ў самае вуха Шкурдзюк.

— Ціха, маць тваю... — вылаяўся Бравусаў.

Між тым Шкурдзюк хадзіў па гарышчы, знарок гоцаў, каб паказаць, як шчыра яны шукаюць.

На дварэ Бравусаў удыхнуў марознага паветра, тыцнуў рукой пад страху ля варот, павярнуў за вугал.

— Махавікоў! Ну-ка ідзі сюды! — сярдзіта крыкнуў ён.

Ляснік у накінутай наапашкі куфайцы стаяў сярод двара, падышоў да хлява. Услед за ім валюхаўся Шкурдзюк.

— Што ета такое? — Бравусаў трымаў загорнуты ў брудныя лахманы абрэз.

— Першы раз бачу, — клацаючы дробненька зубамі, заікаючыся, сказаў ляснік. — Яй-бо не ведаю. Адкуль ён тут узяўся?

Бравусаў клацнуў затворам, з патронніка выслізгнула пацямнелая гільза з жаўтлявай куляй, загнаў патрон у ствол.

— Спраўная пушка. Усё як мае быць. Кажы, дзе аўтамат?

Збялелы ляснік трослся як у ліхаманцы, у яго спалоханых вачах прамільгнуў страх, абыякавасць і асуджанасць, як злоўлены воўк, ён люта зірнуў на Шкурдзюка, сціснуў кулакі і выдыхнуў:

— Твая работа, падлюка!

— Не дуры, Махавікоў. Папрашу без аскарбленняў. Пайшлі ў хату, — задаволены Бравусаў загарнуў у анучы абрэз, руляю адкінуў клямку, увайшоў у хату, як гаспадар, сеў ля стала, дастаў са скураной сумкі, што заўсёды целяпалася ў яго пры боку, складзены напалам сшытак, пасліniў агрызак хімічнага алоўка, кінуў Шкурдзюку:

— Сядай. Чаго таўчэшся ў парозе? Будзеш акт падпісваць. Білет на ружжо маеш? — павярнуўся да Махавікова.

— Які білет? Не давалі нам яшчэ бялетаў.

— Усе ж леснікі з ружжом ходзяць. Што ета вы прычапіліся да чалавека, нашы два сыночкі на хронце, а яны тут расхаджваюць... Здзекуюцца зладзюгі розныя, — праз слёзы гаварыла лесніччыха.

— Што ета за зладзюгі? Разгаворчыкі! А то загрыміш у каталажку разам з мужыком, — Бравусаў рашуча зняў стрэльбу з крука, праверыў, ці зараджана — патронаў у ёй не было, паклаў каля сябе на лаўку...

У вокнах зямлянак і хат адбівалася няроўнае, дрыготкае святло лучыны, калі Бравусаў, вясёлы, на падпітку — выпіў са Шкурдзюком пляшку самагону, ішоў

па вуліцы. Ля хаты, дзе жыла Марына Сахута, спыніўся, пастаяў, пераступаючы з нагі на нагу, і рашуча сігануў да дзвярэй.

Сям'я Сахутаў вячэрала. Два стрыжаныя хлопцы сёрбалі капусту, ля акна сядзела Марына. Белая хуста ў яе была апушчана на шыю, густыя цёмныя, але яшчэ караткаватыя валасы, падзеленыя на прабор, атульвалі вушы і шчокі. Гаспадыня сядзела спінай да дзвярэй, яна паднялася, як толькі Бравусаў пераступіў парог.

— Добры вечар! Хлеб-соль, — гучна сказаў госць.

— Сядайце з намі, павячэрайце, — запрасіла гаспадыня. Фартухом махнула па лаве. — Чым багаты, тым і рады. Капустачка во цёплая, стаяла ў печы...

— Не, не, спасібачкі, — Бравусаў сеў збоку на лаўку, між ног заціснуў стрэльбу, абрэз вісеў на плячы пад шынялём. — Я павячэраў. Добрыя людзі пачаставалі.

— Ета ж вы з Белай Гары? У каго ж вы тут заначавалі? — спыталася гаспадыня.

— Пайду дамоў. Што ета знача — пяць вёрст для мяне, маладога, нежанатага, — ухмыльнуўся Бравусаў.

— Ваўкоў жа развялося. Ходзяць зграямі. Вунь наша Парасся ля сваёй зямлянкі ваўчыцу забіла тапаром, — павярнулася да яго гаспадыня.

— Чытаў у газетцы. Смелая баба.

— У нас усе смелыя, — Марына пацвельвалася і пільна глядзела на госця.

Не зводзілі вачэй з міліцыянера ў чырвона-сіняй фуражцы і хлапчукі, асабліва ўглядаўся малодшы.

— Ды ўжо ж смелыя. Зброю пад стрэхамі хаваюць. Стрэльбы без білета трымаюць. Во давялося ў лесніка адабраць. Незаконна меў. Ета парушэнне.

— А як жа лесніку без ружжа? Так жа хоць троху яго натараняюцца. Не валяць лес дзе папала, — гаспадыня паставіла на стол чыгунок прасяной кашы.

Хлопцы шчыра запрацавалі лыжкамі. Марына неўзабаве паднялася, дастала з печы цёплай вады, каб мыць посуд. Але маці запярэчыла, сказала, што яна памые сама. Бравусаў тут жа скарыстаў гэты момант, шапнуў Марыне:

— Выйдзі на хвілінку. Дзела ёсць.

Марына накінула на плечы ватоўку, завязала хусту. Як толькі выйшлі ў цёмныя сені, Бравусаў адразу абхапіў яе за плечы і палез цалавацца. Марына войкнула,

адштурхнула яго, ён зачапіў ботам вядро, тое пакацілася са звонам па дошках. Марына хутчэй адчыніла дзверы на вуліцу. З хаты высунулася Сахуціха:

— Што тут такое?

— Нічога, мам. Ета я вядро зачапіла нагой, — Марына стаяла ля сцяны і, калі Бравусаў падышоў бліжэй, ціха сказала: — Вось што, Валодзя. П'яным да мяне не прыходзь.

— Хіба я п'яны. Ты што? Я кульнуў сто грамаў. Ета для мяне што сабаку муха. Я ж не валяюся.

— Яшчэ чаго не хапала. Ідзі ты дамоў. Цемень такая. А то, выпіўшы, з дарогі саб'ешся. Не туды зойдзеш. Можа, лепей пераначаваць у каго? Зайдзі да Арцёма.

У гэтых словах Бравусаў адчуў клопат пра яго, і злосць на ўпартую дзяўчыну пачала аціхаць.

— Ты за мяне не турбуйся. Я ўзброены да зубоў, — ён адхінуў шынель і паказаў абрэз і кабуру з пісталетам. — Бачыш, тры ствалы маю. Сам чорт не страшны, не тое што ваўкі.

— Ты не міліцыянер, а мілітарыст.

— Што ета такое? — пакрыўдзіўся Бравусаў.

— Ну, чалавек, у якога багата зброі... Ідзі, Валодзя. А то мне на дзяжурства рана, — Марына пазяхнула, прыкрываючы рот рукой.

— Як жа ты пойдзеш адна? Мяне пужаеш ваўкамі, а сама поначы ходзіш. — Бравусаву раптам стала шкада гэтай дзяўчыны, і яму захацелася зрабіць для яе нешта добрае. Хай неахвочная да пацалункаў, але клапатлівая, чулая, сама ходзіць начамі на дзяжурства, і ён ляпнуў тое, пра што думаў даўно, але не адважваўся сказаць. — Слухай, Марына, выходзь ты за мяне замуж. У нас у Белай Гары пункт фельчарскі адкрываецца. Будзеш там працаваць...

— Не, Валодзь, каб ты быў цвярозы, ты б такое не сказаў... Не трэба пра ета. Пакуль што не трэба. Нельга так адразу... Я не магу... Другім разам пагаворым...

На развітанне Бравусаў злаўчыўся і цмокнуў Марыну ў шчаку.

Вёску прамінуў ён хутка. У полі дарогу перамятала, ісці было цяжэй, але настрой быў выдатны: узброены да зубоў — тры ствалы, выпітая чарка грэла і весяліла, ды і словы Марыны: «другім разам пагаворым» абнадзейвалі. Бравусаў шырока крочыў, ціха напяваў: «Вперед, мы — сталинцы лихие...»

Песню гэтую яны спявалі штодня, калі восенню сорак трэцяга ён праходзіў кароткую вайсковую падрыхтоўку.

Вецер мацнеў, ісці было ўсё цяжэй, на кургане, дзе дарогу абступалі высокія старыя бярозы, а між іх густым шнурком цягнуўся малады бярэзнік, снегу намяло ледзь не ў калена. Наперадзе цямнеўся малады бярозавы гаёк. Восенню і вясною там заўсёды стаяла даўжэзная лужына, і гэтае месца аб'язджалі вакол гайка, зімой ездзілі наўспрамкі.

Бравусаву падалося, што збоч бярэзніку мільганулі нейкія цені. Ён стаў ля бярозы, прыгледзеўся, адчуў, як валасы нібы заварушыліся пад фуражкаю, прамільгнула думка, што калі багата ваўкоў, то і тры ствалы не дапамогуць ды і патронаў у яго малавата.

Усплыў з памяці ашчэраны твар Якава Рацэева, па спіне Бравусава нібы пабеглі мурашы. Ён похапкам выцягнуў з-пад шыняля абрэз і стрэліў угору — сноп агню вырваўся з куртатага ствала, і рэха пакацілася над бярэзнікам, над полем, аж да Бесядзі.

З абрэзам напагатове Бравусаў смела рушыў наперад.

Назаўтра апоўдні ён быў у кабінеце начальніка міліцыі. З гонарам паклаў на стол трафеі, расказаў усё, як было, падаў акт. Начальнік выслухаў тлумачэнні, падсунуў бліжэй акт. Чым далей ён чытаў, тым больш хмурыўся, потым узяў абрэз, клацнуў затворам, зірнуў у ствол.

— Ты хочаш сесці ў турму?

— А за што? — аж падскочыў Бравусаў.

— Я пакуль што задаю пытанні. Хочаш?

— Яснае дзела, не. Я выконваю свае абавязкі.

— А што ж ты чалавека хочаш пасадзіць? Панятым ты ўзяў заявіцеля. Аднаго. Трэба два чалавекі абавязкова. Можа, ён сам і падсунуў пад страху абрэз?

— Ды вы што? Як так можна? — пакрыўдзіўся Бравусаў.

— Няможна. А быць можа. Агледзеў двор? Сляды з поля былі? Маўчыш. Значыць, не агледзеў. Навошта ты страляў з абрэза?

— Проста праверыў, ці страляе...

— Цяпер дакажы: страляў з яго гэты ляснік ці не? Што за чалавек Шкурдзюк? Можа, злосны парубшчык? Ляснік злавіў яго ў лесе, а ён цяпер яму помсціць. Да-

лей. Ты бачыў калі-небудзь білет на права мецць стрэльбу? Не бачыў. Такіх білетаў не маюць і іншыя леснікі. Не ўсе маюць. Іх выдавалі яшчэ да вайны... За тое, што стараўся, дзякуй. Малайчына. Але акт аформіў кепска, дапусціў шмат парушэнняў... Галавой трэба варушыць, — начальнік памаўчаў, зняў акуляры, пацёр стомленыя вочы, і адразу яго твар зрабіўся нейкім хатнім, свойскім, зусім нястрогім, толькі шрам на лобе зачырванеўся яшчэ мацней.

— Ты яшчэ малады, Бравусаў. Табе яшчэ жыць і працаваць... Служыць, як меднаму кацялку. Вучыцца трэба... Вот цяпер строга сталі пытаць за свіныя скуры. Нельга смаліць кабана. Аблупі, здай шкуру і еш сабе сала на здароўе. І ўсё ж кабаноў смаляць. От падумай, як можна знайсці, дзе смаляць або дзе ўжо гэта зрабілі. Усе ж двары не абыдзеш. Як можна абнаружыць?

— Па ветру. Пах будзе.

— А калі вецер дзьме на поле? Ты ідзеш па вуліцы... Маўчыш. Трэба да ўсяго прыглядацца і прыслухоўвацца. Да таго двара, дзе смаляць кабана ці абсмалілі, абавязкова прылятаюць сарокі... Вучыся працаваць, Бравусаў. А ляснік заўтра каб быў у мяне.

Не ведаў Бравусаў, пра што і як гаварыў начальнік міліцыі маёр Гоманаў з лесніком Захарам Махавіковым, але стрэльбу лесніку вярнулі, пра абрэз болей ніхто не ўспамінаў.

## XXIX

Раённы партактыў сабраўся ў Доме культуры. Сядзелі ўсе апранутыя, бо гардэроба не было і ў паміне, у паўцёмнай зале стаяла халадэча, хоць ваўкоў ганяй. Печкі дымілі, вокны з дзіркамі, у фае некаторыя масніцы падгнілі, і хадзіць па іх было небяспечна. Адно што паспелі зрабіць — падрамантавалі сцэну, збілі даўжэзныя ўслоны, на якіх сядзелі па сем-восем чалавек.

Адкрыў сход Акапян. Ён быў у цёмна-сінім кіцелі, сам гладка паголены, падцягнуты. Пасля ўдалай паездкі на лесанарыхтоўкі ён адчуваў сябе больш упэўнена, ведаў ужо многіх старшынь калгасаў, хоць і мяняліся яны вельмі хутка. Нядаўна быў ён на справаздачным сходзе ў Хатынічах. У лесе Арцём Шандабыла перака-

наў Акапяна, што старшынёй калгаса «Пяцігодку ў чатыры гады» трэба выбраць Макара Казакевіча. Ён хоць і на адной назе, але ўсюды паспее, адукаваны больш, чым ён, Арцём, яму і карты ў рукі. Але на сходзе раптам усплыла і другая кандыдатура — Раман Піліпавіч Свідэрскі, які горача выступіў, крытыкаваў недахопы, безгаспадарчасць у калгасе. Тады і пачуліся галасы: «Свідэрскага старшынёй... Хай выпраўляе недахопы. Ён чалавек партыйны...» Акапян, які да пачатку сходу пагаварыў з Казакевічам, той даў згоду быць старшынёй, цвёрда вытрымаў лінію: «Бюро райкома рэкамендуе таварыша Казакевіча, якога вы ўсе ведаеце, які мужна і гераічна змагаўся з ворагам... Які будзе дбайным гаспадаром...» Тут выступіў дырэктар школы Мамута, падтрымаў прапанову Акапяна, і ўсе дружна прагаласавалі за Макара Казакевіча. Пасля сходу Акапян сказаў Свідэрскаму: «Зайдзіце ў райком. Да мяне асабіста. Партыйныя, прынцыповыя, актыўныя людзі нам патрэбны». Свідэрскі прыйшоў. Неўзабаве яго абралі старшынёй Белагорскага сельсавета.

Акапян пашукаў вачамі і знайшоў на трэцім радзе хатыніцкага старшыню, побач з ім сядзеў Даўгалёў, ля яго новы намеснік упаўнаважанага па нарыхтоўках Чэпікаў. А яму, Чэпікаву, шаптаў нешта на вуха старшыня Белагорскага сельсавета Свідэрскі. «Устанаўліваюцца кантакты», — падумаў Акапян і з радасцю адзначыў, што большасць людзей у гэтай зале ён ужо ведае.

Актывістаў з усяго раёна сабралася многа. У задніх радах ужо курылі, мусіць, каб цяплей трохі было. Акапян адчуў, што па спіне прабягаюць дрыжыкі. Улучыўшы паўзу — адзін прамоўца скончыў, а другі яшчэ не пачынаў, ён выйшаў з-за стала, адшукаў па цвічку свой кажушок, накінуў на плечы, ціха сказаў: «Не шкадуе беларускі мароз паўднёвага чалавека, — і ўжо мацней дадаў: — Трэба нам прывесці ў парадак наш Дом культуры. Фронт ужо не стаіць ля Чавусаў, як летась, а мы ўсё жывём па-партызанску».

— Правільна! Даўно пара падрамантаваць і вычысціць гэту канюшню! — крыкнулі з залы.

Людзі заварушыліся, у кагосьці з грукатам упала на падлогу мыліца. Акапяну давялося пастукаць аб графін алоўкам, пакуль усталявалася цішыня. Выступалі прамоўцы з месца, на сцэну ніхто не адважыўся падняцца, ды і прайсці між услонамі было не так про-

ста. Чым болей слухаў Акапян прамоўцаў, тым мацней забірала яго трывога: якое цяжкое становішча ў раёне, усё разбурана, знішчана, землі бедныя, плугоў няма, коней няма. Зрэшты, і ў суседзяў справы не лепшыя, у нас хоць чыгунка блізка.

Пракапенка перапыняў некаторых прамоўцаў, удакладняў лічбы, яго ўважліва слухалі, і зноў, як і на бюро, калі абмяркоўвалі план лесанарыхтовак, фактычна ён вёў партактыў. І зноў раўнівае пачуццё варухнулася ў Акапяна, нават пазайздросціў Пракапенку, што ён усіх ведае, бо сам тутэйшы, і яго ведаюць, паважаюць. Праўда, і да Акапяна адносяцца ўсе з павагай і пашанай. А як добра яму працавалася на лесанарыхтоўках! Ён зрадніўся за тыя дні з хатыньчанамі.

Яго думкі перапыніў Пракапенка:

— Сяргей Хачатуравіч, дазволь мне пару слоў...

Пракапенка падняўся, раскрыў невялічкі блакноцік, абвёў вачамі залу і нягучным, спакойным голасам пачаў. Ён гаварыў, што пасяўная будзе нялёгкай, але плошчы, даведзеныя ўсім калгасам, павінны быць засеяны, што насенныя фонды трэба зберагчы да зярняці.

— Збожжа, магчыма, нам трохі падкінуць яшчэ з Кубані, з Паволжа. А вось бульбы нам ніхто не дасць. Выхад ёсць адзін: прасіць ці нават патрабаваць, каб кожны калгасны двор нарыхтаваў за пару тыдняў сакавіка па два-тры вядры верхавінак клубняў. Верхавінкамі мы садзілі бульбу летась. Там, дзе зрабілі гэта парою, па-гаспадарску, ураджай добры. Як робіцца, мабыць, усе ведаюць? Але яшчэ раз нагадаю асноўныя патрабаванні. Не трэба адвальваць вялікія верхавінкі, лепей хай яны будуць паўтара-два сантыметры і вагою дзесяць — пятнаццаць грамаў. Каб на верхавінцы было дзве-тры почкі. Калі адна почка — праца кату пад хвост... Пяць, а лепш дзесяць дзён патрымаць верхавінкі ў сухім месцы, потым ссыпаць слоем трыццаць — сорак сантыметраў, перамяшаць з пяском ці сухою зямлёю. І хай чакаюць вясны.

У выступленні Пракапенкі не было агульных заўваг, грымотных заклікаў: мабілізавацца, закасаць рукавы, усім дружна паднатужыцца, затое былі канкрэтныя парады і прапановы. Некаторыя падаліся Акапяну нават дробязнымі і неабавязковымі, як, напрыклад, што хамуты для кароў павінны быць лёгкімі, ляжачыя сядзёлкі не падыходзяць — трэба рабіць гарбатыя, стаячыя,

якія не так нацiраюць спіну. Як бы адчуўшы думкі сакратара райкома, Пракапенка сказаў:

— Канечне, гаварыць пра тое, каб карміцельку нашых дзяцей, Красулю ці Буронку, запрагаць у плуг, язык не паварочваецца. І ўсё ж без дапамогі рагуль нам не абысціся. Тут усе гаварылі, што коней мала. На сабе плуг не пацягнеш, матыкаю многа не схопіш, хаця трэба і матыку пусціць у ход. Летась некаторыя жанчыны ўскапвалі матыкай па дванаццаць сотак за дзень. Глядзіш, за тыдзень — амаль гектар. Хацеў бы прасіць вас усіх быць беражлівымі, ашчаднымі. Коней мала, не парвіце іх. Зараз падмацуйце, чым можна. І кароў шкадуйце. На ялаўках не болей васьмі гадзін арыце, а дойныя — пяць-шэсць гадзін. Запомніце, каровы што дзеці ў школе: сорак пяць мінут адрабілі, пятнаццаць мінутак перадышка. Хай травы скубане рагуля...

— Дык у нас гадзіннікаў няма. Можа б, выдалі аратым, — крыкнуў нехта з залы.

— Ведаю, што гадзіннікаў няма. Іх і да вайны было небагата. Праз некалькі гадоў кожны чалавек будзе мець гадзіннік. А цяпер па сонцы арыентуйцеся. Справа тут не ў мінутах. Справа ў тым, каб мы берaглі і коней, і кароў...

— І людзей трэба берагчы, — не стрымаўся Акапян.

— Людзей — само сабою. Мы вынеслі такую вайну, але нам трэба падняць і разбураную гаспадарку. У белых пальчатках гэтага не зробіш. Ды і няма ў нас пальчатак. Мы павінны быць і добрымі, і патрабавальнымі. Вялікая роля належыць нашым упаўнаважаным, сельскім Саветам...

Акапян уважліва слухаў выступленне Пракапенкі, сачыў за настроем залы, і ўсё большай упэўненасцю поўнілася яго душа: выцягнем пасяўную, можа, і не пазней за суседзяў, а яшчэ лепей, каб раней. Нават уявіў, як ён дакладвае абкому, што пасяўную яны завяршылі раней тэрміну, хай ведаюць, што партыйцы Лабанаўскага, глыбіннага, беднага, раёна, і ў першую чаргу ён, Акапян, зрабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб зямля не засталася пуставаць.

Сёй-той у зале запісваў некаторыя парады з выступлення Пракапенкі. Акапян у думках ухваліў старшыню райвыканкома: у калгасах няма пакуль што аграномаў, старшыні і брыгадзіры малаадукаваныя, газеты рэдка хто выпісвае, таму трэба гаварыць пра тое, як рыхта-

ваць верхавінкі, і гэта не верхаглядства, а канкрэтны падыход да справы.

Акапян не збіраўся зацягваць сваё заключнае слова, але пачаў з міжнароднага становішча, захапіўся поспехамі на фронце і прагаварыў паўгадзіны. Спахапіўся, калі ўбачыў, што некаторыя пазяхаюць: што нашы пад Берлінам, усе ведалі, больш канкрэтныя клопаты і турботы непакоілі іх. Закончыў ён заклікам: мабілізаваць усе сілы на сяўбу, партыйным арганізацыям сельсаветаў, упаўнаважаным райкомаў — а ўпаўнаважанымі былі ўсе раёншчыкі, апроч першага сакратара райкома, — займацца арганізацыяй справы, каб датэрмінова завяршыць пасяўную кампанію.

Разыходзіліся нетаропка, закурвалі ў зале, перакідваліся словамі. У зале стаяла бязладная гамана, успыхваў сям-там рогат. Многія сустрэліся першы раз за гады вайны. Было што ўспомніць франтавікам і партызанам, хаця ў тыя дні людзі без асаблівай ахвоты гаварылі пра свае партызанскія дні, раненні, фронт: занадта смылелі яшчэ рубцы на целе і ў душы. Яшчэ па жывому не загаіліся раны, а згадкі былі дужа балючыя.

Гэта потым, праз два дзесяцігоддзі пачнецца паласа ўспамінаў, калі ўсё меней будзе жывых сведкаў і болей вольнага часу ў былых франтавікоў і партызан. Калі пра верхавінкі рэдка хто будзе ведаць, лапці можна будзе ўбачыць толькі ў музеі. Усё гэта прыйдзе потым.

А тады намеснік упаўнаважанага па нарыхтоўках Сцяпан Ігнатавіч Чэпікаў выйшаў з партактыва ўстрывожаны і заклапочаны: як правесці сяўбу ў замацаваным сельсавеце? З якога канца падступіцца? Ён багата чаго запісаў з выступленняў Пракапенкі, сёе-тое вывудзіў і з іншых прамоўцаў, але ён, Чэпікаў, вельмі слаба ведаў свой Бярозаўскі сельсавет, аддалены, з ляснымі, у большасці спаленымі вёскамі.

Праўда, Свідэрскі, старшыня Белагорскага сельсавета пазайздросціў яму, бо праз Бярозаўку праходзіць чыгунка, на раз'ездзе хоць на хвіліну-другую ды спыняюцца цягнікі.

Напрадвесні растуць дні хутка. Час ляціць непрыкметна. Прырода быццам спяшаецца скінуць з сябе зімовыя кайданы. Сонца прачынаецца ўсё раней, вышэй узбіраецца на неба, якое таксама робіцца ўсё вышэйшым і яснейшым. Для Андрэйкі Сахуты вясновыя

дні былі вялікія, поўныя сонца, стукатлівай музыкі бёрдаў і ляскатання сукала, птушынага спеву і шпокання капяжу.

А калі ў чалавека багата спраў, розных клопатаў, калі не ўсё гатова да вясны, да спрадвечнай хлебаробскай турботы — сяўбы, так і хочацца крыкнуць сонцу: «Стой, пачакай! Не грэй так моцна. Хай паляжыць снег яшчэ з тыдзень». Але ў каго скончылася сена, той чакаў і не мог дачакацца, каб адскочыла травінка ў лузе і льга было выпусціць худобу на аблогу, у сасоннік, бо лугі і нізіны залітыя вадой.

Не, зусім незразумелая рэч — час. І ніхто яшчэ толкам не растлумачыў, што гэта такое. Тое, што ён доўжыцца або ляціць імгненна — гэта паняцце чыста суб'ектыўнае.

Чалавек жыве і рухаецца ад мінулага да будучыні. Для чалавека семдзесят гадоў — вялікае жыццё, для гісторыі краіны, для чалавецтва — гэта імгненне. А для сусвету — і ўвогуле нішто...

А калі ўзяць час як аб'ектыўную рэальнасць, як фізічны фактар, які ўплывае на ўсе працэсы ў прыродзе. Тут і пачынаеш буксаваць... Праўда, тое, што час — адзіная рэч, якую нельга ні ў кога пазычыць, разумеюць усе.

Сцяпан Чэпікаў мала разважаў і ламаў галаву над часам як філасофскай катэгорыяй. Калі і задумваўся аб хуткаплыннасці часу, то часцей за ўсё ў дарозе: у таварняку да раз'езда Бярозаўка, дзе цягнік прыцішаў ходу і ён выскокваў, у пешых вандроўках па вёсках сельсавета, бо каня не меў, разы два падвозіў яго старшыня сельсавета, а то на сваіх дваіх вывучаў вясковую тапаграфію.

У Лабанаўцы бываў рэдка, амаль не стыкаўся. Падшукалі яму ў Бярозаўцы кватэру — пасялілі да адзінокай бабы Сцепаніды. І ў яе бываў не часта, дзе ў якой вёсцы заспявала ноч, там і заставаўся начаваць.

Нарыхтоўку верхавінак бульбы ён узяў адразу пад свой кантроль, нарэзалі іх багата ва ўсіх пяці калгасах сельсавета. А са збожжам было цяжэй, бо адно зярнятка не рассячэш нават напалам, не то што на некалькі частак-верхавінак. Разам са старшынямі калгасаў хадзіў ён па хатах, прасілі, угаворвалі: пазычце на насенне ячменю ці пшаніцы, што ў каго ёсць, увосень калгас разлічыцца ўдвая, апроч аплаты на пра-

цадні. Збожжа ніхто не здаваў: не было чым пасеяць і свае соткі.

Чэпікаў прыкмеціў на паўстанку Бярозаўка, дзе часам спыняліся некаторыя саставы, якія везлі параненых, іншыя ішлі ў бок фронту з вайскоўцамі, што, як толькі цягнікі прыстойвалі, адразу паяўляліся вёрткія кабеты з самагонам. Чэпікава яны не ведалі і не хаваліся ад яго. Ён падыходзіў, пытаўся, пачым «святая вадзіца», хэць і не купляў. Часцей за ўсіх гандлявала гарэлкаю цётка ў зялёнай вайсковай куфайцы і мужчынскіх кірзачах. Твар яе быў шырокі, пляскаты, абсыпаны рабаціннем, як жаўрукова яйка. Яна гучна гукала да сябе пасажыраў і бойка вяла гандаль.

Аднойчы Чэпікаў прыйшоў са старшынёй сельсавета, бабкі сыпанулі хто куды. Рабая гандлярка была і на гэты раз, старшыня здаля пазнаў яе, паклікаў, але яна кінулася наўцёкі. Чэпікаў дагнаў яе, ухапіўся за лазовую кашолку, вырваў яе з рук гандляркі. Тая ўзняла лямант, але, убачыўшы перад сабою знаёмага «пакупніка», а за ім старшыню сельсавета, прыціхла.

— Ну як, Хрысціна, гандаль? — спытаўся старшыня. — Што ў цябе ў кашолцы?

— Няма тут нічога. Во пляцёначка цыбулі. Ніхто не купіў...

— А пад пляцёнкаю што? — старшыня адкінуў ручнік, адсунуў цыбулю і выцягнуў грэлку, у якой забулькала вадкасць, адвінціў закрутку, глынуў:

— Нешта ж слабаватая ў цябе гарэлка? Ці не вадою разбаўляеш? Падрываеш аўтарытэт бярозаўскага зелля. Цыбуля табе спатрэбіцца. Нясі дамоў, а самагонку мы забіраем. Складзем акт. Гэта ўпаўнаважаны з раёна. Дадзім табе штрафу.

— Старшынька, родненькі, за што ж вы мяне крыўдзіце? За што якое мне штрап? — Хрысціна прыкінулася, што плача, нават выціснула некалькі слязін. — Дзеці малыя, мужыка забілі ў партызанах...

— Ну, вось што, Хрысціна. Кажы таму, хто не ведае. Мужык твой пайшоў у партызаны з паліцыі, калі ўжо нашы былі блізка. Тады ён перабег.

Назаўтра ўтрох — брыгадзір, старшыня сельсавета і Чэпікаў — прыйшлі да Хрысціны шукаць схаванае збожжа. Брыгадзір перакапаў віламі ўсё ў хляве, Чэпікаў хадзіў па двары, торкаў штыком. За пограбам ён убачыў невялікую кучу леташняга бульбоўніку. Раскі-

даў яе, торкнуў у зямлю — штых упёрся ў нешта цвёрдае. Адкапалі, а там бочка ячменю. Пакінулі гандлярцы пару пудоў, астатняе рэквізавалі.

Патрэслі іншых самагоншчыц, амаль у кожнай знайшлі па мяху зерня. Сяк-так насення наскрэблі.

Але дзе ўзяць коней?

Жыў недалёка ад станцыі, на хутары, стары, але яшчэ дзябёлы дзядок, заўзяты аднаасобнік. У калектывізацыю яго не раскулачвалі, бо ён уладкаваўся наглядчыкам на чыгунцы і жыў даволі бедна, але ў час вайны пабудаваў новую ладную пяцісценку, займеў спраўнага коніка, зямлі абрабляў колькі хацеў. Хадзілі да яго старшыня калгаса і брыгадзір, каб даў каня пасля таго, як свой гарод пасее. Дзед на дыбы: «Я карміў, паіў коніка. А вы яму парвіцё шлунне. Вам не шкада, бо чужы. Угробіце скаціну. Не дам...» Сказалі пра гэта Чэпікаву.

Пайшоў да дзядка сам упаўнаважаны. Адказ быў той жа. Зразумеў Чэпікаў, што па-добраму дзед каня не дасць, трэба браць сілаю, а гэта парушэнне закону. Пазваніў Даўгалёву, растлумачыў сітуацыю. Той параіў скласці акт, што бяром каня на час вясенне-палявых работ, адзін экземпляр акта даць старому: без паперы ён можа і ў суд падаць, а так усё афіцыйна, мясцовыя ўлады пазычылі каня на час сяўбы. Не ўкралі, не адабралі, а пазычылі.

Так і зрабілі. Хутаранін гразіўся пісаць аж у Маскву. Чэпікаў разумеў, што гэта несправядліва адбіраць у чалавека яго маёмасць, але ён супакойваў сябе, што ўсё абыдзецца, галоўнае — завяршыць у тэрмін сяўбу.

Сяўба была ў разгары, калі Чэпікава выклікалі ў раён: Крупадзёраў сам пазваніў у сельсавет, каб ён неадкладна прыехаў. Ранічкай Чэпікаў ускочыў у тамбур таварняка, які ішоў на Лабанаўку, і праз гадзіну быў у кабінеце шэфа.

— Здароў, разбойнік, — ухмыльнуўся Крупадзёраў, рукі не падаў, зноў павярнуўся да харчагента Канаплёва, які расказваў, як забіралі ў Зарэччы парсюка ў жанчыны, бо яна не плаціла падаткі.

— Крычыць яна, што вы робіце, такія-сякія? А што мы робім? Пагашаем нядоімку. Я кажу, мяне ж са службы вытураць, калі ты, Мар'я, Дар'я, Іван ці Змітрок не будзеце здаваць мяса, малако, воўну, яйкі. Ета ж не сабе я бяру. Дзяржаве трэба... Ну, ад'ехалі троху,

а тады я парсючку цвічком пад хвост. Як заверашчыць ён на ўсё Зарэчча! Назаўтра ў многіх знайшліся грошы. І мяса паявілася. І яйкі куры пачалі несці. Як з неба пасыпалася, — дробненька рагатаў-кудахтаў Канаплёў, а ў адказ яму задаволена рагатаў Крупадзёраў, пазіраючы на Чэпікава, які і не думаў смяяцца.

Чэпікаву было не да смеху: ён уявіў тую бедную кабету, у якой забралі, можа, апошняга парсюка, а ў яе, магчыма, дзеці малыя. У першыя дні работы ён перачытаў усе інструкцыі, у якія Крупадзёраў заглядваў рэдка. У тых строгіх і суровых інструкцыях тым не менш было чорным па белым напісана: калі ў сям'і ёсць дзеці да сямі гадоў, сям'я вызваляецца ад падаткаў, таксама як і сям'я франтавікоў, інвалідаў, тых, хто загінуў на фронце, што нельга забіраць адзенне, падушкі, асабістыя рэчы.

Крупадзёраў закрываў вочы на тое, што харчагенты парушалі інструкцыі, затое лічыўся ў вобласці перадавіком — у яго раёне было менш нядоімшчыкаў, чым у іншых, і адчуваў сябе ўпэўнена, смела, быў нават нахабным часам, пабойваўся трохі толькі Акапяна. Ён уволю смяяўся, слухаючы Канаплёва, якога лічыў лепшым работнікам, ахвотна ездзіў да яго ў Зарэчча папарыцца ў лазні, п'янстваваў там. Пра гэта даходзілі чуткі да раёна, але Чэпікаў не любіў верыць чуткам, затое сам бачыў аднойчы п'янага Крупадзёрава пад ручку з дырэктарам спіртзавода.

— І ўсё ж, Павел Іванавіч, і пасля етага не ўсе сазнацельныя аказаліся, — апавядаў далей Канаплёў. — Адна жанчынка пачала біць у хамут. Не здае ні яек, ні мяса. Куры ходзяць па двары, а яек няма. Патрэслі мы яе, знайшлі пару дзесяткаў яек. Астатнія кудысьці запраторыла. Забралі мы ў яе падушкі...

— Падушкі нельга забіраць. Гэта парушэнне інструкцыі, — не сцярпеў Чэпікаў.

— Самагонку яна гоніць. Яйкі хавае. Дык што з ёй рабіць? — Канаплёў развёў рукі, нібы прасіў падтрымкі ў свайго шэфа. — Калі не пужнеш, хвост не прышчэміш, дык дулю ад яе і будзеш мець.

— Гэта не метад работы. Мы азлабляем людзей, — захваляваўся Чэпікаў.

— А які метад ты прапануеш? — падціснуў тонкія губы Крупадзёраў. — Па галоўцы гладзіць нядоімшчыкаў?

— Нядоімшчыкі розныя бываюць. Забіраць апошняе свінчо ў салдаткі — гэта злачынства, — не здаваўся Чэпікаў.

— Ах, які ты добранькі! А каня ў чалавека забраў. От, ляжыць скарга, — Крупадзёраў паклаў на стол шырокую чырвоную далонь і амаль закрыў аркушык паперы са школьнага сшытка. — Забраў каня. Пакінуў сям'ю без цяглавай сілы. Забіраеш збожжа ў людзей, у адзінокіх жанчын. Што ета па-твойму? Не парушэнне інструкцыі?

— Каня мы ўзялі ў аднаасобніка. Хутараніна. Жыве як кулак. Усё пад сябе грабе. А жанчына — самагоншчыца.

— Дакажы, што ён кулак. Правілы парушаеш, а тут пачынаеш разводзіць анцімоніі. Я — упаўнаважаны Наркамата нарыхтовак. Я адказваю за план! — Крупадзёраў моцна грукнуў па стале сухарлявай «жалезнай» рукой, аж зазвінеў графін, які стаяў збоку, і вада ў ім закалыхалася. — Табе вядома, што старшыні сельсаветаў, настаўнікі месяцамі не атрымліваюць зарплату. Няма адкуль узяць грошай. Вот і нада прыціснуць усіх нядоімшчыкаў... А будзеш мне перашкаджаць, здыму з работы.

— Не вы мяне сюды ставілі. І няма чаго кулаком стукаць і крычаць. Я таксама крычаць умею, — Чэпікава аж затрэсла ад хвалявання. — Піць трэба меней. Больш будзе парадку...

— Маўчаць! Тваю маць... Шчанюк! — Крупадзёраў выхапіў з шуфляды пісталет. — Прыстралю, сукіна сына...

Канаплёў кінуўся да яго, схапіў за руку. Крупадзёраў крутнуўся, адпіхнуў Канаплёва і тут жа схаваў пісталет у шуфляду, надзіва хутка супакоіўся, засунуў пудовыя кулакі ў кішэні галіфэ і ўзбуджана захадзіў па кабінеце. У апошні час ён стаў яшчэ больш грузны, скуласты, абветраны, нібы высечаны з каменю твар яшчэ мацней пачырванеў.

Чэпікаў выскачыў з кабінета на вуліцу.

У парку ціха шумелі старыя ліпы, на якіх зелянела маладое клейкае і тонкае, аж прасвечвалася, лісце. Вясновае сонца грэла шчодра і ласкава. Гракі абжывалі свае кватэры, голасна крычалі, весела цвіркалі вераб'і. Чэпікаў сеў на лаўку, закурыў.

Першае памкненне было пайсці ў райком і ўсё рас-

казаць Акапяну. Так нельга працаваць. Мы не маем права забіраць адзенне і падушкі. Забаронена інструкцыяй. Малапісьменныя вяскоўцы не ведаюць пра гэта. Сам Крупадзёраў скончыў адзін клас, нічога не чытае. Адно засвоіў: прыцiснуць, горлам браць. Усё на арапа... Канаплёў быў сведкам. Але ён можа сказаць, што нічога не чуў і не бачыў... А тут яшчэ гэтая праклятая скарга на яго, Чэпікава.

У галаве ўсё пераблыталася. Гэтую ноч амаль што зусім не спаў. Думаў, чаму раптам выклікае Крупадзёраў, потым пра сям'ю задумаўся. Цела то ў адным, то ў другім месцы свярбела, ён чухаўся, круціўся, потым не вытрываў, чыркнуў сярнічкай і ўбачыў на падушцы вялікага чырвонага клапа. Адарваў шматок газеты, з гідлівасцю злавіў яго і раздушыў.

Так і не заснуў да рання. А як пасвятлела, адзеўся і паехаў.

Чэпікаў сядзеў, курыў, памалу супакоіўся. Вырашыў схадзіць дамоў у Баравуху, пабачыць жонку, сына, адаспацца, можа, і ў лазні памыцца, а заўтра ісці ў райком.

На другі дзень ён спачатку зайшоў на работу, каб не залічылі яму прагул. Крупадзёраў чакаў яго, адразу павёў у кабінет.

— Слухай, Сцяпан Ігнатавіч, я ўчора троху пагарачыўся. З кім не бывае? Не бяры да галавы, — ён пільна зірнуў на Чэпікава, нібы вывучаў, якое ўражанне зрабілі яго словы і як сябе паводзіць далей. Чэпікаў маўчаў. — Давай міравую. Ету скаргу, — паказаў ён скамячаны аркуш паперы, — я хаваю ў стол. І ходу ёй не дам. Ты выконваў заданне. Мы ж разам былі на партактыве. Сеяць трэба калгаснае поле? Трэба. І ета ўсё спісвае. — Крупадзёраў дастаў з сейфа, што стаяў у куце кабінета, бутэльку сіняватай вадкасці, акрайчык хлеба і палову цыбулькі.

Чэпікаў сядзеў, бы ў здранцвенні. Хацелася грукнуць дзвярыма і пайсці, але ці то нерашучасць, ці гэтая праклятая скарга, ці то жаданне не абвастраць адносіны з начальствам, бо ён толькі пачаў працаваць, ці ўсё гэта разам узятае трымала яго. Яму было шкада сябе, і ў той жа час ён ненавідзеў сябе за гэтую падатлівасць, а мо і труслівасць. Але ж ён учора не збаяўся запярэчыць самому Крупадзёраву! Харчагент Канаплёў аж вочы вылупіў ад здзіўлення. Думаючы так, Чэпікаў

са злосцю кульнуў шкалік, які падсунуў яму Крупадзёраў.

— У нашай рабоце ўсякае бывае, — паблажліва ўсміхаўся Крупадзёраў, маўляў, вось і ты спірцік п'еш у рабочы час. — От ты гаворыш: нельга браць адзенне, падушкі. Ета парушэнне закону. Ведаю. Я ж не раз казаў пра ета нашым архараўцам-агентам. А калі болей няма чаго ўзяць? А план трэба выконваць. А то нас возьмуць за каўнер, спытаюць: чым вы тут займаецеся, галубчыкі? Вот і націскаем. Не прыціснеш, дык нічога і не выціснеш. Ета як бабу, калі не абдымеш, дык і нічога не зробіш, — п'янавата рагатнуў Крупадзёраў, паказаўшы здаровыя, буйныя, што ў каня, жаўтаватыя зубы. — І мне, бывае, шкада чалавека. Ёсць нядоімшчыкі, за якіх я заступаюся, абараняю...

Намеснік хацеў сказаць, што гэта якраз не самыя бедныя людзі, а тыя, хто ўмее добра пачаставаць агента, якіх і некаторыя сельсаветчыкі імкнуцца выгарадзіць. Але змоўчаў.

— От цяпер самы час націснуць на план па малаку. Па яйках адстаём... Я сянні паеду ў Гарбавічы, у Віроўку заскочу, у Зарэчча, калі паспею. Там лясы, позна ездзіць, сам разумееш... У мяне ўжо два разы стралялі. Але мяне і чорт не бярэ. Калі не ва́ліць спірт, то куля не дастане, — Крупадзёраў зарагатаў, ляпнуў па плячы свайго намесніка і нечакана сур'ёзным тонам сказаў: — А табе заданне такое. Прыйшла з вобласці папера наконт нарыхтовак сена. План вялікі. Трэба раскідаць яго па калгасах. Схадзі ў зямельны аддзел. У каго болей лугоў, таму і план спускай большы. Каб з голага не лупіць апошнюю кашулю. Разашлём заданні, хай чухаюцца. А тады спытаем, прыцiснем... Мне трэба пазваніць у адно месца. Скажы конюху, каб хутчэй запрагаў...

Так і закончылася іхняя гутарка. Нікому не прызнаўся Чэпікаў, нікому не расказаў пра сваю сутычку з шэфам. Але падумаў тады, што Крупадзёраў — чалавек злапамятны і што з ім трэба быць асцярожным, пры выпадку змяніць службу. Падумалася яшчэ, што добра было б павучыцца, бо вайна вось-вось скончыцца, і тады пачнецца новае жыццё.

## *АСАБІСТАЕ І САКРЭТНАЕ ПАСЛАННЕ ПРЭМ'ЕРА І. В. СТАЛІНА ПРЭЗІДЭНТУ ЗША пану ТРУМЭНУ*

*Ваша пасланне адносна аб'яўлення аб Дні Перамогі ў Еўропе атрымаў 5 мая.*

*Згодзен з Вашай прапановай, каб мы ўтрох — Вы, пан Чэрчыль і я — зрабілі адначасова адпаведныя заявы. Пан Чэрчыль прапануе ўстанавіць гэты час — тры гадзіны пасля паўдня па брытанскім летнім часе, што адпавядае чатыром гадзінам пасля паўдня маскоўскага часу і дзевяці гадзінам раніцы па вашынгтонскім часе. Я паведаміў пану Чэрчылю, што гэты час для СССР зручны.*

*6 мая 1945 года.*

## XXX

Вясна выдалася цёплая, дружная. Пасля снежнай зімы Бесядзь затапіла ўсе паплавы — ад вёскі і да лесу разлілася паводка, толькі віднелася рудая макаўка Бургаўцова кургана, ды тырчалі там-сям вершаліны альховых кустоў, вызначаючы віхлястае рэчышча Бесядзі.

Радасны быў настрой у хатыньчан — канчалася вайна, нашы аблажылі ўжо фашысцкі берлаг, Берлін. Вёска чакала сваіх гадаванцаў. Змучаныя непасільнай працай і горам, згаладалыя ад нястачы хлеба і мужчынскай пяшчоты, з нецярпеннем чакалі жанкі сваіх гаспадароў, мацеры — сыноў, дзяўчаты марылі аб сустрэчы з каханымі. Поле чакала ратаяў, а сенажаць — касцоў.

Рана ўкрыліся цветам у той год вішні. Праўда, ацалела іх на Шамаўцы не дужа багата, але затое стаялі яны над зямлянкамі і папялішчамі белыя, акурат аблітыя малаком, быццам цвілі і за тых, што загінулі ў вогненным смерчы.

Неяк адвячоркам завітаў да Сахутаў Арцём, узбуджаны, як заўсёды ў кужалёвай кашулі навыпуск, на бурым ад вясновага сонца твары паблісквалі невялікія зеленаватыя вочы.

— Ну, Кацярынка, крычы «ўра!». Значыцца-брат, Гітлеру капут. Нашы ўзялі Берлін. Цягні бутэльку.

Вып'ем за перамогу, — ад яго патыхала ўжо гарэлкай, але душа прасіла яшчэ, бо столькі гадоў партызанскі сувязны жыў прадчуваннем гэтага дня.

— Дзякуй, Арцёмачка, за добрую вестку. Слава табе госпадзі. Можа, хоць цяпер уздыхнём і зажывём палюдску. От выпіць жа ў нас няма, — пашкадавала маці. — З чаго яе выціснеш, той гаркухі?

— М-да, значыцца-брат, дзе ж знайсці? Слухай, дзеўка, — зеленаватыя вочы з мальбою зірнулі на Марыну. — Ці няма ў цябе спірціку? Хоць бы кроплю...

«Кропля» мелася, яе ашчадна блюлі на лякарства, але тут адмовіць было немагчыма. І на стале паявілася стограмовачка чыстай, як сляза, вадкасці. Павесялелы Арцём крэкнуў і каўтануў сліну.

— Андрэйка, падай вады, — сказала Марына. — Развядзём.

— Ну што ты, дзеўка! Псаваць такое зелле! — замахаў рукамі Арцём. — Ты мне, значыцца-брат, налі чысценькага. А сабе развядзіце...

Пасля кроплі сусед яшчэ болей павесялеў, паклікаў да сябе Андрэйку, пагладзіў па галаве цёплай шурпатай далонню, а потым тройчы цмокнуў мокрымі губамі, колячы шчэццю дзіцячыя шчокі. Малы не ведаў, куды дзецца, бо не прывык ён да пацалункаў.

— Ета калі я прыйшоў у атрад... Увосень дзела было, — пачаў апавядаць Арцём. — Усю ноч ліў дождж. Вымак я да ніткі. Пасінеў ад холаду, дрыжу як цуцык. Зуб на зуб не пападае. Перадаў звесткі. А я перад етым з'ездзіў у Саковічы. Там у гарнізоне знаёмыя бобікі былі. Я ім гарнец самагону. Яны, значыцца-брат, языкі паразвязвалі... Я ўсё наматаў на вус... Ну, і перадаў партызанам. Начальнік разведкі кажа: «Маладзец, Шандабыла, добра разнюхаў. Даць яму стакан спірту». Пеканўў я дзвесце грамаў чысценькага... Етага самага, фірціхвікату...

— Рэкціфікату, — папраўіла Марына.

— Во, во, етага самага, раціхвікату, — радасна падтакнуў Арцём. — І так жа мне стала цёпла ў грудзях... Быццам у лазні венікам цёпаюся. Толькі грэе з сярэдку, а не звонку... От, значыцца-брат, як было. А каб не спірт — запаленне лёгкіх. Хвакт. Не адкруціўся б, — Арцём тым часам скруціў цыгарку, старанна паслініў краёк газеты, каб склеілася, дастаў красала, пачаў высякаць агонь.

Маці па-свойму скарыстала гэтую паўзу:

— Арцёмачка, што нам рабіць са сваімі соткамі? Матыкаю не дасі ім рады. Пад грады мы сяк-так з Марынай ускапалі.

— Ой, Каця, не пытайся, — Арцём пусціў клуб шызага дыму, ягоныя вочы амаль схаваліся пад густымі рудаватымі бровамі. — Загадана коней нікому не даваць. Пакуль не адсеемся ў калгасе. Коней мала. Ды і слабыя яны, ад ветру валяцца. На каровах возім гной. Парасся на сваёй Красулі, яе ж карова ялаўка сёлета, вывезла паўсотні вазоў гною. Выступіла на сходзе і кажа: лепшым помнікам майму мужу будзе мая ўдарная работа... Учора яна матыкаю дванаццаць сотак ускапала.

— Дык і я капала. Бог ведае, што там вырасце. У калгасе поле вялікае. А тут колькі таго гароду, — пачала маці.

— Я ж і кажу, што калгаснае капаем уручную. Парцюкоўцы матыкамі ўздзіраюць. Норма — пяць сотак... Трэба збірацца па некалькі сем'яў і на сабе араць. Хоць пад скараспелку. Астатняе потым, — Арцём зноў зацягнуўся, выдыхнуў дым. — Старшынёй быў — мучыўся. Цяпер во брыгадзірам пакутую. Ламай галаву. А ў мяне, значыцца-брат, граматы кот наплакаў. Адну зіму хадзіў у школу...

— А я ж ніводнай зімы не хадзіла. Нас толькі і вучылі малітвам. «Отчэ наш...» А жыць во трэба. Дзяцей гадаваць, — уздыхнула маці.

— Навошта ля печы грамата? Што карове сядло, — Арцём кашлянуў у кулак, пашкроб заскарузлымі пазногцямі валасатыя, ужо з сівізной грудзі, зірнуў за акно: — Што ета за бабы пайшлі з хатылямі? Не пазнаў.

Маці таксама падышла да акна.

— Незнаёмыя. Не нашы. Здалёк аднекуль. Да знахаркі Домны, пэўна, ідуць. Казалі бабы, што яна ўгадвае. Белагорскай адной сказала: жывы твой мужык, раніты. І праўда, пісьмо прыслаў...

— Як жа яна ўгадвае? — здзівіўся Андрэйка.

— Варожыць на планеты. Ноччу зірне ў неба і бачыць, што да чаго, — сказала маці.

— Халеру яна бачыць, — хмыкнуў сярдзіта Арцём. — Прыйшла да яе адна баба з Саковіч. Ну, сала, яек прынесла. Домна кажа: заставайся, увечары, як

сцямнее, паварожым на планеты, убачыш свайго мужыка. Баба засталася. Домна тым часам падвучыла свайго большага сына. Калі сцямнела, ён пад акно — нык. Баба тая са страху і самлела. А Домна кажа: «Твой мужык. Бачыш, жывы...» Дурыць людзям галовы ета Домна.

Па вуліцы ішла маладая жанчына ў белай хусце з вузельчыкам у руках.

— А што ж ета за маладзіца? — зірнуў Арцём у акно.

— Ета Прося з Парцюкоўкі, — сказала маці. — Ну, паліцая Варанёнка баба. Ці не ў Белую Гару хадзіла? А можа, і яна варажыла ў Домны пра свайго? Не чутна ж пра яго нічога?

— Ды не. Як збег з немцамі, дык ні слыху ні дыху.

Арцём неахвотна падняўся з лаўкі, яшчэ раз кашлянуў у кулак.

— Ну, дзякуй табе, Кацярынка, за чарку. Не бядуй наконт сотак. Неяк жа будзе. Пасеем. Можа, Мацвей прыйдзе. Вайна ж кончылася...

Дні праз тры раніцай прыехаў бацька. На гэты раз ён быў весялейшы, прывёз усім падарункі: Васілю — кубанку, казацкую, са стужкамі накрыж, і новыя чырвоныя бахілы на буркі, Андрэйку таксама бахілы і сінюю сацінавую кашульку. Малы надзеў яе, разгладзіў, дзе пакамячылася, зашпіліў дрыготкімі ад хвалявання рукамі гузікі, зірнуў у мутнаватае люстэрка, усыпанае мушынымі кропкамі, і не пазнаў сябе: расчырванелы ад радасці хлапчук з доўгай шыяй і круглай, бы качан, галавою, з адтапыранымі вушамі глядзеў на яго.

— Ого, падрос наш Андрэйка, — бацька паклаў яму на плечы цёплую руку. — Але худы, як бубен. Ну нічога, вайна скончылася. Будзем памалу ад'ядацца.

Ад'ядацца не было на чым, а для дарослых і не было калі. Бацька прывёз даўжэзную шырокую пілу з вялізным зуб'ем.

— Прадольная піла называецца. Будзем з бацькам дошкі пілаваць, — важна, з радасцю сказаў Васька.

О, каб ён ведаў, колькі поту пралье над гэтымі дошкамі, стоячы высока на калодзе, умацаванай на козлах, цягнучы ўгору цяжкую пілу. Яна зубцамі ўгрызалася ў дрэва па шнуры, бацька цягнуў яе ўніз, і з-пад зубцоў сыпаўся струменьчык пілавіння. Андрэйка зайздросціў брату, бо яму, Андрэйку, пакуль што давялося толькі

рэзаць дровы пілою-папярочкаю, якую бацька прытарабаніў зімою. Марына з Васькам пілавалі ёю дровы, ды і ўсе суседзі хадзілі да іх прасіць пілы. Маці нікому не адмаўляла, піла так затупілася, што бацька дзіву даўся:

— Ну дабілі пілу да ручкі. А развод які! — ён узяў металічную разводку з прораззю, прыжмурыў вока, зірнуў на святло і пачаў адгінаць зубцы ў бакі, раўняць іх. А потым напілкам узяўся вастрыць іх. Андрэйка ўсё глядзеў і слухаў: піла тонка і меладычна звінела. Бацька не праганяў яго, а ласкава і ўсмешліва пазіраў на сына і спяваў песеньку:

Маменька родная, сердце разбитое,
Милый не хочет любить...

Зрэдку бацька мацаў зубцы пальцамі, зноў шараваў напільнікам.

— Ужо войстрая, так? — пытаўся Андрэйка.

— Яшчэ не саўсім. Грэцкае зерне бачыў?

— Бачыў. А што?

— Дык вось яно войстрае і колкае. Так і пілу трэба вайстрыць. Кончыкі зуб'яў сточваць... Настаўніца ў школе ставіла нас у вугал на грэчку. За прадзелкі розныя. За правіннасць.

— Чаму на грэчку?

— Таму што балюча. Ну-ка пастой на каленях на грэчцы! Як урэжуцца зярняткі ў калені — страх. Ого, ета дзела не шуцейнае...

Яны сядзелі за хатаю на сонейку. Там іх і адшукала маці. Андрэйка заўважыў, што яна памаладзела за гэтыя дні, і вочы яе паглядалі на свет весялей.

«Як добра, што няма болей вайны. Татка дома. І сонейка такое цёплае», — падумаў Андрэйка, радуючыся вясне.

— Што будзем рабіць, Мацвей? Зямля перасыхае... Бульба павяла. Расткі пруць. Трэба садзіць. Скарэй нешта вырасце. Можа, схадзі да старшыні, га? Парасся і Гылігор на сабе збіраюцца араць. Дык, можа, і нам трэба...

— Ну во, ваявалі, змагаліся... Гітлера перамаглі. Цяпер у плуг запрагайся, — бацька рашуча падняўся. — Пайду да старшыні.

І ўсё ж давялося самім запрагацца ў плуг. Людзей сабралася многа, дарослых і малых. Андрэйка рада-

ваўся і глядзеў на гэта, як на свята. Але бацька быў хмурны, маўклівы.

— Мацвей, станавіся ў корань. Ці, можа, мне? Мы, бабы, жылістыя, цягавітыя, — пацвельвалася Параска.

— Языком мянціць вы майстры, — бацька ўскінуў на плячо вяроўку, зачэпленую за ворчык, які быў прывязаны да драўлянага плуга, металічны лямеш яго блішчаў, як люстэрка. — Паспрабуем, — што з етага выйдзе, — бацька агледзеў сваю арцель.

Побач з ім стала маці, з другога боку — Параска, ззаду Вольга, яе брат Віцька, Гылігорыха і Васька, якому Андрэйка пазайздросціў: Васька ва ўсім дапамагаў бацьку, Андрэйку ж нікуды не бралі.

Дзед Гылігор папляваў на далоні, узяўся за ручкі плуга.

— Ну што, людцы, раз-два, узялі?! — крыкнуў ён.

Усе ўпёрліся нагамі, напружыніліся, плуг уехаў у зямлю, зацярушаную падсохлым ужо гноем, узвярнуў першую лусту. Працягнулі крокаў дзесяць, спыніліся. Усе цяжка дыхалі, глядзелі на свежую разору, і ў кожнага былі свае думкі:

«Якая ж ты цяжкая, зямелька родная... Як жа ўвесь гарод узараць? Палівалі цябе, зямелька, крывёю, а цяпер потам салёным...»

«Пачатак ёсць. Каб не людзі-суседзі, што б мы адны зрабілі? Калі сяння пасадзім бульбы хоць троху, дык хутчэй вырасце...»

«Каб я быў дужы, як асілак Каваль-Вярнідуб... Я б адзін цягаў плуг. Усе б толькі глядзелі і дзівіліся...»

— Андрэйка, і табе работа ёсць. Вазьмі грабелькі і спіхвай гнаёк, які ля краю ляжыць, у баразёнку. Каб яго лепей зямлёй прысыпала, — бацька паказаў, як гэта робіцца, і зноў заняў сваё месца.

— Раз-два, узялі! — зноў скамандаваў дзед Гылігор.

Плуг павольна, як бы нехаця, уехаў у зямлю.

Андрэйка ішоў услед за дзедам Гылігорам па вільготнай халаднаватай разоры, падчэпліваў граблямі камякі гною і спіхваў іх уніз, каб наступным пластам іх накрыла, гной у зямлі разапрэе, і ўсё будзе добра расці.

Праехалі некалькі разоў ад канца да канца гарода і спыніліся. Твар у бацькі быў чырвоны, пот руччом цёк па шчоках, пад выгаралай гімнасцёркай высока ўздымаліся плечы — бацька шумна дыхаў, як загнаны конь.

Маці вынесла з хаты збанок кіслага малака і карэц.

— О, сыракваша, ета дзела. У гарачыню найлепшае пітво, — стары Гылігор чабурэхнуў поўны карэц і адным духам выпіў.

— Ты дужа не затаміўся. Услед за плужком лацвей. Пацягай-ка, як мы. Мацвей, можа, памяняемся? А то грыжу нажывеш, — перавязвала белую хусту Параска. — Дажыдала жонка, дажыдала ды зноў будзе пасціцца...

Усе заўсміхаліся, а бацька весела адказаў:

— Цябе, балаболку, куды ні пастаў — у корань ці ў прысцяжныя, аднолькава толку.

— Не скажы, Мацвейка. А хто ж цягне? Нут-ка, адзін паспрабуй. І мы з Вольгай улегцы не ідзём.

— Хлопцы цягнуць. Віцька і Васька, — бацька з любасцю зірнуў на іх. — Толькі вы не дужа выпінайцеся. Мы — старыя коні. А ў вас яшчэ ўсё наперадзе.

— Хлопцы, чуеце, куры закудахталі. Ідзіце паглядзіце, можа, яец нанеслі на цалкавуху-яечню, — падміргнуў ім дзед Гылігор, але хлопцы нерашуча стаялі. — А то я нешта хачу расказаць... Тое не для вашых вушэй.

— Зірніце, можа, і праўда яйкі ёсць, — сказала маці. — І ты, Андрэйка, збегай.

Калі хлапчукі адышліся, дзед Гылігор пачаў:

— Раскажу вам старадаўні жарт. Паехаў мужык уранні ў поле араць. Апоўдні прыносіць яму баба полудзень. Ну, там сальца, яйка, гаршчок крупені. Сеў ён есці, а баба напроці. Раней жанкі не насілі там розных рыйтузаў ды панталонаў...

— Мы і цяпер іх не носім. Мы ж не гарадскія, — хмыкнула Параска. — Затое лепш праветрываецца...

— Я ўжо даўно не правяраю, што там бабы носяць. Дык вось сеў ён есці, а напроця яго села жонка. І ўся яе гаспадарка на віду. Сёрбае чалавек крупеню ды пазірае. І раптам пачаў у яго гаршчок круціцца. Ён заціскае яго між каленяў, а гаршчок усё роўна ходырам ходзіць. Не вытрываў мужык: «Жонка, схавай хвеню, а то разаллю крупеню...»

— Ох, стары шкоднік, — замахнулася на яго Вольга. — І не брыдка, дзеду, гаварыць такое?

— Што ж тут брыдкага? Усё жыццёвае, — зарагатала Параска.

Тым часам вярнуліся хлапчукі, Васька паказаў тры яйкі.

— Каця, я магу пазычыць дзесятак яек. Дык і будзе добрая яечня, — сказала Гылігорыха.

— Ці чулі, людцы добрыя? Век пражыў, а не ведаў, што і мая Самкліда можа быць шчодраю, тараватаю, — рагатаў дзед. — Учора я абшукаў усё, ніводнага яйка не знайшоў. Дзе ты хаваеш?

— Ты яшчэ багата чаго не ведаеш, стары баламут. Здзяцініў саўсім. Грэеш во зубы на сонцы...

— Каб жа яны былі, тыя зубы, я б з радасцю грэў іх, — блазнаваў стары.

— Ну што, паехалі? Раз-два, узялі! — крыкнуў бацька, і плуг пасунуўся далей.

— Цішэй, цішэй, а то я не паспею за вамі. Вот ета брыгада! — дзед Гылігор ледзь паспяваў за плугам.

— А ты што думаў, Аўціхавіч? Брыгада ух, кожны цягне за двух! — выдыхнуў бацька, калі спыніліся, бо зноў спатрэбілася перадышка.

Спыніўся і Андрэйка, апусціў цяжкаватыя для ягоных рук граблі і неспадзявана ступіў на кляцы, а грабільна стукнула яго па лобе. Стары Гылігор гэта ўгледзеў і не змоўчаў:

— Як, грабількі моцна б'юцца? Прывыкай. А то адзін хлопец пабыў у горадзе, прыехаў двору на пабыўку, убачыў граблі і пытае ў маткі, што ета такое? Тая і вочы вытарашчыла ад здзіўлення. А сын тым часам наступіў на клец, а грабільна яго па галаве як трэснула. Дык ён тады і кажа: «Фу, как больна бьются грабли!» Адразу ўспомніў, шылахваст еткі...

Усе зарагаталі. Выціраючы змакрэлы лоб, рагатаў бацька, смяяліся Параска з Вольгай, асабліва заліваліся Віцька і Васька, у іх аж насы хадзілі ўпрысядкі ад смеху.

Маці падбегла да Андрэйкі, пагладзіла цёплаю далонню лоб:

— А мой татулечка, больна стукнула? Гузака не відно. Нічога, сынок. Можа, затаміўся? Сядзь на мяжы, пасядзі.

— Не, я буду тут. Хай Васька ці Віцька возьмуць граблі, а я хачу плуг цягнуць, — ціха сказаў малы.

— Ну, герой у нас расце. Чуеш, Мацвей, малец твой хоча араць плугам. Во ты куды дзівіся! — ухмыльнуўся Гылігор.

— Усяму свой час. Перадыхнулі? Паехалі далей, — весела сказаў бацька.

З высокага майскага неба свяціла ласкавае сонейка. За хатаю зацвітала вішня. На страсе спяваў чырванагруды шчыгол. Андрэйку зрабілася весялей на душы, ён нават парадаваўся, што яму стукнула грабільна, бо ўсе развесяліліся. І бацька смяяўся. А калі людзі смяюцца, значыць, ім добра. Горш, калі чалавек плача, бядуе, тады і самому Андрэйку хочацца плакаць, нешта зрабіць, каб суцешыць чалавека, а што, ён не ведаў.

Шчыгол звонка спяваў, заліваўся.

— Пэўна, там яго гняздо пад страхою, — адзначыў для сябе Андрэйка. — Добра яму жывецца. Сядзіць, спявае... Не трэба зямлю араць, бульбу садзіць. Птушкам лепей за ўсіх жывецца. Куды захацеў, туды і паляцеў...

— Кідай работу! Пайшлі гарэлку піць! — пачуўся гучны мужчынскі голас.

— А божачкі, ета ж Пархвір Патапавіч! — першай пазнала вяскоўца з бліскучымі пагонамі, перацягнутага рамянямі, Параска.

Вайсковец падышоў бліжэй, зняў фуражку, пачаў з усімі цалавацца, падаў руку, як дарослым, Ваську і Віцьку, лёгенька тузануў за віхор і цмокнуў у шчаку Андрэйку. Рука ў яго была мяккая, белая, ад валасоў патыхала адэкалонам.

— Дык што, Мацвей, выходзіць мы за гэта кроў пралівалі? Што за парадкі тут? — сярдзіта сказаў вайсковец.

— А што зробіш? Хадзіў я да старшыні. Макар Казакевіч цяпер старшынёю. Рад бы, кажа, памагчы, але коней няма, вупражы няма. Канюшня згарэла пры немцах, — бацька ўздыхнуў. — Вось такія парадкі. А чакаць няма калі...

— Трэба напісаць у раён. Хай разбяруцца. Форменнае безабразіе, — не сунімаўся вайсковец. — На сабе зямлю араць!..

— Пакуль там разбяруцца, дык і вясна пройдзе, — падаў голас дзед Гылігор. — Давай-ка, Патапавіч, запрагайся. Падсабі...

— Памажы, браточак, — падышла да вайскоўца маці. — Дзякуй богу, што вярнуўся жывы, здаровенькі.

Вайсковец павольна, неахвотна расшпіліў рэмень, быццам чакаў, што нехта скажа: «Не трэба табе цягаць плуг», зірнуў на свае блішчастыя боты і, асцярожна ступаючы па зямлі, пайшоў да плуга, стаў побач з

Мацвеем. Тады Кацярына ўзялася за вяроўку каля Ваські.

«Добра, што дзядзька Пархвір падышоў. Тату лягчэй цягнуць. Болей сянні ўзаром, болей пасадзім бульбы. Яна вырасце, будзем сытыя. Праснакі маці будзе пячы, камы таўчы», — думаў Андрэйка і адчуў, як хочацца яму есці, хутчэй бы маці спякла яечню, каб толькі Гылігорыха не забылася, што паабяцала пазычыць дзесяць курыных яек.

З прыездам бацькі Андрэйка адчуў сябе смялейшым, жыццё нібы перамянілася. Раней ён зайздросціў хлапчукам, якія маглі прыгразіць каму-небудзь: не чапай мяне, а то бацьку скажу, дык ён адлупцуе цябе. Андрэйка нікога не страшыў сваім бацькам, бо цяпер усе і так ведалі, што яго бацька вярнуўся і можа заўсёды абараніць свайго сына.

І маці павесялела. І Марына, здаецца, стала яшчэ прыгажэйшай, ды і каса яе адрасла, ужо амаль такая, як некалі была. А Васька той усюды быў з бацькам, усё яны рабілі ўдвух.

«Можа, і Пятрок наш вернецца. Тады саўсім будзе добра», — Андрэйка ўзяў граблі і рушыў па разоры ўслед за плугам.

## XXXI

Сяргей Хачатуравіч Акапян быў у добрым настроі: маючы ўсяго дзесятак трактараў на паўтараста калгасаў, раён заканчваў пасадку бульбы, і ён вырашыў адрапартаваць у вобласць.

— Малайцы! Як гэта вам удалося? — ракатаў у трубцы густы бас Марчанкі, сакратара абкома.

— Мабілізавалі ўсе рэзервы. Паднялі ўвесь народ. Рыдлёўкамі, матыкамі дзяўблі зямлю. Нарыхтавалі багата верхавінак. Упаўнаважаныя райкома днявалі і начавалі ў калгасах, — заліваўся Акапян.

Пракапенка сядзеў ля стала, моршчыў лоб: ён-то ведаў, што яшчэ не ўсе калгасы поўнасцю закончылі пасадку бульбы, але разгон узялі, людзі сапраўды працуюць з цёмнага да цёмнага і праз дзень-два закончаць. Ён і гаварыў, што варта пачакаць, але Акапян яго і слухаць не стаў:

— Ты што, душа любезны? За два дні ўсе адрапар-

туюць, і мы будзем апошнімі. Смялей, Антон Яўсеевіч! Зроблена многа. Дзе які гектар застаўся, сёння-заўтра пасадзяць і там, — сказаў ён і рашуча ўзяўся за тэлефон.

Па тоне размовы Пракапенка адчуваў, што кіраўніцтва імі вельмі задаволена, і ў думках апраўдваў Акапяна, хоць у глыбіні душы варушыўся чарвячок сумнення: не зусім гэта чэсна ці так трэба?

— Наконт пазыкі? — перапытаў Акапян і бліжэй падсунуў нумар раённай газеты, схіліўся ніжэй, бо шрыфт быў драбнаваты, не дужа выразны. — Пачалі добра... Не завалім, Іван Сямёнавіч. Канечне, ёсць цяжкасці. Вы ж ведаеце, палова вёсак спалена... Мы паднялі ўсё і ўсіх на ногі. За першыя гадзіны пятага мая, як толькі была аб'яўлена пастанова аб выпуску пазыкі, па раёне падпісалася тысяча трыста чалавек. На шэсцьсот дзве тысячы рублёў. Ну, потым знізілі тэмпы. Хто меў грошы, той аддаў. А калі няма? Будзем старацца, Іван Сямёнавіч. Дзякуй, перадам усім. Паперу падрыхтуем. Сёння адправім...

Акапян паклаў трубку, дастаў з кішэні хусцінку, выцер лоб, прыгладзіў кучаравыя, з ніткамі сівізны валасы.

— Віншую, душа любезны. Мы — трэція ў вобласці. Перадавікі, ёлкі-маталкі, — Акапян узрушана захадзіў па кабінеце. — Як бы выцягнуць нам пазыку? Гэта ён сказаў, што пачалі добра, здзівілі, маўляў, нас і ўзрадавалі, а цяпер знізілі тэмпы. Але нічога, добры пачатак — палова справы.

Пракапенка падсунуў да сябе газету. «Ні аднаго працоўнага без аблігацыі Чацвёртай дзяржаўнай ваеннай пазыкі», — буйныя літары загалоўка над тэкстам Зварота. «Гэта пазыка канчатковай Перамогі над фашысцкай Германіяй...» — выхапілі вочы знаёмыя радкі. Пракапенка ведаў амаль назубок тэкст Зварота.

Колькі разоў ён чытаў яго людзям! Часцей пераказваў сваімі словамі. Тады слухалі з большай увагай. Калі гаварыў і глядзеў людзям у вочы — салдаткам, інвалідам, падлеткам, што працавалі за дарослых мужчын. Сэрца Пракапенкі поўнілася дабрынёй і спагадай да гэтых людзей, на плечы якіх выпаў нялёгкі лёс. Яны жывуць цяжка, бедна, але з надзеяй на лепшую долю. А тыя, што загінулі?.. Для іх ужо ніякіх надзей не існуе...

Канчаўся Зварот словамі: «Няхай жыве наш друг, правадыр і настаўнік — Маршал Савецкага Саюза Вялікі Сталін».

— Слухай, душа любезны, ты патрыёт свайго раёна ці не? — Акапян ва ўпор глядзеў на Пракапенку.

— Канечне, патрыёт. Гэта мая радзіма. Я тут нарадзіўся. І мае бацькі... Даўно працую...

— Гэта ўсё правільна. А от скажы мне, душа любезны, не сорамна табе, што ў наш Дом культуры зайсці нельга. Канюшня. І ты, старшыня райвыканкома, разам са сваім загадчыкам аддзела культуры і ў вус не дзьмеш.

— Адкуль што ўзяць, Сяргей Хачатуравіч? Матэрыялаў няма, людзей — няма. Грошай не адпусцілі на рамонт. Можа, у будучым годзе?

— А калі і ў будучым годзе не дадуць? Дык і сядзець будзем у канюшні? Вайна скончылася. Людзі павінны жыць нармальна. Моладзь ладзіць танцы, вечары, кіно глядзець. Гэта ж палітыка... Трэба нешта думаць. — Акапян сеў за стол, узяў тоўсты чырвоны аловак, задуменна пастукаў ім. — А што, калі мы знойдзем дзесятак майстроў у вёсках? Ну, прыгарадных, бліжэйшых. Папросім іх прыйсці са сваім інструментам...

— Але ім трэба заплаціць. Людзі голыя, галодныя, — запярэчыў Пракапенка, хоць прапанова Акапяна захапіла яго, бо сам не раз думаў пра гэта. — Можа, кінуць кліч: хто колькі дасць на аднаўленне Дома культуры? Падпіску...

— Тады пазыку канчаткова завалім. Давай так зробім. Спачатку трэба знайсці дзесятак майстроў. А потым паслухаем іх. Што яны скажуць, што запатрабуюць. Мо аднаму лесу трэба выпісаць, каму нейкую льготу... Даручы талковаму чалавеку, каб ён гэтым заняўся.

Талковым чалавекам аказаўся Даўгалёў. Яму было дадзена тэрміновае заданне. Праз пару дзён на стол Пракапенкі ён паклаў спіс дзесяці майстроў. А неўзабаве і самі яны былі ў райвыканкоме. Праўда, прыйшло дзевяць, адзін чалавек захварэў — малярыя.

Цеслі ў адзін голас заявілі: здыміце з нас падаткі, і мы зробім Дом культуры, як цацку. Акапяна гэта не здзівіла: «Затое ім не трэба плаціць. А падаткі як-небудзь спішам». Ён выклікаў да сябе Крупадзёрава і загадчыка райфа. Тыя моўчкі выслухалі.

— А як жа план, Сяргей Хачатуравіч? Можа, не трэба выконваць? — ухмыльнуўся Крупадзёраў.

— План павінен быць, душа любезны. Зрабіць трэба так, каб і воўкі сытыя і авечкі цэлыя...

— Зробім, Сяргей Хачатуравіч. Трэба дык трэба, — запэўніў загадчык райфа, невысокі круглатвары мужчына з кругленькім брушкам, якое ён стараўся прыціснуць шырокім афіцэрскім рэменем.

Цеслі не верылі абяцанням і патрабавалі гарантый. Тады загадчык райфа выдаў кожнаму з іх паперу з пячаткаю, дзе было сказана, што грамадзянін такі-то вызваляецца на сёлетні год ад падаткаў. Крупадзёраў быў хітрэйшы і ніякіх папер не выдаў. Статысты адшукалі ў кнігах уліку прозвішчы цесляроў, гэтыя старонкі ён пераклаў напалам і сказаў не чапаць да асобых указанняў. Асобыя ўказанні паступілі. Але гэта будзе пазней.

Цеслям трэба было забяспечыць фронт работ. Аб'явілі суботнік. Акапян разгружаў лес разам з іншымі раённымі кіраўнікамі, насіў бярвенне, пілаваў, бо разумеў, што добры прыклад — найлепшая агітацыя.

Майстры ўзяліся за справу. Яны ў Доме культуры і начавалі, балазе ночы былі цёплыя, кароткія. Прачыналіся разам з сонейкам і пачыналі цюкаць тапарамі, звінелі пілы, шоргалі гэблікі. Цеслі зрабілі новую сцэну, паклалі падлогу ў зале, у фае, ва ўсіх пакоях, уставілі новыя аконныя рамы, адрамантавалі печы, пабялілі сцены.

Акапян часцяком заходзіў на будоўлю. Душа яго радавалася: будзе ў Лабанаўцы Дом культуры, як новы, не сорамна зайсці сюды, канцэрт наладзіць, партактыў ці канферэнцыю настаўнікаў правесці. А мо прыедуць артысты з Мінска, будзе і ім дзе выступіць.

І тут грымнуў гром сярод яснага неба. Прыбег аднойчы ў райком загадчык райфа, усхваляваны, задыханы, твар яго быў у чырвоных плямах:

— Што, душа любезны? Хто за табой гнаўся? Ці маладую дзяўчыну даганяў? — як заўсёды, вясёлы, сабраны, падцягнуты, з усмешкаю сустрэў яго Акапян.

— Бяда, Сяргей Хачатуравіч. Званілі з вобласці. Нехта напісаў у Мінск, што мы незаконна вызвалілі людзей ад падаткаў. Ну, гэтых майстроў... Едзе камісія...

— Знайшоўся-такі гад, напісаў, — Акапян спахмур-

неў. — От людзі, для іх жа стараешся... Такой бяды, гэтая камісія. Што яна знойдзе? Дом культуры адрамантаваны. Усё як мае быць.

— Мы ж выдалі даведкі цеслям... Яны патрабавалі, не верылі абяцанням. У даведках сказана, што яны вызваляюцца на гэты год ад падаткаў...

— Гэта горш, — Акапян задуменна мераў свой кабінет. — І Крупадзёраў таксама выдаў?

— Не. Раз мы выдалі, то майстры супакоіліся. Паверылі.

— Хітрун Крупадзёраў. Ідзіце працуйце. Усё будзе добра. Для сябе мы не ўзялі нічога. Толькі для людзей. У турму за гэта не садзяць. Адказваць будзем разам. Вы выконвалі маё даручэнне. Я бяру на сябе...

Загадчык райфа трохі павесялеў, супакоены выйшаў з кабінета. Цяпер ужо задумаўся Акапян. Лёгка сказаць: бяру на сябе. Трэба знайсці выйсце. А што, калі ўзяць гэтыя даведкі назад? Але як іх узяць? Трэба паслаць некага з райкомаўцаў. Каго? Пажадана, каб гэта была жанчына... Азаравай даручыць? Не, сакратар райкома занадта салідны ўзровень для такой місіі. Акапяну падабалася Азарава як жанчына, ён, бывае, нават на бюро непрыкметна любаваўся ёю, але ніякіх там шашняў ён і дапусціць не мог нават у думках: а раптам гэта стане вядома? Сорам, ганьба, ён — чэсны камуніст, добры сем'янін. Калі не было тут жонкі, цяжкавата пераносіўся мужчынскі пост, а цяпер сям'я разам.

Праўда, усё роўна Азарава падабалася яму, як і раней, але выклікаў яе ў кабінет не часта, толькі ў неабходных выпадках. Сам стараўся быць заўсёды акуратным. Іншы раз, калі збіраўся на работу, думаў, што сёння ў іх нарада, ён збярэ ўсіх супрацоўнікаў, будзе і Азарава, і таму галіўся з асаблівай стараннасцю.

Словам, ублытваць Азараву ў гэтую справу не выпадала. А што, калі даручыць загадчыцы аддзела прапаганды Ніне Гаўрыленка? Маладая, энергічная, смелая. Аднойчы на пленуме райкома яна здорава выступіла. Зойдзе ў хату, пагаворыць пра жыццё-быццё і як бы між іншым спытае, дзе там у вас такая паперка. Хай прыдумае што-небудзь. І разам са старшынёй сельсавета, для большага даверу.

Акапян выклікаў да сябе загадчыцу аддзела агітацыі і прапаганды. Міжволі зірнуў на ногі, каб убачыць

тыя славутыя чаравікі з банцікамі. На загарэлых да каленяў нагах, стройных, паўнаватых, цяпер былі белыя шыракаватыя ў мысах танкеткі. Ніна Пракопаўна ўлавіла яго позірк, падціснула ногі пад крэсла, разгубілася, пачырванела.

— Як вам працуецца, Ніна Пракопаўна? — Акапян і голасу прыдаў спакойны, ласкавы тон.

— Нічога. Усяк бывае.

— Вось Дом культуры мы адрамантавалі. Трэба падумаць, каб актывізаваць там палітыка-масавую работу. Мастацкую самадзейнасць ажывіць... Вайна скончылася. Жыць трэба весялей. — Акапян убачыў, як увачавідкі пасвятлеў твар дзяўчыны, і падумаў, што яна, мабыць, чакала ад яго нейкай прачуханкі, наганяю, а тут добразычлівая гутарка старэйшага камуніста, кіраўніка з маладым таварышам па партыі.

Акапян рыхтаваўся да сустрэчы. У календары ўбачыў, што набліжаецца гадавіна з дня смерці Максіма Горкага, вырашыў сказаць і пра гэта:

— Праз месяц спаўняецца гадавіна з дня смерці Горкага... Вялікі пралетарскі пісьменнік... Падумайце, як арганізаваць вечар яго памяці. Даручыце бібліятэцы, раёна падключыце. Гэта ж і дружба народаў, і дружба літаратур. Так, душа любезны?

— Так, Сяргей Хачатуравіч. Можа быць вельмі цікавы вечар. Абавязкова арганізуем. Дзякуй вам за параду.

— А хто гэта напісаў «Партызаны, партызаны, беларускія сыны...»?

— Гэта верш Янкі Купалы.

— Здорава напісаў. Малайчына. І яму вечар прысвяціць, іншым пісьменнікам. Каб не толькі кіно і танцы былі ў нас у Доме культуры. Рамантавалі мы яго няпроста і нялёгка. Па сутнасці, новы пабудавалі. І трэба, каб Дом культуры не пуставаў... Вы не ўсё ведаеце, як будавалі...

Акапян расказаў пра даведкі, якія выдалі майстрам. Пра камісію вырашыў не гаварыць.

— Вам, Ніна Пракопаўна, даручаецца гэтыя даведкі забраць у людзей...

— Забраць? А калі не захочуць людзі аддаць гэтыя даведкі? — тусклым голасам спытала Ніна Пракопаўна.

Акапян разумеў, як не падабаецца ёй гэтае дару-

чэнне і што яна, магчыма, асуджае яго, Акапяна. На хвіліну ў яго заварушыліся нават сумненні: ці трэба гэта рабіць? Усё роўна ўсе даведкі не збярэш. Але Акапян адагнаў сумненні прэч. Натура дзейсная, энергічная, ён заўсёды спрабаваў зрабіць усё магчымае ў любой сітуацыі, а не сядзець і не чакаць ля мора пагоды.

— Праявіце свае дыпламатычныя здольнасці, — шырока ўсміхнуўся Акапян. — Яны ёсць у кожнай жанчыны, асабліва ў такой маладой і прыгожай, як вы... Просьба да вас, каб у райкоме пра гэта ніхто не ведаў...

Ніна Пракопаўна зноў зачырванелася, што макаў цвет, і Акапян не мог не заўважыць, што яна сапраўды прыгожая.

Як ні старалася «ўпаўнаважаны з банцікам», ёй удалося прывезці толькі чатыры даведкі. Пяць засталіся ў майстроў, хоць і гаварылі яны самі, іхнія жонкі, што паперка згубілася, дзеці некуды закінулі, Акапян разумеў: даведкі зберагаюцца ашчадна, бо згубіць такую паперу, значыць, згубіць не адну сотню грошай.

І вось заявілася камісія — два дзядзькі, адзін з пацёртым скураным партфелем, другі з камандзірскай скураной сумкай-планшэткай. Некалькі дзён яны хадзілі па Лабанаўцы, наведалі вёскі, адкуль былі майстры.

Крупадзёраў з'ехаў на раён, каб не трапляць на вочы камісіі, а загадчык райфа вымушаны быў суправаджаць іх, бо адчуваў сябе вінаватым і стараўся паддобрыцца да гасцей.

Да Акапяна рэвізоры завіталі ў апошні дзень перад ад'ездам, расказалі коратка аб сваёй рабоце, старэйшы, высокі, цыбаты, у акулярах, прабубнеў:

— Мы лічым, што загадчык райфа паступіў незаконна. Давядзецца шукаць яму замену...

— Загадчык райфа выконваў маё даручэнне, — сказаў Акапян.

Акуляры ўспаўзлі на лоб, другі рэвізор разгублена хмыкнуў, зірнуў на свайго калегу.

— Сяргей Хачатуравіч, дык што нам так і пісаць у справаздачы? — схіліў галаву высокі і пільна паглядзеў на Акапяна з-пад шкельцаў акуляраў.

— Калі быць чэснымі, то трэба так і пісаць... Я лічу, што загадчык райфа можа застацца на сваім месцы, калі іншых грахоў за ім не знайшлося. Вымову варта даць, каб хітрэйшым быў, — усміхнуўся Акапян.

Засмяяліся і рэвізоры, пагаварылі яшчэ аб сім аб тым і развіталіся.

Неўзабаве прыйшла з вобласці папера, у якой было сказана, што справу загадчыка райфа патрэбна разгледзець на бюро райкома, вынесці яму спагнанне, далейшае яго знаходжанне на пасадзе немэтазгодна... Акапян званіў, спрабаваў пярэчыць, але адстаяць загадчыка райфа не ўдалося.

А потым выклікалі ў абком партыі і самога Акапяна.

## XXXII

Радавалася Кацярына Сахута, што гарод пасеялі, бульбу пасадзілі, дзе верхавінкамі, дзе рэзанымі напалам дробнымі клубнямі. Але ў хаце не засталося ні бульбіны, ні зярнятка збожжа. Лета было спякотнае, трава ў лузе выгарала, каровы прыходзілі дамоў галодныя, з упалымі бакамі, патрэсканымі цыцкамі, не даваліся даіцца, а тое малако, што ўдавалася нацыркаць, было з кроўю.

Васька з Андрэйкам блукалі па лузе, елі шчаўе, вышуквалі пучча — тоўстыя сакавітыя сцяблiны шчаўя. Іх было багата на стагавішчы, ды такія тоўстыя, кіславата-рэзкія на смак, аж вочы заплюшчваліся. У гародзе хлопцы ласаваліся пер'ем цыбулі.

Эх, каб да гэтай цыбулі ды лусту хлеба! Што можа быць смачней?!

Але дзе яе ўзяць, тую лусту. Хлеба не было. Хатыньчане збіралі ў полі, на папары, казелец, сушылі рудавата-чырвоныя яго мяцёлкі, цёрлі, з мяцёлак сыпаліся драбнюткія, бы мак, зярняткі. З іх пяклі хлеб, чырвонакарычневы, цвёрды, як цэгла, ён застраваў у роце, без малака яго нельга было праглынуць.

Збіраў казелец Васька, хадзіў па яго далёка, за Упярочны ручай, пад Малыя Кандрашы. Надвячоркам, як спадала гарачыня, прыносіла рэзгіны казельцу маці. Прынёсшы, прывальвалася да стала, прагна піла ваду. Ногі яе зрабіліся тоўстыя, нібы калодкі.

Бацька схуднеў, хмурна махаў сякерай, рабіў вялізныя сталюгі, каб пілаваць бярвенне на дошкі.

Марына позна вярталася з дзяжурства, схуднелая, з чырвонымі ад бяссоння вачамі. Аднойчы Андрэйка пачуў, як Марына гаварыла:

— Мама, у цябе ногі апухлі. Ад хлеба з казельцу запоры бываюць. У бальніцу людзей навезлі. Раздутыя, як бочкі... Усе калідоры ложкамі заставілі... Трэба нечага купіць. Грошы далі...

— Дзе ты дакупішся, дачушка? Колькі тых грошай? Хату будаваць трэба. На работу басанож ходзіш.

— Нічога. Улетку басанож лягчэй.

Потым яны сцішана гаманілі з бацькам. Ранічкаю ён пайшоў у Лабанаўку. Пад вечар вярнуўся, стомлены, у шэрых ад пылу ботах, асцярожна паставіў на палок ля печы невялікі клунак, сеў на лаўку, выцер рукавом белы мокры лоб.

— Падай вады, Андрэйка. Язык прысох да нёба. — Сын хуценька зачарпнуў поўны карэц, на дыбачках, каб не расплюхаць, паднёс. Бацька выпіў адным духам. — Ну і гарачыня... Паўсотні вёрст адмахаў. Во, на станцыі раздабыў пуд мукі. Пяцьсот рублёў давялося аддаць.

Маці моўчкі ўздыхнула, развязала клунак:

— Ды нейкая рудаватая. З шаройкамі... Паспрабую бліноў спячы. У кубле, дзе раней было сала, нашкрабла трохі тлушчу для падмазкі скаварады.

— Не ўстаюць бліны, падгараюць, — бедавала маці, але пах ад іх быў такі смачны, зваблівы, што аж кружылася галава.

У той вечар у хаце Мацвея Сахуты было свята — сям'я ела бліны. А назаўтра маці напякла хлеба, смачнага, хоць і папалам з казельцам.

Бацька павесялеў. І на матчыным твары, здаецца, паменела маршчын-баразёнак, але клуначак увачавідкі худзеў, нібы ў ім была дзюрачка, і мука памалу высыпалася.

Неяк адвячоркам бацька прынёс ладны кавалак мяса.

— Прырэзалі вала старога. Усе бралі. І я ўзяў. А то ж сядзім на нішчымніцы...

Зварыла маці ў чыгунку мяса, чырвонае, з тоўстымі сінімі жылкамі, даўкае, не праглынуць. Калі б не галадуха, ніхто б на яго не глянуў, а так елі. Грыз, давячыся, і Андрэйка. Смаку і паху гэтага мяса ён не чуў, проста грыз, колькі было змогі, бо страшэнна хацелася есці.

Раніцай Андрэйка прачнуўся, падняў галаву — у вачах пацямнела, зноў адкінуўся на падушку. У жываце бурчала, у скронях стукала, бы малаточкамі, яго па-

чало ванітаваць — ледзь паспеў звесіць галаву з палка.

Знясілены, ён сядзеў на ложку і тут убачыў, што побач ляжыць бацька і сцішана стогне. Ля акна сядзіць Васька, бледны, аж нават губы пабялелі, а шырокія густыя, як у дарослага, бровы выглядалі яшчэ цямнейшымі. Васька павольна, бы п'яны ці ўчадзелы, падышоў да брата:

— На, Жэўжык, вады. Спаласні ў роце... Мяне ўчора вырвала. Усё вычысціла... Сянні сыраквашы выпіў. Галава яшчэ баліць. Ды ўжо не так...

— А дзе ж матка? — Андрэйка здзівіўся, які цяжкі зрабіўся язык, не павярухнуць.

— Пайшла па каня. Павязе вас у бальніцу.

Неўзабаве ўвайшла маці. Разам з Васілём яна, узяўшы пад рукі, вывела бацьку, палажыла яго на воз, побач паклалі Андрэйку. Маці крыкнула на каня, тузанула за вераўчаныя лейцы. Белыя аблокі паплылі перад вачамі, у галаве, як у кузні, застукалі малаткі...

Калі Андрэйка адкрыў вочы, разанула сляпучае святло. Усё вакол было белае-белае: столь, сцены, доўгія фіранкі на вокнах. Над ім схіліўся чалавек у белым халаце і белай шапачцы. Твар яго расплываўся, бачыўся невыразна, як праз туман, на носе паблісквалі шкельцы акуляраў.

— Ну-с, малады чалавек, стала быць, выспаўся? Што баліць? — Малы Сахута маўчаў. — Галава баліць? — дапытваўся доктар.

Андрэйка паспрабаваў прыўзняцца — малаткі ўжо не стукалі ў скронях, толькі ў роце было чамусьці суха і горка.

— Трохі баліць. Раней балела мацней.

— Ага, стала быць, палягчала, — доктар узяў Андрэйкаву левую руку, лёгенька сціснуў каля запясця, спытаў, як завуць, колькі яму гадоў, ці хоча ў школу.

Андрэйка адказваў на ўсе пытанні, доктар слухаў і ківаў галавою, хрумстаў тонкімі пальцамі.

— Ну што ж, сын ваш — малайчына, — доктар павярнуўся да бацькі. — Стала быць, ён перамог. Змагаўся за жыццё як мужчына. Як герой...

«Калі ж я змагаўся? З кім?» — падумаў Андрэйка.

Бацька тым часам нешта гаварыў доктару, той сказаў штосьці жанчыне ў белым. Яна запісала хуценька ў сшытак і ўслед за доктарам выйшла.

— Ну, сынок, здаецца, будзем жыць. Атруціліся мы

мясам. Благое яно аказалася. Але нічога. Скора паедзем дадому.

На другі дзень, ранічкаю, у палату ўвайшла Марына. Яна таксама была ва ўсім белым. Андрэйка адразу, ды яшчэ спрасоння, не пазнаў яе. У руках Марына трымала нешта абгорнутае марляй. Неўзабаве перад ім стаяла поўная с коптарам шклянка суніц. У палаце пачуўся духмяны пах ягад. Андрэйка не верыў сваім вачам, бацька таксама здзівіўся.

— Глядзі ты, суніцы паспелі. Рана яны сёлета. Гарачыня падагнала. Еш, сынок, — сказаў бацька і сам узяў колькі ягадак.

— Васька ўчора назбіраў. Мы з пастаялкаю іх насёрбаліся, — Марына прысела на Андрэйкаў ложак.

Малому раптам так захацелася ягад з пастаялкаю (халодным малаком), аж засмактала пад лыжачкаю. Праўда, ягады і так былі надта смачныя — раставалі ў роце.

— Досыць, Андрэйка. Нельга многа. Жывот забаліць. Пасля абеду з'ясі яшчэ, — Марына накрыла шклянку марляй і паставіла каля бацькі на акно.

— Чаго вам яшчэ прынесці?

— Харчу хапае. Нічога не трэба, — адказаў бацька.

— А ты чаго хочаш, Андрэйка?

— Камоў хочу...

Марына з бацькам пераглянуліся.

— Яшчэ бульба не вырасла. Пацярпі трохі. Ну, я пайду. Папраўляйцеся.

Калі Марына пайшла, Андрэйка прыгадаў, як вясною, пасля вяртання бацькі, амаль штодня маці варыла бульбу, таўкла яе, заскварвала салам з цыбуляю — рабіла так званыя камы — і ставіла чыгунок на стол. Андрэйка дацягваўся да чыгунка, апускаў туды лыжку з надзеяй: хоць бы трапілася скварачка. Калі ў лыжцы нешта цямнелася, ён ціха радаваўся: падпаленая, гаркавата-салёная скварачка была надзвычай смачная. Васька раз-пораз зазіраў у чыгунок і чэрпаў там, дзе цямнелася чорная плямка. Бацька гаварыў яму: бяры па парадку, не падглядвай, а Ваську нібы магніт цягнуў зірнуць у чыгунок. Калі сын-неслух зноў прыўзняўся, бацька як трымаў лыжку, так і трэснуў хлопца па лобе:

— Што за ўбоіна расце! Ці ж табе аднаму трэба?

Васька лыпнуў вачамі, сеў на сваё месца і, як ні ў

чым не бывала, чарпануў наўздагад, і зноў яму трапіла скварка.

— Яму і так шанцуе, — усміхнулася Марына.

— Не кажы. Зноў выцягнуў скварку. Ну і нюх у цябе, Васілёк, на сала, — заўсміхалася маці.

Васька задаволена ўхмыльнуўся і з апетытам уплятаў камы за абедзве шчакі.

«Каб мяне бацька стукнуў, я б залез на печ і не падышоў бы да стала, як бы ні прасілі», — падумаў Андрэйка.

...У акно білі светлыя вясёлыя промні сонца, нібы нехта ўставіў бліскучыя шкляныя трубы, у якіх таўкліся, мітусіліся пылінкі. Здавалася, усё такое чыстае вакол, а ў паветры гэтулькі пылінак.

У акно палаты ўрываўся шпачыны грай. У садзе ля бальніцы было багата іхніх домікаў. Шпакі спявалі з раніцы да вечара. Пад іх спеў Андрэйка зноў моцна заснуў.

Дні праз тры яны з бацькам ехалі дамоў. Каня прыгнала Марына, сама яна засталася дзяжурыць. На калёсах Андрэйка ўбачыў знаёмую з першых гадоў жыцця даматканую посцілку. Такая яна была родная, гэтая посцілка, яна пахла домам, матчынымі рукамі. Пад ёю зляжалася зялёная трава — мабыць, Васька на выгане адкасіў.

Падвялыя краскі дыхалі мядовым водарам, і Андрэйку апанавала невыказная радасць: ён жывы, бачыць сонца, слухае птушак. Вунь жаўрук трапеча крылцамі над жытам, быццам па нябачных прыступках падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Раптам гучна і звонка ўдарыла перапёлка: піць-палоць, піць-палоць!

— А, перапёлачка азвалася. Чуеш, Андрэйка? — павярнуўся да яго бацька, тузануў за лейцы коніка.

— Можа, тут гняздо яе недалёка. У яе рабенькія яечкі, — тонам знаўцы сказаў Андрэйка.

— Ну, шукаць мы не будзем яе гнязда. Хай жыве. Ніколі не трэба разбураць птушыныя гнёзды. Птушкі — яны ж малыя. Во шчабечуць, спяваюць. За лета яны паядаюць столькі рознай камарэчы, машкары. Карысныя стварэнні, — бацька мацней тузануў за лейцы.

Гняды конік фыркнуў у адказ, памахаў доўгім цёмна-бурым хвастом, наддаў ходу. Калёсы лёгка каціліся па роўнай палявой дарозе. Пыл не падымаўся і не цягнуўся ўслед: апоўдні прайшоў цёплы дожджык. Усё

вакол было свежае, нібы ўмытае, жыта шапацела маладымі сіва-зялёнымі, яшчэ лёгкімі, каласамі, якія стаялі прама, злёгку пагойдваліся, быццам выцягвалі шыі, цягнуліся ў неба.

Андрэйка ўспомніў размовы дарослых, што на полі ляжала многа забітых немцаў. І раней жа былі войны, нават пра нейкіх шведаў гаварылі дарослыя. Маломку падумалася, што жытнія каласы — гэта свечкі нябожчыкам: колькі хто меў гадоў, столькі яму і свечак. Сонца ўжо заходзіла, было барвова-чырвонае, каласы здаваліся ружаватымі, бы запаленыя свечкі.

Хлапчуку аж вусцішна зрабілася, добра, што плечуком ён адчуваў бацькаву спіну. Бацька таксама глядзеў на жыта і маўчаў, але твар у яго быў светлы, задуменны: бацька радаваўся, што вяртаецца дамоў, што яны з Андрэйкам перамаглі хваробу.

Малы Сахута азірнуўся назад. У промнях нізкага сонца залаціліся купалы-цыбуліны саковіцкай царквы, якія ўзвышаліся над цёмнымі купамі дрэў.

«Бывайце, Саковічы. Каб ніколі больш не трапляць у вашу бальніцу», — падумаў Андрэйка і пачаў угледацца наперад, дзе ўдалечыні ўжо віднеліся прысады роднай вёскі, справа за дрэвамі відаць былі хаты.

— Тата, ета пасёлак? Тут мамонаўцы жывуць? А парцюкоўцы?..

— Тут і мамонаўцы і парцюкоўцы таксама, — з усмешкаю адказаў бацька. — Мамонаўка пішацца па дакументах. А Парцюкоўка — ета мясцовая назва. Як усё роўна мянушка.

— А чаму яна паявілася? — дапытваўся малы.

— Парцюк — ета даматканая спадніца. Жанчыны раней усе насілі парцюкі. А на пасёлку і па вуліцы так хадзілі. Месца ціхае, рэдка хто чужы бывае. Вот і прыклеілася да іх такая мянушка... Но, ты, ваўкарэзіна, саўсім задрамаў! — бацька сцебануў хлудам коніка. — Як Марына на ім ехала без пугі? Латруга еткі. Травы ж цяпер хапае. Прайшлі дажджы. Выгуляўся.

Прамінулі паваротку на пасёлак, конік пабег весялей, мусіць, зразумеў, што нікуды фурман зварочваць не будзе, а толькі дамоў, дзе на воз ускідвалі духмяную траву. Конік фыркнуў, успомніўшы пра гэта, і весела патрухаў па дарозе.

«Бяжы, конік. Каб ты ведаў, як хочацца двору. Матку пабачыць, Ваську. Усё дома роднае. І бычок мяне

чакае, і кот Мурык. Ён яшчэ маленькі, але такі пацешны...»

Усёй істотай ірваўся Андрэйка дамоў. Першы раз у жыцці ён цэлы тыдзень быў далёка ад дому, без маці. Вядома, не адзін — побач быў бацька, Марына прыходзіла, але ўсё роўна нудзіўся малы па дому, па роднай Бесядзі.

Якое гэта шчасце быць дома!

Гэтае пачуццё, гэтую радасць вяртання Андрэй Сахута і праз дзесяткі гадоў не забудзе. І не раз успомніцца гэтая вячэрняя палявая дарога падчас многіх ягоных вяртанняў з далёкіх і блізкіх вандровак.

## XXXIII

Участковага міліцыянера Бравусава цяпер звала Валодзькам толькі маці — суседзі, службоўцы з павагай велічалі Уладзімірам Усцінавічам. Калі ён адказваў па тэлефоне, то з гонарам, з годнасцю крычаў у трубку: «Лейтэнант Бравусаў!..» Прыстаўку «малодшы» не любіў, асабліва яна не падабалася на паперы — абразлівыя літары «мал.», або «мл.». З якой радасцю замест іх напісаў бы ён «ст.» — старшы лейтэнант. Ён будзе ім.

Бравусаў лічыўся адным з самых старанных, энергічных участковых міліцыянераў. Напярэдадні першамайскага свята начальнік аб'явіў яму ў загадзе падзяку. Праўда, не так даўно яго паўшчуваў пракурор, але гэта яшчэ невядома, хто тут болей правы, хто вінаваты. Бравусаў не лічыў сябе вінаватым — ён выконваў свой абавязак.

А гісторыя выйшла такая.

Завітаў да яго старшыня Белагорскага сельсавета Свідэрскі і кажа:

— Уладзімір Усцінавіч, нам з табой заданне. Туга ідуць справы з падпіскаю на пазыку. Асабліва парцюкоўцы падводзяць. Я ж сам жыву на пасёлку. Ведаю, што не такія яны ўжо бедныя. У вайну не згарэлі. Пойдзем патрасём іх...

Бравусаў не стаў перапытваць, чыё такое заданне. Ён цвёрда ведаў, што яго абавязак — усяляк дапамагаць мясцовай уладзе наводзіць парадак.

Пачалі яны абход надвечар, бо ўдзень людзі то ў полі, то ў лесе, а некаторыя дык і хавацца ўмелі. А

ўвечары трэба даглядаць гаспадарку, быць дома. Некалькі чалавек ім удалося падпісаць.

— Тут жыве Прося Вароніна. Яна падпісалася, а плаціць і не думае, сучка паліцэйская, — са злосцю сказаў Свідэрскі.

Бравусава нібы апякло. Гэта ж жонка паліцая Вароніна. Два гады назад Бравусаў з хлопцамі ўпусціў паліцая...

Прося выйшла з хаты з драўлянай даёнкаю — збіралася даіць карову.

— Прося, ты што сабе думаеш? Калі будзеш грошы аддаваць? — не вітаючыся, адразу пайшоў у наступ Свідэрскі.

— А дзе ж я вазьму іх? Каб жа яны былі, тыя грошы. Дык я б аддала, — ціха адказала Прося, запхнула пасмачку цёмных валасоў, што выбілася з-пад старэнькай палінялай хусты.

Бравусаў адразу не пазнаў яе, так яна пастарэла, схуднела, адно вочы былі сінія і чыстыя, твар абветраны, парэзаны раннімі зморшчынкамі быў самотны, і ў той жа час адкрыты, ясны і прыгожы. У вачах быццам пакорнасць і поўная абыякавасць, маўляў, рабіце што хочаце.

З хаты выбегла тоненькае цыбатае дзяўчо, вялікія сінія, як у маці, вочы спалохана зірнулі на Бравусава, бо старшыню сельсавета яна ведала, а гэты ж незнаёмец з наганам. За дзяўчынкай прытэпаў і хлапчук-карапуз гадоў трох, абхапіў маці за спадніцу. Яна прыхінула яго за плечукі. З твару Просі як хто змахнуў абыякавасць і пакорнасць: з годнасцю, смела зірнула яна на гасцей, хоць рукі дробненька дрыжалі, выдаючы ўстрывожанасць.

— Калі выплаціш пазыку? Яшчэ раз пытаю, — не адступаўся Свідэрскі.

— Я ж сказала. Няма цяпер грошай. Сотню яек здала, малака за дзвесце літраў ужо вынесла. Падрасце цялё — здам на мяса...

— А воўну хто будзе здаваць?

— Авечка здохла яшчэ ўвосень...

— Не шукай дурняў. Авечку ты прырэзала. Аўчыну не здала.

— Няма ў мяне аўчыны. І воўны няма. Не расце... Толькі ў адным месцы...

— Ах ты сцерва! — крыкнуў Свідэрскі. — Самагон-

ку гоніш. А яшчэ прыбядняешся, кулацкае адроддзе. Пайшлі за мной, — кіўнуў ён Бравусаву.

Яны агледзелі хлеў, там зарохкаў, заверашчаў, мусіць, яшчэ не кормлены ладны парсючок, на курасадні трывожна закыркаў певень. Пахла гноем, прэллю. З хлява павярнулі ў лазню. Свідэрскі адчыніў дзверы ў прымыльнік — у нос адразу шыбанула пахам брагі: у лазні стаяў пузаты цабэрак, накрыты дзяружкаю. У цабэрку пыхкала, шапацела, спяліла п'янючую сілу брага. Збоч стаялі два вялізныя чыгуны, адзін з дзюркай у дне — вярхняк, у які ўстаўляецца труба-змеявік. Свідэрскі люта шпурнуў чыгуны, але яны не разбіліся. Тады ён пачаў іх біць аб камень, пакуль не пабіў на друз. Потым ухапіўся за цабэрак, хацеў перакуліць, але прысадзісты, пузаты бачонак стаяў моцна, як урос у падлогу.

— Давай кульнём.

Удвух яны перавярнулі цабэрак, брага шухнула пад палок, пацякла па ўсёй падлозе. Яшчэ мацней запахла церпкім, кіслым духам, змешаным з водарам бярозавых венікаў.

— Стрэльні пару разоў у цабэрак. Каб дзюркі былі, — параіў Свідэрскі.

Бравусаў, не цэлячыся, тры разы стрэліў у бачонак. Адразу прыгадалася, як тады тройчы страляў у чарот па Вароніну, нават падалося, што гэта цела Вароніна, а не цабэрак, ляжыць у паўзмроку.

Потым яны сядзелі ў хаце старшыні сельсавета, складалі акт.

Галя, жонка Свідэрскага, сярдзіта і цяжка, аж рыпелі маснічыны, тупала, збірала на стол вячэру, укладвала дзяцей спаць.

Павячэралі. Свідэрскі адшпіліў верхні гузік кіцеля, крутануў тонкай, як у падлетка, белай шыяй, да каўняра бурай ад загару, пад кадыком ля ямачкі азначыліся косткі.

— Ну і куды вы еты акт? — спыталася Галя, але не ў мужа, а ў Бравусава.

— Куды? Яснае дзела. Пракурору, — адказаў Свідэрскі.

— Пашкадавалі б чалавека. Адна дзяцей гадуе.

— Каго? — усхапіўся Свідэрскі. — Паліцэйскую шкуру шкадаваць? Як жа? Пасёстра твая, радня вялікая...

— Канешне, радня. Дваюрадная сястра. Хто ж яе

цяпер пажалее? Няўжо ж ёй жывой у магілу класціся? — жонка паднесла фартух да вачэй.

Бравусаў адразу ўбачыў нешта знаёмае ў яе твары, але нават не падумаў, што Галя пасёстра Просі. Цяпер, прыгледзеўшыся, заўважыў, што яны вельмі падобныя: такія ж сінія вочы, цёмныя дугі броваў, невялікі прыгожы нос, твар быў шырэйшы, на лобе рудаватыя плямы — прыкметы цяжарнасці, ды і жывот падпіраў фартух.

І яшчэ падумалася Бравусаву, што і Марына Сахута нечым падобная. Ці не радня таксама?

— Не, даражэнькая, літасці ёй не будзе. Для мяне ці ты сват, ці брат — строгасць аднолькавая. Зрабі ёй скідку, тады кожны будзе вочы калоць. Не, так не пойдзе, — рэзка сказаў Свідэрскі і сурова сціснуў тонкія сухія губы.

— Што будзе з дзецьмі? Вы падумалі? — Галя зноў звярталася да Бравусава, ці яна лічыла яго большым начальнікам, ці ведала няўмольнасць свайго мужа. — У нас жа сваіх трое... І дасць бог, чацвёртае...

— Не прасі, не малі, — зноў адказаў за Бравусава гаспадар. — Акт перадаём пракурору. А там хай яны вырашаюць... У Просі радні многа...

— Парадак нельга парушаць, — развёў рукі Бравусаў.

Галя паднялася і пайшла за шырму да дзяцей.

Назаўтра Бравусаў быў у пракурора Ясючэні. Той прачытаў акт раз, другі. Пракурор быў ужо немалады, замест левай рукі меў пратэз, на які была нацягнута чорная пальчатка. Рука гэтая цвёрда і нерухома ляжала на стале, а правай ён перагортваў старонкі акта.

— М-да, — задуменна гмыкнуў пракурор. — А лазню вы не раскідалі?

— Не, а навошта? — пацінуў плячамі Бравусаў.

— Цабэрак вы прастрэлілі. Чыгуны разбілі. Трэ было ўжо і лазню раскідаць ці спаліць... Гэта ж разбой сярод белага дня! — раптам гучна, ледзь не закрычаў, абурана сказаў пракурор. — Акт не па форме складзены. Подпісаў панятых няма. Я не магу даць санкцыю...

— Дык вы... абараняеце жонку паліцая? — усхапіўся Бравусаў.

— Вы, калі ласка, сядзьце, — стараючыся быць спакойным, сказаў пракурор. — Яе віну, як жонкі паліцэйскага, можа вызначыць суд. А не вы і не я. У яе двое

дзяцей. Яны, можа, і не бачылі свайго бацьку. За што ж ім пакутаваць? Вы прыйшлі наконт пазыкі. А падпіска на пазыку — справа добраахвотная. Ніхто нікога не можа прымусіць. Угаворвайце, агітуйце, але за пісталет не хапайцеся. А то ў нас некаторыя любой цаною гатовы лезці ў перадавікі.

— Ды я і не хапаўся, — апраўдваўся Бравусаў.

— Ну як жа? Цабэрак прастрэлілі. А ведаеце, колькі ён каштуе? Вы купілі хоць адну бочку ў жыцці? Або зрабілі хоць адну?

— Я не бондар, — сярдзіта буркнуў Бравусаў.

— А шкада. Каб зрабілі, то ведалі б, як гэта нялёгка. А чыгуны? Ведаеце, колькі каштуе цяпер чыгун? Семдзесят — восемдзесят рублёў... Бочак няма. З неба яны самі не коцяцца. У прыказках людзі кажуць: што ты на мяне бочкі коціш? А ў жыцці ўсё намнога складаней... Не трэба абуджаць у людзей злобу. Такую вайну мы перажылі, браток ты мой. Колькі ліха нацярпеліся людзі, — пракурор памаўчаў, адвярнуўся да акна, а Бравусаў праглынуў даўкі камяк. — На першы раз хопіць страху з гэтай беднай кабеты. А вы, Уладзімір Усцінавіч, не зарывайцеся. Пра Свідэрскага мне гаварылі, што ён бязлітасны чалавек. Строгасць і справядлівасць — гэта вельмі важна ў нашай рабоце. Але павінна быць яшчэ і чалавечнасць...

Ясючэня падаў Бравусаву руку, той моцна пацiснуў яе і хутка выйшаў з кабінета. Быў ён чырвоны, як вараны рак, а вушы ружовыя, бы ў сарамяжлівага школьніка, што не падрыхтаваўся да ўрокаў і адхапіў двойку.

Бравусаў успомніў гэтую гісторыю, калі праязджаў міма Парцюкоўкі. З Белай Гары цераз Хатынічы ён ехаў разам са Свідэрскім. Той запрасіў да сябе дамоў, паабедалі. Бравусаў здзівіўся, што Галя, жонка Свідэрскага, разы два зірнула на госця з нейкай прыхаванай удзячнасцю, ласкава частавала і на развітанне сказала:

— Заходзьце да нас, калі будзеце ў Хатынічах.

Бравусаў падзякаваў, а Свідэрскі коса зірнуў на сваю жонку. Цяпер, ад'ехаўшы ўжо далёка ад пасёлка, калі ўжо віднеліся наперадзе цыбуліны саковіцкай царквы, ён усё думаў, чаму так сябе паводзіла Галя. І зразумеў, што яна лічыць яго выратавальнікам Просі, думае, што ён не даў ход таму акту, бо Просю ніхто не чапаў пасля таго здарэння. А Хатынічы ўспомніла, ма-

быць, таму, што ведае пра яго заляцанні да Марыны.

Пра заляцанні Бравусава ведалі ўжо многія ў Хатынічах. Бо ў вёсцы ў сардэчных справах сакрэтаў амаль што не бывае. А Бравусаў чалавек быў прыкметны. Варта было разы два ўбачыць яго з Марынай, як усе Хатынічы загаманілі пра любоў участковага міліцыянера і пачалі чакаць вяселля.

Ды і сам кавалер усё часцей думаў пра сваю ўхажорку, але пасля таго, калі зімой ён прапанаваў выйсці за яго замуж, а яна адказала: «пагамонім другім разам», гэтага другога разу так і не надарылася.

Зрэдку Бравусаў бачыўся з Марынай у бальніцы. Яна выходзіла ў белым халаціку і белай касынцы, строгая, хударлявая, саромелася стаяць з ім, бо ўсе глядзелі на іх, і пад рознымі адгаворкамі бегла назад.

Жаніцца Бравусаў не дужа спяшаўся, ён адчуў смак халасцяцкай вольніцы. Часцяком жартаваў з усмешкаю: дзе дзяўчыну чую, там ночку начую. Дзяўчат, пераспелых, як суніцы ў жніўні, багата было па вёсках. Калі дзяўчаты яшчэ некага чакалі, спадзяваліся, гаварылі: жаніся, тады ўсё будзе, то ўдовы лашчылі ахвотна і прагна. Але Бравусаў усё часцей думаў пра ўпартую дзяўчыну, якая не хацела паддавацца ягоным чарам, ды і з другімі хлопцамі яе таксама не бачылі.

Сёння, калі ехалі праз Хатынічы, ля Шамаўскага ручая здалёк угледзеў малога Андрэйку. Пакуль конь піў ваду, Бравусаў адышоўся далей ад моста, быццам памыць боты, паклікаў малога, спытаўся, ці дома сястра. У адказ пачуў, што ўранні пайшла на работу.

Тэрміновай справы ў Саковічах не было, але не шкодзіла завітаць у сельсавет, абысці ўсе мястэчковыя ўстановы, зазірнуць у краму, аптэку, каб усе бачылі, што ўчастковы пільна сочыць за парадкам, а не сядзіць на Бесядзі з вудаю. Калі выязджалі з Белай Гары, ён папрасіў у Свідэрскага каня, каб з'ездзіць у Саковічы. А пасля таго як даведаўся, што Марына на дзяжурстве, дык хацелася туды хутчэй, хоць яе дзяжурства скончыцца аж увечары. Пачакае, балазе трава каню ёсць, а ён, Бравусаў, галодны не будзе.

Паганяючы коніка, часцяком выцягваў з маленькай кішэні галіфэ бліскучы круглы гадзіннік на ланцужку — да вечара было яшчэ далёка.

Настрой у Бравусава быў добры, участак яму да-

стаўся хоць і вялікі, але даволі ціхі, пакуль што асаблівых здарэнняў, злачынстваў не было. Па лясных вёсках за Бесяддзю шастаў з паўгода бандыт Батурын, які дэзерціраваў з войска. Яго злавілі пад Крычавам. Зразумеўшы, што яго чакае трыбунал, ён уцёк, знайшоў сабе хаўрусніка, былога паліцая. Удвух бандыты наводзілі страх на ўсю акругу. Лавілі ў лесе жанчын, забіралі адзенне, прадукты. Аднойчы лезлі ў хату праз акно, дзядок сякерай адцяпаў пальцы хаўрусніку. Стрэлілі яны пару разоў, але болей шуму рабіць не сталі, падаліся ў лес. Найчасцей рабавалі магазіны. Наведаліся і ў Хатынічы, выбілі акно, набралі гарэлкі, селядцоў, цукерак. Было нават падазрэнне, што крамнік Сямён пад шумок сам зрабіў гэта. Давялося Бравусаву апытаць многіх людзей, якія пацвердзілі, што бачылі двух чалавек з вінтоўкамі на конях.

За Батурыным доўга ганяліся, у адной аблаве ўдзельнічаў і Бравусаў. Бандыты паранілі двух міліцыянераў і ўцяклі. Потым прыехалі чатыры чалавекі з вобласці, апранутыя ў цывільнае, разведалі, дзе бываюць бандыты, знайшлі каханку Батурына. Яна вытапіла лазню, бандыты памыліся, калі ўвайшлі ў хату, селі да стала, пачулася: «Рукі ўгору!» Батурын схапіўся за пісталет, але яго апярэдзілі, застрэлілі напавал.

Бандытаў ужо не было, але жывы ўспамін пра іх яшчэ палохаў людзей, і Бравусаў падумаў, што Марына абрадуецца яму, бо ёй не давядзецца прыцемкам бегчы сем кіламетраў з Саковіч дадому.

У мястэчку Бравусаў адразу завітаў у бальніцу, каб папярэдзіць Марыну, што ён тут, каб не ўцякла раней. Яна сустрэла яго, як заўсёды, стрымана, але вочы з-пад цёмных веек зірнулі больш прыязна, чым раней. У Бравусава нават сэрца затахкала, але ў вачах ён раптам згледзеў сум, а яе акуратны прамы нос быў трохі чырвоны.

— Ты плакала? Што ў вас здарылася? — насцярожыўся Бравусаў.

— Хлопчык загінуў. Утапіўся. Не далі рады ўратаваць. Дзесяць гадкоў, — слёзы закіпелі на вачах Марыны.

Бравусаў распытаў, хто прывёз яго, адкуль, з якой вёскі. Ён павінен усё ведаць, а раптам нехта вінаваты ў тым здарэнні. Марына сказала, што быў ужо старшыня сельсавета, гаварыў з доктарам Ласоўскім. Бра-

вусаў сказаў ёй, што к канцу дзяжурства пад'едзе, і пакіраваў да сельсавета.

Стаялі светлыя летнія прыцемкі, калі яны ехалі палявою дарогаю ў Хатынічы. Бравусаў разумеў, што сёння павінна адбыцца рашаючая размова, наспеў той самы другі раз, але як пачаць гаворку, не ведаў, ды і быў ён цвярозы, як шкельца. Дзейнічаць напралом, як ён прывык з іншымі, не мог і не хацеў: трэба паказаць сябе з лепшага боку.

Марына, канечне, чула пра ягоныя подзвігі. Ёй было непрыемна слухаць пра ґэта. І ў той жа час яна разумела, што Бравусава не заўсёды трэба асуджаць: малады, здаровы хлопец, жанчыны самі ліпнуць да яго, тольki ўбачаць бліскучыя пагоны.

Праехалі ўжо ладны кавалак дарогі, пагаварылі пра хлапчука-тапельца, Бравусаў пашкадаваў яго і ягоную маці.

— От жыццё чалавечае. Быў і няма. Вайна скончылася, а людзі гінуць. Ды малы, які яшчэ нічога не паспеў... Нават дзеўку ніводную не пацалаваў.

— Каму што... А табе дзеўкі. Галоднай куме — хлеб на вуме.

— Не такі я галодны, як ты думаеш.

— Ведаю. Чула. Гавораць людзі.

— Я ж не манах. А вось ты, пэўна, у манашкі сабралася? Ці не так? — Бравусаў абняў яе за плечы, прыхінуў да сябе.

Марына не ўпіралася, ён мацней абняў, пацалаваў у халаднаватую шчаку, ад валасоў пахла лекамі — ёдам, камфарай, так пахла ў шпіталі. Раптам ён рыўком паваліў Марыну дагары, пачаў прагна цалаваць, рука пацягнулася да каленяў...

— Пусці! Ты што, азвярэў? — Марына ўперлася вострымі локцямі яму ў грудзі, адштурхнула яго, саскочыла з воза.

Раззлаваны Бравусаў пацягнуў за лейцы, але конь не стаў, а наадварот, прыбавіў ходу.

— Тпру, каб цябе! — Бравусаў звярнуў каня на ўзбочыну, той спыніўся, пачаў хапаць траву.

Марына павольна ішла басанож па сцежцы паўз жыта, бо яе танкеткі засталіся на возе. У Бравусава мільганула думка: схапіць яе, зацягнуць у жыта, сілаю ўзяць, але ён адагнаў гэтую думку прэч, сказаў з крыўдаю ў голасе:

— Ну, чаго ты раскрычалася? Сядай, дурніца. Сядай, не бойся.

— А ты не лезь... Я табе не падсцілка, — Марына стаяла каля воза, нерашуча пераступала з нагі на нагу.

Вакол было ціха, сонца садзілася ў цёмна-барвовую хмару. Раса яшчэ не пала, але дарожны пыл ужо астываў. На ім выразна адбіліся Марыніны сляды: кропкі пальцаў, ступак з вузкаю бакавой палоскаю, круглая пятка. «Высокі пад'ём у яе. Не пласкастопая каракаціца», — адзначыў Бравусаў, ён ужо налаўчыўся прыкмячаць сляды.

Марына села на воз. Нейкі час ехалі моўчкі. Нарэшце Бравусаў не вытрываў:

— Так і маўчаць будзем? Я чакаю адказу... Даўно чакаю. Помніш, яшчэ зімой я да вас заходзіў?

— Ты быў п'яны...

— Не п'яны, а выпіўшы. Я магу паўтарыць тое самае і цяпер. А сянні я не піў ні кроплі, — Марына маўчала, і Бравусаў пачынаў злаваць. — Ну, вот хто ты такая? Важная персона. Санітарка...

— Хай сабе санітарка... А ведаеш, я хачу паехаць на курсы медсясцёр. Я ж цяпер замяняю медсястру. Ласоўскі кажа, што я добра спраўляюся. Але трэба мець пасведчанне...

— Колькі там вучыцца?

— Нямнога, паўгода.

— Давай згуляем вяселле, і паедзеш.

— А тады ты скажаш: не пушчу. Толькі ажаніўся, а ты хочаш ехаць. Я цябе ведаю... Нахабства табе не пазычаць.

— Не такі я ўжо нахабны, як ты думаеш. Проста я не люблю лішніх цырымоній. Раз, раз — на матрас... — ухмыльнуўся Бравусаў.

— От скажы, чаму наш Пятрок загінуў, а ты жывеш? І ў партызанах людзі гінулі... Смелыя, чэсныя гінулі...

— Дык што, я вінаваты? Я за чужыя спіны не хаваўся. Я быў тройчы паранены. У шпіталі валяўся месяцамі. Ледзь не загнуўся. Ордэн маю за службу. А ты мне тут пачынаеш ерунду гарадзіць...

— Пакажы, куды цябе параніла, — з няверай сказала Марына.

— Тваю маць... — вылаяўся Бравусаў. — Буду я табе тут сярод дарогі паказваць раны. Ты соль на іх

сыплеш. Яны і так смыляць. Душа баліць, разрываецца, а ты...

Марына ціха саскочыла з воза. Бравусаў кінуў ёй танкеткі і сцебануў са злосцю каня.

## XXXIV

Лета ўбіралася ў сілу. У лесе паспелі чарніцы, пасля дажджоў высыпалі грыбы, налівала колас збажына. Неўзабаве хлопцы ласаваліся пражмом, а маці пачала мацаць скараспелку. На стале ўранні дыміўся саладкаватаю параю чыгунок маладой бульбы.

— Цяпер нам ужо лацвей жыць... Новы хлеб даспявае, — сказала аднойчы маці. — Трэба жорны зрабіць. А то летась мы ўсё хадзілі да суседзяў. Лепей свае мець. І чыгун у нас ёсць стары. Можна разбіць яго...

— Ды і я ўжо думаў пра жорны, — сказаў бацька. — Бяры, Васька, пілу. Упярочку...

Выбралі тоўстую і роўную калоду з тых, што ляжалі каля хаты, адрэзалі два круглякі, у цэнтр таўсцейшага бацька ўбіў жалезны штыр, у другі кругляк увагнаў металічную шайбу, зверху выдзяўбаў ступку — засыпаць зерне. Васька з Андрэйкам разбівау на друз прагарэлы ў дне чыгун. Бацька ўбіваў кавалачкі чыгуну ў дрэва. Неўзабаве ад штыра ва ўсе бакі разбегліся бліскучыя рыскі.

Потым да верхняга кругляка прымацавалі вушка, зрабілі гладкі шасток, у хаце ля парога прымацаваў бацька колца ў сцяне. Калі кругляк падсохлі, ніжні ўмацавалі, верхні край абабілі бляхай, каб мука не сыпалася ва ўсе бакі, паставілі на яго другі кругляк, шост прадзелі ў вушка.

— Ну вось, жорны гатовы, — бацька пакруціў вярхняк, метал заскрыгатаў аб метал, але жорны стаялі моцна. — Чаго б засыпаць у ступку?

— Чаго ж ты засыплеш? Няма ні зернетка, — уздыхнула маці.

— Нічога. Пачакаем навіны. Жыта спее ўжо, — супакоіў яе бацька, склаў інструмент. Маці ўзялася за венік.

— Збегаю-ка я заўтра ўранні за Галнае балота. Там на кургане жыта забялелася ўжо. Нажну снапок, — маці спынілася сярод хаты з венікам.

— Ты што, у каталажку захацела? — замахаў рукамі бацька, спалохана зірнуў на яе. — Бяжы, сынок, на вуліцу...

Андрэйка выйшаў за дзверы, сеў на лавачку пад акном, адсюль усё было добра чутно.

— Так ужо і пасадзяць. За жменьку жыта...

— А што ты думала? Ты снапок адажнеш, другая — снапок. Трэцяя... Што застанецца? Што здаваць дзяржаве? Што на працадні...

— Наясіся з тваіх працадзён.

— І не ўздумай ісці. Пасадзяць абаіх. Мяне як члена праўлення калгаса...

Бацька сказаў нешта яшчэ, але Андрэйка не разабраў. Уранні праз сон ён чуў, як маці нечым шаматала на печы. Пасля сняданку карцела разведаць. Ён шусь на печ, а там на чарэні посцілка, адгарнуў яе — каласкі. Закрыў іх посцілкай, як і было, і нічога нікому не сказаў. Улетку на печы ніхто не спаў, і каласкі ляжалі там усю ноч.

Удзень, калі бацька з Васілём паехалі касіць у Доўгі лог калгаснае сена, маці зграбла з печы каласкі, разаслала за хатай пасцілку, узяла кавалак дошкі і пранік, якім пяруць бялізну, абабіла каласкі, правеяла зерне.

Потым паклікала Андрэйку.

— Сынок, пасядзі на лавачцы ля хаты. А я буду жытцо малоць. Як хто будзе ісці па вуліцы, скажаш.

Андрэйка сядзеў на лавачцы, пільна ўглядаўся то ў Канчанскі бок, то на Шамаўку. У хаце загрукаталі жорны. Малы ўсё азіраўся па баках, потым загледзеўся на чырвоную мятлушку і раптам аж здрыгануўся ад нечаканасці— з правулка высунуўся на дарогу стары Гылігор. Андрэйка кінуўся да дзвярэй.

— Мама! Гылігор ідзе.

— Зачыняй дзверы на крук, — маці перастала круціць жорны, праз акно цікавала на вуліцу.

Стары, заклаўшы рукі за спіну, босы, сутулы, нетаропка пратопаў па вуліцы і павярнуў на выган.

— Глядзі зноў, сынок. Мне трэба яшчэ разок перапусціць, каб мучыца была мякчэй...

Зноў у хаце загулі жорны.

Вечарэла, калі вярнуўся бацька з Васілём. Стомлены, з глыбока запалымі вачамі, бацька ўвайшоў у хату, зірнуў на жорны і ўсё зразумеў:

— От, дурная баба. Не паслухалася. Хоць кол на галаве чашы, яна сваё. Можа, на сухары нарыхтавала...

— Пасадзяць, дык мяне... Затое сям'я не будзе пухнуць з голаду. Паглядзі на сябе. Адзін нос застаўся. Думаеш, на пастаялцы доўга касу пацягаеш? А хату будаваць хто будзе? Ваську вунь замучыў. Ад ветру валяецца. Заўтра бліноў спяку. Вяршынкі збяру. Пад'ясцё. Тады і каса весялей будзе касіць... А з тваёй чэснасці сыты не будзеш. Ты ж да вайны нарабіў смеху на ўсю акругу. Знайшоў трубку матэрыі і аддаў. Ніхто не бачыў... Дзяцей голых поўная печ. А ён аддаў п'янаму крамніку з Саковіч. От аддзячыў ён табе. Тры метры адрэзаў. А там жа было сто метраў. Во які ты совісны дурань.

— Ну што ты балбочаш? А чым бы ён разлічваўся, той чалавек. У турму сеў бы. А ў яго таксама дзеці.

— Няхай не п'е. Крамнікі — яны не бедныя. Нешта да рукі заўсёды прыліпне.

— Прыліпалам заўсёды даюць па руках. І няма чаго малоць пустое, — бацька папрасіў Андрэйку паліць яму на рукі, перакусіў і, як сноп, заваліўся спаць.

Андрэйка і раней чуў, што некалі бацька знайшоў матэрыю і аддаў. Цяпер яму карцела даведацца, як гэта было, і ён запытаўся ў маці:

— А дзе бацька знайшоў матэрыю?

— Ішоў пад вечар з пасёлка. Бачыць, ляжыць на дарозе трубка паркалю. Цэлы сувой. І нідзе нікога няма. Ён на плечы і прынёс дамоў. А назаўтра заявіў у кантору калгаса. І тут пазванілі з Саковіч. Крамнік саковіцкі вёз з раёна матэрыю і не пачуў, як трубка вывалілася. Ён і грошы даваў бацьку. Дык ён жа не ўзяў. Совісны дужа. А людзі пасміхаліся: у Сахуты дзеці голыя, а ён аддаў матэрыю...

Андрэйка пашкадаваў, што бацька не пакінуў сабе тую трубку паркалю, у яго зараз была б кашулька і штонікі лепшыя. А потым ён падумаў, што таго чалавека пасадзілі б у турму, а бацька яго выручыў. Значыць, гэта ж добра. Але чаму ж маці лае бацьку? Яна сама гаворыць Андрэйку, каб нідзе нічога не браў без дазволу, барані божа, нічога не краў — гэта вялікі грэх. Але калі ты знайшоў, то можна і не аддаваць. А больш за ўсё ўразіла малога, што людзі смяяліся з бацькі. Чаму? Няўжо кепска быць чэсным?

З гэтымі думкамі Андрэйка і заснуў. Прачнуўся

рана, бо ведаў, што сёння будуць касіць луг ля Бесядзі.

Той дзень урэзаўся маламу Сахуту назаўсёды.

Уранні, паснедаўшы, бацька з Васькам узялі косы і правулкам пакіравалі на балота. Васька ішоў гэтак важна і ўсё азіраўся: ці ўсе бачаць, што ён ідзе з касою, як дарослы. Яго старэнькая, вышчарбленая каса ззяла пад сонцам і, нібы люстэрка, рассыпала ў свет сонечныя блікі-зайчыкі. Калі Васька згледзеў, што за ім цікуе Хадорына Манька, то яшчэ болей заважнічаў, мацней сціснуў кассё, буркнуў на Андрэйку:

— Ты не блытайся пад нагамі, а то абрэжашся...

Малы Сахута не мог гэтага вытрываць і падбег да бацькі, узяў яго за руку.

Бацька шырока сігаў, але калі сын пайшоў побач, прыцішыў хаду.

— Ты хочаш на луг? Лепей бы дома пабыў... Хаця можна і на балота схадзіць. Толькі асцярожна хадзі, пакоша колецца. Ногі праб'еш. І нарыў можа быць.

— Не праб'ю. У мяне скура тоўстая. Задубела за лета, — запэўніў сын бацьку.

Андрэйка бачыў, што ў бацькі добры настрой, можа, ён радуецца светламу сонечнаму ранню, радуецца, што скончылася вайна, і ён застаўся жывы, будзе касіць свой луг, які ведае з маленства.

— Тата, а ты раней, калі малы быў, хадзіў басанож?

— Канечне. Ад снегу да снегу бегалі без абутку. Ды і не было, апроч лапцей, нічога.

На лузе ўжо збіраліся касцы, сядзелі каля новай лазні, што яшчэ будавалася, ніжэй кузні.

— Мацвей, заходзь, пачынай. Ты — касец хвацкі. А мы за табой, — пачаў мянташыць касу Арцём.

Бацька закасаў рукавы гімнасцёркі, пацямнелай ад поту на спіне.

— Пачынаць дык пачынаць. З расой лепей косіцца, — бацька зайшоў з краю.

Трава тут была даволі рэдкая — мятлюг, дзяцеліна, але каля зямлі засеў густы мурог.

Бліскучая бацькава каса нырнула ў траву і збіла яе ў ладны пракос.

Два сляды-палосы на мокрай жаўтавата-зялёнай пакошы пацягнуліся за бацькам. Каса, здавалася, сама лётала ў дужых руках. Заняў пракос і дзядзька Парфір, за ім, кульгаючы, сунуўся Арцём, потым Сямён-крамнік,

цыбаты Шкурдзюк, схіліўшы набок галаву, быццам прыглядаўся, як лаўчэй падрэзаць траву.

Пазнаў Андрэйка і настаўніка Пятра Еўдакімавіча Мамуту, той, як заўсёды, быў у ботах, галіфэ і фрэнчы, толькі гузікі расшпіліў. За ім ішло яшчэ некалькі незнаёмых мужчын, за якімі заўзята махалі косамі Васька і Віцька. Замыкаў чараду касцоў дзед Гылігор.

— Віцька, паглядзі, якая высокая травіна засталася. Можна цябе за ядры прывязаць. Ты не спяшайся. Раўней касі. Вышэй левую руку, пяткай прыціскай, — вучыў стары хлопца.

Віцька аж пачырванеў — гэтак стараўся, а Васька ўжо махаў, як дарослы, і пракосы ў яго былі роўныя, густыя.

Мужчыны перагаворваліся, жартавалі. Звонка хадзілі па косах мянташкі. Сонца прыпякала мацней, бацька ўжо зняў гімнасцёрку, плечы і выразы майкі на спіне і на грудзях былі чырвоныя ад загару. Зняў свой фрэнч і настаўнік. Андрэйка пакіраваў да Бесядзі, але яго спыніў моцны крык. Васька і Віцька галёкалі на ўвесь луг:

— Гняздо чмялінае. Гняздо...

Колючы ногі аб пакошу, падляцеў да іх Андрэйка.

— Я купіну кавырнуў касою, а адтуль чмялі як сыпануць! — узбуджана, захліпаючыся, расказваў Віцька, трымаючы ў руках гронку жоўта-белых сотаў і аблізваючыся.

Па Віцькавых руках цёк густы мёд. Лізаў соты і Васька. Адламаў ён пару ячэек Андрэйку.

— Еш прама з воскам. Бяры адразу ў рот, — Васька замахаў рукамі, нацягнуў на галаву кашулю, бо вакол яго віўся чмель.

Мёд быў гаркавата-салодкі, шчыпаў за язык, казытаў у горле. Шкада, было яго малавата.

— Там яшчэ ёсць у гняздзе. Але той з чарвой, — пашкадаваў Віцька, старанна аблізваючы пальцы.

Над купінай, дзе было гняздо, мітусіліся чмялі, быццам вырас цёмны слупок. Дзед Гылігор, адмахваючыся пучком мятліка, абкасіў купіну, пайшоў далей.

— Хлопцы, дос лынды біць! Бярыцеся за косы.

К вечару ўсё балота было выкашана, зрабілася яно незнаёмае, шэра-зялёнае. А раней было столькі красак: жоўтых, зялёных, чырвоных і белых...

Праз дзень балота ўкрылася белымі хусцінкамі жан-

чын — яны прыйшлі з граблямі, спачатку падварушылі сена, а надвячоркам пачалі складваць у копы.

Была на лузе і Андрэйкава маці. Ён любаваўся, як яна выкладвала копы. Рабіла спачатку круг з сена, потым усярэдзіну прыносіла вялікае бярэма, затым радком абкладвалі сенам вакол і зноў усярэдзіну.

Вольга паднімала на плечы вялізныя бярэмы, амаль цэлыя копы. Калі яна несла сена, то былі відаць толькі яе дужыя загарэлыя ногі, і здавалася, што капа сама рухаецца па лузе.

Не адставалі ад Вольгі Хадора і Параска, і копы, нібы грыбы, вырасталі на балоце.

Андрэйка з радасцю таксама бегаў, носячы абярэмцы шапатлівага, духмянага, цёплага сена. Сухія кветкі расціраліся, труха сыпалася за каўнер, казытала шыю, прыліпала да мокрага ад поту цела. Ён так захапіўся, што нават не чуў, як пакоша калола яго босыя ногі, але войкнуў і заскакаў на адной назе, калі прабіў пятку на нейкую патырчаку.

— Прабіў-такі нагу? — спытала маці. — Дабегаўся. Я ж табе казала, строгенька хадзі.

— Не, не прабіў. Калянуў троху, — супакоіў ён маці. — Пайду да Бесядзі. Памыюся.

Андрэйка ішоў між пракосаў, дзе зрэз травы быў трохі вышэйшы, і не так балюча было ступаць. Падышоў да ракі, пазнаў тое месца, дзе яны прычальвалі плыток лесу мінулаю восенню. Цяпер тут скрозь стаялі плыты, вялікія, і дрэвы тоўстыя.

Часта з хлапчукамі Андрэйка бегаў па бярвенні, пераскокваючы з плыта на плыт. Бярвенні зыбаліся пад нагамі, круціліся ў вадзе. Здаралася, што, не ўтрымаўшыся, хлапчукі давалі нырца з плытоў. Адзін Андрэйка пабаяўся скочыць на плыт, бо плаваць яшчэ не ўмеў. Вось ля пераходу, дзе Бесядзь шырокая, плыткая, ён мог боўтацца смела, палохаючы чароды малявак. Ледзь не да самага берага падплывалі печкуры, тупымі шыракаватымі пыскамі торкаліся ў пяску.

Вада была цёплая і такая чыстая, што добра відзён кожны каменьчык, кожная рыбка, нават маленькая. Ужо бралася на вечар, ад вады падымалася рэдзенькая пара і рухалася над вадой уніз па цячэнні.

Андрэйка памыў ногі, ставячы то адну, то другую на камень, макаўка якога выступала з вады. Прабітая пятка зашчыпала, але кроў перастала цячы.

«Загоіцца. Падумаеш, драпіна. Вунь цыпкі якія былі. Усе ногі ў трэшчынах, а загаіліся», — думаў Андрэйка.

О, гэтыя цыпкі! Сёлета яны даліся ў знакі. Як толькі растаў снег, Андрэйка пачаў лётаць басанож. Ад вады, гразі і ветру ногі ледзь не да каленяў былі спрэс у чырвоных рысках-трэшчынках. Як намочыш, дык хоць крычы ад болю. Асабліва ўвечары, калі кладзешся спаць, ды спраўляючы малую патрэбу, неўспадзеўкі капнеш на нагу — аж заякочаш ад пякучага болю.

Маці налівала Андрэйку цёплага сырадою, каб памачыў ногі, мазала іх здорам. Але гэта мала памагала. Найлепшы сродак параіў Паўлік: ён даў салідолу, якога набраў ля трактара цэлую бляшанку. Густая, як студзень, белавата-рудая смярдзючая мазь дапамагла. Напачатку ногі моцна смылелі, але затое праз тры дні цыпкі зніклі. Потым балота высахла, дні стаялі гарачыя, скура задубела на сонцы, і болей цыпак не было.

Вось і рана на пятцы, здаецца, засохла. Над скошаным лугам, густа застаўленым духмянымі копамі сена, узнялася песня: жанчыны ішлі дамоў і спявалі.

Туман ярам, ярам-даліною,
Туман ярам, ярам-даліною.
За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зеляногa...

Высокі чысты голас пачаў неяк нерашуча, сцішана. Каб не такая звонкая вечаровая цішыня, то Андрэйка і не пачуў бы, як нараджалася песня. А потым звонкія моцныя галасы дружна падхапілі:

За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зеляногa...

Апошнія словы «дуба зеляногa» нейкая пявунння вывела гэтакім высокім голасам, што Андрэйка прыцішыў хаду, баючыся, што песня вось-вось абарвецца. Але дружны хор грымнуў з новаю сілаю:

Пад тым дубам крыніца стаяла,
Там дзяўчына воду набірала...

Андрэйка памалу клыпаў услед за жанчынамі, ступаючы параненай нагою толькі на пальцы. Перад вачамі ён бачыў магутны высозны дуб, падобны на той, пад якім хаваліся тады ў лесе, калі прыйшлі нашы. Убачыў ён і крыніцу, хоць добра памятаў, што пад тым дубам

яе не было. Мо яе выкапаў там хто? Але яна бачылася яму старой, бярвенцы зруба пазелянелыя ад часу, акурат гэтакія, як у знаёмай крыніцы ля правулка, да якога ён набліжаўся.

Жанчыны ля кузні падзяліліся на некалькі груп: адна пакіравала на Канчанскі бок, другая ішла прама да бліжэйшых зямлянак, а трэцяя звярнула на Шамаўку. Андрэйка падумаў, што жанчыны далі кругаля, бо маглі адразу павярнуць, не даходзячы кузні, напраасткі. Няўжо яны не стаміліся за дзень? І ўсё ж, мусіць, ім хацелася ісці разам і давесці песню да канца.

У тое лета Андрэйка наслухаўся песень, як ніколі да гэтага. Надвечар песня ўспыхвала то над полем, то дзесьці выпырхвала з лесу: ішлі малыя дзяўчаткі з ягад.

Спявалі ўсе тады: і старыя і малыя.

А калі цямнела, песні гучалі і ў Канчанскім баку, і на Шамаўцы: каля зямлянак на лавачках сядзелі дзяўчаты, адмахваліся ад камароў, спявалі, звонка смяяліся.

Багата дзяўчат і хлопцаў збіралася каля Арцёмавай хаты. Быў тут і Васька. Хлопцы адчайна дымілі самакруткамі, бо ў краме цяпер было поўна махоркі. А некаторыя мужчыны садзілі табаку на градах. Расла яна і ў Арцёма. Васька цішком здабываў сабе курава тут: зрываў два-тры лісты, шырокія, бы капусныя, сушыў на чарэні, потым крышыў кінжалам. Недзе ён раздабыў нават зялёную партабачніцу з двума ражкамі, якія закручваліся накрыўкамі. Курыў Васька толькі ўвечары, калі не было паблізу ні бацькі, ні маці. Андрэйку ён прасіў не гаварыць пра гэта дарослым, і малы бярог братаву тайну.

Андрэйка ўжо тэпаў па халаднаватым пяску правулка, калі з вуліцы сюды павярнула Марына. У адной руцэ яна несла два пустыя вядры, у другой — каромысел, доўгі, выгнуты, з зарубкамі на канцах. Малы ўзрадаваўся, пайшоў з ёй назад, да крыніцы.

Марына спыталася, чаму ён кульгае, і сказала, што ранку трэба памазаць ёдам.

— А шчыпаць будзе? — занепакоіўся Андрэйка.

— Трохі пашчыпле, затое нарыву не будзе.

Гэта супакоіла Андрэйку. Яму захацелася ўзяць Марыну за руку, але спачатку ён папрасіў паднесці каромысел. Сястра не пярэчыла. Андрэйка ўзяў гладкі,

выслізганы рукамі да бляску каромысел на плячо і важна сігаў побач з Марынай.

А потым ішлі назад, дамоў. На каромысле ціха зыбаліся паўнюткія як вока вёдры. Марына ішла даволі хутка, але вада не пралівалася.

«Вырасту, навучуся насіць ваду. Каб не разлівалася. Буду памагаць маці. Ды і Марына ж прыйшла з дзяжурства, стамілася», — падумаў Андрэйка.

Падумалася пра школу, бо сёлета ўвосень ён пойдзе вучыцца ў першы клас. Вялікае жаданне навучыцца пісаць, прачытаць багата кніг ужо даўно жыло і мацнела ў яго маленькім хлапечым сэрцы.

## XXXV

Неяк на пачатку лета Чэпікава паклікаў да сябе ў райвыканком Пракапенка. З насцярогаю, боязна пераступіў намеснік упаўнаважанага па нарыхтоўках парог кабінета. Пракапенка падняўся насустрач, моцна пацiснуў руку.

— Ну, як табе працуецца?

— Ды так, Антон Яўсеевіч, па-рознаму. Вы ж ведаеце нашу кантору. Шуруем...

— Ведаю, Сцяпан Ігнатавіч. Хлеб нялёгкі. Сям'я яшчэ ў вёсцы?

— Перавёз. Знялі пакойчык у адной бабулі.

— Гэта мы вырашым. Кватэру дамо ў бліжэйшы час, — Пракапенка памаўчаў, быццам даваў магчымасць абдумаць пачутае. — Сцяпан Ігнатавіч, ёсць такая прапанова. Хочам даручыць табе адказную пасаду — дырэктара «Сельгасбанка», — Пракапенка зноў памаўчаў, уважліва зірнуў на субяседніка.

— Пасада і праўда адказная, — пачаў Чэпікаў, але Пракапенка перапыніў яго:

— Ты пачакай, не спяшайся з адказам. Канечне, давядзецца мець справу з грашыма. І не малымі. Дзяржава выдзяляе нашаму раёну трыста тысяч рублёў на дапамогу пагарэльцам. Значыць, патрэбен чэсны чалавек. І з галавою. Вось мы тут думалі і вырашылі, што твая кандыдатура найлепш падыходзіць. Раю і табе падумаць. Прычым думаць нядоўга. Заўтра бюро райкома.

— Так нечакана. Ёсць над чым падумаць.

— Падумай. Схадзі дамоў, з жонкай пагавары. Аклад тут будзеш мець большы. І самастойнасці, вядома, болей. Сам сабе галава... Чакаю цябе, — старшыня выцягнуў круглы бліШчасты гадзіннік на ланцужку, — пасля пяці. Дакладней, а палове шостай. Я табе раю згаджацца.

Слухаючы Пракапенку, Чэпікаў мысленна пагадзіўся ўжо з тым, што трэба прымаць новую пасаду, тады ён выйдзе з-пад уціску Крупадзёрава, замест таго каб збіраць з людзей падаткі, будзе памагаць ім. Хаця былі і сумненні, і страх: вялікія грошы — вялікая і адказнасць. Ці зможа ён? Ці хопіць адукацыі, ведаў? Але ў яго было яшчэ тры гадзіны на роздум.

Чэпікаў выйшаў на вуліцу, павярнуў у бок сваёй кватэры. Ён жыў у драўляным доме на краі горада. Далей густа зелянелі могілкі. Дома была толькі гаспадыня, старая жанчына, якая чакала сына з вайны, апошняга — на двух атрымала пахаронкі. Жонка яшчэ не вярнулася са школы, дзе ўладкавалася настаўніцай. Чэпікаў быў памкнуўся ў школу, каб там пабачыцца з жонкаю, але перадумаў: хацелася спачатку абдумаць самому, і павярнуў за горад, у поле.

Ішоў павольна, гледзячы ўніз на пясчаную дарогу. Каля могілак прыцішыў хаду, і нечакана яго пацягнула туды, хоць на гэтых могілках ніхто з яго знаёмых, сваякоў не быў пахаваны. Магчыма, яго прывабіла цішыня ў засені дрэў, дзе толькі хрыпата каркалі, бы перамаўляліся, гракі, зрэдку падавалі голас галкі, безупынку цвіркалі вераб'і, цененька азвалася сініца.

Могілкі знаходзіліся на пакатым круглым узгорку і былі відаць здалёку, бы зялёная шапка. З гэтага боку, ад гарадка, прыляпілася між дрэў невялічкая драўляная царква, невысокі яе купал, даўно не фарбаваны, абшарпаны, аголены, безабаронны, блякла жаўцеўся на сонцы.

Чэпікаў і сам не ведаў, чаму павярнуў сюды. На могілках ён заўсёды адчуваў сябе сцішана-задуменным, супакоеным, усе клопаты здаваліся дробязнымі, мітуслівымі, бо колькі жыло людзей да цябе, якія даўно спяць вечным сном пад курганкамі, пазначанымі збуцвелымі, парослымі зеленаватым мохам крыжамі. Шмат было і свежых крыжоў, абвязаных скручанымі ветрам і дажджом ручнікамі.

Вайна яшчэ збірала даніну: тыф, раненні, голад,

нястача касілі людзей без разбору — і малых, і старых, былых франтавікоў і партызанаў. Ім ужо нічога не патрэбна: ні дапамога, ні спагада. Яны аджылі, адшумелі, адлюбілі, а некаторыя нават і не расцвілі.

Вечная таямніца жыцця. Дзіва, што цягнуцца людзі да царквы, бо хочацца верыць, што ёсць жыццё і на тым свеце, што і там сустракаюцца знаёмыя і блізкія. «Каб жа знаццё, што там можна сустрэць сваіх — і татачку, і мамачку, і Дзёмку сыночка, дык бы і паміраць не страшна было. Як у госці б пайшоў...» — даўно ён чуў гэтыя словы ад маці, а во ўрэзалася ў памяць і раптам неспадзявана ўсплыло.

У канцы дня, як і дамовіліся, ён быў у кабінеце старшыні райвыканкома.

— Думаў я, думаў і вырашыў... — тут ён зрабіў паўзу, нібы яму не хапіла паветра. Пракапенка насцярожыўся, востра зірнуў на яго. — І вырашыў згадзіцца...

— Значыць, правільна думаў, — шырока ўсміхнуўся Пракапенка. — Заўтра зацвердзім цябе на бюро, і бярыся за работу. Больш як тры тысячы хат спаліў немец. Маем права даваць пагарэльцам крэдыту да дзесяці тысяч. З выплатаю на дзесяць год. Вялікія грошы выдзяляе дзяржава. Адрывае ад рабочых, калгаснікаў. Ад усіх. Твая задача, каб гэтыя сродкі былі выкарыстаны па-гаспадарску. Каб не трапілі ў рукі хапугаў, былых кулакоў і рознай сваласты...

Першыя дні Чэпікаў знаёміўся з паперамі, што былі падпісаны да яго, але паток новых папер літаральна захліснуў. Ад сельсаветаў ішлі просьбы на дапамогу пагарэльцам. Прашэнняў гэтых было багата. Неабходна за ўсім прасачыць: ці правільна аформлены дакументы, трэба было прымаць людзей, выслухваць іх скаргі.

Праз месяц-два трохі асвойтаўся, пабываў у многіх сельсаветах. З вобласці прыязджаў ягоны начальнік Кузьма Іванавіч Стрыгалёў. Гасцініца даваенная ў Лабанаўцы згарэла, новай яшчэ не пабудавалі. Давялося Чэпікаву весці госця да сябе на начлег. Абвёў вачамі Кузьма Іванавіч цесны катух, пасёрбаў капусты з бульбаю — як на грэх, у той дзень нават хлеба не было.

— Бедна ты жывеш, браце, — уздыхнуў Кузьма Іванавіч. — Вазьмі ты сабе ссуду. Ну, тысячы на тры-чатыры, і абжывайся як след.

— Як жа я вазьму? На якой падставе?

— Дадзім тэлеграму з вобласці, што табе дазваляецца. Жыць у такіх умовах і цягнуць такую ношку... Кватэру трэба, адзенне таксама трэба. І на стале каб сёе-тое мелася. Вось такім чынам.

І сапраўды праз тыдзень прыйшла тэлеграма. Адлічыў сабе Чэпікаў чатыры тысячы, распісаўся ў паперах. Жонка пачала часцей заглядваць на базар, а бацька Чэпікава ўзбіўся на карову.

Бываючы на раёне, Чэпікаў прыкмячаў, як увачавідкі абжываліся людзі, былыя пагарэльцы. Дапамагала ўся краіна. З Іванаўскай вобласці прыгналі паўтараста кароў у раён, а з Архангельскай вобласці дзесяць тысяч кніг прыслалі.

Па вуліцах важна расхаджвалі свінаматкі ў акружэнні порсткіх сысункоў. Парасяткі былі найбольш рабенькія, паласатыя, з доўгімі лычыкамі. У прыбяседскіх лясных вёсках тутэйшыя хрyчкі не грэбавалі знаёмствам з ляснымі дзікамі-кавалерамі, і як вынік гэтых сустрэч была жывучая парода паласата-рабога свінства.

Жыццё ўваходзіла ў каляіну. На традыцыйныя летнія кірмашы ў Саковічы прыязджалі пакупнікі нават з суседняй Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. Яны прывозілі і свае тавары, найбольш сёе-тое з адзежы, а назад у мяшках і скрынках везлі парсючкоў, якія ўбачылі свет у Прыбяседдзі.

Чэпікаў асабліва радаваўся, калі бачыў у вёсках новыя хаты, ужо гатовыя, і тыя, што яшчэ будаваліся. Здаралася, пытаў у цесляроў, чыя гэта хата, ці браў гаспадар пазыку «Сельгасбанка». І часта чуў у адказ: калі б не пазыка, то і сядзелі б яшчэ ў зямлянцы. Такія словы былі яму як мёдам па душы.

Нeяк пад вечар Чэпікаў убачыў Даўгалёва, які са старым пацёртым партфелем таропка выходзіў з кабінета.

— Куды сабраўся? — гукнуў Чэпікаў.

— Паеду ў Хатынічы. Даўно ўжо дома не быў. Як там матка жыве?

— І мне б трэба падскочыць у вёску.

— Паехалі. Гэта ж па дарозе. Весялей будзе.

— Слухай, Касьянавіч, ёсць такі варыянт. Заедзем да мяне на кватэру, каб жонка ведала, дзе я падзеўся. Сёе-тое з сабой прыхаплю. І цераз Васілёўку выедзем на шлях. Ну, дык як?

— Сядай. Што з табой зробіш? Разбойнік ты гэткі. Збіваеш мяне з маршруту.

— Затое ж весялей будзе ехаць. Ты ведаеш, за кампанію і цыган павесіўся. А чуў, як мужык цыгана частаваў свежынаю? Насмажыў мужык пячонкі, лёгкага, вантрабянку-крывянку зрабіў. Ну, і скварак падсмажыў. Цыган усё скваркі цягае, аж тлушч па барадзе цячэ. Мужык і кажа: «Ты бяры крывянку, лёгкае». — «А мне, бацю, і гэта не цяжкае», — адказвае цыган і ўсё скваркі цягае.

— Будзеш дражніць мяне скваркамі, высаджу. Я сёння не абедаў.

— Заедзем да бацькі, перакусім.

— Ну калі так, то паедзем хутчэй, — Даўгалёў сцёбнуў пужкай коніка, той адмахнуўся хвастом, але ход прыбавіў, аж заёкала яго селязёнка.

Бацька Чэпікава быў вельмі рады, што сын дапамог прыдбаць кароўку, шчыра частаваў гасцей. Уранні Даўгалёў угаварыў Сцяпана паехаць з ім у Хатынічы, балазе гэта рукою падаць — сем вёрст. У Хатынічах прабылі нядоўга. У Даўгалёва разбалелася нага, адчуваў ён сябе зусім блага.

Праўда, перад маці стараўся выглядаць малайцом, нават кульгаў меней, а як выехалі за вёску, не стрымаўся, зморшчыўся ад болю.

— Што з табой, Касьянавіч? — устрывожыўся Чэпікаў.

— Нага, каб яе ліха... Як сабакі рвуць яе. Ведаеш, чаму я спаў сянні ў штанах? Не магу іх надзець без жонкі. Лячыцца б трэба. А за што паедзеш? — уздыхнуў Даўгалёў.

— Давай аформім табе пазыку. Памалу выплаціш, — Чэпікаў быў так удзячны начальніку, які дазволіў узяць яму невялікі крэдыт, у вушах яшчэ стаялі цёплыя бацькавы словы — так дзякаваў за падмогу, што яму хацелася памагчы і свайму сябру.

— Я ж не пагарэлец. У цябе ж «Сельгасбанк». Для вяскоўцаў.

— Маці ж твая жыве ў вёсцы. Хатынічы згарэлі. Гэта ўсе ведаюць. За дзесяць гадоў выплаціш. Галоўнае во цяпер вывернуцца, падужэць.

— Дзякуй, Сцяпане. Мусіць, не варта гэта рабіць. Пачнуцца размовы. Языкамі абмываць будуць...

— Ты ж франтавік, паранены. Ледзьве ходзіш. Язы-

коў спужаўся. Скажы маці, угавары яе. Афармляй паперы...

Не думаў тады Чэпікаў, чым гэта скончыцца. Праз нейкі час выклікаў яго Пракапенка і адразу пачаў распякаць. Ніколі не бачыў Чэпікаў старшыню райвыканкома такім сярдзітым і злосным:

— Падвялі вы мяне пад манастыр. Як можна было зрабіць такое? Я лічыў вас чэсным, сумленным чалавекам. А вы?

— Антон Яўсеевіч, у чым справа? Здаецца, я нічога не ўкраў.

— Ён яшчэ прыкідваецца нявіннай авечкай! Мала таго што сам незаконна ўзяў пазыку, дык і Даўгалёва, дружка свайго, забяспечыў!

— Хто вам сказаў, што незаконна? У мяне ёсць дазвол. Тэлеграма з вобласці. Магу паказаць...

— Пракурору будзеш паказваць. Разам з Даўгалёвым.

— Пры чым тут Даўгалёў? Пазыку далі ягонай маці, калгасніцы. Хата яе згарэла. Усё аформлена правільна, — пасмялеў Чэпікаў і ўжо адважыўся падняць вочы на Пракапенку.

— Усё, кажаш, правільна? Тады іншая справа. А то нехта напісаў ананімку ў райком партыі, што направа і налева раздаеш дзяржаўныя грошы. Акапян усхадзіўся. Пад суд, нягодніка. За Дом культуры ён атрымаў вымову. Дык цяпер ходзіць злы... Ну, калі ў цябе ёсць дазвол... А Даўгалёву я б сам не адмовіў. Ледзь ходзіць чалавек. Трэба б пасласць яго на лячэнне... Працуе, стараецца...

— Ды ён і не прасіў. Я сам прапанаваў аформіць на маці.

— Ах, добрая душа. Значыць, сапраўды раздаеш дзяржаўныя грошыкі. На будучае ўлічы. Інакш не мінуць табе каталажкі, — у голасе Пракапенкі ўжо не было ранейшай злосці.

Ён зразумеў, што абвінавачванні не сур'ёзныя, што дырэктар «Сельгасбанка» ніякі не злачынец. Але зразумеў ён і тое, што прачуханка для прафілактыкі не зашкодзіць, і таму доўга «ўстаўляў мазгі» Чэпікаву, пакуль не перапыніў яго тэлефон. Хмурны, заклапочаны, ён зняў трубку.

— Слухаю! Хто? Васіль Пятровіч! Здароў, браце! Даражэнькі ты мой, — вусаты твар Пракапенкі рас-

плыўся ва ўсмешцы, здаецца, аж засвяціўся ад радасці, стаў мяккім, добрым, па-мужчынску прыгожым.

Чэпікаў падзівіўся, як можа раптам змяніцца чалавек, яго настрой. «Старшыні трэба часцей усміхацца, ён тады прыгажэе», — падумаў Чэпікаў і ціха ўзрадаваўся, бо зразумеў, што на гэтым прачуханка скончылася, навальніца прайшла міма.

Ён быў падняўся, каб выйсці, не замінаць размове, але Пракапенка махнуў рукой зверху ўніз, маўляў, сядзі і не рыпайся.

— Дык адкуль ты ўзяўся, Васіль Пятровіч? У Магілёве? Што ты кажаш? Ну, віншую. Рады за цябе. Расцеш. Загадчык аддзела абкома... Можа, цяпер на «вы» цябе велічаць? Ды я жартую. Зрэшты, калі на кавёр паклічуць у абком, то, факт, давядзецца «выкаць»... Як нашы справы? Памалу абжываемся. Так сказаць, залізваем раны...

Чэпікаў зразумеў, што звоніць Лугаўцоў, які быў у Лабанаўцы першым сакратаром райкома і якога ён, Чэпікаў, не бачыў ні разу, але вельмі многа чуў пра яго: і ад былых партызан, і ад раённых кіраўнікоў, ад простых вяскоўцаў.

Пракапенка закончыў размову па тэлефоне, падняўся з-за стала, узрушана захадзіў па кабінеце, на момант нібы забыўшыся на Чэпікава. Потым наліў шклянку вады, выпіў адным духам.

— Ці ведаеш, хто званіў? — павярнуўся да Чэпікава. — Хаця ты ж пры ім не працаваў...

— Я здагадаўся, Антон Яўсеевіч. Дык што, Лугаўцоў цяпер у абкоме будзе?

— Угадаў. Загадчыкам сельгасаддзела. Сакратарыят ён прайшоў. Днямі пленум збіраецца... Там і сустрэнемся. Год не бачыліся. Мы ж партызанілі разам. І тут пасля вызвалення працавалі. Самы цяжкі час перажылі... — Пракапенка ўздыхнуў, твар яго зноў нахмурыўся. — Ну, дык ты ўразумеў, што так рабіць нельга? Пытанні ёсць?

— Усё ясна, Антон Яўсеевіч. Усёк. Дзякуй вам за гутарку...

— Дык вось, Сцяпан Ігнатавіч, каб такой гутаркі болей у нас не было. Ідзі працуй. — Пракапенка падаў руку, і Чэпікаў з удзячнасцю, з унутраным хваляваннем, з нейкім пачуццём павагі і цеплыні, акурат як да роднага бацькі, паціснуў шыракаватую цвёрдую далонь.

## XXXVI

Дзень быў гарачы. На мутна-бялёсым небе не віднелася ніводнай хмурынкі. Маці жала сваю пшаніцу на гародзе. Андрэйка зносіў снапкі і ставіў іх у абабкі, каб хутчэй падсохлі. У збажыне безупынку цвіркаталі конікі. Маці ў шырокай доўгай спадніцы з цёмна-сіняй крамнай матэрыі, у белай кужэльнай кашулі, вышытай чырвонай і чорнай заблыццю — рукавы ад пляча і да запясця стракацелі вясёлымі кветкамі, — увішна махала серпікам.

Андрэйка ў адных палатняных пасіненых штоніках, якія сама шыла маці. У іх добра і лёгка хадзіць, не горача, адно матня-сесла трохі боўталася між ног. Але так шылі ўсе вясковыя жанчыны, некаторыя мужчыны і хлопцы трэслі сесламі з яшчэ большым запасам. Маці была ў добрым гуморы, ціха спявала:

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала...
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта дажала...

— Мам, ты ж яшчэ не дажала. Толькі пачала, — запярэчыў сын. — І не жыта ў нас, а пшаніца.

— Гэ, сынок мой дарагі, абы добры пачатак, дык будзе і канчатак. Калі дожджык не прагоніць, то і дажнём сянні, — маці разагнулася, зірнула з-пад рукі на неба. — Нешта за Бесяддзю сінееца. Каб ён не падмачыў нас, дажджуган.

Маці спрытна скруціла вязьмо, звязала новы снапок і зноў заспявала:

Пеpажані, божа, хмаркі,
А-эй, пеpажані, божа, хмаркі
На чужую староначку,
Дзе пажалі, пакасілі
Ды снапочкі павязалі.
У нас не жата, не пажана
Да ў гуменца не звожана...

Андрэйка разумеў: маці радуецца, што цяпер у іх будуць бліны хоць штодзень, і крупеня пшанічная, а ён так любіць яе. І Васька вельмі любіць, той можа дзве міскі адразу з'есці. Крупеня да абеду стаіць у печы, зверху зацягваецца жоўта-ружоваю пенкай. За яе часцяком дзеці сварыліся. Калісьці надта любіў пенку Коля...

«Хутчэй бы матка зварыла крупеню», — думаў Андрэйка, носячы снапы.

— Дзетка, ступай строгенька. Каб нагу не прабіў, — маці з любасцю пазірала на сына, як той цягнуў сноп, і зноў ціха заспявала.

Андрэйка зірнуў на маці, калі яна разагнулася, каб перавязаць сноп. «Прыгожая наша матка. Добрая, ласкавая. Спявае так хораша... Добра жыць на свеце», — думаў малы, асцярожна ступаючы па ржышчы, абыходзячы калючыя кусцікі асоту.

Хмара павуркатала над лесам і знікла. «Пайшла туды, дзе пажалі, пакасілі... Паслухалася маёй маткі, яе песні», — думаў Андрэйка і яшчэ болей радаваўся пагодліваму дзяньку.

А потым маці з Марынай пранікамі абмалацілі снапкі, падсушылі зерне. Васька з Андрэйкам атрымалі даручэнне — намалоць мукі. Ледзь не паўдня круцілі жорны хлапчукі. Андрэйка стаяў бліжэй да парога, левай рукою трымаўся за прабой, а правай памагаў Ваську. Напачатку здавалася, што гэта лёгкая работа: круці сабе, назірай, як сыплецца мука, падсыпай у ступку зерне.

Першы раз, калі зерне цэлае, мелецца яно буйна, на крупы, жорны грукочуць, трушчаць пшаніцу, але круцяцца лёгка, бы на падшыпніках-роліках. Потым гэтыя крупы-субар засыпаліся другі раз, жорны цішэй грукочуць, круціць іх намнога цяжэй. Тут хлопцы перадыхаюць усё часцей. Нарэшце Васька кажа:

— Жэўжык, пачысці савок. Я буду адзін малоць. А то жорны круці. І цябе цягай...

— Няпраўда, я кручу з усяе сілы, — крыўдзіцца малы.

— А сілы ў цябе малавата. Як кот наплакаў. Чысці савок, аграбай муку, — тонам загаду гаворыць Васька.

Чысціць савок зусім лёгка. На ім, саўку, бывае асядзе слой мукі, затым — другі. Варта стукнуць кулачком, і мука пасыплецца ў рэшата. Тут яе трэба разгарнуць, а то яна будзе высокай горкай, аж цераз край можа рассыпацца.

Хлопцы змалолі ўжо тры ступкі, калі прыйшла з поля маці: жала калгаснае жыта. Твар у яе быў чырвоны, скура на грудзях і на спіне, дзе ў кашулі выраз, таксама чырвоная, а вусны сасмяглыя.

— От малайцы, дзеткі. Ета столькі ў нас мучыцы, —

яна прысела, шыракаватаю далонню, цёмнай ад бясконцай працы, ад сонца і ветру, пагладзіла муку, разгарнула па рэшаце, пад ім стаялі невялічкія драўляныя ночвы, каб нічога не сыпалася міма. — Адкапаю троху бульбы. І заўтра напячэм праснакоў.

— А чаму не хлеба? — спытаў Андрэйка.

— На хлеб, сынок, трэба яшчэ болей мукі. А колькі таго зерня ў нас? Зіма ж, сібірніца, прыйдзе... Праснак з бацвіннем — таксама добра. Гарбузы скора пачнём варыць.

— О, ета я люблю! — усклікнуў Васька.

— Ведаю, Васілёк, што ты любіш гарбузы. Сама не дачакаюся, калі яны падрастуць.

— Пайду пашукаю. Ля мяжы адзін ужо ладны. Вось такі, — Васька развёў рукі, паказваючы, які вялікі гарбуз, і для пэўнасці дадаў: — З маю галаву ўжо вырас.

Маці не пярэчыла, і Васька сігануў за парог. Андрэйка памчаў услед. Яны абышлі ўсе межы, гарбузы былі маленькія, па кулаку, мяккія, белавата-зялёныя, яшчэ і ссохлы цвет не абляцеў.

— Дзе ж той гарбуз? Я ж бачыў, — разгублена аглядаў бульбоўнік Васька. — Відаць, на ўскладзе...

Па ўскладзе — разоры пасярод сядзібы, хлопцы дайшлі амаль да самай дарожкі, і тут між высокага радкаватага бульбоўніку ляжаў цёмна-зялёны паласаты гарбуз. Васька павярнуў яго — бок ад зямлі быў жоўта-белы, калупнуў пазногцем.

— Цвердаваты! Ура, Жэўжык, можна адарваць!

Андрэйка таксама хацеў калупнуць пазногцем, але ці гарбуз сапраўды быў цвёрды, ці пазногці слабыя, нічога ў яго не атрымалася. Васька адарваў ад тоўстай шурпатай касы гарбуз, ускінуў яго на плячо, азірнуўся:

— А ета ж тое самае месца, дзе немец пахаваны...

Малому адразу зрабілася вусцішна. Ваську, мабыць, таксама, бо хуценька засігаў дамоў. Андрэйка не мог ісці ззаду — баяўся. Блытаючыся па бульбоўніку, забег наперад брату, бо яму здавалася, што немец бяжыць услед і гергеча: «Аддайце мой гарбуз».

Маці здзівілася, убачыўшы гарбуз, ды такі ўжо вялікі.

— Хай ён паляжыць да рання. Заўтра яго разрэжу. А то завяне, засохне.

Андрэйку карцела сказаць маці, на якім месцы вы-

рас гарбуз, але Васька тузануў яго за рукаў, прыклаў палец да вуснаў — маўчы, а сам важна прамовіў:

— Не забудзь семкі выбраць. Можа, яны паспелі ўжо...

— Выберу, а як жа. На скавародку і ў печ. Хай сушацца, — супакоіла яго маці.

Ноччу Андрэйку прысніўся сон. Нібыта ён пасвіць бычка на выгане. Ужо вечарэе, сонца чырвонае вісіць над Бярозавым балотам. Раптам бачыць — едуць немцы на фурманцы. Конь здаравенны, высокі, з кароткім рухвастом. Немцы ў зялёных касках, з аўтаматамі ў руках, на возе гарбузы паласатыя, падобныя на чалавечыя галовы, абкручаныя скрываўленымі бінтамі.

Раптам фурманка спынілася, немцы (іх было трое ці чацвёра) пасаскоквалі, загергеталі. Адзін з іх кліча Андрэйку: «Ком, ком!» — і пальцам ківае.

Андрэйка ідзе да немца, а ногі не слухаюцца, падгінаюцца, як ватныя. Падыходзіць бліжэй, бачыць, што яны стаяць над забітым фрыцам. У пасінелым роце мёртвага немца тырчыць бурак.

— Ты забіў, яго! — крычыць афіцэр у высокай фуражцы і цэліцца ў Андрэйку з вялікага самапала.

— Я не забіваў! Я яшчэ малы. Я не ўмею страляць... — крычыць немым голасам Андрэйка і з усіх ног кідаецца бегчы.

Услед чуюцца стрэлы, кулі, як жукі, гудуць ля вушэй, гарбузы коцяцца за імі, скуголяць па-сабачы і разрываюцца. Чырвоная мякаць, бы згусткі крыві, ляціць ва ўсе бакі, семкі, акурат асколкі, ссякаюць бульбоўнік, траву. Адзін гарбуз разарваўся пад нагамі ў Андрэйкі, хлапчук бухнуўся ў ямку. Ён спрабаваў выбрацца з яе, караскаўся з усіх сіл, пясок сыпаўся ў вочы, у рот. І Андрэйка разам з пяском спаўзаў уніз. Па краях ямы ўгары стаялі немцы і рагаталі, гледзячы на яго. Адзін немец дастаў губны блішчасты гармонік і пачаў іграць «Лявоніху». Андрэйка зноў адштурхнуўся ад зямлі і палез угару, зрываючы пазногці, задыхаючыся ад пяску. І зноў зваліўся на дно ямы. Немцы яшчэ мацней зарагаталі. Тады Андрэйка схапіў жменю жвірыстага пяску і з усяе сілы сыпануў у вочы таму, што іграў на гармоніку. Сыпануў — і прачнуўся.

Спачатку ляжаў, баючыся паварухнуцца, слухаў, ці не пачуюцца стрэлы. Але вакол было ціха, звонка заспяваў ля хаты певень, у акно свяціла сонца. Андрэйка

пасмялеў, хуценька нацягнуў штонікі — спяшаўся пабачыць, як маці будзе разразаць гарбуз. Раптам у ім акажуцца не белыя семкі, а кулі ці асколкі.

Маці кроіла ў сенцах распалавінены гарбуз на доўгія, выгнутыя, як месячык, шкрылі, здымала цвёрдую скуру, разразала шкрылі на кароткія кавалкі, укладвала іх у чыгунок. Потым заліла вадой, сыпанула трохі пшанічных зярнятак, патоўчаных у ступе. Калі гарбуз зварыцца, можна наліць малака і яшчэ паварыць. К абеду суп разварыцца, белы, з сонечна-жоўтымі кавалкамі салодкага гарбуза, ён будзе надзвычай смачны.

А семкі яшчэ не даспелі — драбнаватыя, слізкія, з саладкаватым малачком, якое яшчэ не зацвярдзела, яны коўзаліся ў роце, і ніяк іх было не злавіць на зуб.

— Паставім іх у печ. Хоць і пуставатыя, ды можна будзе пазабаўляцца, — маці высыпала семя на патэльню.

— А я сон бачыў страшны, — гледзячы на маці, сказаў Андрэйка.

— Што табе прыснілася?

— Немцы. Я пасвіў бычка на выгане. Раптам едуць немцы... — не павярнуўся Андрэйкаў язык сказаць пра тыя гарбузы на возе. — Немцы хацелі адабраць бычка, а я як закрычу: «Не дам! Не чапайце!» І прачнуўся.

— Ну і добра, што бычка не аддаў. Ён нам самім спатрэбіцца. Васька пагнаў яго на балота... А немцаў не пужайся. Вайны ўжо няма. Не думай пра іх, супастатаў...

Супакоены Андрэйка сігануў на гарод. Халодная жнівеньская раса пеканула босыя ногі. Але гэта было прыемна. Малы шпарка тэпаў па мяжы: яму карцела зірнуць на тое месца, дзе пахаваны немец. Можа, там раскапаная зямля, можа, якія сляды за ноч паявіліся?

Андрэйка аж здрыгануўся ад нечаканасці, калі ў бульбоўніку хрыпата закукарэкаў малады пеўнік. Далей падаў голас другі — пеўнікі быццам пераклікаліся, мо нават хваліліся адзін перад адным: я ўжо лепей умею спяваць. Ад гэтай думкі Андрэйка павесялеў, смялей тэпаў наперад. Вось ужо і дарожка, і тое месца, дзе ўчора адарвалі гарбуз. Ніякіх змен не было, меншыя два гарбузы, укрытыя драбнюткімі бусінкамі расы, ціха ляжалі на бульбоўніку. На дарожцы Андрэйка не знайшоў ніводнага следу.

Вакол было ціха. Яснае і яшчэ высокае, чыстае, быццам вымытае за ноч, неба падпіралі ружаватыя слупкі дыму. Дыміўся такі слупок над іхняй хатай і над Арцёмавай таксама. Цягнуліся ўгору дымкі ад шамаўскіх зямлянак.

А над Канчанскім бокам слупкі дыму былі высокія, але ўверсе раставалі, і ніякага знаку ад іх не аставалася. Над Бесяддзю плыў густы бялёсы туман, за ім ледзь цямнеўся зубчасты грэбень лесу. На балоце чуліся галасы, іржалі коні, дзесьці гагалі гусі.

Яшчэ здалёк Андрэйка пазнаў Марыну — яна ішла па дарожцы ад Канчанскага ручая. Ён пабег ёй насустрач. Марына ішла басанож, да загарэлых ног яе, ля ступакоў, прыліплі травінкі. У руках яна несла танкеткі і сумку. Андрэйка з разгону абхапіў яе за спадніцу, пачуў пах ёду — адзенне Марыны пахла бальніцай, расяным полем, туманам.

— Што ты тут робіш? Бычка пасвіш? — здзівілася Марына.

— Не, я курэй глядзеў. Там пеўнікі маладыя спяваюць у бульбоўніку. А бычок на балоце. Васька пагнаў... — ён узяў Марыну за руку і сігаў побач.

Маці ўзрадавалася, убачыўшы іх разам.

— Во добра, дачушка, раненька ты. Якраз на сняданне паспела. Пад'ехала з кім?

— Ноччу Свідэрскі прывёз жонку. Дзіця нарадзіла. Ехаў назад. Я адпрасілася ў доктара на паўгадзіны раней. Свідэрскі чакаць не хацеў.

— Куды ж ён так спяшаўся?

— На работу, казаў, трэба. У сельсавет. Гаварыў, нібыта па радыё перадавалі, што японцаў разбілі на Далёкім Усходзе. Хочуць японцы памірыцца з намі і з амерыканцамі.

— А дасюль яшчэ ўсё вайна ішла? Хоць бы ўжо скарэй яны мірыліся. Дос ужо галовы разбіваць адзін аднаму, — маці памаўчала, уздыхнула. — Можа, і наш Петрачок дзесьці там? Як заміраццa, дык і ён адгукнецца...

— Ён бы ж напісаць мог, калі б там быў, — ціха сказала Марына.

— Пісьмо ж магло і згубіцца, — не пагадзілася маці. — Дзе той Далёкі Усход? На краі свету. А як заміраццa, дык, можа, і прыедзе. Пасля вайны ўсіх адпускаюць...

Усёй сваёй маленькай істотай Андрэйка адчуў: маці верыць, што Пятрок іх жывы, што ён вернецца.

У хату ўбег Васька, з парога крыкнуў:

— Ці чулі вы? Ваўкі жарабёнка зарэзалі ноччу на балоце?

— Якога? — падбег да яго Андрэйка.

— Орліка. Помніш, такі белакапыценькі? І зорачка на лобе.

Андрэйка ледзь не заплакаў — так шкада было Орліка, хацеў бегчы на балота паглядзець, але прыйшоў бацька з канторы калгаса, і сям'я села снедаць.

Усе дружна елі маладую бульбу з маласольнымі, крамянымі гуркамі. Асабліва стараўся Васька. Бацька разы два зірнуў на яго, як спрытна хапае з талеркі гарачую бульбу, усміхнуўся:

— Сілён ты, Васька. Дужа спрытны за сталом.

— Дык і на работу ж ён не лянівы, — заступілася за сына маці. — І з тапаром, і з касою. Першы твой памочнік.

— Што праўда, то праўда. Наядайся, сынок. Пойдзем сянні грэчку касіць. Трэба лучок прымацаваць да малой коскі. Грэчку касіць лёгка. Толькі пракос не бяры шырокі. Ты ж на балоце касіў.

Ваську гэта паведамленне не дужа ўзрадавала, бо меў свае планы: уранні хлапчукі згаварыліся на балоце пайсці па воўчых слядах да лесу. Кожны хваліўся, што ён возьме з сабой: хто штык, хто сякеру, хто лапату. Васька разумеў, што ваўкі забеглі далёка, іх не адшукаць у лесе, хіба што ляснік высачыць іх берлаг, і тады можна зрабіць аблаву.

Думаючы пра гэта, Васька моўчкі, засяроджана піў малако са свежым праснаком.

— Ну як праснакі? Ці ўдаліся? — маці адшчыкнула кавалачак праснака.

— Дужа смачныя, — першай азвалася Марына.

— Такіх смачных праснакоў я даўно не еў, — сказаў бацька, устаючы з-за стала. — Збірайся, Васька. Трэба ісці.

Васька дапіў малако, выцер рукавом палатнянай кашулі рот, нетаропка падняўся. Андрэйка яшчэ толькі пачаў піць малако, і праснака ў яго яшчэ быў ладны кусок. Ён сядзеў задуманы, засяроджаны. Усё думаў пра свой сон, пра тое, што разбілі японцаў на Далёкім Усходзе, што нарадзілася дзіця, а ваўкі з'елі Орліка.

I каторы раз здзіўляла Андрэйку агромністасць і велічнасць свету, неабдымнасць і шматмернасць жыцця.

## *АСАБІСТАЕ І САКРЭТНАЕ ПАСЛАННЕ ГЕНЕРАЛІСІМУСА І. В. СТАЛІНА ПРЭЗІДЭНТУ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ пану Г. ТРУМЭНУ*

*Атрымаў Ваша пасланне ад 12 жніўня адносна прызначэння генерала арміі Дугласа Макартура Вярхоўным Галоўнакамандуючым саюзных армій для прымання, каардынацыі і правядзення агульнай капітуляцыі японскіх узброеных сіл.*

*Савецкі ўрад згодзен з Вашай прапановай. Таксама згодзен і з прапанаванай Вамі працэдурай, якая прадугледжвае, што генерал Макартур дасць японскай імператарскай штаб-кватэры ўказанне аб безагаворачнай капітуляцыі японскіх войск і перад Савецкім Галоўнакамандуючым на Далёкім Усходзе. Прадстаўніком Савецкага Ваеннага Галоўнакамандавання прызначаны генерал-лейтэнант Дзеравянка, якому і дадзены ўсе неабходныя інструкцыі.*

*12 жніўня 1945 года.*

## XXXVII

Аб прыездзе Лугаўцова Пракапенка дачуўся пасля паўдня, а потым пазваніў Акапян і папрасіў зайсці.

«Чаму ж ён да мяне не заехаў? Адразу ў райком, — шкрабанула па душы. — Хаця ён жа працуе ў абкоме. Таму і зрабіў так», — разважыў старшыня райвыканкома, але ўсё роўна нейкая прыкрасць і крыўда не праходзілі.

Прыгадалася сустрэча ў Магілёве на пленуме — у калідоры, похапкам. Пракапенка з радасцю павіншаваў Лугаўцова з прызначэннем, той, здаецца, шчыра дзякаваў, пабедаваў, што не ўдаецца пагаманіць толкам, спытаў, калі паедуць дамоў. Акапян, які стаяў побач, адказаў, што трэба ехаць сёння. Пракапенка думаў затрымацца на дзень: меліся справы ў аблвыканкоме, ды і жонка прасіла таго-сяго пашукаць у магазінах. Акапян настойваў, каб ехаць адразу пасля пле-

нума, бо за жніво раён не хвалілі, маўляў, адсеяліся дружна, а з уборкай марудзяць, губляюць ураджай. Нецярплівы, гарачы Акапян, мусіць, ужо пракручваў у сваёй кучаравай галаве захады, якія трэба неадкладна прымаць.

Ля райкома стаяў запылены «віліс», бо паўтараста вёрст з гакам па разбітых дарогах — шлях не малы, нават і старая «варшаўка» яшчэ не адрамантаваная як след.

— Ну, здароў, Яўсеевіч! — падняўся насустрач Лугаўцоў, як толькі Пракапенка ўвайшоў у райкомаўскі кабінет, моцна пацiснуў руку, а другой злёгку паляпаў у плячо.

Пракапенка быў памкнуўся з абдымкамі, але стрымаўся і таксама ляпнуў госця па плячы. Ад Лугаўцова пахла дарагімі папяросамі, адэкалонам, твар яго быў гладка паголены, на скронях, ля па-хлапечаму адтапыраных вушэй, паблісквала сівізна. Новы фрэнч і галіфэ колеру «хакі», навюткія бліскучыя хромавыя боты дапаўнялі яго ўбранне. Ля дзвярэй, на старой трохногай вешалцы, вісела фуражка, палінялая, з адбіткам-следам ад зорачкі — мусіць, яшчэ партызанская, і гэта неяк прыемна ўзрадавала Пракапенку, нібы яна помніла ўсе іхнія ранейшыя сустрэчы і размовы: і тут, у гэтым кабінеціку, і на лабанаўскіх вуліцах, у сяброўскім застоллі, ля партызанскіх кастроў і ў зямлянках.

— Дык што будзем рабіць, Антон Яўсеевіч? Раён у прарыве па жніву. Вось мяне і накіравалі сюды, — адразу пачаў Лугаўцоў, і Пракапенку падалося, што голас яго стаў яшчэ больш гугнявым. — Адсеяліся вы аднымі з першых у вобласці. Перадавікі, ядры вашу качалку, — не то ўсміхнуўся, не то паўшчуваў ён.

— Васіль Пятровіч, прарыву, як ты кажаш, няма. Жніво пачалося. Ідзе яно цяжка. Ды і чакаць іншага нельга. Няма на чым і няма каму... — уздыхнуў Пракапенка. — Вось каб ты падкінуў камбайн ці пару малацілак...

— Ну, дарагі мой, з такім настроем вы і да белых мух не закончыце ўборку. Не выканаеце план хлебапаставак, — перапыніў яго Лугаўцоў і сярдзіта пачмыхаў носам.

— Чаму? Выканаем. І ўбяром усё. Я ўчора быў на раёне. У нізінах ячмень і пшаніца зеленаватыя. Ды і

жыта толькі на курганах пабялела, — даводзіў Пракапенка.

— Яно і пабурэла ўжо. Усе даўно жнуць. А ў цябе яшчэ пшаніца зеленаватая. Паедзем. Пакажы мне, дзе ты бачыў недаспелую збажыну, — з большай строгасцю і рашучасцю сказаў Лугаўцоў.

— Паедзем. Пакажу, — стараючыся быць спакойным, адказаў Пракапенка. — Мы ж не ўсюды пасеялі ў адзін міг. Месяц цягнулася сяўба. На каровах аралі...

— Правільна рабілі. Цяпер таксама трэба і жняяркі цягаць каровамі. І хлеб вазіць на каровах. Гэта не мая прыхамаць. Паглядзі пятнаццаты і шаснаццаты пункты пастановы Саўнаркома і ЦК партыі. За работу на ўласных каровах плата двайная, усялякая падтрымка, надбаўка. У Маскве ведаюць, якое становішча ў краіне... Трэба падняць усё і ўсіх! — рашуча рубануў рукой Лугаўцоў.

— Дык і паднялі. Няўжо ты думаеш, што людзі спяць або гарэлку п'юць? Усе працуюць. І старыя, і малыя. І багата ўжо ўбралі. Амаль усе калгасы пачалі хлебапастаўкі. Няўжо ты думаеш, каб не мы, то ніхто б нічога не рабіў? Увесну гналі ў каршэнь. І хто раней пасеяў, у таго слабы колас. Спёка прыхапіла падчас наліву. А потым пайшоў дождж... Перадавікоў трэба вызначаць не вясной, а восенню, — Пракапенка бачыў, як паморшчыўся Акапян, але вырашыў давесці сваю думку да канца. — Спрадвеку людзі аралі, сеялі, убіралі без упаўнаважаных...

— Не, даражэнькі, калі мы з табой будзем спаць у шапку, то некаторыя кінуцца ўбіраць свае соткі, а калгаснае будзе асыпацца. Мне твой настрой не падабаецца, Антон Яўсеевіч. Спытаем строга, улічы. У першую чаргу з цябе. Сяргей Хачатуравіч — чалавек яшчэ новы. Ды ён — камісар, а ты — камандзір. Ты — гаспадар раёна. З яго, — Лугаўцоў кіўнуў на Акапяна, — мы спытаем за арганізацыю партыйна-палітычнай работы. А з цябе за ўсе гаспадарчыя справы.

— Паедзем, можа? — Акапян падняўся, паправіў па-вайсковаму туга зацягнуты рэмень. — Давайце спачатку на чыгуначную станцыю. На хлебапрыёмны пункт.

— Ты ці перакусіў хоць з дарогі? — спакойна, як ні ў чым не было спытаў Пракапенка ў Лугаўцова, каб не падумалі, што ён ужо надзьмуўся, пакрыўдзіўся.

— Ды я ў Крычаве перакусіў. Мы ў сталоўку заходзілі...

— Ведаю я тую сталоўку. Можа, да мяне заскочым? Крупені пасёрбаем? Помніш, як у Хатынічах частавалі нас халоднай крупеняй-забялянкай?

— Помню, — на хвіліну твар Лугаўцова пасвятлеў, памякчэў, але ён тут жа зноў нахмурыўся, нібы змахнуў успамін. — А хто ж табе апоўначы будзе грэць крупеню? Няма калі сядзець. Паехалі.

Лугаўцоў узяў новенькі партфель з бліщчастымі замкамі, пацягнуўся да фуражкі. І Пракапенка згледзеў, што пад пахай фрэнч цемнаваты ад поту.

«Патаўсцеў, Васіль Пятровіч, пацяжэў. Мала рухаецца. Усё на машынах», — падумаў Пракапенка.

Лугаўцоў надзеў фуражку, крутнуўся да парога, аж зарыпелі масніцы. Седзячы ў машыне, ён азіраўся па баках, адзначаючы перамены вакол. Здалёк ён убачыў падводы, якія цягнулі каровы. Дуга першага воза была абвіта зялёнаю дзеразой, над дугой чырванеўся невялікі плакат — на саціне крэйдаю было напісана: «Першы хлеб — Радзіме!»

— Спыні тут! — загадаў Лугаўцоў шафёру.

Легкавік вільнуў убок, скрыгатнуў тармазамі. Спыніліся і падводы. Першая карова, бурая, з высокімі віластымі рагамі — левы трохі абламаны, пужліва касавурылася на машыну, а дзве другія пацягнуліся ўбок да травы. Возчыцы разглядалі трох мужчын, што падыходзілі да іх. Пракапенка прыкмеціў, як жанчына на апошнім возе таропка прыкрыла сенам невялікі клунак і ўселася на яго, хоць сядзець фурману ззаду і не з рукі.

— Добры дзень, жанчынкі! — гучна павітаўся Лугаўцоў. — Адкуль вы будзеце?

— З «Пралетарыя». Хлеб здавалі. Прапусцілі нас без вочарадзі, — загаварыла жанчына з першага воза, немаладая, цемнатварая, у палінялай сіняй хустцы ў белы гарошак, завязанай пад бараду. — Хоць тут нашым рагулям пачот. Сказаў брыгадзір, што і плаціць будуць удвая... Стой, Красуля! — жанчына крыкнула на карову, якая пацягнулася да травы.

— Калгас «Пралетарый». Гэта Валаськоўня ваша вёска? — спытаў Лугаўцоў.

— Ага, Валаськоўня. Вёрст сем ад станцыі. Дык мы во раненька прама ад малатаркі... Адважыў нам кладаўшчык зерня, і павезлі... Стой, ваўкарэзіна! — карова

люта адмахвалася доўгім хвастом, круціла галавой, але вупраж замінала адагнаць сляпнёў, што кружыліся над ёй. — Во заедзем за горад, напоім ля рэчкі, падоім. Трэба смагу прагнаць... Прыязджайце на сырадой, таварышы начальнікі...

Лугаўцоў усміхнуўся, падзякаваў жанчынам, пацвердзіў, што аплата будзе ім падвойная, пажадаў шчасліва даехаць. Настрой яго падняўся, мабыць, тое, што возяць хлеб і на каровах, сведчыла аб поўнай мабілізацыі ўсіх рэзерваў.

Пракапенку хацелася спытаць у жанчын пра іх дзяцей, — зразумела, што яны ўдовы, неяк паспачуваць ім, але ён бачыў, што яны рвуцца дамоў, каровы не стаяць, і ён змоўчаў.

— Бедныя жанчыны, мусіць, сэрца крывёю абліваецца, калі запрагаюць сваю рагулю. Карміліцу дзяцей, усю апору, — сказаў Лугаўцоў, ужо седзячы ў машыне. — А ты заўважыў, Яўсеевіч, як жанчына на апошнім возе прыкрыла сенам нейкі клуначак? Можа, зерня адсыпала?

— Мабыць, купіла чаго на станцыі. Там ёсць ларок, — ухіліўся ад прамога адказу Пракапенка.

— Ларок там ёсць, — падтрымаў яго Акапян.

— Можа, і купіла, калі ёсць за што, — задуменна сказаў Лугаўцоў. — Трэба прыняць пастанову аб поўнай забароне гандлю хлебам, мукой, абмену збожжа, пакуль не выканаем план. Ёсць такая дырэктыва. Вы яе атрымаеце з аблвыканкома. Пастанова за подпісам старшыні райвыканкома і сакратара. Даўгалёў працуе?

— Працуе. Разумны чалавек, дзелавы. — Пракапенка згадаў, як яму ўдалося ўгаварыць Даўгалёва застацца і як ён, Лугаўцоў, даў тады маху: прапанаваў капітану, партыйцу работу ў хаце-чытальні. Але потым ён заўсёды падтрымліваў Даўгалёва і не пярэчыў супраць прызначэння яго сакратаром райвыканкома.

— Я даўно прыглядваюся да вашага Даўгалёва, Антон Яўсеевіч, — сказаў Акапян. — З яго можа быць добры сакратар райкома па ідэалогіі.

— А дзе Азарава? Не працуе? — спытаў Лугаўцоў.

— Працуе, — паморшчыўся Акапян. — Але які з бабы ідэолаг?

— Не скажы, Сяргей Хачатуравіч. Яна адукаваная, энергічная. Мо занадта ўпартая, га? — падміргнуў Лугаўцоў Акапяну.

Пракапенка ўбачыў, як заружавеўся, бы ў школьніка, смуглявы твар Акапяна. «Няўжо ён шашні завёў», — мільганула думка.

— Можа, гэта ад таго ідзе, што ў нас, на Каўказе, жанчына падае на стол, але не сядзіць у застоллі, я не ўспрымаю, калі баба пачынае кіраваць...

— Не магу з гэтым пагадзіцца, Сяргей Хачатуравіч, — сказаў як адрэзаў Лугаўцоў. — У прынцыпе не магу. А ў гэтым канкрэтным выпадку, магчыма, Даўгалёў больш падыходзіць...

— Не, братцы, Даўгалёва я пакуль што не аддам, — запярэчыў Пракапенка. — Ён цягне за двух. Як старшыня райплана і як сакратар выканкома. Я ўгаварыў яго застацца. Ён жа ехаць збіраўся назад, на Урал, здаецца. Ты ж помніш, Васіль Пятровіч?

Лугаўцоў моўчкі кіўнуў, бо яму было не дужа прыемна ўспамінаць, што ён тады недаацаніў капітана-франтавіка.

Маўчаў і Акапян. У яго былі свае думкі. Прыгадалася сутычка з Азаравай: прыбегла пакрыўджаная, чаму яе падначаленую Ніну Гаўрыленка пасылаюць з нейкім заданнем на раён без яе, Азаравай, ведама. Акапян тады быў не ў гуморы і ляпнуў: «А гэта вам і не трэба ведаць. Займайцеся сваімі справамі». — «Як жа нам далей разам працаваць, калі вы мяне крыўдзіце недаверам?..» — «Вы — сакратар райкома, а не кісейная барышня...» — «Вы проста грубіян...» — грукнула дзвярыма і выбегла. Назаўтра яна прынесла заяву: прашу перавесці на работу ў школу, бо яна настаўніца і хоча вучыць дзяцей. Акапян сказаў, што гэта пытанне будзе вырашаць бюро райкома, а пакуль ёй трэба выконваць свае абавязкі і нікому пра заяву не гаварыць.

А потым, калі Акапян атрымаў вымову, зайшла аднойчы ў канцы дня і папрасіла прабачэння. Была яна сцішаная, сумная і таму падалася яшчэ прыгажэйшай. Акапян нечакана для сябе самога прапанаваў ёй міравую. Азарава аднеквалася, чарку ледзьве прыгубіла, закрыла твар далонямі і заплакала. «Што з вамі, Дар'я Трафімаўна? Што здарылася?» — дапытваўся Акапян. «Здарылася даўно... Сама не ведаю, што са мной...» Акапян асцярожна пагладзіў яе валасы, і яго нібы токам працяло, ён нахіліўся і пачаў яе цалаваць... Азарава выбавілася з яго абдымкаў і, хістаючыся, пайшла да дзвярэй.

Насустрач рухалася калона грузавікоў, за рулём іх сядзелі салдаты.

— Працуе ў нас аўтарота старшага лейтэнанта Арланава, — сказаў Пракапенка. — Возяць хлеб з самых аддаленых вёсак. Дарогі ў нас сам ведаеш якія. Але пакуль суха, дык машыны праходзяць.

— Як прозвішча афіцэра? Арланаў? — зацікавіўся Лугаўцоў. — А як завуць, не ведаеш?

— Здаецца, Уладзімір Паўлавіч. Я адзін раз толькі з ім гаварыў...

— Зайздрошчу тваёй памяці, Яўсеевіч. У атрадзе ты, мабыць, адзіны ведаў усіх партызан па імю і па бацьку... А ў гэтага афіцэра — рэдкае прозвішча. І птушка арлан — вялікая рэдкасць. Аднойчы бачыў я ў лесе каля Бяседавіч. Ранічкай ішлі мы з чыгункі. Сонца толькі ўзышло. Птушкі спяваюць, заліваюцца. Выйшлі на паляну. І раптам зашумела ў паветры, цень на зямлю ўпаў. Глядзь угору — велізарныя крылы. Метры, можа, са тры. Аж усярэдзіне ёкнула: ці не самалёт які? Ляснік быў сярод нас, той і кажа: гэта арлан-белахвост. Я паспеў згледзець, што была птушка рудая, нават рыжая, як лісіца...

Тым часам пад'ехалі да станцыі. Яшчэ здаля была відаць доўгая чарада падвод з мяхамі ля варот збожжапрыёмнага пункта.

«Хоць бы дажджу не было», — з трывогай падумаў Пракапенка, і, калі спыніўся легкавік, ён спярша зірнуў на неба, а потым на фурманкі. Акапян з Лугаўцовым ішлі паперадзе, ён рушыў следам за імі.

— А, Харытонавіч! — пачулася ад вазоў. — Добры дзянёк вам!

— Здароў, Арцём Іванавіч! Здароў, душа любезны, — Акапян з радасцю абняў хатыніцкага Арцёма Шандабылу. — Мы на лесанарыхтоўках працавалі з Арцёмам Іванавічам. Ён хвацкі лесаруб... — павярнуўся Акапян да Лугаўцова.

— Дык жывём жа ў лесе, — нібы апраўдваўся разгублены і расчулены Шандабыла.

«От, адкрытая душа, — падумаў Пракапенка, гледзячы, як абдымаўся Акапян з Шандабылам. — Мы з Лугаўцовым пуд солі з'елі ў партызанах і пасля... А пасароміліся абняцца. Мусіць, гэта наша спрадвечная беларуская стрыманасць. Ці Акапян так перад Лугаўцовым стараецца? Маўляў, во які я блізкі з народам».

Але на твары Акапяна было гэтулькі шчырасці, непрыхаванай радасці, быццам сустрэў роднага і блізкага чалавека, што Пракапенка адагнаў гэтую думку прэч.

— Мы во, значыцца-брат, селі палуднаваць, — Арцём паказаў на воз, дзе на мяхах сядзелі два хлапчукі і сталага веку мужчына, на чыстай анучы ляжалі гуркі, вараныя яйкі, блякла сінела пляшка малака. — Ета сусед мой Мацвей Сахута і мальцы яго.

Мацвей Сахута злез з воза, абтрос гімнасцёрку, амаль да белага выгаралую на сонцы.

Васька і Андрэйка ва ўсе вочы разглядалі незнаёмых дзядзькоў.

— А етага помніш, які з вусамі? Бярно часаў ля Шамаўскага моста, — шапнуў Васька брату.

Пракапенка нібы адчуў, што пра яго гавораць малыя, павярнуўся да іх:

— Ну што, арлы? Памагаць прыехалі?

— Самі лейцы трымаюць. Я на адным возе, а яны на другім, — з годнасцю адказаў за іх Мацвей.

— Дык і праўда ў вас тут і стары, і малы працуюць, — задаволена сказаў Лугаўцоў. — Малайцы хлопцы!

Атрымалася так, што гэтую пахвалу маглі прыняць на свой адрас і малыя Сахуты, і Арцём з Мацвеем, і кіраўнікі раёна.

З варот склада высунуўся парожні грузавік, з яго кабіны вылез невысокі шчуплаваты афіцэр з трыма зорачкамі на пагонах.

— Вы таварыш Арланаў? — спытаў Лугаўцоў.

— Так точна! Старшы лейтэнант Арланаў! — казырнуў афіцэр.

— Лугаўцоў. З абкома партыі, — падаў афіцэру руку Лугаўцоў. — Як справы?

— Сёння пакуль што нармальна. А ўчора была накладка...

— Што за накладка? — спытаў, апярэдзіўшы ўсіх, Акапян.

— Учора Бярозаўскі сельсавет заказаў дзве машыны, а зерня не падрыхтавалі. Машыны прастаялі дзесяць гадзін, пакуль іх загрузілі. Я званіў у райком. Там была таварыш Азарава. Дакладваў і таварышу Крупадзёраву. Дарэчы, ён тут. Можа пацвердзіць...

— Гэта безабразіе. Сяргей Хачатуравіч, разбярыцеся. Вінаватых трэба пакараць, — строга сказаў Лугаў-

цоў. — Дзякуй вам, таварыш старшы лейтэнант. Як вас кормяць? Скаргі ёсць?

— Кормяць няблага. Хаця не шкодзіла б і лепей.

— Ну, каб лепей, дык яно ніколі не зашкодзіць, — усміхнуўся Лугаўцоў і сур'ёзным тонам дадаў: — Думаю, што кіраўнікі раёна зробяць усё, каб было лепш. Вы і вашы салдаты выконваеце важнае, дзяржаўнае, — Лугаўцоў нават паківаў пальцам і паўтарыў, — дзяржаўнае заданне. Гэта — таксама фронт. Мірны фронт.

— За намі затрымкі не будзе. Абы было што вазіць. Мае хлопцы не падвядуць, — запэўніў старшы лейтэнант. — Я магу ехаць?

— Калі ласка. Поспехаў вам! — кіўнуў на развітанне Лугаўцоў. — Калі якая закавыка, адразу дакладвайце райкому, райвыканкому.

З варот склада, згледзеўшы начальства, шпарка ішоў Крупадзёраў. Нягледзячы на сонечны дзень, быў ён у доўгім брызентавым плашчы. Загарэлы скуласты твар строгі і хмурны. Але, убачыўшы Лугаўцова, Крупадзёраў расплыўся ў ліслівай ухмылцы.

— А вось і сам галоўны нарыхтоўшчык! — гучна сказаў Лугаўцоў. — Раз Павел Іванавіч на сваім пасту, то лабанаўцы не будуць у хвасту. Каб вас качкі раста-пталі, я нават вершамі загаварыў, — зарагатаў Лугаўцоў.

Крупадзёраў павітаўся з усімі. Сунуў шырокую цвёрдую далонь і Пракапенку, але поціск быў слабы: ці баяўся зрабіць балюча, ці не хацеў пацiскаць, бо адчуваў непрыхільнасць да сябе старшыні райвыканкома.

— Справы, Васіль Пятровіч, памалу рухаюцца. Амаль палова плана ўжо ёсць. Толькі б надвор'е не падвяло. І чыгуначнікі своечасова давалі вагоны. А то даводзіцца вырываць з боем. Можа б, вы, Васіль Пятровіч, пазванілі ў Магілёве каму трэба? — зноў ліслівa ўхмыльнуўся Крупадзёраў.

«Мабыць, заўсёды той, хто грубы з падначаленымі, з тымі, хто ніжэй, абавязкова падлізваецца да тых, хто вышэй», — з сумам падумаў Пракапенка.

Лугаўцоў дастаў невялікі блакноцік, самапіску. Крупадзёраў пачаў тлумачыць, колькі трэба вагонаў, калі іх падаваць.

— Я скажу першаму сакратару абкома. Ён мяне сюды накіраваў, ён і чакае майго дакладу, — важна, расцягваючы словы, сказаў Лугаўцоў.

Чарада вазоў з хлебам не менела. Хатыньчане ад'ехалі далей і былі ўжо ля самых варот. Возчыкі не маглі чуць гаворку, але ўсё аглядваліся, а Васька з Андрэйкам не адрывалі вачэй ад незнаёмых дзядзькоў.

Стаялі ля сваіх падвод аднарукі Цімох Емяльянаў і даўгалыгі Апанас Шкурдзюк. Яны паспелі абмяняць авёс — а яго выдалі па паўпуда на каня, — на бохан хлеба, збегалі да чыгункі, нарвалі ў торбы травы. Апанас і Цімох якраз вярталіся, калі пад'ехала начальства. Апанас сігануў назад, у кусты, а Цімох схаваўся ў бульбоўніку. Калі паявіўся старшы лейтэнант Арланаў, а вазы трохі адсунуліся, яны падышлі да сваіх коней.

Дамоў хатыньчане вярталіся цёмначы. Калёсы мякка калываліся па пясчанай дарозе. Васька смачна пахрапваў, лежачы на пустым мяху. Конік сам ішоў услед за пярэдняй падводай, на якой сядзеў бацька. Ззаду ехалі Апанас Шкурдзюк і Цімох Емяльянаў, замыкаў калону Арцём Шандабыла.

Вочы ў Андрэйкі зліпаліся, але ён стараўся не спаць. Пазіраў на неба, якое было акурат усыпана буйнымі блішчастымі зоркамі. Высока над зямлёй, нібы палавінка праснака, таямніча свяціўся жаўтаваты месяц.

Неяк Андрэйка прыглядаўся да месяца, а тады была поўня, і заўважыў там нешта дзіўнае: ці то чалавек трымаў штосьці над сабой, ці то конь застыў у імклівым руху. Ён спытаўся ў маці: што там, на месяцы? І яна адказала: гэта адзін чалавек забіў свайго брата, і бог пакараў яго, прымусіў усё жыццё насіць забітага брата на руках.

«Як гэта можна забіць брата?» — Андрэйка зірнуў на Ваську, які замармытаў у сне, прыкрыў яго мехам, сам нырнуў таксама пад мех, ад якога патыхала цёплым хлебным духам, полем, васількамі і рамонкамі.

А ў гэты час Лугаўцоў гасцяваў у Пракапенкі. Арына частавала свежаю маладою бульбай, маласольнымі гурочкамі, марынаванымі грыбкамі. Госць памалу ўгрэўся, расшпіліў свой фрэнч, нетаропка, з прыхаваным хваляваннем апавядаў аб рабоце на Брэстчыне. Пракапенка ўважліва слухаў, зрэдку ўстаўляў слова-другое. Арына войкала ад здзіўлення, у якіх сітуацыях даводзілася бываць Лугаўцову.

Потым пачаліся партызанскія ўспаміны. Дзеці — Генка і Вадзік — улягліся спаць, Арына прыбірала по-

суд, а госць і гаспадар выйшлі пакурыць. Вечар быў даволі цёплы, хоць ветрык дыхаў свежы, ядраны.

Пракапенка нават трохі дакараў сябе, што ўдзень думаў пра зазнайства Лугаўцова, бо цяпер ён адчуваў яго ранейшую таварыскасць і блізкасць.

— Ты чуў, амерыканцы скінулі атамную бомбу на Хірасіму і Нагасакі? Гарады разбіты ўшчэнт. Людзі ўсе загінулі. Во якую страшную зброю прыдумалі, — Лугаўцоў памаўчаў, глуха пакашляў, загаварыў зноў, ціха, нібы баяўся, што яго нехта падслухае: — Мабыць, яны пужаюць нас. Японія і без гэтай бамбёжкі ўжо стаіць на каленях.

— І я думаю, што яны скінулі бомбы, каб дыктаваць нам сваю волю. Хочуць, каб мы па іхняй указцы жылі... Значыць, і нашы будуць рабіць атамную бомбу, — уздыхнуў Пракапенка.

— Дык і робім. Але ж на гэта патрэбны вялікія грошы. Зноў папружку давядзецца падцягваць тужэй. Не дае гісторыя нам перадышкі, каб яе качкі... Колькі думалася, бывала, у лесе: от, скончыцца вайна, зажывём спакойна, мірна, без стралянiны, грукату... Чуе маё сэрца, не будзе цішыні і спакою. І што за паскуднае стварэнне гэты чалавек!.. — Лугаўцоў моцна вылаяўся.

— Го, ты яшчэ і лаяцца не развучыўся, — усміхнуўся Пракапенка. — Пажывём, пабачым. Неяк жа будзе. У бліжэйшы час вайны не павінна быць. Свет сыты ёю па горла... Я от думаю, зарана вучоныя людзі расшчапілі атам. Ох, рана, рана, — Пракапенка ўздыхнуў, памаўчаў. — Такое адкрыццё пайшло б на дабро, калі б у свеце была адзіная сістэма. Калі б сацыялізм перамог на ўсёй зямлі. А так пачнецца свістапляска...

— Пачнём навыперадкі кляпаць бомбы, — Лугаўцоў чыркнуў запалкай, бо папяроса, відаць, патухла, агеньчык вырваў з цемры задумлівы, нейкі самотна-мяккі твар, сумныя вочы. — Некалі чалавек назапашваў ядры, каменне, каб сваё жытло бараніць. Стрэлы, пікі рыхтаваў для паходу на ворагаў. Дык ядро ж ці страла забівалі аднаго чалавека. А цяпер? Адну бомбу кінулі і вялікі горад размалацілі. Дзвесце тысяч людзей знішчылі... Тваю маць, адна толькі бомба... А што ж будзе, як іх багата налепяць? Гэтак і ўсю зямельку-матухну ўзарваць нядоўга...

— А ведаеш, Пятровіч, іншы раз думаецца, можа, дзе-небудзь на далёкіх планетах... Іх жа вунь колькі

свеціцца на небе... Людзі, ці, як яны там завуцца, жыхары тых планет, і атам запрэглі ў хамут. І жывуць без бяды, — ціха сказаў Пракапенка.

— Усё можа быць. Ты ж сам кажаш: пажывём, пабачым, — у голасе Лугаўцова пачуліся весялейшыя ноткі. — Ліха перамелецца, і зноў добра будзе...

Яны яшчэ доўга стаялі, сцішана гаманілі пад высокім зорным небам.

Маленькаю бліскучаю зоркаю неслася Зямля ў неабсяжнай касмічнай прасторы.

## XXXVIII

Дагарала лета сорак пятага года. Было яно спякотнае, не дужа шчодрае на ўраджай, і ўсё ж сяго-таго людзі сабралі.

Ва ўсіх былі хлеб і бульба, паспелі яблыкі, высыпалі ў жніўні грыбы, даспявалі арэхі.

Ужо ніхто не пух ад голаду, весялей загаманілі сякеры, зазвінелі пілы — Хатынічы будаваліся.

НаГрадзі, паўз балота, стаялі свежыя рабрыстыя ўструбы. Ля кузні будавалася калгасная лазня. У Канчанскім баку і ў Мамонаўцы некаторыя лазні засталіся, але былі яны старэнькія, малыя. І таму на пасяджэнні праўлення старшыня калгаса Макар Казакевіч рашуча сказаў: «Лазня зараз — самая важная будоўля. Досыць вошай карміць...»

Гэтыя словы сталі вядомыя ўсім. Іх перадавалі з вуснаў у вусны, і кожны нешта дадаваў ад сябе. З гэтых слоў утварылася цэлая прамова старшыні, які аб'явіў нібыта паход супраць усялякай нечысці.

Радасным і журботным было тое лета. Вялікую радасць прыносілі з сабой франтавікі. Але не ўсе вярнуліся з вайны. Многія маці, жанкі, дзеці не дачакаліся сваіх сыноў, мужоў і бацькоў.

Было тое лета багатае на працу, на спрадвечныя сялянскія клопаты: людзі ўзворвалі здзірванелыя за ваенныя гады аблогі, будавалі на папялішчы новыя хаты, адраджалі гарады.

О колькі поту і слёз пралілося за першае лета пасля Перамогі!

Хатыньчане будавалі не толькі жытло сабе, але распачалі на выгане вялізнае калгаснае гумно з еўняй і

токам, ладавалі канюшню. А ля кузні, бы сама па сабе, хутка вырасла лазня; цеслі мелі заданне будаваць шчыра, каб пасля жніва льга было памыцца.

І вось лазня гатова. Дах накрылі шчапою-дранкаю, толькі не паспелі зрабіць прымыльнік, таму распраналіся на дварэ, складвалі на лавачцы верхняе адзенне, спадняе вешалі на жэрдкі пад столлю, каб добра прапрарылася.

Бацька прывёў Ваську і Андрэйку, калі ў лазні ўжо было поўна людзей. Праз маленькае акенца прабіваліся промні вечаровага сонца, высвечвалі з вільготнай цемры чырвоныя, распараныя постаці. На гарачае каменне — аж белае — усё лілі ваду: уздавалі дух. Каменная печка з шумам і стогнам выдыхала гарачае паветра, і яно вільготнаю пякучаю хваляю абдавала ўсіх.

Андрэйка з Васькам сядзелі на падлозе ў кутку. Спачатку ніяк не маглі асвойтацца, прызвычаіцца да цемры і гарачыні.

На палку ішло змаганне.

— Ого-го-го! — стагналі мужчыны.

— Трэба яшчэ троху плюхнуць, — сказаў нехта і лінуў на печку гарачай вады.

Каменне зашыпела, застагнала і выбухнула такой хваляй гарачага духу, што мужчыны адзін за адным пасыпаліся з палка.

— Што ты робіш, Іван? Азвярэў ты, ці што? — абураўся распараны дзядзька Парфір, лупцуючы сябе венікам.

— Дос, Іван! — прахрыпеў стары Гылігор, абцягнуў на галаве шапку-аблавушку, спусціўся ніжэй, але венікам не перастаў сцябаць сябе па плячах, па спіне.

— Чаму дос? Духу ж няма ні халеры! Трэба ж косці пагрэць, — Іван Сырадоеў, малады, шыракагруды хлопец зноў чабурэхнуў конаўку вады на каменне.

Мужчыны, угінаючы галовы, быццам нехта іх прыгінаў долу, падаліся за парог.

— Іван, ачмурэў ты, ці што? — нязлосна сказаў бацька. — Пайшлі, дзеці, на вуліцу.

Хлапчукі выкаціліся з лазні ўслед за бацькам. Як толькі за імі зачыніліся дзверы, печка зноў выбухнула — Іван паддаваў яшчэ. З лазні выскачылі аднарукі Цімох і дзядзька Парфір.

— Ну і дае Іван! Во, галава моцная, — хапаючы ротам паветра, сказаў Цімох, здаровую далонню правёў

па твары, сціраючы пот, а куксу схаваў за спіну. — Во, яшчэ і спявае!

З лазні пачулася: «Вперед, мы сталінцы ліхія...», адчайнае сцёбанне венікам.

— Не кажы, дарваўся, як да бабы... Мусіць, усю вайну не парыўся, — усміхнуўся дзядзька Парфір.

Андрэйка ледзь пазнаў дзядзьку — быў ён худы, шыя і твар пабурэлі ад загару, а ўсё цела белае, трохі расчырванелае ад пары. На назе вышэй калена чырванеўся шырокі рубец. У бацькі на левым плячы быў глыбокі шрам.

— Хай папарыцца чалавек. На тое ж і лазню рабілі, — нягучна сказаў пажылы чалавек, што стаяў на адной назе, прыхінуўшыся да сцяны, абапіраючыся на мыліцу. Другой нагі не было — замест яе вісеў тоўсты абрубак, які канчаўся бугрыстым тоўстым рубцом. Усе павярнуліся да яго, уважліва слухалі.

— За лазню дзякуй табе, старшынька. Мудра ты пастанавіў: пасля жніва каб лазня была. Яно як папарышся, казявак панішчыш, дык і ў зямлянцы можна паразімаваць, — падсунуўся бліжэй да старшыні дзед Гылігор.

— Не я адзін пастанаўляў, Аўціхавіч. Няма за што мне дзякаваць. Тым, хто будаваў, дзякуйце.

— Дык і я тут сякераю махаў. Але каб не было такой каманды, то і лазні не было б, — стаяў дзед на сваім.

Нарэшце дзверы лазні расчыніліся, высунуўся чырвоны, як вараны рак, Іван, да грудзей, да спіны прыліпла лісце з веніка, ад цела ішла пара, як ад печкі, з каротка пастрыжанай галавы цурком ліўся пот.

— От даў, дык даў. Сем патоў сагнаў, — выдыхнуў Іван. — Два гады не парыўся... Цяпер адчуў, што я дома. Родным духам пахне... Ну, хто са мной у Бесядзь?

— Вада, значыцца-брат, халодная. Ілля памачыўся ўжо туды, — ухмыльнуўся Арцём, скручваючы цыгарку.

— Нічога. Не такі холад бачылі. Што, няма смелых? — Іван абвёў усіх вясёлымі, па-дзіцячы яснымі вачамі. — Ну, як сабе хочаце, — і подбегам рушыў да ракі. На ягадзіцы ў яго чырванелася, акурат бярозавы ліст, шырокая рваная рана.

— Пашчасціла чалавеку. Каб троху ніжэй скубанула быў бы ён бедны, — рагатнуў Цімох.

— Не так ён, як жонка бедавала б... Ды і ці жаніўся б тады? — заўсміхаўся Парфір. — Ды і табе не тое адарвала. Усіх баб перамацаў.

— Некаму ж трэба і гэта рабіць, — задаволена выскаліўся Цімох.

— Эх, каб я, значыцца-брат, быў маладзейшы, от даў бы раскрутку, — пусціў клуб дыму Арцём.

— Ну і што б ты зрабіў? Арына б цябе як перахрысціла чапялою, дык і на дзевак забыўся б, — дзед Гылігор адчыніў дзверы лазні. — Пайшлі мыцца...

Але тут ад кузні заляскаталі калёсы. Усе павярнулі туды галовы, дзед Гылігор так і застыў ля дзвярэй.

— Участковы наш... Бравусаў пажалаваў на адкрыцці лазні. Мусіць, падумаў, што тут самагонку ціснуць. А хто ж з ім яшчэ? — углядаўся Цімох.

— Здароўце вам! — крыкнуў Бравусаў, саскочыў з воза, прывязаў коніка да прасла і, шырока расстаўляючы ногі ў запыленых хромавых ботах, пакіраваў да лазні. Услед за ім, апіраючыся на кульбу, ішоў Даўгалёў. — Сустракайце начальства!

Бравусаў пачаў з усімі здароўкацца за руку, але дзед Гылігор яго перапыніў:

— Ці ведаеш ты, братка-начальнік, што голым мужыкам у лазні нельга рукацца?

— А што? Чаму? — здзівіўся і стаў, як аслупянелы, Бравусаў.

— Прыхамета ёсць такая, — дзед Гылігор наўмысна памаўчаў, каб усе прыслухаліся да яго. — А то вашы жонкі пасварацца...

— Ха! Ва-першых, у мяне няма пакуль што жонкі. А ва-ўтарых, я ж не голы, — Бравусаў пачаў расшпіляць кіцель. — Папарыцца даўно хочацца. Як вы, Касьянавіч?

— Мне таксама хочацца, ды колецца. Каб не загрымець з палка, — нерашуча азірнуўся Даўгалёў.

— Касьянавіч, апірайся на маё шырокае плячо. Мы з табой і на дзвюх нагах будзем цвёрда стаяць, — абняў Даўгалёва старшыня калгаса Макар Казакевіч.

— Ды яшчэ дзве падпоркі, — усе зразумелі, што Цімох меў на ўвазе не толькі мыліцу і кульбу, бо дружна зарагаталі.

У гэты час з-за вугла высунуўся Іван, прыкрыўшы далонямі сорам.

— Сырадоеў! Стой! Рукі ўгору! Вы арыштаваны! —

крыкнуў Бравусаў і зрабіў крок да яго, расшпільваючы кабуру нагана.

Усе прыціхлі. Іван зніякавеў, стаяў, азіраўся, але рук не падымаў.

— Што ў цябе за жарты, Валодзька? — упікнуў Бравусава Даўгалёў.

— Можаш арыштоўваць, маць тваю за нагу... Але дай хоць штаны надзець, — Іван усцягнуў на голае цела салдацкія галіфэ.

Бравусаў тым часам наблізіўся да яго, прыглядаючыся.

— Іване, браце, жыў-здароў, га? Рукі, ногі цэлы! — і кінуўся абдымаць Сырадоева. — Здымай штаны. Пойдзем парыцца.

Бравусаў склаў на возе сваё абмундзіраванне, зверху акуратна паклаў сінюю фуражку з малінавым аколышам, застаўся ў даўгаватых, амаль да каленяў, трусах і сігануў у лазню. Андрэйка, уражаны прыгожаю формаю, прыглядаўся да міліцыянера і заўважыў некалькі рубцоў на мускулістым целе.

Высокі, цыбаты Даўгалёў і ў лазню пайшоў у трусах, апіраючыся на кульбу. З мыліцай пераступіў цераз парог і старшыня калгаса.

Зноў загудзела печка-каменка, застагналі мужыкі, сцёбаючыся венікамі. І неўзабаве зноў, расчырванелыя, распараныя, пачалі выскокваць з лазні. Бравусаў з Сырадоевым выйшлі разам.

— Я ўжо здаволіўся. Хопіць на сёння, — хаўкаў ротам Сырадоеў.

Бравусаў падышоў да воза, падкінуў сена каню. Андрэйку падалося, што конь не пазнаў спачатку гаспадара голага, а потым ціха заржаў, задаволены.

— Ну, дык як табе ваявалася, Іване? Аж не верыцца, што бачу цябе жывога, здаровага, — Бравусаў зноў абняў за плечы Івана.

— Ой, брат, не пытай. Я сам яшчэ не магу апамятацца. Яшчэ кожную ноч хаджу ў атаку... Сем разоў мог загінуць. А я жывы, — Сырадоеў змахнуў бярозавы лісток, што прыліп на грудзях, зірнуў на свае рукі, ногі, быццам яшчэ раз пераконваўся, што яны цэлыя. — Было такое, што і сам сябе хацеў укадэхаць...

— Сам сябе? — здзівіўся Арцём.— Ета ўжо лішняе...

— Бяжым. Атака. І тут снарад як лупянуў. Тава-

рыша, які збоку бег, напавал. А мяне адкінула ў ямку. Ляжу, галава цяжкая, як бязмен, нічагуткі не бачу. Твар заляпіла нечым. Падалося, што вочы мае павылазілі, баляць. Вакол чорная ноч. А быў дзень, вясновы, сонечны. Шыя смыліць. Правёў рукой — нешта ліпкае, цёплае. Кроў. Давай шукаць вінтоўку. У мяне была снайперская. Сам сабе думаю: каму я патрэбны сляпы? Ні жонкі, ні дзяцей у мяне няма. На халеру жыць, мучыцца. Але не магу знайсці вінтоўку. Лапаю рукамі. Чую — немцы гергечуць. Распластаўся ніцма, прыціх. Немец нагою пад бок, наступіў на спіну. А я і не войкнуў. Ляжу, як бервяно. Адключыўся... Ачуняў у шпіталі. Нехта мые мне твар. Мужчынскі голас кажа: пацярпі, усё будзе добра. Нечым мяккім ціскае ля вачэй. Потым прыклаў далоні. Зараз, кажа, я рукі аднімаю, а ты памалу адкрывай вочы. І што вы думаеце? Расплюшчваю вочы — усё бачу! — Іван шчасліва ўсміхнуўся, нібы зноў перажываў той момант, і дадаў: — А вось аднойчы я быў уліп! Коні ледзь не затапталі...

— Як так? — не паверыў Бравусаў.

— Ой, смех, дый годзе. У Германіі ўжо было. Вайна канчалася. Набралі мы ў абоз многа коней нямецкіх. І вось аднойчы едзем цераз нейкі гарадок. Брук вузкі. Мы на парцы коней. Ну, і зачапілі легкавік. Коні аказаліся мацнейшыя. Пацягнулі машыну назад. Матор адзачмыхаў і раптам як стрэльне! Коні рванулі ўбок, адчапілі воз ад машыны і панесліся. Я апынуўся на дышале між коней. Адной рукой трымаюся за дышаль, а другой за бот возчыка. А коні мчаць наўскапыта. Бот я сцягнуў, ды ботам каню пад хвост... — Іван смяяўся, паказваючы рукамі, як сцягнуў бот, як вісеў на дышале. Мужчыны вакол таксама ўсе смяяліся. — Коні яшчэ мацней прыўдарылі. Ну, думаю, усё, капцы. А насустрач ішлі нямецкія бежанцы. І адзін стары замахаў кіем. Коні крутнулі ўбок. А там разбіты дом, падмурак ад яго. Коні пераскочылі, а калёсы ўрэзаліся. Вупраж парвалася, коні памчалі далей. А я метраў пяць праляцеў, разы тры перакаціўся. І апынуўся на зямлі. Ляжу, як забіты. Падбеглі салдаты. Бачаць, жывы, давай рагатаць. Тады і я заварушыўся. Возчык тры рабрыны зламаў, а я хоць бы хны, — смяяўся Іван.

— Значыцца-брат, ета тваё шчасце. Раз куля не забіла, то і коні пашкадавалі, — Арцём выцер вочы, бо так рагатаў, аж слёзы навярнуліся.

— Ага, пашкадавалі б яны. Калі б не ўтрымаўся, то і мазгаўню, як арэх, размалацілі б. А як утрымаўся, і сам не ведаю... А салдаты, каторыя пажылыя, мяне жалелі. Я самы малады быў. За сына мяне лічылі. А як сумавалі па сваіх дзецях! Страшнае дзела, браточкі... Усяго было, — Іван памаўчаў, прыгладзіў каротка пастрыжаныя, мокрыя валасы. — Ніколі не забуду, як ноччу пад Кёнігсбергам асвяцілі пражэктары наш бамбардзіроўшчык. Я на пасту стаяў. Ну, так высвецілі. І тут жа зеніткі накрылі яго. У цёмным небе ўзарваўся самалёт. У мяне аж мурашкі па целе пабеглі... Мусіць, ніхто з экіпажа не выратаваўся... Той выбух так і стаіць у мяне перад вачамі...

Усе змоўклі, спахмурнелі разгарачаныя твары. Сёй-той пачаў апранацца, некаторыя пайшлі яшчэ папарыцца.

— Хлопцы, ідзём галовы мыць. Абдадзімся — і дамоў, — бацька адчыніў дзверы, Андрэйка ўслед за Васькам нерашуча пераступіў парог лазні, дзе зноў панавалі гоман, смачнае, сакавітае, са стогнамі і ўздыхамі сцябанне венікамі.

Праз паўгадзіны Мацвей Сахута, распараны, памаладзелы, у гімнасцёрцы навыпуск, у акружэнні сыноў, вымытых, расчырванелых, як снегіры — абодва ў падсіненых штоніках, свежых кужалёвых кашульках, — адыходзіў ад лазні. З вуліцы на веласіпедзе падкаціў дырэктар школы Мамута. На багажніку прымацаваны венік і ручнік, загорнуты ў газету.

— Здароў, Мацвей Дзянісавіч! — павітаўся дырэктар, прыставіў да прасла веласіпед. — З лёгкім духам!

— Дзякуй. І вам, Аўдакімавіч, жадаю лёгкага духу, — ветла адказаў бацька.

— Ну што, хлопцы, вушы вымылі? — дырэктар з усмешкаю зірнуў на Андрэйку. — Які гвардзеец у цябе расце, Дзянісавіч.

— Ды во сёлета ўжо сем гадоў стукнула. Хто яго ведае, ці пускаць у школу, ці хай яшчэ зіму пасядзіць на печы.

— Калі вушы памыў, хай прыходзіць у школу. А то некаторыя заяўляюцца, а ў вушах хоць рэпу сей, — настаўнік шырока ўсміхнуўся, паказаўшы здаровыя буйныя зубы.

Андрэйка адчуў сябе пакрыўджаным і нечакана для самога сябе рашуча заявіў:

— Я ўжо чытаць умею. І лічыць да сотні.

— Ну, малаток. Во гэта голас! — узрадаваўся настаўнік. — А ты, Дзянісавіч, хочаш яшчэ на печы трымаць такога арла. Давай яго нам у школу. Выдатнік будзе... А Васіль які вялікі вырас! Работнік.

— Касіў жа сёлета, — з гонарам сказаў бацька.

З лазні выскачыў распараны Бравусаў, за ім Сырадоеў.

— А, прывет нястомным асветнікам! — Бравусаў падаў руку настаўніку. — Хутчэй распранайцеся, пакуль яшчэ дух ёсць.

— Абы свой быў дух, а гэтага хопіць, — настаўнік пачаў распранацца.

Барвовае сонца апускалася дзесьці за Канчанскі ручай. Густая жнівеньская раса пала ўжо на траву і прыемна халадзіла босыя ногі. І такая была лёгкасць ва ўсім целе, такая замілаванасць і радасць на душы, што Андрэйку хацелася ўзбрыкнуць, як рабіў бычок падчас зыку, і памчаць па лузе напрасткі.

Над галавой, самотна папіскваючы, праляцела пара шчыглоў. Ляцелі яны штуршкамі, то ўздымаючыся ўгору, то апускаючыся ўніз, быццам пераадольвалі нябачныя курганы. «Можа, нашы шчыглы?» — падумаў Андрэйка. Пад страхой было іх гняздзечка. Андрэйка знайшоў яго, калі там ужо ціўкалі чатыры голенькія, шыракаротыя птушаняткі. А дарослыя шчыглы цэлы дзень — ад відна да цямна, усё лёталі, кармілі іх.

Птушаняты падраслі, і неўзабаве гняздо апусцела. Потым Андрэйка часта бачыў шчыглоў на даху, слухаў іх вясёлыя, залівістыя спевы і радаваўся. Багата было шчыглоў у алешніку ля Бесядзі — мусіць, і там былі іхнія гнёзды.

І гэтая пара паляцела да ракі.

Сахуты падыходзілі да правулка. Бацька спыніўся каля бярвення. Некаторыя лясіны ён вечарамі абчасаў — рыхтаваў матэрыял для новай хаты, якую меркаваў ставіць з будучай вясны.

— Хлопцы, назбірайце трэсак. Бульбы зварым, — сказаў ён.

Трэскі былі шырокія і доўгія, пахлі яны расой, смалой, ліпкія застылыя кроплі яе былі амаль на кожнай шчэпцы.

— Вось пабудуем хату. А тады і лазню зрубім. Да вайны тут наша лазня стаяла. Вунь, дзе каменне, —

бацька паказаў на крушню чорнага камення, якая зарасла ўжо дзядоўнікам і чарнобылем.

— Я помню. Дзверы туды былі. На Бесядзь, — сказаў Васька. — Мы з Петраком прама з палка бегалі купацца.

Бацька спахмурнеў, змоўк і Васька. Моўчкі тэпаў і малодшы Сахута.

«Няўжо не вернецца наш Пятрок? Хоць бы раз пабачыць яго... А то быў брат, а я і не помню. І Міколка памёр. Каб не вайна, ён бы жыў...» — сумна падумаў Андрэйка.

Мужчыны Сахуты пайшлі далей. Бацька нёс бярэмца трэсак. На Градзі бяleліся клеткі свежых зрубаў, сям-там над Шамаўкай падніmaліся шызаватыя слупкі дыму — варылася бульба.

— Тата, а Жэўжык наш — хваст, — раптам парушыў цішыню Васька. — Калі ён да сотні лічыць навучыўся?

— А вот і навучыўся. Давай у заклад! — узгарэўся Андрэйка.

— Добра, добра. Не трэба петушыцца, — супакоіў малога бацька. — У школе пакажаш, чаму ты навучыўся. Уся твая навука яшчэ наперадзе.

«Я буду вучыцца, як Міколка. Толькі на адны пяцёркі. І за яго буду вучыцца», — падумаў, нібы пакляўся, малодшы Сахута.

Думкі малога перапыніў Васька, які нечакана запытаўся ў бацькі:

— Тата, ці праўда, што ў шчыгла ёсць вусы?

— Што? У шчыгла вусы? — няўцямна перапытаў бацька. — Не бачыў.

— Віцька гаворыць: гатоў заклacціся, у шчыгла каля дзюбкі ёсць чорненькія вусікі.

— Ты з ім не спрачайся, а сам прыгледзься, — бацька ўсміхнуўся, вольнай рукой прыгладзіў свае кароткія рудаватыя вусы.

Андрэйку карцела сказаць, што ён бачыў шчыгла вельмі блізка, калі той спяваў на прасле і пабудзіў яго, Андрэйку, тым летнім днём. Тады ён доўга разглядаў прыгожага, звонкагалосага птаха, але ж вусікаў не прыкмеціў.

Успомніўшы той дзень, нібы ўвачавідкі ўбачыў жахлівае барвовае зарыва над лесам. Хлапчук аж сцяўся і міжволі зірнуў за Бесядзь — над зубчастай сцяной

лесу кужэльным ручніком бялеўся рэдзенькі сіваваты туманок.

«Як добра, што няма болей вайны!» — усёй істотай радаваўся малы.

Сонца ўжо зусім схавалася. Над зямлёй гусцеў змрок, але неба яшчэ было светлае. І здавалася Андрэйку, што заўтра ўранні, калі ён прачнецца, сонца ўжо будзе не такое і ён, Андрэйка, будзе ўжо не той — падрасце за ноч. А праз колькі дзён пойдзе ў школу. На душы ў яго было і радасна, і сумна, быццам ён назаўсёды з нечым развітваўся.

Канчалася дашкольнае маленства Андрэйкі Сахуты.

Дагарала першае пасляваеннае лета.

*1976, 1982—1983.*

**Левановіч Л.**

Л.34 Шчыглы: Раман. — Мн.: Маст. літ., 1986. — 309 с.: іл.

Леанід Левановіч добра вядомы чытачу па кнігах «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі» і «Валанцёр свабоды».

У цэнтры рамана «Шчыглы» — нялёгкі лёс сям'і франтавіка Мацвея Сахуты, яго жонкі Кацярыны, якая гадуе пяцёра дзяцей. Сярод герояў рамана — цікавыя паўнакроўныя вобразы калгаснага брыгадзіра, дырэктара школы, участковага міліцыянера, упаўнаважанага па нарыхтоўках і старшыні райвыканкома. Аўтар паказвае сваіх герояў у працы, у каханні, раскрывае іх духоўны свет, спрабуе асэнсаваць складаны пасляваенны час з вышыні сённяшняга дня.

Л $\frac{4702120200-145}{М 302(05)-86}$ 19—86 ББК 84 Бел7

**Леонид Киреевич Леванович (Леонов)**

**ЩЕГЛЫ**

**Роман**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *І. І. Кананові́ч.* Мастак *В. Ф. Александровіч.* Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *І. М. Паланейчык.*

ІБ № 2337
Здадзена ў набор 13.03.86. Падп. да друку 19.09.86. АТ 21311. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,38. Ум. фарб.-адб. 16,38. Ул.-выд. арк. 17,25. Тыраж 11 000 экз. Зак. 777. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Победа», 222310, Маладзечна вул. В. Таўлая, 11.

**ВЫДАВЕЦТВА**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1986**



**Набывайце і чытайце**
**новыя творы**
**беларускіх празаікаў**



*М. Аўрамчык*
У ПАДЗЯМЕЛЛІ
Раман

*Л. Гаўрылкін*
ЗАСТАЮСЯ З ТАБОЙ
Раман

*Г. Далідовіч*
ГАСПАДАР-КАМЕНЬ
Раман

*А. Марціновіч*
ГРУША НА ГОЛЫМ ПОЛІ
Раман